# ЗМЕСТ Крыніца

# ТЫ Васіль ВІТКА



*ПАКЛОН СОНЕЙКУ*

*Пакланіцца сонейку,*
*Чуючы зіму,*
*Як аддаць нядоімку*
*Міламу яму*

*За яго запросіны*
*На сустрэчы з ім,*
*За ўсе вёсны, восені,*
*За столькі лет і зім!*

27 10 95

## З Васілём ВІТКАМ гутарыць Леанід ГАЛУБОВІЧ

## ВЕРШЫ







*З Табой:*

# З Васілём ВІТКАМ гутарыць Леанід ГАЛУБОВІЧ

***— Цімох Васільевіч, пражыта і перажыта доўгае чалавечае жыццё... Калі азірнуцца і прааналізаваць...***

— Першае ж ваша пытанне адразу вызначыла два акцэнты, магчыма, якраз найбольш складаныя для нашай размовы і для маіх разваг — азірнуцца і прааналізаваць.

У маім узросце азірнуцца ўжо не проста Не ведаю, пры дапамозе якой аптычнай прылады я мог бы гэта зрабіць. Чым далей углядаюся ў прасторавую і часавую адлегласць, тым болей расплываюцца і зусім цьмеюць абрысы пражытага і перажытага

У ідэале я ўжо “круглы выдатнік” даўгалецця з усімі пяццю ўзростамі· маленствам, малалецтвам, юнацтвам, сталасцю і старасцю Як і для кожнага, маленства адкрывала мне дзівоснасць і казачнасць свету, малалецтва пачынала спазнаваць яго, юнацтва ўпівалася яго асалодамі, сталасць спрабавала яго перарабляць, удасканальваць, а старасць, нарэшце, прыстасоўваючыся да яго, усё абдумвае нанава

На пачатку маёй памяці ўсё яшчэ адна і, магчыма, галоўная кропка — вяха, вешка, тычка, вітка, да якое нават цяпер я часта вяртаюся ў думках, бо яна магла павярнуць маё жыццё і так, і гэтак.

Нарадзіўшыся на сваёй спрадвечнай зямлі ў беззямельных бацькі і маці, я на другім годзе жыцця разам з імі апынуўся ў далёкай Сібіры, ці Сіберу, як тады казалі. Тут няма патрэбы згадваць падрабязнасці Увагу маю займае адно· у новым асяроддзі дзіця, пачаўшы гаварыць, далучалася, натуральна, да той мовы, якая была на слыху Нават самая блізкая мне, матчына душа, і тая наломвалася, прыладжвалася, стараючыся гаварыць, “як людзі”, адно што магла спяваць мне калыханкі, якія спявалі некалі самой Маё ж успрыманне, як няцяжка зразумець, было ўжо не так цераз слова, як цераз настрой, напеў, мелодыю — пачуццём

Вось чаму, вярнуўшыся ў родную вёску, я ў свае шэсць гадоў быў ужо “чужаземец” тут, як мая маці — там Тут яна пры мне мусіла быць “перакладчыкам”

З першага ж дня прыезду, выбегшы ранічкай з сенечных дзвярэй, я настолькі быў уражаны падзеяй, аб якой адразу ж па ўсёй вёсцы, ад малых да старых, пайшла пагалоска Убачыўшы, як з-пад парога ў грады скокнулі ўжо знаёмыя мне дзве лапчастыя шэрыя істоты, я ўскрыкнуў ад захаплення. “Бабушка, лягушки!” Бабка, са

## * * *

**Замілаванасць да роднай краіны і злітнасць з ёю чалавечай асобы нараджаецца ў чалавеку з маленства, фармуецца, вырастае да найвялікшай сілы і пераходзіць у чалавечую свядомасць праз гады маленства і юнацтва. Чулы ў гэтую пару свайго жыцця на ўражанні чалавек на ўсё жыццё назапашвае ў сабе і пакідае ў сваёй псіхіцы карціны жыцця роднага народа і роднай зямлі, адлюстраванне з'яў і рэчаў і адчуванне сваёй неадрыўнасці ад роднае бацькаўшчыны. Усё гэта астаецца навек у чалавечых эмоцыях і вызначае тую старану ў жыцці чалавека, што выяўляецца вялікім і высокім пачуццём, імя якому — патрыятызм. Тут ёсць і вытокі той плыні ў нашай паэзіі, якую льга назваць “патрыятычная лірыка”.**

**Ужо само слова “лірыка” вызначае характар гэтай плыні. Эмацыянальна ўзнятая душа, поўная адзінага вялікага пачуцця, замілаванасці да радзімы і дзейнай нянавісці да ворагаў яе. Вось абсяг (сфера) вобразаў гэтай паэзіі. У гэтым плане нас цікавіць выхад з друку асобным выданнем вершаў Цімоха Крысько “Гартаванне”. Тэма патрыятызму яднае ўсе сабраныя ў зборніку**

здзіўленнем і дакорам зірнуўшы на мяне, сказала. "Якія, унучак, галушкі, гэта ж — жабы"

Так я пачаў авалодваць "двухмоўем" і настолькі паспяхова, што неўзабаве другая стала першай, на якой я не толькі ўжо гаварыў, але і думаў. Пачаўшы патроху "слібізаваць" па літарах і натрапіўшы на кніжку, аўтар якой быў напісаны па-беларуску "Валянцін Катаеў", я настолькі здзівіўся, што не мог уцяміць. дзеля чаго было Валянціну есці ката? Слых у мяне ўжо быў беларускі. Пасля, спалучыўшыся разам, яны абодва ў далейшым, здаецца, не падманвалі мяне Вярнуўшыся да сваіх вытокаў, у асяроддзе, у якім натуралізаваўся, і з гадоў пятнаццаці загаварыўшы вершам, я ўбачыў у друку свае першыя радкі, калі мне было семнаццаць. А да першай кніжачкі ой як было далёка. Яшчэ семнаццаць гадоў Але з тых часоў цвёрда пераканаfamы. каб той, хто ведае, любіць і шануе беларускую, не ведаў, не разумеў і быў непісьменны ў рускай мове — такога не можа быць.

***— Адчуваецца, што ваш асабісты лёс і лёс роднай мовы цесна пераплецеными, як зрэшты і ў кожнага беларускага літаратара... Сённяшні час дае падставы для смутку і расчаравання?***

— Мала гэтых двух слоў. Дадам свае. боль душы, замарачэнне ў думках. Што здарылася? Чаму народ, на мове якога ўжо створана столькі прызнаных светам духоўных каштоўнасцей, мусіць адцурацца гэтай мовы? Ну яшчэ век таму назад можна было зразумець душэўны боль Янкі Купалы. "Чаму вам дзіка яго мова? Паверце, вашай ён не ўкраў". Дзікай была не мова, дзікімі цемрашаламі былі тыя, хто гатоў быў яе знішчыць. Аказалася, спатрэбіўся яшчэ век, каб упэўніцца. дзікуны не звяліся! І што асабліва ўласціва ўладарным дзікунам — усе яны чамусьці напрыканцы свайго ўладарання становяцца найбольшымі лінгвістамі. першы рашае "Вопросы языкознания", другі рэфармуе правапіс, ад якога ў выніку толькі і засталіся што славутыя "огурци". Чым выславіцца наступны, трэці, якому толькі аднаму ўжо вядома галоўнае якая мова лепшая, а якая горшая. Дасць Бог, вынікі будуць такія ж, як і ў двух папярэднікаў.

Мова, чамусьці яна сталася галоўнай небяспекай, ад якой павінен быў ўратаваць сябе сам народ. Нездарма столькі абрынулася на яго галовы тлуму і замарокі, што ў ход пайшлі самыя бессаромныя фальшыўкі, як ужо ўсім вядомы спектакль, пастаўлены рэжысёрам Азаронкам Галоўным героем і выканаўцам быў артыст-добраахвотнік, які мусіў паказаць ні больш ні менш, як фашысцкага фюрэра. Адпаведна антуражу, рэквізіту, мундзіру і сцягу, ні то чорнаму, ні то карычневаму, з надпісам "Правы рэванш", на фоне якога фюрэр, ён жа, вядома, і беларускі нацыяналіст, і разыгрываў усе, загадзя падрыхтаваныя, мізансцэны. Гэта быў спектакль двух — рэжысёра і акцёра.. Мала гэтага, "артысту" конча патрэбна было паміж гледачоў у першым радзе пасадзіць родных бацькоў, людзей немаладога веку, каб потым гвалтам цягнуць іх на сцэну, як сведак сынавага трыумфу

Хто ж быў гэты славуты артыст?

Уявіце сабе мой шок, калі я неўзабаве даведаўся, што галоўным удзельнікам ганебнага відовішча быў паэт! Вершы яго мне нават падабаліся. Як жа ён мог трапіць на прынадны кручок? Не ўстаяў перад сваімі новымі мецэнатамі, паспрыяўшы перамозе і другога спектакля, так званага ўсенароднага, які вырашаў лёс той мовы, на якой гэты паэт піша свае вершы.

**вершы, і кніга гэтая ёсць адно лірычнае цэлае.**

**...У кніжцы лірыкі Цімоха Крысько Радзіма паўстае перад намі поўнай гармоніяй высокіх вобразаў. Гэта не паасобныя, больш ці менш удала "знойдзеныя" вобразы, ці, як проста часам кажуць модным словам, "знаходкі". Гэта прырода душы самога паэта, таму тут стыхія поўнай і сапраўднай паэтычнай шчырасці і жывой праўды.**

**...З сапраўдным паэтычным густам і парадкам логікі вобразаў складзена гэтая кніжка вершаў. Сама ў сабе яна ёсць стройнае цэлае і ў магутнай сімфоніі сучаснай беларускай паэзіі — важны, уздымны, мілагучны і гучны акорд. Маючы на свой пачатак чалавечую душу, навек ўражаную вобразамі роднай краіны, лірыка "Гартавання" даходзіць да эмоцый чытача. Гэта лірыка беларуская, нацыянальная ў самым канкрэтным сэнсе гэтага слова. Яна ідзе ад найканкрэтнейшых, самых выразных з'яў і рэчаў. Усё тое, ад чаго яна ідзе, роднае беларускаму чытачу, які любіць Беларусь за сваё маленства, юнацтва і сталасць, за сіняе беларускае неба, за пах і шум хвойнага лесу, за свой вялікі народ...**

**...Накіраванасцю да патрыятычных пачуццяў таго, хто адчувае радзіму самымі глыбокімі сваімі эмоцыямі ад дзён свайго маленства, і вызначаецца аблічча зборніка вершаў Цімоха Крысько "Гартаванне".**

**Кузьма ЧОРНЫ**

1944 г., Масква





Пярэваратняў знайшлося нямала І ўсе былі напагатове. Адразу ж пасля трансляцыі фальшыўкі на тэлеэкране ўжо сядзелі за "круглым сталом" гісторыкі і філосафы, захопленыя кагадзе што прагледжаным шэдэўрам, вартасць якога для іх была такой высокай, а галоўнае — такой неабходнай якраз напярэдадні падзеі, пасля якой кожнаму беларусу невядома было, куды дзець вочы перад людзьмі і светам Доўга яшчэ нам адмывацца ад таго сораму Ён на нашым сумленні, няхай не ўсяго народу, дык перш за ўсё ўжо некалькіх пакаленняў яго сыноў і дачок, свядомых, адукаваных, і быць не можа, каб ім ужо ўсім так адбілі памяць, каб забыліся, на якой зямлі жывуць, на чыім хлебе і ў якіх калысках слухалі матчыны калыханкі

Па праву свайго ўзросту не магу даравапь і тым маладым "адраджэнцам" і "актывістам", што, выплішчыўшыся як бы на перадавыя пазіцыі барацьбы за нацыянальную свядомасць, самі не вызначаліся ні гэтай свядомасцю, ні патрэбнай культурай І болей рабілі шкоды, чым карысці для прэстыжу, для аўтарытэту сваёй мовы І адкуль толькі яны раптам выскачылі, рынуўшыся ўжо нават наперад самога прагрэсу? Няўжо, каб засведчыць сваю адметнасць і выключнасць, конча было да цяперашняй трасянкі дадаваць яшчэ столькі архаікі, рэанімаваць правапіс, якога не прыняла і даўно адкінула жывая народная мова? І гэта ўсё ў дадатак да той агрэсіўнай касмапалітызацыі, дзе ўжо і кроку не ступіш, каб у вочы табе не лезлі рэклама, шыльды, назвы фірмаў і нават вулічных ларкоў і палатак! У модзе на чужаземную лексіку не адстаюць і нашы заканадаўцы, галасы якіх мусіць слухаць большасць людзей і мала чаго разумець у тым, пра што так узнёсла гавораць іх абраннікі.

Родныя мовы ўсіх народаў у сваім натуральным развіцці і ўзбагачэнні ва ўсе часы ішлі і ідуць паперадзе казённай, афіцыйнай, якою карысталіся і карыстаюцца чыноўныя кручкатворы, заўсёды глухія да жывога слова Яшчэ некалі сам архангельскі мужык, стаўшы паэтам і акадэмікам, пачуўшы народную загадку-каламбур "По загуменью игуменья идет, за собою мать черна быка ведет" — настолькі захапіўся дасканаласцю жывога слова, наколькі, мабыць, і пашкадаваўшы, што сам не валодае гэтай дасканаласцю. Ды і нам ужо цяжка ўявіць, каб мовай Ламаносава пісалі сучасныя рускія паэты .

***— Літаратура, у якую ўваходзіў і якой доўгі час служыў Васіль Вітка, і сённяшні яе стан — гэта як працяг адной нясконачанай песні? Ці і словы ўжо не тыя, і мелодыя іншая?***

— Хто ў наш час, у найцяжэйшыя дні выпрабаванняў, калі вырашаўся лёс беларускай мовы, годна стаяў і ўсім быў відзён? Аддамо яму належнае, як аддасць сама гісторыя — Ніл Сямёнавіч Гілевіч! Каму не спадабаецца гэтае прызнанне, няхай кіне ў мяне камень — голаму разбой не страшны Спадзяюся на адно. праўда, як заўсёды, возьме верх.

Мова, на якой стварылі свае неацэнныя скарбы Купала, Колас, Багдановіч, Бядуля, Гарун, Гарэцкі, Кузьма Чорны, Крапіва, Куляшоў, Дубоўка, Ян Скрыган, Мележ, Караткевіч, Вялюгін, Максім Танк, Панчанка, на якой твораць нашы выдатныя сучаснікі, даўно выйшла ў людзі, якія, спадзяюся, па гэтых скарбах ды па шэдэўрах беларускага фальклору аддаюць належнае народу, а не яго непрыяцелям

І ў нашы дні актыўны працэс развіцця і ўзбагачэння мовы ідзе і ніколі не спыніцца



...Першая кніга Васіля Віткі, тады яшчэ толькі Цімоха Крысько, — "Гартаванне", якая выйшла ў Маскве ў пачатку 1944 года.

Гэты невялічкі зборнік меў і мае права лічыцца кнігай — амаль усе яго вершы не састарэлі разам з паперай, на якой яны надрукаваны ўпершыню, не адышлі ў гісторыю, адслужыўшы сваю службу ваеннага часу.

Знаёмства з творчасцю В. Віткі пачалося ў мяне з гэтага зборнічка вершаў, а ўражанне новага, сапраўднага ў паэзіі застаецца свежым і дагэтуль, вось ужо хутка тры дзесяцігоддзі.

Увосені таго ж нялёгкага і радаснага сорак чацвёртага года, у зруйнаваным Мінску, прыйшлося пазнаёміцца з самім паэтам. Не надта гаваркі, але даступны і спагадлівы, Вітка тых дзён амаль заўсёды выклікае ў маёй памяці вобраз другога пісьменніка і чалавека, знаёмства з якім было для мяне тады і засталося давеку радасным адкрыццём. Кузьма Чорны. Яны сябравалі. У іх мне бачылася і сёння бачыцца штосьці агульнае, блізкае. Гэта і любасць да роднай зямлі, да чалавека працы, і ўменне пранікаць у глыбіні чалавечай душы і таямніцы роднага слова, гэта і сціпласць, прастата, па-народнаму здаровы і чысты гумар, прыроджаная культура паводзін — якасці, што так спрыяюць шчырасці ў адносінах.

Невыпадкова, што сярод успамінаў пра Чорнага і даследаванняў яго творчасці тое, што напісана Віткам, займае сваё асабістае месца, прываблiваючы не толькі неза-

Бачу гэта я непасрэдна ў творчым асяроддзі сваіх малодшых калегаў і сяброў, якіх высока шаную і радуюся кожнай іх новай удачы

На жаль, асабістыя сімпатыі і антыпатыі часта замінаюць нам аб'ектыўна і годна ацаніць тое, што лепш за цябе здольны зрабіць і робіць нават твой лепшы сябра, не кажучы пра таго, хто не сябруе з табою.

Так, у многім асабістым і пабочным мне бачыцца пэўная насцярога, у прыватнасці, у вызначэнні творчага вопыту Рыгора Барадуліна ў нашай паэзіі і асабліва яго наватарства ва ўзбагачэнні мовы Тут яму, як нямногім з нас, па праву належыць пальма першынства. Пяцітомны тлумачальны слоўнік, які выдала акадэмія, намнога мог бы папоўніцца перш за ўсё набыткамі барадулінскай лексікі ва ўсёй раскошы яе разнастайных этымалагічных і марфалагічных формаў, сінтаксічных структур і фанетычнага ладу

За апошнія гады паэт асабліва актывізаваў і аднавіў лексічныя багацці, занядбаныя і забытыя ў самой народнай памяці, даўно зняверанай агрэсіўнай русіфікацыяй, што зараз нам, сучаснікам, яны, гэтыя багацці, здаюцца ўжо нязвычнымі і нібы прыдуманымі паэтам

Ну што ж, калі паэт творыць мову па законах, сцверджаных самім народам, згодна яе спецыфічных асаблівасцей, то вялікая падзяка і паклон яго таленту!

Асалодай для мяне было чытаць яго паэму "Аблачына-самабранка", цераз вясёлкавы каларыт якой бачацца глыбінныя вытокі, якія крынічна пульсуюць яшчэ з міфалагічнага светаўспрымання жыцця і побыту беларусаў

А хто б узяўся трансфармаваць на сваёй мове тэксты Эклезіяста? Ідучы следам за біблейскім мудрацом, за яго роздумам і развагамі, Барадулін перш за ўсё імкнуўся пранікнуць у неймаверна складаныя супярэчнасці жывое душы прарока, вернай Богу, і якая ў той жа час разрываецца ад пакут і сумненняў

Вось з якой даўніны часу, з якой далі тысячагоддзяў услед за чалавекам на зямлі ідуць і яго найвялікшыя драмы і трагедыі, драмы і трагедыі розуму і душы!

Рыгору Барадуліну з яго дасканаласцю валодання словам гэта ўдалося перадаць у сваім пераказе І яго новы вопыт яшчэ болей пашырыў патэнцыяльныя магчымасці нашай мовы не толькі ў мінулым, але і ў яе перспектыўным даляглядзе

Бачу, Леанід Міхайлавіч, вы ўжо рыхтуеце чарговае пытанне Прашу некалькі хвілін, каб завяршыць тэму мовы, якая, не зважаючы на неймаверныя перашкоды, набірае сілы, дзякуючы з'яўленню твораў, якія яшчэ гадоў дзесяць назад і не маглі ў нас з'явіцца

У гравітацыйнай абалонцы мыслення і ўспрымання свету мы ўжо не заложнікі свайго часу Мы вылузваемся з яго, з намаганнем перамагчы сілу прыцягнення, хоць прарыў са звыклай абмежаванасці нават і самі не заўсёды здольны яшчэ зразумець і ацаніць. Так на прыкладзе з'яўлення апавядання Васіля Быкава "На чорных лядах" не магло не здзівіць разнагалоссе і разнабой самых першых водгукаў і крытыкаў і чытачоў, усё яшчэ залежных ад адзіна магчымага творчага метаду А ўжо хто-хто, як не Быкаў, добра валодаў гэтым метадам, не кананізаваным, вядома ж, а жыццёвым, паказваючы праўду вайны і пасляваеннага часу, і, нарэшце, цвёрда адчуўшы апірышча роднае зямлі, стаў тым мастаком, імя якога ўжо не адлучна ад народа, пра які пачынаюць даведвацца і людзі ў свеце

**лежным разуменнем чорнаўскага слова, але і яркімі накідамі партрэта пісьменніка і чалавека, значэнне якога з гадамі раскрываецца ўсё больш ды больш выразна.**

**...Добры паэт, празаік, выдатны дзіцячы пісьменнік – гэтага, здаецца, дастаткова, каб мець права называцца літаратарам. Аднак уяўленне пра Вітку будзе няпоўным, калі не ўлічваць яго спробы ў драматургіі і пастаянныя, не такія ўжо і рэдкія, выступленні ў перыядычным друку з публіцыстычнымі і крытычнымі артыкуламі...**

**У сваіх выступленнях, вусных і друкаваных, якія помняцца старэйшым і маладзейшым удзельнікам нашага літаратурнага жыцця за блізу трыццаць пасляваенных гадоў, Васіль Вітка заўсёды быў варты пашаны за сваё сур'ёзнае стаўленне да святое справы служэння народу мастацкім словам, за свой тонкі густ, грунтоўную адукаванасць і смелую шчырасць у ацэнках. Часамі гэта таму-сяму здавалася то "завострым", то "засуб'ектыўным", але, як паказаў найлепшы суддзя – час, у большасці ацэнкі паасобных з'яў у дакладах і артыкулах В. Віткі і сёння не выклікаюць пярэчання. Праўда, часамі яму (а ці толькі яму?) шкодзіла трохі "злоба дня", пэўная модная ў той ці іншы час павярхоўнасць у вырашэнні тэм і пытанняў, аднак такіх выпадкаў, такіх "выдаткаў творчасці" параўнальна няшмат.**

**...У нашым літаратурным асяроддзі і на сустрэчах з чытачамі можна было часамі пачуць, што Васіль Вітка належыць да тых пісьменнікаў, якія, на жаль, пішуць менш, чым маглі б. І я сяды-тады згаджаўся з гэтым меркаваннем. Цяпер жа, пасля азнаямлення з гэтым двухтомнікам, з ідэйнай напоўненасцю яго зместу і дасканаласцю формы, думку тую поўнасцю адхіліла адчуванне шчырай павагі да старэйшага калегі і таварыша – пісьменніка, грамадзяніна, чалавека.**

**Янка БРЫЛЬ**
1972 г.





"Чорныя ляды" — гісторыя гібелі апошніх слуцкіх паўстанцаў па афіцыйнай імперскай ацэнцы, — мяцежнікаў Асабліва ўражвае апісанне трагічнага канца жыццяў іх, сямёх, якім няма ўжо іншага выйсця, як кожнаму выкапаць самому сабе яму, легчы ў яе і застрэліцца. Малодшаму з іх, Валодзьку, ужо гатоваму легчы апошнім, старэйшы, аднак, загадвае застацца жывым, бо адзіны патрон, які застаецца, гэта яго, камандзіраў, а радавы павінен так зараўняць магілу, каб і следу, і знаку не засталося, хіба толькі іх імёны, што ў памяці юнака.

Дапусцім, у сапраўднасці не было такога эпізоду, але сама трагічная сутнасць збройнага сялянскага паўстання пададзена аўтарам па праву мастацкага абагульнення, міфалагізавана як апокрыф, нарэшце, для наступных пакаленняў гэта ўжо паэмападанне, адкуль вытокі гераічнага трагізму папярэднікаў, што, самаахвярна паверыўшы ў новыя магчымасці жыць вольна на сваёй зямлі, разам, гуртам наважыліся і на смерць, якая на людзях хоць і непазбежная, але ўжо не такая страшная.

Не мог не парадавацца прозе аўтара, якога высока шаную і як паэта, адметнага ўласным знакам мастацкай якасці, — і вось яго "Кніга прытчаў" Янка Сіпакоў — паэт І тут, у прозе, ён знаходзіць і адкрывае для сябе яшчэ адну залатую жылу, ці нават цэлы пласт радовішча для творчай думкі мастака, стыхію народнай міфалогіі, алегарычных і гістарычных вобразаў.

Са шчырым адчуваннем асалоды заўсёды чакаю новых сустрэч з класічнай прозай Янкі Брыля і Алены Васілевіч, як некалі Кузьмы Чорнага і Яна Скрыгана Праўду сказаў, здаецца, яшчэ ў 17 ст французскі прыродазнаўца Жорж Бюфон "Стыль — гэта чалавек" За словам, за сказам, за інтанацыяй вымаўлення пазнаю аўтараў, нават без подпісу.

***— Што з неардынарнага, запамінальнага, таленавітага прачыталі вы ў беларускай літаратуры апошняга часу?***

— Справакавалі вы мяне, Лёня, называць імёны і прозвішчы, а гэта мне ўжо не так проста — даўно адстаў ад непасрэднага творчага працэсу: кола маіх уражанняў вузее Прасіў старшыню нашага Саюза — выкрасліце мяне, калі не з ліку пагалоўя, то хоць бы з праўлення Ці ўважылі просьбу — не ведаю, але дзякуй і за тое, што ўжо не шлюць ніякіх ні просьбаў, ні грозьбаў. А тым часам самога нашага старшыню я заўсёды шанаваў і шаную за натуральнасць, тактоўнасць і досціп абыходжання з людзьмі Не лічачы яго ўжо начальнікам над сабою і ад яго залежным, ускарыстаюся нагодай сказаць, з якім прасветленым настроем застаюся заўсёды пасля кожнай яго новай публікацыі Самаю новай і апошняй па часе для мяне — падборка ў "Полымі" за 1994 г , якая годна і па праву адкрывае летні нумар часопіса Памятаю, чытаў і перачытваў А гэта ўжо добрая адзнака, калі маеш патрэбу чытаць і раз, і два, і тры Ва ўжо спісаным маім блакноце, недзе ў яго палавіне, ёсць запіс. Дзве-тры хвіліны цярпення — вось ён "У лірычнай мініяцюры з дванаццаці радкоў паэт стварыў вобраз, які я магу перадаць толькі словамі аўтара.

*Ніхто не чуў і не бачыў, калі —*
*Світанняў росных куміры —*
*Вяртаюцца з выраю салаўі*

* * *

**...Сярод беларускіх пісьменнікаў ёсць буйныя індывідуальнасці. Янка Брыль, Пімен Панчанка, Іван Шамякін, Максім Танк, Васіль Быкаў... Па-рознаму праяўляюцца іх асобы. І ў жыцці. І ў творчасці. Унікальны грамадзянскі тэмперамент. Унікальныя сродкі самавыяўлення. Не тыя, што ў іншых. Свае. Адметныя.**

**Віткава адметнасць таксама вельмі выразная. Ва ўсім. Ва ўсіх родах і жанрах. Ва ўсёй рознабаковай літаратурнай і грамадскай дзейнасці.**

**Сваёй біяграфіяй пісьменнік лучыцца да тых, хто нарадзіўся напярэдадні першай сусветнай вайны. Ён можа цалкам аднесці да сябе словы Аркадзя Куляшова: "Маё пакаленне адно з першых на высокай вежы савецкіх дзён". Мужнасці прадстаўнікам гэтай узроставай генерацыі спатрэбілася столькі, што яе хапіла б на некалькі пакаленняў.**

**Вітка – жывое, дзейснае звяно ў вялікім ланцугу культуры. Імя яго асацыіруецца з імёнамі, якія прадстаўляюць гісторыю нашай краіны.**

**Яго настаўнікамі ў літаратуры і ў жыцці былі Міхась Лынькоў і Кузьма Чорны...**

**Вітка меў цікавыя сустрэчы з Янкам Купалам і Якубам Коласам...**

**Янка Маўр першы распазнаў у ім казачніка і шчырага сябра дзятвы...**

**Вітка ўзбагачаўся духоўна сам і спрыяў творчаму настрою Пятра Глебкі, Івана Мележа, жывучы з імі**

*І адлятаюць у вырай.*
*Ні статкаў, ні вэрхалу, ні мітусні,*
*Ні лопату шумных крылаў,*
*І раптам: песня, якой і не сніў,*
*Насцеж вясну адкрые!*
*І не пытаешся, хто і адкуль*
*У песеннай той арцелі —*
*Верыш надрэчнаму лазняку:*
*Салаўі прыляцелі!..*

Васіль Зуёнак у нашай паэзіі сам такі — салавей. Невыпадкова ж у гэтай публікацыі яшчэ адзін верш, самы большы па колькасці радкоў, таксама пра салаўя — паэта Мальцінскага і яго горкі вырай. І гэта ўжо не толькі верш, а помнік, сапраўдны помнік ад салаўя — салаўю, ад паэта — паэту. "

Даўні запіс. Цяпер, на жаль, я ўжо і дзённіка не пішу У абсягу майго зроку празаічнаму радку ўмясціцца цяжэй Сяк-так яшчэ ўмяшчаецца кароткі — вершаваны.

На маіх вачах вырасла тры пакаленні пісьменнікаў. З пасляваенных паўтраця дзесяткаў цяпер іх паспісачна ўжо каля паўтысячы Не дзіва, што не ўсіх ва ўзросце маіх унукаў і праўнукаў я ўжо магу ведаць. Бываюць шчаслівыя завочныя знаёмствы Вось у наваегоднім "ЛіМе" за 1996 прачытаў апавяданне, упершыню пачуўшы новае для сябе прозвішча — Уладзімір Міхно І так захацелася сказаць яму· "Сам Бог падараваў вам цудоўнае пяро. Шануйце яго годна, асцерагаючыся спакус лёгкай славы!" Добрую параду калісьці даў мудры Шолам-Алейхем калі ёсць талент прыкупі яго яшчэ на пяць капеек.

На жаль, ні на пяць капеек, ні на тысячу рублёў і нават даляраў ніхто нам яго не дадасць. У тым ліку нашы літаратурныя фірмы, саюзы, аб'яднанні, суполкі

***— Ёсць Саюз пісьменнікаў, ёсць Таварыства вольных літаратараў, ёсць нават Бум-бам-літ... Выходзяць "ЛіМ", Наша Ніва", "Полымя", "Калосьсе", "Крыніца"... Вашы прыхільнасці да тых ці іншых творчых суполак і іх выданняў?***

— Не больш вясёлыя вынікі тых, падчас і амбіцыйна шумных літаратурных суполак і гуртоў, што ўзнікаюць, як мыльныя бурбалкі на паверхні і незаўважна знікаюць. Хіба сваім, сапраўды адметным талентам Анатоль Сыс абавязаны "Тутэйшым"? Наадварот. Яны нашкодзілі яму болей, чым дапамаглі Слушна сказаў Антон Паўлавіч Чэхаў, калі ўгаворвалі яго ўступіць у таварыства цвярэзнікаў: "Навошта аб'ядноўвацца, збірацца, каб не піць? Не разумею!"

І хоць многія нашы суполкі ўжо гуртуюцца як бы дзеля здзяйснення свету новымі адкрыццямі і вылучэннямі сябе ў слове, даруйце мне мой зразумелы кансерватызм, гляджу я на гэтую інфантыльную мітусню як на непатрэбшчыну. Адно хочацца сказаць кожнаму· хочаш вылузацца з гравітацыйнай абалонкі залежнасці і ўплыву звыклай інерцыі да новых сродкаў і магчымасцей формы, стылю — вылузвайся сам асабіста. Ніякая арцель, суполка табе ў гэтым не дапаможа Засведчу прыкладам. Я яшчэ застаў жывым апошняга з магікан футурызму, які выславіўся сваім хрэстаматыйным "дыр бул

---

**ў добрым суседстве і ў творчай прыязнасці...**

**З ім сябраваў "сівабароды чарадзей з душой юнака" — Уладзімір Дубоўка...**

**"Дарагі дружа" — так пачынаў свае лісты да яго выдатны педагог сучаснасці Васіль Аляксандравіч Сухамлінскі...**

**Выхадзец з самых нізоў, чыя генеалогія згубіла след "на бацькавым бацьку"; самавук, які ўзняўся на культурныя вышыні; журналіст, народны настаўнік, які стаў жывым сімвалам пераемнасці новай пралетарскай культуры, — ён увасабляе гэту культуру і біяграфіяй і творчасцю.**

**...У істотным і карэнным сэнсе больш чым паўвекавы літаратурны шлях пісьменніка не з'яўляецца расчлянёным на перыяды ці этапы. Раптоўных паваротаў, рэзкіх рыўкоў, нечаканых адкрыццяў яго работа не ведала. Ішло павольнае няспынна-ўпартае назапашванне мастацкіх каштоўнасцей. З дня ў дзень. З году ў год. Адбывалася нялёгкае, але няўхільнае ўзыходжанне на новыя і новыя "вышыні святла". Паслядоўнасцю гэтай і ўмацавана яго папулярнасць і слава мастака, надзейна застрахаванага ад паветраў капрызлівай моды. Ад літаратурнай ґустаўшчыны.**

**У колькасных адносінах створанае Васілём Віткам склала два тамы. Напісанае неаднойчы перавыдавалася. З некаторымі дазіроўкамі новага і неапублікаванага раней. Новага, нечаканага Віткі "дазіроўкі", аднак, не адкрывалі. Яшчэ з большай выразнасцю яны падкрэслівалі цэласнасць яго асобы. З першых да апошніх кніжак пісьменнік ні ў чым не супярэчыць самому сабе: мяняе матэрыял, тэмы і жанры, але тое, што складае самую сутнасць яго творчасці, — не мяняе ніколі...**

**Святлана МАРЧАНКА**
1985 г.





шчыр", А. Кручоных. Да кожнага новага наведвальніка сталовай Маскоўскага Дома літаратара ён, яшчэ жвавы і ўвішны дзядок, падбягаў са сваім альбомам аўтографаў і прасіў· "Напішыце, калі ласка" "Што напісаць?" — "А што хочаце!" Сам ён ужо мала каго ведаў з новых пакаленняў, тым болей з іншых рэспублік, і задавальняўся ўжо адным, што меў дачыненне да літаратуры, быў сябрам самога Маякоўскага.

А вось вам прыклад нашых дзён. Як пакутліва выбіваўся ў беларускай паэзіі, а метафарычна сказаўшы, з яе пушчанскіх нетраў зубр-адзінец Мікола Купрэеў У дачыненні да рэальнага зубра была ў нас некалі цэлая дыскусія паэты сцвярджалі, што ён раве, а вучоныя-заолагі, што не раве, не рыкае, не мычыць, а рохкае! Так былі пасаромлены паэты Як здабываў адметнасць свайго голасу Мікола Купрэеў, вядома яму аднаму, самотніку. А вось яшчэ голас, таксама самотніцы З якога далёкага жывога болю беларускай жаночай душы загучаў ён у нашай паэзіі — голас Антаніны Хатэнкі!

Ніяк не магу зразумець асаблівага фатыгавання нашых так званых постмадэрністаў І чаму менавіта і конча — пост? Пост у перакладзе — пасля. Мадэрн — новыя Новы пасля якіх новых у беларускай літаратуры?

Яшчэ ў дваццатыя гады самых новых у паэзіі, у прыватнасці, было няшмат. Хіба што Уладзімір Дубоўка, вучачыся ў Брусаўскім інстытуце і ўжо добра асвойтаны ў тагачасным асяроддзі розных літаратурных напрамкаў і плыняў, і сам шукаў, і смела эксперыментаваў Памятаю паэму "Наля", якую ў перавыданне ён чамусьці не ўключаў, хоць я, як аўтар прадмовы да яго двухтомніка, і прасіў уключыць. Паэма, магчыма, была для яго асабіста, нават інтымна дарагой, як само імя закадзіраванае ўжо з першых радкоў:

*Нечаканае, дзе — На,*
*Канула, дзень — Ля.*

У маладосці гэта была няўрымслівая натура, уся ў пошуках: "перакладчык з англійскай, з нямецкай паэзіі, першы рэдактар дзіцячага часопіса і нават вынаходнік эканомных графічных малюнкаў для напісання беларускіх падвойных **дж** і **дз**, якімі практычна ўжо і карыстаўся часопіс "Узвышша"

У якую рубрыку яго ўставіць, да якое плыні прыпісаць? Наватар, ён і ёсць наватар — ва ўсім. А ўсё таленавітае і ёсць новае.

А вось другі паэт, які з роднай сваёй вёскі Каралішчавічы, яшчэ адчуваючы пад босымі нагамі родную зямлю з яе ранішнімі золкімі росамі, яе прасторамі і водгаласамі· "Раніца рыкае" — з маладняковскай кніжачкай прыйшоў у паэзію Язэп Пушча. Здаецца, проста, а цэлая карціна вёскі, што кагадзе прачнулася і разам з сонцам вітае новы дзень пад магутную музыку — рыкання кароў, што ідуць на пашу

Нядзіўна, што тагачасныя знаўцы ўсіх новых плыняў ужо за адну гэтую метафару паэта прыпісалі да імажыністаў. А калі ён, вучачыся ва універсітэце ў Ленінградзе, пісаў "Лісты да сабакі", тыя ж артадоксы абвясцілі яго хуліганам

Па аналогіі ўспомніў рускага паэта тых гадоў, які таксама хадзіў спярша ў "пралетарскіх" (аб'яднанне "Кузница"), а потым у імажыністах і, напэўна ж, за адну метафару і за верш, які я і дагэтуль памятаю·

---

* * *

**..Для Віткі вельмі істотным з'яўляецца няпісаны закон сапраўднай педагогікі, які важна спасцігнуць не толькі настаўніку, але і дзіцячаму пісьменніку, журналісту, бібліятэкару, бацькам, калі яны жадаюць выхоўваць дзяцей: вучыць — без павучання, дапамагчы парадавацца прыгажосці думкі, слова, падзівіцца ўласнай праніклівасці, абудзіць у дзіцяці пачуццё першаадкрывальніка, апіраючыся на яго здольнасць да сутворчасці, да суперажывання. Успомнім пра кароткае, але надзіва плённае сяброўства беларускага пісьменніка з цудоўным украінскім педагогам В.А. Сухамлінскім. Былі вельмі папулярнымі ўрокі, якія даваў Вітка па тэлебачанні. Вось што пісаў пра гэтую тэлевізійную школу Янка Брыль: "Я глядзеў некаторыя з гэтых своеасаблівых урокаў, магу сказаць, што нават любаваўся імі, а калі дакладней — любаваўся не толькі заўсёды і паўсюль мілай дзятвой, але і незвычайным настаўнікам, перш за ўсё — пісьменнікам, які нястомна шукае". Думаю, што гэта сведчанне разгаданай Віткам стыхіі дзяцінства — радасці. Дзеці радуюцца жыццю, гэта для іх натуральна, і калі мы, дарослыя, будзем наладжваць свае адносіны з імі, падтрымліваючы радасць, то зможам многага дасягнуць.**

**Перачытайце славутыя казкі ў вершах Васіля Віткі — "Вавёрчына гара", "Буслінае лета", "Казка пра цара Зубра", "Хто дапамагаў сонцу" — у іх разам з лёгкасцю верша, гумарам, выразнымі карцінамі прыроды, тонкімі назіраннямі за жыццём яе жыхароў знаходзім асноўныя прынцыпы маралі.**

**...Творчасць Васіля Віткі папранейшаму прываблівае чытачоў, перакладчыкаў і мастакоў, бо кожнае новае выданне яго вершаў — спроба і новага прачытання, магчымасць свежага погляду на яго невычарпальны паэтычны свет.**

**Вольга КОРФ**
г Масква, 1991 г.

*Было тихо, было видно дворнику,*
*Как улегся ветер под забор*
*И позевывал, и вдруг с гармоникой*
*Гармонист вошел во двор...*

Калі ў Доме творчасці ў Кактэбелі я ўпершыню ўбачыў аўтара, пэўна ж, ужо ў тым узросце, у якім цяпер сам, адразу пачаўшы чытаць яму гэтыя радкі, ён не толькі прыемна быў здзіўлены, але і да канца тэрміну ўжо заставаўся самым цікавым маім субяседнікам — Васіль Казін. І ўсё ж у нашых размовах устрымаўся я, каб прызнацца Васілю Васільевічу, што і мая маці магла трапіць у імажыністы Не ўмеючы ні чытаць, ні пісаць, а думала яна метафарычна Нават пра той жа вецер

Сядзелі мы аднойчы шараю гадзінай на сенечным парозе Такая цішыня, такі свежы подых з поля І раптам лёгенькі павеў данёс такі пах, бачу, і мама моршчыцца, і я адварочваю нос. А яна толькі і вымавіла· "От на яго ліха, недзе ж вецер у нейкае паскудства ўкачаўся!.."

Здольнасць чалавека адухаўляць з'явы, рэчы, прыроду не толькі спосаб спазнання (анімізм), але і галоўны сродак паэзіі наблiжэнне да сябе ўсяго загадкавага, незразумелага і таямнічага Метафара — стымул думкі, спосаб утаймавання і прыручэння сіл, мацнейшых за чалавека.

Беларуская паэзія для мяне як сімфанічны аркестр, аб'яднаны ўсёй разнастайнасцю інструментаў, іх агульным паліфанічным суладдзем. Гэта спецыяльная тэма даследавання — прасачыць адметнасць кожнага інструмента, ці, дакладней сказаўшы, кожнай інструментальнай групы струнных, духавых (драўляных і медных) і ўдарных. У кожнай свой майстар, свой віртуоз. Асабіста мае сімпатыі да піяністаў і скрыпачоў

***— Ваша творчасць для дзяцей (а вы адзначаны за яе Міжнародным ганаровым дыпломам Х.К. Андэрсена) была і ёсць натуральнай праявай вашай творчай прыроды ці зрэдзьчасу служыла і выратавальнай шырмай, за якую можна было схавацца ад палітыкі?***

***Ды ў гэтым былі і свае перавагі, паколькі дзіцячы пісьменнік уплываў на духоўнае развіццё будучых грамадзян... А яшчэ з даўняй прымаўкі вядома: што пасееш, тое і пажнеш...***

— Леанід Міхайлавіч, пад канец вы задалі пытанне, калі я ўжо выгаварыўся, а адказ на гэтае і наша далейшая размова занялі б месца і часу ў шмат разоў болей, чым мае адказы на вашы папярэднія пытанні. Таму абмініце ўсё нагаворанае лішне, а тут ужо мая стыхія, у якой мне было, як рыбе ў вадзе За ніякія шырмы тут не схаваешся

Пісаць для дзяцей — гэта была мая асаблівая радасць. Гэта яны, дзеці, падоўжылі мне і мой век, цяпер ужо не ведаю — на шчасце ці на бяду, але ўпэўніўся і па сабе і па ўсіх, хто любіць дзяцей, душу за імі роніць — усе даўгалетнікі Паміраем мы адзін раз, але затое колькі разоў нараджаемся! І не толькі разам са сваімі дзецьмі, унукамі і праўнукамі, але і з усімі тымі, каму служым, каму аддаём сябе ў кожным новым пакаленні.

Калі мяне вытурылі з рэдакцыі "ЛіМа", даверыўшы стварыць часопіс для дзяцей малодшага ўзросту, я і да апошніх дзён буду ўдзячны лёсу за тыя семнаццаць гадоў, самых шчаслівых, якімі завяршыў службовую кар'еру. Ужо народжаны разам з першымі казкамі "Вавёрчына гора" і "Буслінае лета", у "Вясёлцы" я нараджаўся штогод з новымі яе чытачамі, лік якіх даходзіў, бывала, да 150 тысяч

Праўда, улічваючы спецыфічную ўзроставую градацыю, я ўжо мусіў складаць калі і казкі, то ў форме і памерах, даступных для тых, хто яшчэ не чытае, а толькі любіць слухаць, а то і сам скласці свой першы вершык або пацешку Эталонам для мяне стаўся вершык — чатыры радкі, чатыры словы і ўсе зарыфмаваныя

*Кашку*
*варыць,*
*Машку*
*карміць.*

Па сваёй натуральнасці і непасрэднасці — геніяльна Я куды ў большым захапленні ад экспромта Машкі, якой было год і пяць месяцаў, чым ад васьмігадовай паэтэсы з Ялты, вершы якой ужо друкаваліся ў газетах і часопісах. Самую яе паказвалі па тэлебачанні Да яе — паглядзець, як на дзіва, — хадзілі натоўпы разявак-курортнікаў А Яўтушэнка ў асяроддзі замежных гасцей-паэтаў прывёз яе на вечар паэзіі аж на стадыён у Лужніках Так і хацелася закрычаць на ўвесь голас: што вы робіце?! Даўно ж вядома, што ў такім узросце дзеці здольныя выдатна імітаваць дарослых, але не могуць цярпець, калі дарослыя імітуюць іх саміх. На прыкладзе славутай Рыны Зялёнай памятаю па сваіх, як толькі па радыё, бывала, пачуюць яе голас, бягуць, каб хутчэй выключыць. Успрымалі як перадражніванне Бяда, ой бяда, калі да так званага вундэркіндства прымешваецца сенсацыя і такое сентыментальна-чуллівае мецэнацтва. Дзе ты цяпер, ялцінская Ніка? З таго часу я так болей і не пачуў адпаведных твайму імені перамог

Цераз дзяцей, з першай прыступкі ў жыццё, з першай пляцоўкі ўзлёту ў жыццёвы космас я шчаслівы тым, што пашырыў свае далягляды, далучыўшыся да ўзроставай псіхалогіі, да народнай педагогікі, найбагацейшы вопыт якой яшчэ невядомы сучаснай школе Меў шчаслівае знаёмства, сяброўства і супрацоўніцтва з незабыўным вялікім педагогам В.А. Сухамлінскім, з наватарам, адкрыцці якога ў методыцы навучання ва ўсіх галінах ведаў узбагацілі сусветную педагогіку, — В Ф Шаталавым, вядомым грузінскім педагогам Ш.А. Аманашвілі, з беларускім вучоным псіхолагам, прафесарам Я.Л. Каламінскім. Непасрэдныя мае дачыненні з дзецьмі былі стымулам не толькі для напісання мастацкіх твораў для іх у самых розных жанрах, але і для напісання трох кніг пра дзяцей для дарослых, кніг, спецыяльна прысвечаных узаемасувязям літаратуры, мастацтва і навукі выхавання. Гэта кнігі "Дзеці і мы", "Урокі" і "Азбука душы"

Творчасць для дзяцей не можа быць другараднай, нейкім пабочным заняткам і "адходамі вытворчасці" Для мяне яна стала нават галоўным крытэрыем, пазіцыяй, падыходам, чуйным камертонам, якія дапамагаюць мне ў арыентацыі і ацэнках прадукцыі, што ідзе з сучаснага канвеера як найноўшыя дасягненні, у тым ліку

# ЗА СЛУЦКАМ — ЧАПЛІЧЫ, ЧАЛЕВІЧЫ, ЕЎЛІЧЫ...

**...Аднае даўняе ўжо восені, вельмі ўрадлівай на гарбузы – у Еўлічах, памятаю, масціліся яны і жаўцелі на застрэшках хлявоў і ляжалі пасярод град пагоркамі пярэстых кормнікаў – трапілі мы, случакі-пісьменнікі, у госці да Васіля Віткі. (Божа мой, жывыя і вясёлыя былі тады яшчэ Мікола Лобан і Янка Скрыган!.. І я, маладзейшая за іх, была з імі...) Дакладней, гэта ён прывёз нас на гасціну ў сваю хату – "да мамы". Мама таксама была яшчэ жывая, і сам, даўно ўжо белагаловы паэт, вельмі падобны з твару на маму, адчуваўся пры ёй дзіўна молада і нават быццам зусім бесклапотна. За гаспадыню ў хаце даўно ўжо была самая малодшая замужняя сястра Тася. Яна не прысядала і ўся аж свяцілася прыветнай гасціннасцю. А мама сядзела з намі ў прасторным, на гарадскі лад прыбраным пакоі, за сталом, устаўленым слуцкай пачосткай: абавязковай, аж пішчала на скаварадзе ў духмяным сале, яечняй, з нядаўна адкінутым з клінка тоўстым, як пень, сырам, прыцярушаным зверху соллю, з удалай хатняй паляндвіцай і каўбасой, з салёнымі агуркамі і міскай мёду... А калі, можа, каму заманулася б выпіць кубак малака, то пасярэдзіне яшчэ стаяў збан сырадою... Мама падносіла да губ чарку з калівам гарэлкі, прыслухоўвалася да агульнае вясёлае гамонкі, стрымана распытвала: "А ты, дзеткі, адкуль жа будзеш?".. І пачуўшы, што я з-за Мялешак, з-пад Урэчча, моўчкі ківала галавою. Урэчча памятала яна яшчэ з даўняй даўніны...**

**Мы тады выступалі ў Еўліцкай пачатковай цеснаватай школе і ў брыгадным клубе. На пярэдніх лаўках сядзелі пажылыя жанкі з малымі ўнукамі на каленях. А далей мужчыны і жанкі маладзейшыя. Стрэча тая засталася ў маёй памяці, нібыта я пабывала тады дома, нібыта стрэлася, пабачылася са сваёй раднёй і суседзямі. У сваіх Ліпніках...**

**Колішнія Еўлічы, "у адзін шнур", нічым не адрозніваліся ад безлічы іншых гэтакіх жа беларускіх Еўліч, Ячаваў, Папоўцаў... З хацінамі-стопкамі, з акенечкамі, выразанымі на шырыню аднаго бервяна, а там, дзе дзеці вытаўклі шыбу, яшчэ і пазатыканымі якім-небудзь рызманом ці ўшчэнт даношаным аблезлым кажухом...**

**Можа, пэўна, здацца, што ў той даўні, лучынай і газоўкай закураны побыт не пранікала ніякага іначага больш променю, нішто больш яго не асвятляла, не ўзвышала, не абуджала фантазіі – асабліва дзяцінай. Дык не! Было ж святло матчынай калыханкі, яе сенакоснага, жніўнага, вясельнага спеву. Былі бабуліны казкі – звычайна пра страхоцці самыя неверагодныя, бо якіх толькі ведзьмакоў і чарцей не вадзілася па тым часе на гарышчах, па камінох, па завуголлю, на падворышчах... Нячысцікі, ведзьмакі, цемра былі настырныя, але чалавек заўсёды ўмеў злаўчыцца і наступіць чорту на хвост! Або шпурнуць у печ, у агонь, ведзьміна памяло... І цемра знікала!**

"постмадэрністаў" Часта думаю: а ці змог бы я ўзоры такой творчасці друкаваць, скажам, у "Вясёлцы" або ўключыць іх у школьныя падручнікі? Не бачу нават у самай далёкай перспектыве магчымасці для такога эксперыменту

Дзеці самі — творцы Дарослым варта было б часцей вучыцца ў іх. Нездарма Пабла Пікасо зайздросціў іх вобразнаму бачанню свету, шчыра прызнаўшыся, што як мастак патраціў усё жыццё, каб навучыцца маляваць так, як малююць яны Маленства — вечны выток мастацтва Адсюль неўміручасць фальклорных крыніц, жыватворных ва ўсе часы і ва ўсіх народаў

Гётэ сцвярджаў, што ў народнай паэзіі "тоіцца неадольная чароўнасць, падобная той, якая мае для старых маладосць і маладыя ўспаміны"

Шчыра зайздрошчу тым народам не толькі далёкага, а і блізкага зарубежжа, у гарадах і ў сталіцах якіх адкрыты адмысловыя дзіцячыя карцінныя галерэі. Да нядаўніх часоў і ў нас наладжваліся паказы дзіцячых малюнкаў. Якая гэта была радасная падзея — такія рэспубліканскія вернісажы! Якое багацце фарбаў, колераў, палёту фантазіі ў выбары тэм і сюжэтаў! Даўно глухія мы і да самавыяўлення дзяцей у слове, бо і самі, падчас пішучы нібыта для іх, а варочаем гэтымі словамі, як бярвеннямі Леў Мікалаевіч Талстой, адкрыўшы ў Яснай Паляне школку і складаючы для вучняў свае вядомыя апавяданні, прытчы, казачкі, перш чым пусціць іх у абыходак, збіраў тых жа дзетак, чытаў напісанае з умовай, каб потым кожнае пераказала іх сваімі словамі Так лексіка і стыль гэтых дзіцячых твораў даводзіліся да канчатковай рэдакцыі Добрыя рэдактары былі ў Льва Мікалаевіча!

Пішучы для дзяцей, мы, на жаль, мала ведаем пра раннія ўзроставыя магчымасці чалавека, як і галоўную загадку яго самога. Кара паўшар'яў мозга кожнага з нас, налічваючы 14 мільярдаў клетак, кожная з якіх складаней, чым найноўшыя ЭВМ, але ўвесь гэты патэнцыял, увесь яго запас — невычэрпальны, а абыходзімся мы толькі яго пяццю працэнтамі, ды і тыя скіраваныя не на спазнанне загадкі чалавека, а на яго знішчэнне Заўважце, ва ўсе часы і эпохі правадырамі і нават героямі людства лічыліся чамусьці тыя, хто найболей знішчаў людзей.

Чаго і колькі я пасеяў і што застанецца вартым для жніва? Мне думалася, што і мой бедны Пегас для дарослых і казачны Зубр для дзяцей упоравень аралі дзве баразны. Каторая з іх дасць болей плёну? Самому здавалася, былі яны не толькі ў добрай згодзе, а і памагалі адзін аднаму.

***— Дзякуй вам за шчырую гутарку, Цімох Васільевіч. Добрага вам здароўя і паэтычнага плёну.***

P S. **Пасля таго, як матэрыялы былі падрыхтаваныя і здадзеныя ў друк, прыйшла сумная вестка: на 86-м годзе жыцця памёр Цімох Васільевіч Крысько...**

**Рэдакцыя часопіса смуткуе з гэтага выпадку і выказвае свае спачуванні родным і блізкім нябожчыка.**

**Выдатны ж паэт і пісьменнік Васіль Вітка працягвае сваё жыццё ў беларускай літаратуры...**

---

**А было яшчэ бацькава чытанне...**

**"Маю асаблівую пашану да бацькі выклікала тое, што ў нашай хаце, колькі я памятаю, ніколі не зводзіліся кнігі. Гэта былі не нашы ўласныя кнігі. І таму яны вабілі мяне яшчэ больш сваёй чароўнай сілай. Адкуль даставаў іх бацька? Адусюль, як толькі дачуваўся, дзе яны ёсць. Прыносіў нават з далёкіх вёсак. І калі выдавалася вольная часіна, у хаце ў нас усю ноч міргала газоўка. Пры яе сляпым святле бацька чытаў уголас. Ахвотнікаў паслухаць знаходзілася. Часта да позніх пеўняў вокам не мог звесці і я..."**

**Так успамінае Васіль Вітка. Так крок за крокам засявалася непрыкметна некалі ніва дапытлівага дзяцінага ўяўлення — то невымоўным жалем, то шчаслівай захопленасцю, а то раптам сэрцу станавілася гэтак цесна і неспакойна, што здавалася, яно вось-вось вырвецца з грудзей.**

**Так нараджаўся паэт.**

**...Пасля паспяхова пройдзенай "акадэміі" ў еўліцкай кузні (яна, як на вачах, у вершы "Гартаванне") далей дарога праставала ў Слуцкую прафтэхшколу. А затым аж — у самы Бабруйск, на вядомы па ўсёй ужо краіне дрэваапрацоўчы камбінат. Там малады паэт не толькі аказаў сябе здольным слесарам, але пісаў ужо і "падхадзяшчыя" вершы. Тады ж, у Бабруйску, і адбылася незабыўная стрэча, якая, пэўна можна сказаць, паўплывала на ўвесь далейшы лёс. Стрэча з Міхасём Лыньковым, у тыя гады рэдактарам бабруйскай газеты "Камуніст"... Нельга стрымацца ад смеху, чытаючы Віткаву аўтабіяграфію, калі ўспамінае ён, як збіраўся ён у той Бабруйск. Як шылася яму такое неабходнае па**





***

**Лёгка адшукаць яшчэ**
**Родную руіну —**
**На зарослым хацішчы**
**Расцвіла шыпшына**
**І гняздо салаўя**
**Туліць галінай...**
**Маладосць мая,**
**След твой не загінуў.**

1946

## ПЕРШАЕ, НАІЎНАЕ КАХАННЕ

**Першае, наіўнае каханне...**
**Штодзень я выходжу на спатканне.**

**Балазе хадзіць не так далёка,**
**Цераз агароды — лічаныя крокі.**

**Мне валошкай вышыла матуля**
**З беленага кужалю кашулю.**

**А яшчэ ў тым незабыўным годзе**
**Па апошняй, самай новай модзе**

**З шарачка — дзе ж корту таго ўзяці?**
**З кантамі мне галіфэ пашыла маці.**

**Дзеля шчасця трэба не так многа,**
**Толькі вось абуць бы што на ногі.**

**Ўрэшце, не бяда — і так я прыбяруся,**

---

**тым часе наймаднейшае галіфэ — да сацінавай касавароткі і юхтовых ботаў, як завершаны быў увесь гэты шык падцяжкамі з бліскучымі металічнымі спрожкачкамі... (А Ян Скрыган, таксама са Случчыны, уласную прыступку на лесвіцы да літаратурнай вядомасці ў тыя ж дваццатыя гады, як ён успамінаў, адзначыў таксама набыткам галіфэ, толькі ўжо нават абшытага леямі... Сам французскі генерал зроду не прадбачыў бы такога татальнага ўплыву на моду. Нават... у літаратуры!) Пранікнёны Міхась Лынькоў — сам у цеснаватым сціплым пінжачку — аднак і выгляду не падаў, у адрозненне ад сваіх ашарашаных такім шыкам супрацоўнікаў, толькі стаіў у прыжмураных вачах усмешку і адразу загаварыў пра вершы... І пасля таксама заўсёды страчаў паэта-пачаткоўца з гэтакай жа сяброўскай прыхільнасцю і патрабавальнасцю старэйшага добразычлівага таварыша.**

**І яшчэ адзін настаўнік. Кузьма Чорны. Сяброўства іх — людзей блізкіх не толькі мясцінамі, дзе яны нарадзіліся, а перш за ўсё глыбокай духоўнай еднасцю — працягвалася да самых апошніх дзён Кузьмы Чорнага.**

**Чытаеш прозу Васіля Віткі, яго напісаныя самабытнай слуцкай мовай таленавітыя апавяданні, пазначаныя глыбінёй думкі і непадробнасцю праўды жыцця ("Трывога ў Ельнічах", "Баравіцкія музыкі", "Познія палыны", "Гуляшчы хлеб") і міжволі прыгадваеш Кузьму Чорнага... Не, гэта не перайманне — гэта проста напісалася пад дабратворным уплывам выдатнага майстра нашай беларускай прозы. Непаўторнага настаўніка..**

***

**...Звычайным сталася лічыць**

Каляровым поясам падпяражуся.

Гэта ж не ў чужыя людзі ехаць.
Вазьму шорсткі саламяны вехаць

І каля карыта да знямогі
Буду шараваць парэпаныя ногі.

Боль жахлівы душу працінае,
Хай сабе ўсё выцерплю, стрываю!

...Першыя пакуты і ахвяры,
Першыя, даверлівыя мары,

Хай на змену вам прыйшлі другія
Самыя вы чыстыя і дарагія...

1956

## АРЭШЫНА

Пацешная
Між вербаў ніцых
Арэшына
У завушніцах.

Цыбаты подлетак,
Яна надзела
Іх толькі сёлета
І то ў нядзелю.

І ўся выблісквае,
Высвечвае,
Такая блізкая,
Сардэчная.

Мая націначка
З вяснушкамі,
Дзяўчыначка,
Давай пагушкаю.

Траха да крохкай
Дакрануся —
І ты ўся ў лёгкай
Завірусе,

А залацісты
Пылок лажыцца
На лес бязлісты,
На іглiцу,

На ўсё зарэчча,
На палянкі,
На нашу стрэчу,
А берасцянкі
Высвістваюць
Ужо ў тумане,
Вітаюць чыстае
Каханне,

Маю арэшыну
Ў агеньчыках,
Навекі грэшную,
Нявенчаную.

І зараз помню
Да драбніцы
Світання промні
Ў завушніцах,

Гаркавы водар
Баліґалову,
Што і праз годы
Займае мову.

Васіля Вітку перш-наперш пісьменнікам дзіцячым. І гэтаму не запярэчыш: колькі ўцехі і радасці, колькі адкрыццяў і шчаслівага смеху падарыў ён дзецям!

Ну, хто не ведае — сам сабе ці сваім дзецям чытаў — дасціпных, нязмушана-павучальных, з нязмушаным гумарам напісаных Віткавых казак "Вавёрчына гора", "Буслінае лета", "Пра цара Зубра", яго "ППШ", яго "Азбуку Васі Вясёлкіна" ці "Генерала Вераб'я" або "Дударыка"?

А цэлыя — пад завязку! — торбы смеху ў Віткавых скорагаворках, пацешках, задачках, гульнях!.. А вось гляньце на іх саміх — дзяцей — з кароценькага абразка "Хаваймасо!"

" — Хаваймасо! — закрычалі суседавы ўнукі, якія гулялі на вуліцы, і кінуліся ў сенцы. — Пісар ідзе!

Большы выткнуў галаву з дзвярэй і, убачыўшы мяне, сказаў:

— Гэта пісацель.

— Усё роўна хаваймасо! — пачулася з сянец".

...Някрасаўскія "Крестьянские дети". Памятаеце?

*— Такому-то гусю уж что за охота!*
*Лежал бы себе на печи!*
*— И, видно, не барин: как ехал*
*с болота,*
*Так рядом с Гаврилой.*
*Услышит, молчи!*

Старонкі Віткавых кніжак для дзяцей — хто іх пералічыць — колькі і дзе яны толькі не выдаваліся! І дома, і за мяжой.

Былі мы з Васілём Віткам на Усесаюзным савеце па дзіцячай і юнацкай літаратуры — пакуль ён яшчэ існаваў — у Тбілісі. І што ж там убачылі на Выстаўцы дзіцячай кнігі? Кіргізскае і малдаўскае выдавецтвы хваліліся выданнямі на іх родных мовах — адно — Віткавым "Вавёрчыным горам", а другое — ладнай кніжкай Віткавых вершаў і казак для дзяцей... А сам паэт ні сном ні духам не чуў і не ведаў пра гэта. Ніхто з выдаўцоў яму і не заікнуўся нават... Ну, давялося паціху, непрыкметна — у якасці аўтарскіх экземпляраў — зняць гэтыя кніжачкі з вітрыны і пакласці... у маю сумку. (За даўнасцю часу тая правіннасць, спадзяюся, даравалася нам...)

Спынюся. Не бяруся ўпрыцён падлічваць і "ўзважваць" усю работу і ўсе заслугі перад беларускай літаратурай слыннага Паэта Васіля Віткі.

Лаўрэат. Заслужаны. Ганаровы... Яго не пакрыўдзіла ўвагай і адзнакамі ні сама наша літаратура, ні тыя, хто — уладна — адважвае ёй свае шчодрасці.

А вось ці ўсе ведаюць, што беларускі Паэт Васіль Вітка яшчэ ў 1978 годзе быў узнагароджаны Міжнародным ганаровым дыпломам імя Ханса Крысціяна Андэрсена? Што імя яго занесена ў Ганаровы спіс вялікага дацкага казачніка?

...Ірландыя, дзе нацыянальная мова і літаратура гэтак жа, як і наша беларуская сёння, змагаецца за сваё н е ў м і р а н н е... Ірландыя — у галіне літаратуры — мае трох Нобелеўскіх лаўрэатаў. А н г л а м о ў н ы х...

Беларуская літаратура, вядомая свету сваімі вышэйшымі ўзорамі, не мае ніводнага лаўрэата Нобелеўскай прэміі...

Паганаруемся ж і пацешымся, што ў нас ёсць два Міжнародныя ганаровыя дыпломы Ханса Крысціяна Андэрсена. І імя аднаго з нашых дыпламантаў — Васіль Вітка. Другая — Эдзі Агняцвет.

Алена ВАСІЛЕВІЧ

**Такі бясконцы**
**Мой давер быў**
**Да ласкі сонца,**
**І да вербаў,**

**І да прадвесня,**
**І да выраю,**
**Да ціхай песні,**
**Самай шчырае.**

**Гары,**
**Палай, мая арэшына,**
**Маё жывое шчасце**
**Першае.**

1961

## НАЦЮРМОРТ

**На белым вышываным ручніку**
**Адкроеная хлеба луста,**
**І сыракваша свежая ў збанку,**
**У місе — шаткаваная капуста.**

**Лагоднасць фарбаў. Толькі бэз**
**Спалохана стуліўся на самоце,**
**І зіхаціць на яблыку надрэз,**
**Застылы на трывожнай ноце,**

**Што вырвалася кагадзе на свет**
**І цішыні не хоча пакарыцца.**
**Адзін скамечаны канверт**
**Хавае ўпарта таямніцу.**

1969

## У ІМЯ АЙЦА.

**У імя айца і сына**
**І ўсемагутнага духу,**
**Божа, не грукай у спіну**
**І не лупі па вуху.**

**Ты так мяне, грэшнага, перыў,**
**Што я ўжо ва ўсім вінюся,**
**Самаахвярна веру**
**Кожнай тваёй аплявусе.**

**Нібыта на прывязі чоўнік,**
**Снуюся ў жыццёвых кроснах,**
**Раб твой, слуга твой, чыноўнік,**
**Якому ад страху млосна.**

**Ледзь тузанеш нагавіцы,**
**Урэжаш казённай папругі,**
**Прысыплеш азадак гарчыцай,**
**А потым прызнаеш заслугі.**

**Падымеш мяне, балеснага,**
**Спагадай прылашчыш урэшце,**
**І я ўжо спяваю песні**
**Пра дзіўнае дзіва ў рэшаце.**

**Аж выпінаюся з сілы,**
**Першы бягу за пратэсай**
**Навысціжкі перад усімі,**
**Паперад самога прагрэсу.**

**Таўку ужо іншым у спіну,**
**З размаху луплю па вуху**
**У імя айца і сына**
**І ўсемагутнага духу.**

1969

# ШЛЯХ ДА “ЗАПАВЕТНАЙ ПАЭМЫ”

**Кожным разам, калі выпадае гаворка пра паэзію Васіля Віткі, мне тут жа згадваецца восень 1962 года, Каралішчавіцкі лес, блакітна-сонечнае, як дзявочая шчака, неба, затканае павучыным срэбрам паветра, барвяны і залаты перашэпт лісця, — уверсе і пад нагамі; ясная і загадкавая ціша залясных даляглядаў. Гэта — нібы прыснёнае, а на самай справе ярка і дакладна зафатаграфавана памяццю. І першым жывым класікам, якога мне давялося стрэць у жыцці, быў менавіта ён, Каралішчавіцкі лес. Бо толькі тут упершыню ў жыцці пашанцавала на поўныя грудзі ўдыхнуць надзвычай азоністага паветра творчасці ды хоць крыху прыадчыніць акенца ў таямнічы свет яе вялікасці Паэзіі.**

**У зашклёнай бакавушцы лясной харчэўні, дзе месціўся стары, з разбітымі лузамі і выцвілым зялёным сукном більярд і дзе звычайна тоўпіліся “масцітыя”, каб перамовіцца па тэлефоне з Мінскам, нас, пачаткоўцаў, якіх запрасілі на першую ў жыцці творчую нараду, больш за ўсё цікавіла кніга водгукаў. У ёй і трапіўся на вочы, занатаваны акуратным почыркам верш, які мы неўзабаве чыталі па памяці. Радкі з яго памятаю і сёння:**

*І сівер у дрэвах не свішча яшчэ,*
*Шырока і лёгка дышыцца.*
*І вершы у Каралішчавічах*
*Самі сабою пішуцца.*

**Крыху пазней пабачылі і аўтара радкоў паэта Васіля Вітку. Дык вось адкуль яно, наша знаёмства, — з той залатой восені, паўтарыцца якая можа хіба толькі ў вершах.**

**Чытаючы нашых крытыкаў, я часта спатыкаўся на адной і той жа банальнай фразе: “Паэт і ў свае (столькі!) гадоў парaнейшаму застаецца маладым”. Магчыма. І сам неаднойчы карыстаўся падобнай фразай. А потым неяк падумаў, што нічога банальнага тут няма. Сапраўдны паэт і ў старасці мусіць заставацца маладым. Бо хоць і думае, мысліць ён, як правіла, мудрасцю і катэгорыямі сталага чалавека, ды глядзіць на свет часцей за ўсё вачыма свайго дзяцінства. І гэта бясспрэчна: чым больш дзяцінства ў паэце, тым больш і паэта. Думалася так, калі я нядаўна перачытваў падараваную мне Васілём Віткам (як сведчыць аўтограф — у 1982 годзе) кнігу “Случчына”. Ці не пра гэта кажа ў прадмове да кнігі і сам аўтар: “Паэзія ў кожным з нас прачынаецца значна раней, калі ты раптам здзівіўся велічы і хараству свету, хоць яшчэ і бездапаможны выказваць усё гэта словамі”.**

**Пагодзімся і з тым, што ў кожнага майстра свая глеба, свая “запаветная паэма”, якую ён піша ўсё жыццё, урэшце — свае мастацкія сродкі. А сакрэт творчасці ў раптоўнай і высокапраменнай сіле першаадкрыцця.**

**Можна было б і разважаць пра набыткі Васіля Віткі, пачынаючы ад дзіцячых сцяжын на роднай Случчыне, ад начлежных вогнішчаў і песень жней, урэшце ад яго першых друкаваных вершаў. Але жыццё ды і сам паэт падказваюць іншую схему гаворкі і, як здаецца, нетрадыцыйную. Вось зусім**

## СПЯШАЙЦЕСЯ

Спяшайцеся ў поле, у луг, у лясы —
Запісваць птушыныя галасы.
Яшчэ на дасвецці, на самым золку
Зловім на плёнку
Мы перапёлку.
Няхай астанецца на стужачцы хоць
Заклік на памяць:
"Ідзі палоць!"

Нямала за век яна перапалола,
Нямала ножачак пераколола
Горкім асотам, рыжаю піжмаю,
Родная, любая, ты ж мая, ты ж мая...
Колькі нам дзетак накалыхала,
Колькі ў дарогу перагукала...

Давайце паставім вось тут мікрафон.
Аблюбаваў гэта селішча ён,
Той, хто між птушак самы народны,
Людзям і лесу блізкі і родны,
Тут, у алешніку, дзе зацішней, —
Чуеце, чуеце? ён, салавей!

Гэта яшчэ толькі голасу проба
І для яго, спевака, не ўвярода.
А вось і бліскучая кантылена,
Самы канёк яго, тое калена,
Адкуль пачынае сапраўдны артыст, —
Вунь на якой вышыні яго свіст,
Аж з верхавіння сыплецца ліст!

Стойце, перад гісторыяй замрыце.
Пішаце вы для нашчадкаў! Пішыце
Для тых, хто, напэўна, дасягне і сонца,
А салаўя будзе слухаць на плёнцы.

нечаканае вершаванае прызнанне паэта:

*Каб спасцігнуць існасць тварца,*
*Не спачатку чытайце – з канца.*
*Маладому было няўцям,*
*Сам спасціг у канцы жыцця.*

*Спасціжэння шлях некароткі.*
*Як з бінокля – наадварот*
*Пачынайце з апошняй старонкі,*
*Хай раскручваецца калаўрот*

Спасціжэнне самога сябе не ад пачатку, а наадварот – ад вяршынь пражытага – гэта яшчэ тое, калі глядзіш праз большы акуляр, да сябе прасторай, а ўсё, што было і сталася тваім, цягнецца вялікім нітом шляху – ад большага да самага малога. У гэтым ёсць свая мудрасць.

Відаць, у кожнага творцы ва ўзросце найбольш паважаным узнікае шмат пытанняў ды і тое марнае жаданне "каб усё пачаць спачатку". Пэўна ж, многае зрабілася зусім па-іншаму, зыходзячы з сённяшняй меры мудрасці, варункаў часу ды і той жа смеласці. І тым не менш пражытае ўжо не пражывеш па-новаму, яно было і сталася тваім. Раскручваючы калаўрот жыцця не з першай, а сённяшніх старонак, скажацца і такое:

*Дарэмна кажуць, у жыцця*
*Дарогі не пытайся –*
*Ледзь толькі выйшаў у прасцяг*
*І ўжо назад вяртайся.*

*Хіба магла кароткай быць*
*Пражытага загадка,*
*Каб столькі вызнаць, пражыць*
*І ўсё пачаць спачатку!*

Гледзячы з вышыні пражытага, не заўсёды будзеш згаджацца з самім сабой, сёе-тое проста не возьмеш у кайстру набытага. Але абавязкова з радасцю прыгадаеш такія творы, як "Гартаванне", "Пераправа", "Трыпутнік", "Шарая гадзіна",





Сюды, калі ласка, кінаапарат.
Бачыце — выстраіліся на пожні
Сосны на свой урачысты парад,
Толькі б не на апошні.

Даўно пералічаныя камлі
Прагны сухмень аблізвае.
Якія бары былі на зямлі —
Пабачыце ў тэлевізары.

Напэўна, будзеце млець у экстазе,
Як самааддана, ўладарна
Грукаў калісьці дзяцел у джазе
Самы выдатны ўдарнік.

...Спяшайцеся ў поле, у луг, у лясы
Слухаць птушыныя галасы!

1971

## СОСНЫ

Малая ўцеха   кожнаму свой час,
Свой лёс, свой лес, свой леспрамгас.
Яшчэ вяршыняю ты неба не дамераў,
А понізу цябе   сякерай.

І раны горкія смыляць смалою,
А ты ўсё цягнешся да сонца галавою,
Начамі не даюць спакою сны,
Што ў свеце ўжо ніводнае сасны.

Апошнія, мы ловім з паднябесся
Па кроплі цёплы сонечны прамень
І радуемся яснаму прадвесню,
Вітаем кожны лічаны свой дзень.

"Ядлоўцавы куст", "Зімовыя жураўлі", "Суніцы", "Вернасць", многія і многія кнігі.

Дарэчы, пра вернасць. Яна ішла з паэтам уполлечкі ўсё жыццё, – вернасць сябрам, паэзіі, роднаму бацькоўскаму куточку. Яна надзвычай востра адчулася і акрэслілася падчас ваенных дарог, калі:

*Не па дубах замшэлых, не па зорах*
*Ішоў я на усход – па сэрцу.*
*І леглі ў ім разоры гора –*
*Гадам не сцерці.*

Жыццё, як вядома, складаецца з мноства загадак. Але ў кожнай загадкі можа быць некалькі самых розных разгадак. І толькі адна ісціна. Яе і змушаны шукаць паэт усё сваё жыццё, давяраючыся толькі розуму і сэрцу:

*Мне ніхто яшчэ ў талерцы*
*Лёгкіх ісцін не паднёс.*
*Толькі розуму і сэрцу*
*Давяраю я свой лёс.*

Многа тэм хвалявала і хвалюе Васіля Вітку. Але ўсе яны перакрыжоўваюцца на тым чыстым аркушы, назва якому бацькоўскі кут, а канкрэтней – Случчына. Гэта дзеля яе і пішацца паэтава самая "запаветная паэма":

*Яшчэ не скончаны мой доўг*
*Перад табою немы,*
*Я ўсё шукаю свой радок*
*Дзеля тваёй паэмы.*

Што характэрна для паэзіі Васіля Віткі апошніх гадоў, дык гэта абвостранае, нават балючае адчуванне часу і чалавека ў ім. У трывожнай бяссонніцы паэта лёгка прачытваюцца бяссонніцы, трывогі, а часта і безвыходнасць усяго люду, блізкага і дарагога яму.

Гаварыць пра творчасць Васіля Віткі заўсёды не проста. Бо Віткі ў літаратуры як быццам два. І не ведаеш, якому з іх аддаць

Трымаем каранямі жвір сыпучы,
Каб не засохла плынь жывой ракі,
А будзем падаць, дык наводмаш з кручы
Зялёнаю маланкай — у вякі.

І можа па адным зярнятку кволым,
Дзе адшумелі нашыя бары,
Адкрые астраном і вылічыць геолаг,
Які тут грымнуўся метэарыт.

А буйная фантазія паэта
Дадасць, што на касмічным караблі
Ляцелі мы з далёкае планеты,
Але не даляцелі да зямлі.

...Ва ўсмешцы скрывіцца, хто нас судзіў сякерай,
Не перакажа наш апошні сказ.
Ён так і не паверыў, не паверыў,
Што мы жылі, што мы любілі вас!

1972

## ПІСЬМЕННІЦКІЯ ЎДОВЫ

Колькі вас? Болей чым удаўцоў,
Чым нашых рэдактараў і выдаўцоў.

Калі без пары аддаём мы канцы,
Вы — нашы рэдактары і выдаўцы,

Даследчыкі нашы і нашы музеі...
Усе запаветныя новыя землі

І астравы, пра якія мы снілі,
Вы ўжо без нас і знайшлі, і адкрылі.



Цяжка было вам з намі ў жыцці,
Намнога цяжэй крыж удовін нясці.

Столькі турбот, а спачыну ні трошкі.
Мрояцца мемарыяльныя дошкі,

Вуліцы, школы, шматтомнікі, помнікі,
І ўсе жыхары на планеце — паломнікі...

Родныя нашы, вы гэтак нам верылі,
Мералі самай вялікаю мераю.

Даруйце, калі хто не выйшаў па мерцы,
Не здолеў з музыкаю памерці,

Так і паехаў, даўжнік няўдзячны,
На калектыўную вечную дачу.

Даруйце нам, верныя, добрыя ўдовы,
Я ўсім пры жыцці пакланіцца гатовы.

1973

## СУНІЦЫ

*Памяці Рыгора Лынькова*

Яшчэ няспелае, дачаснае
Упала ніцам
І запалала лета краснае
Усё ў суніцах.

Упаў на шлях апошні ясень,
Як пагранічнік.
Пад гусеніцамі не гасне,
Гарыць сунічнік.

перавагу. Тут я маю на ўвазе дзіцячую паэзію майстра. Ну хто ж з малых ды і дарослых не зачытваўся "Вавёрчыным горам", "Бусліным летам", "Казкай пра цара Зубра", "Азбукай Васі Вясёлкіна"?! Дарэчы, за творчасць для дзяцей Васіль Вітка ўзнагароджаны Ганаровым дыпломам імя Х.К. Андэрсена. І тут не хацелася б шукаць нейкі падзел у творчых магчымасцях паэта. Бо і ў дарослых і ў дзіцячых вершах Васіль Вітка адзін і той жа, разважліва-памяркоўны, умерана-жартаўлівы і дасціпны. Ён заўсёды чуйны да фальклору, здатны на самае нечаканае чараўніцтва ў вялікай працы над словам. А яшчэ для мяне ён настаўнік, выдатны педагог, сябра В. Сухамлінскага, які мае не толькі сваіх вучняў, але і сваю школу беларускага нацыянальнага выхавання. І ў гэтым таксама вялікая "існасць творцы".

"Запаветную паэму" жыцця, калі ахвяруеш яе свайму народу, адным жыццём дапісаць немагчыма. Яна мусіць урэшце заставацца недапісанай. Паэт добра ўсведамляе гэта, а таму і адкрыта гаворыць "Мабыць, аднаму не па сіле напісаць яе, вартую дзівоснай прыгажосці і крынічнай чысціні роднай зямлі".

Час наш, як вядома, мае тры вымярэнні: мінулае, сучаснае і будучае. У вялікі акуляр бінокля на сваё мінулае мы, на жаль, глядзім толькі з вымярэння другога, з дня сённяшняга. Трэцяе вымярэнне ўжо за намі. Але тое, што ў нашым выпадку змясцілася паміж двума вымярэннямі, вартае самай удзячнай ухвалы, бо сталася яркімі старонкамі "запаветнай паэмы" Васіля Віткі, працяг якой мне бачыцца ў новых творах паэта.

Казімір КАМЕЙША



# СПРОБА ЭКСПРОМТА НА СТРУНАХ

Пішуць... Пра спорт пішуць, пра медыцыну. І пра палітыку, і пра сельскую гаспадарку. І пра тое, пра што, даруйце, ну... нейк не пішуць, — пішуць! Нават калі не любяць – не ведаюць ахвяру свайго пісарства, ці пісьменства, ці непісьменнасці. Вось хіба толькі музыка не трапіла ў кола гэтых незлічоных ахвяр: пра яе амаль не піша цяперашні, папраўдзе масавы, шматпартыйны або беспартыйны друк.

Дык жа цяжка! Цяжка пісаць пра музыку, нават калі ты з маленства свой у ейным свеце, разумееш законы яе нараджэння і жыцця, ведаеш яе мову. Цяжка ўсведамляць, якая гэта прыкрая прыблізнасць — злучэнне гука з паперай ў спробе выказаць музыку праз нотныя значкі, а то й яшчэ горш — у спробе пераказаць яе словамі!

Знаёмец-кампазітар нядаўна прызнаўся, што пачынае, відаць, набліжацца да прафесійнай мудрасці, бо зразумеў нарэшце, што музыка — гэта плынь касмічнай энергіі, і трэба пазбаўляцца ад звычкі лучыць яе з нейкай "літаратуршчынай", з абавязковым ці то канкрэтна-праграмным, ці то адцягненым вытлумачэннем. Агульнадаступнымі словамі.

А мне раз-пораз успадае на думку недаравальная для маёй прафесіі "ерась": што азначае бязглуздае паняцце "музычная крытыка", у чым існасць гэтага занятку? Прыгадваю госця ко-

Світанак у смузе дыміцца
На пераправах.
Гараць чырвоныя суніцы
У чорных травах.

Цівосе жыта налілося,
Запалавела —
Агнём калоссе занялося
І спапялела.

Над устрывожанай айчынай
Маланак рэха.
Гарыць ляшчэўнік у лагчыне —
Вянкі арэхаў.

У лесе снайперы кукуюць,
А не зязюлі.
І, затаіўшыся, цікуюць
Дарогу кулі.

І колькі нас у тых лагчынах
Не злічыць рэха.
Чарнее завязь на ляшчыне
Вянкі арэхаў.

Далёкі досвітак дыміцца
На пераправах.
Гараць жалобныя суніцы
У чорных травах.

1976

## ЗІМОВЫЯ ЖУРАЎЛІ

Снягі і снягі, недасяжныя воку,
Трымціць на марозе старая вярба

лішняй кампазітарскай імпрэзы, якія выклікаў пагардлівыя грымаскі на тварах тутэйшых снобаў, рытарычна запытаўшыся: ну чаму абавязкова ўсім і ўсё трэба "разбіраць", "крытыкаваць", "ацэньваць", чаму сярод вучоных-музыказнаўцаў, інфарматараў ды рэпарцёраў не можа як роўная сярод розных існаваць зусім арыгінальная фігура, скажам так, музычнага пісьменніка?

Досыць празрысты, кволенька-далікатны вэлюм, які надае абліччу нашага грамадства больш-менш годны і культурны выгляд, — наша творчая інтэлігенцыя мае не надта багата іскрынак-дыяментаў, народжаных у спакроўленасці розных мастацтваў, розных з'яў жыцця духу. Апошнім часам нават яркія таленты пачуваюцца гэткімі саматужнікамі на хутары: кампазітары не ведаюць драматургаў, кінематаграфісты — паэтаў, артысты хору — мастакоў-графікаў... Гэта — як правіла. І як правіла — узаемна. Тым больш уражваюць і радуюць выключэнні. Выключэнні, якія дазваляюць пазбавіцца комплексу зацкаванага тутэйшага чалавечка без памяці, без гісторыі, без спадчыны і, як вынік, — без прэтэнзій на "зоркі ў небе", на скарбы, створаныя і назапашаныя Чалавецтвам.

Мудрагелісты пасаж? А ўсё таму, што не ведаю, як жа лацвей зрабіць. Як жа лепей давесці, што ёсць у беларусаў выключна арыгінальная постаць музычнага пісьменніка, і гэта зусім не сінонім "чалавека, які піша пра музыку".

Васіль Вітка, што б ні пісаў, пра што б ні разважаў, — піша музычна! Ці то слова настаўніка-баюна, звернутае да дзетак; ці то імправізацыйна-меланхалічны, нібы фартэпіянны экспромт, дзённікавы запіс; ці то ігра-гульня моўнымі





І раптам, як з выраю, голас далёкі
Запела сярэбраная труба.

Не спадзяваўся дарогу адужаць,
Дапраўды, не воін у полі адзін.
Вірыць у выжарынах, понізу кружыць,
А гляну ў у неба — і вось ён, мой клін,

Як човен вяслуе над галавою,
Плыве, не кранаючыся зямлі.
О, як жа я рады такою парою
Пачуць і пабачыць вас, жураўлі!

Зімовае сонца ў дзіцячай далоньцы
Гатова схавацца, а вы і ў бядзе
Крыламі пілуеце шлях свой бясконцы
З бясконцым даверам да нас, да людзей.

А людзі... Я слова не выкіну з песні
Сам крыўджу любімых, нялюбых цярплю.
Як часта, напэўна, на сэрцы балесна
І цяжка ў палёце майму жураўлю.

Лягчэй на зямлі, хоць няшчадна і груба
Сячэ ў вочы сівер, з ног валіць мяцель,
Здарожыўся, змогся, а верыш затрубіць,
Затрубіць над галавой журавель!

1978

## ГОД КАНЯ

Павялося так здавён,
Што імёнамі завём:
То Дракон, то Скарпіён —

парадоксамі; ці то згадка пра сябра; ці то палемічны роздум пасля кінапрэм'еры... Заўсёды, нават караценечкі, на пару абзацаў, тэкст пісьменніка (чыё літаратурнае імя, змалку знаёмае, прамаўляецца і гучыць з меладыйнай выразнасцю) міжволі хочацца "пакачаць на языку" — быццам праспяваць. Які смак да слова, якая дынаміка фразы, які — абсалютны музычны слых!

"Ой, а хто гэта, што гэта?!" — здзівіўся мой тэлефонны суразмоўца, востры на язык і ахвочы да каламбураў малады музыкант, калі я між іншым пачытала сёе-тое з Віткавай кнігі "Азбука душы". І яшчэ больш здзівіўся, што ў такім блізкім яму "прыкольным" стылі можа працаваць залатое пяро нашага мудрага казачніка: колькі розных абліччаў бывае ў па-народнаму назіральнай і ўсмешлівай мудрасці! "Да, были люди в наше время, не то шта ны..." "Абмаралі" — "дыялогі аб маралі"... На такія кепікі ў, здавалася б, нейтральным кантэксце здатны толькі чалавек з тонкім слыхам. Музычным. І ацэніць іх толькі чытач, сам не глухі да гучання слова.

Аднак, той маладзён-музыкант здзівіўся яшчэ больш, ці дакладней — больш чым здзівіўся, даведаўшыся, што Васіль Вітка піша і пра музыку.

Гэтаксама была некалі здзіўленая і я, пачуўшы Цімоха Васільевіча на дыскусіі з нагоды канцэртаў фестывалю "Мінская вясна-86". Дзесяць гадоў мінула, пакінуўшы колішнія эмоцыі, уражанні, эстэтычныя крытэрыі ў архіве памяці. А што такое "архіў памяці"? Хутчэй за ўсё, шчыльны асадак, які няма патрэбы трывожыць. Ды я і не трывожыла б, калі б не захавала той даўні "ЛіМ" з публікацыяй пра фестывальны "круглы стол". І што ж? Перачытваю, усміхаюся:

Паслужы, браток, канём.

Нібы ліст перад травой,
Стань, дружок, перада мной.
Мой таварыш вараны,
Казкаю падораны.

Ты палёгкі не прасіў
На сяўбе і на касьбе.
Сёння аж у трыста сіл
Капытом нашчадак б‘е.

Не стае адной жывой
Добрае твае душы.
Но, мой косю, родны мой,
Баразну падварушы.

Ты якраз у самы раз.
Калі мой станіўся плуг
І задзірванеў папас,
Забуяў лазою луг

І дзядоўнікам зарос
Недагледжаны надзел.
Ледзь паскрыпвае ўжо воз
Планаў, замыслаў, надзей.

Вобмаль дзённага святла
І спакою па начах
Пад сузор‘ямі Арла,
Пад крыламі Крумкача,

Хоць на варце Гончы Пёс,
Нават цэлая гайня...
Дзякую, мой добры лёс,
Што падараваў каня.

1978

як усё ж такі змяніўся за гэтыя гады сам стыль публічных размоў-абгаварэнняў! Як няўгледна залежыць ад сацыяльна-палітычнага надвор`я нават — па вялікім рахунку — апалітычная і касмапалітычная музыка! І як усё ж неразумна было б хаваць у архіўным пыле ўсё мінулае дзесяцігоддзе оптам, лянуючыся пашукаць штосьці для мажлівага сённяшняга ўжытку.

Вось яно, зусім надзённае. Цытую: “Каб не пуставалі залы, у музыцы, якая там гучыць, павінна быць эмацыянальная аснова. Нашы кампазітары ўжо маюць дасягненні ў тэхніцы, у прафесійным умельстве. Ці не варта цяпер “алгебру” праверыць “гармоніяй”, эмоцыяй? Эмоцыя — галоўны крытэрый музыкі. Інакш я не ўлаўлю хвалю, на якой да мяне дайшла б ваша музыка, і не буду вашым актыўным слухачом. У наш век тэхнікі хапае. Не трэба ж робатызаваць і музыку — ёй наканавана запаўняць духоўны вакуум у сучасным жыцці!” (Гэта фрагмент выступлення Васіля Віткі, якое досыць разгорнута пададзена ў “ЛіМе” за 9 мая 1986 г.).

Падчас таго фестывалю Цімох Васільевіч праслухаў ці не ўсе сімфанічныя праграмы, у якіх было нямала новых твораў беларускіх кампазітараў. І пра іх ён меў перакананую (і пераканальную!) думку, якую з упэўненасцю асвечанага, дасведчанага, сталага меламана давёў да ўдзельнікаў дыскусіі. У яго развагах была да ўсяго эмоцыя — галоўны, паводле вызначэння самога Віткі, крытэрый музыкі і, дазволю сабе прадоўжыць, галоўны чыннік размоў пра музыку. Зразумела, чаму спробы некаторых “акадэмістаў”-музыказнаўцаў “раскласці”, “разабраць”, “інвентарызаваць” той або іншы твор





ЦЁТКА ЦІШЫНЯ

Апаратары запісваюць на плёнку цішыню.
Папярэджвайце сяброў, знаёмых і радню,
У праграме перадач пазначана:
Шараю гадзінаю штодня
На экранах тэлебачання
Загучыць у кожным доме цішыня!

Пэўна, рады будзе кожны дом
Цішыню паслухаць перад сном,
Нібы калыханку для душы
Ці “Спакойнай ночы, малышы!”

Не засне ўжо ні малы і ні стары,
Не пабачыўшы, як у бары
Датаўклі, нарэшце, кашу камары,
Як кладзецца спаць у Белавежы зубраня
І выходзіць на экраны цётка Цішыня.

Не, не з кайстрай казак за плячыма
І для неслухаў з мяшком
Самая звычайная жанчына
З матчынымі добрымі вачыма,
У руках з арэхавым кійком.

У арэхавым якраз і сіла —
Толечкі махне або кіўне,
І глядзіш, ужо заваражыла
Ўсё навокал у глыбокім сне.

Кагадзе асінкі трапяталі,
Перашэптваўся дубок з дубком
У імгненне вока перасталі,
Не адным не варухнуць лістком.

Добры доктар, той, што дрэвы лечыць,
Дзюбаю крануў спрасоння сук,

выглядалі ці то сальерыеўскім доследам па “расчляненні музыкі”, ці то высілкамі добрасумленнага, уседлівага (ды не болей!) шкаляра.

Праца ў “ЛіМе” звяла мяне (без перабольшвання) з сотнямі людзей, якія хоць аднойчы, хоць пісямком ці нататачкай, “адзначыліся” на старонках тыднёвіка як аўтары музычнага аддзела рэдакцыі. Прыемных выключэнняў сярод іх — раз, два, тры... Ну, з дзесятак-паўтара. Выключэнняў, якія пацвярджаюць, на жаль, відавочнае: бракуе асоб, у якіх спалучалася б адукаванасць і пісьменнасць, і эмацыянальнасць, і цвярозая логіка, і публіцыстычны імпэт, і тактоўнасць, і... Ну, што яшчэ? Вядома ж: ад Бога даецца не кожнаму, і не кожны, каму даецца, ахвяруе свой талент дзіўнаму занятку, цяжкаму, неад`емнаму ад “культурнай цывілізацыі” і незапатрабаванаму, як і сама мастацкая культура, пакуль яшчэ тутэйшай цывілізацыяй, — ахвяруе свой талент занятку, які называецца... Давайце называць яго музычным пісьменніцтвам, ці што?

І таму я вельмі шкадую, што Васіль Вітка, колішні галоўны рэдактар (а ўзначаліў ён “ЛіМ”, калі мяне на гэтым свеце яшчэ й не было), паэт, публіцыст, — рэдкі госць на музычных старонках газеты. Адышоў крыху ад канцэртнага жыцця, асноўнай крыніцай інфармацыі ды ўражанняў зрабіліся перадачы эфіру, у нейкім сэнсе — перыёдыка, хаця, вядома ж, музычнае мастацтва ўвагай друку не спешчана. (Шоу-індустрыя, як бы ні старалася прысабечыць тытул “музычнага мастацтва”, застаецца тыпова камерцыйным стварэннем у атачэнні адпаведнай журналістыкі ды рэкламы).

І таму я, у каторы раз пера-

Разгубіўся, галаву схаваў у плечы.
Гэта быў апошні ў лесе гук.

Змоўкла поле, сціхлі ўсе дарогі,
Сцежкі, норы, гнёзды і бярлогі.
Ля крыніцы на адной назе спіць журавель,
Толькі буйным планам на экране
Ад бяссонніцы ажно да рання
Уздыхаў, варочаўся самотны чмель...

Запісалі мы на плёнку цішыню.
Папярэджваем сяброў, знаёмых і радню:
Будзьце дома на сыходзе дня —
Завітае на гасціну,
Роўна на адну гадзіну
Зойдзе да вас цётка Цішыня!

1982

## ЮБІЛЕЙНЫЯ ВЕНІКІ

Энікі-Бэнікі
Ядзяцьварэнікі.
А я чым горшы?
І я магу!

Можаце,
Дык, калі ласка, ў чаргу.
— А што даюць?
— Юбілейныя венікі.

Запісвайцеся,
Пакуль не позна.
У юбілейнай лазні
Завозна.

гортваючы Віткаву "Азбуку душы" (а хіба не для музыкі — такое азначэнне?), забываюся пра мясцінку, якую наважылася адшукаць у кнізе, пачынаю чытаць наноў. Дзівуючыся — а які ж ён розны, мудрэц-філосаф, казачнік-настаўнік, музычны пісьменнік! Развагі педагога пра значэнне музыкі ў выхаванні; аналіз песенных тэкстаў; вельмі асабістае — пра творчасць Равеля, пра "пазыўныя душэўнага настрою" — клавірныя канцэрты Моцарта, пра культавую музыку, пра Моцартаў "Рэквіем". Вызначэнне мастацка-вобразнага свету ў творах нашых сучаснікаў — Яўгена Глебава, Дзмітрыя Смольскага, Андрэя Мдзівані, Людмілы Шлег, Віктара Войціка, Уладзіміра Кур'яна, Уладзіміра Дарохіна. І тут жа — Свірыдаў, Гаўрылін, Кабалеўскі...

І таму я — даруйце мне гэткае няўмельства! — не бяруся маніпуляваць цытатамі з эсэ, артыкулаў, абразкоў, дзённікавых запісаў. Гэта ўсё адно як з сімфанічнай партытуры выцягнуць некалькі інструментальных папевак ды агучыць "для прыкладу". Музычны пісьменнік, высокаэрудзіраваны меламан, чуйнай музычнай душы чалавек (як нечакана і кранальна прагучаў у тым жа "ЛіМе" верш, прысвечаны нашаму старэйшаму скрыпачу Сямёну Асновічу — "Pizzicato", 3 лістапада 1995 г.). Дзіва што "Азбука душы" і сапраўды нагадвае сімфанічную партытуру!

Не варта драбніць яе на цытаты. Яе трэба разгарнуць у самоце. Прачытаць-агучыць. І калі ў сэрцы вашым ёсць пара струн, ацалелых у жыццёвай калатнечы і настроеных на хараство, хаця б адна з іх адгукнецца ў адказ. Адгукнецца на музыку слоў...

Святлана БЕРАСЦЕНЬ





У юбілейнай лазні —
Запарка.
Час не чакае,
Юбіляр ідзе шпарка.

Хоць строгі расклад,
А юбілейнікі
Рвуць на расхват
Юбілейныя венікі

Вершы не пішуцца,
Проза не клеіцца,
Пакуль дышыцца,
Давай юбілеіцца.

Паюбілеіцца,
Ушанавацца,
Як добрым венікам
Пашаравацца.

На бярозавыя не зарацца,
Нават дуб не ў фаворы,
Аматару парыцца
Падавай лаўровы!

Гарачага вару
У нас залейся.
Залазь на нары
І юбілейся.

Убачыш па почырку
І па стылю,
Хто каго хвошча,
Хто каго мыліць:

Графаман графамана,
Ці класік класіка
Відны і ў тумане

# КВЕТКІ ДЛЯ ВІТКІ

...Цішыня ў скверыку Янкі Купалы. Забіваюся на самую далёкую ў глыбіні скверыка лаўку і — гляджу, пільна ўзіраюся на дом, што вачыма — на тэатр і, здаецца, на мяне... Мне так хочацца, каб вачыма — на мяне! Каб хоць хто-небудзь на гэтай зямлі — вачыма, сэрцам на мяне!

Ах, прабачце мне, мілы, адзіны мой Дружа, ах, не крыўдуйце за радкі такія! Я ведаю, я даўно ведаю, што магу прыходзіць да Вас заўсёды, у любую непагадзь, але я шаную Вашую сівізну, берагу Вашае натомленае за доўгі век сэрца, якому не па сіле ўжо чарната... Колькі маланак ужо біла па ім, трапляючы ў самую яго глыбіню, колькі грамоў грымела! Апошні, свежы яшчэ — смерць вернай, любай, дарагой сваёй Вольгі Рыгораўны, жонкі, якую ведала, любіла і я. Памятаю, як, знаёмячы з ёю некалі (ой, як ляціць час!), Вы, мой добры Дружа, з гонарам прашапталі: "Артыстка!"

О, Цімох Васільевіч! Мілы, дарагі ўсёй дзятве Васіль Вітка, светлы наш казачнік, пясняр самага высокага святла людскіх сэрцаў! Вы чуеце мяне, Вы, вядома, чуеце... Званілі ж нядаўна, трывожна пыталіся: "Што з Вамі, Марыечка, дзе Вы?" А голас — слабы-слабы...

— Усё добра, Цімох Васільевіч. Сінее неба, спяваюць птушкі... Ціха ў небе, а на зямлі

**І спрыт, і пластыка.**

**Адны і другія**
**Па рангу і чыну:**
**Хто каму шыю,**
**Хто каму — спіну.**

**Хто моцна трымае**
**Ў руках абмылак,**
**Амаль што ніколі не мае**
**Памылак.**

**Да мыльнае пары**
**Паддай ялею!**
**Юбіляр ад ялею**
**Ніколі не млее.**

**Пры добрым запасе**
**У нас валідолу**
**Ніхто не куляўся**
**З памоста дадолу.**

**Галоўнае —**
**Дамагчыся даты**
**І на ялей**
**Атрымаць ліміт.**

**Дамогся даты,**
**І ты — выдатны,**
**Адбыў юбілей**
**І — знакаміт.**

**Ад'юбілеіш —**
**Памаладзееш**
**І зноўку разумнае,**
**Вечнае сееш.**

1984

**што... На зямлі заўсёды грымела... Слухаю, што на зямлі дзеецца...**

**— Чаму не друкуецеся?**

**— Засталося толькі зрабіць адбітак свайго сэрца і — усё, Цімох Васільевіч...**

**— Мне хочацца, каб Вы жылі, друкаваліся! — як загад ужо нада мною Васіля Віткі.**

**Пахне цюльпанамі і нарцысамі (вунь колькі іх у скверыку!), пахне нечым невыказна-няўлоўным, шчымлівым, да болю страчаным і адначасна набытым праз гэты боль у жыцці. І тады я чапляюся за знаёмыя чароўныя малюнкі дзяцінства, вымаляваныя й Вамі, Цімох Васільевія:**

*"Чарэшня звісла цераз плот,*
*Жаўцее цындалея,*
*Гарбуз свой выкасаў жывот*
*І на прыгрэбцы грэе.*
*Напэўна, прыцемкам кажан*
*Крылом мяне крануўся,*
*І я ў акопах не ляжаў,*
*Не быў у завірусе. "*

**Глыбокае народнае карэнне ў Васіля Віткі, гаючыя крынічныя сокі — у ягонай крыві! І яны яго ратуюць заўсёды, у любых абставінах жыцця, яны, гэтыя яго мудрыя продкі, і зберагаюць яго нам і сёння як дзіўнага творцу-мастака, са сваім бачаннем свету, са сваім, толькі яму ўласцівым Словам. І Радзіма ўлюбёна глядзіць на свайго чараўніка, і Ён, тонка адчуўшы гэта, тут жа й запіша: "Глядзіць Радзіма на мяне шырокімі вачыма". І я скаланаюся ад гэтага позірку... І — ніякавею... А як жа я на Вас, Цімох Васільевіч, што ўбачыла, што адчула за сваімі грымотамі ў Вас? Так можа прамільгнуць і ўсё жыццё, і не паспееш сказаць нават "дзякуй" святлу, што цябе ў жыцці сагравала,**





## ЯЛІНА І КЛЁН

**Два дрэвы злучылі свае галасы**
**І скрыпкаю сталі абое.**
**Скрозь і паўсюды, ва ўсе часы**
**Людзі іх песню завуць любоўю.**

**Сэрца адное**
**У клёна, яліны.**
**Разам яны да апошняй хвіліны.**

**Змоўкне яліна, клён не зайграе,**
**Дзынкне струною —**
**І паміраe.**

1986

## ЛІХТАРЫК ДЗЬМУХАЎЦА

**Па звычаю правінцыяла**
**нікому не скажу яго,**
**імя і прозвішча твайго,**
**а толькі тры ініцыялы.**

**З тых дзён, як ведаю цябе,**
**на ты заву ўвесь час,**
**а дзяцел рыфмаю дзяўбе**
**і патрабуе: Вас.**

**Снуюся ўжо каторы дзень**
**між соснаў, нібы цень.**
**Ліхтарык дзьмухаўца пагас,**
**а я шукаю Вас.**

**Я сам — ліхтарык дзьмухаўца,**
**ссівелай галавой**

**прывячала некалі. О, як усаджвала мяне за свой стол Ваша жонка калісь, як карміла разам з Вамі смачным абедам, як кружыла вакол мяне, стомленай з палескай дарогі! Як паказвала мне свае вышыванкі, як ціхенька, як свята, шаптала імя Вашай маці, пераконваючы мяне паўзірацца ў ейны твар, што на партрэце ў Вашым рабочым кабінеце! Гэтая мілая цярплівая жанчына ўмела Вас шанаваць, любіць усё жыццё, ганарыцца, што Вы — ад зямлі, ад жыта і роснага лугу Паэт. Мне страшна было пачуць ад Вас: "А калі я памру, Марыечка, хачу, каб паклалі мяне ў Еўлічах. Доўга думаў над гэтым. Пакіну Васілю Зуёнку свой запавет. Мне ўжо з маім здароўем не выбрацца туды на гасціну, то хай ужоназаўсёды туды. То ў маладосці толькі здаецца, што гэта прыгожыя словы, а прыходзіць час і чуеш, як заве цябе зямля, з якой выйшаў. І часцей тады сняцца родная хата, бацька, маці, сёстры, — усе твае дзяды-прадзеды, якіх знаў і, мусіць, недарэмна ж помніш".**

**А гэта ўжо з Вашых лістоў да мяне ў вёску:**

**"Не майце крыўды, што выбрацца ў дарогу да Вас я не змагу, хоць і вельмі быў бы рады пабачыць Вас, як Вы жывяце, а галоўнае — сказаць Вам ад усяе душы: "Не траццe веры ў людзей, у самую сябе. Людзі ўсюды, скрозь і вакол нас розныя, гэтым яны і цікавыя. З Вашым тонкім душэўным адчуваннем і праніклівым бачаннем вельмі важна, як мага іх болей пабачыць, спазнаць, запомніць. Гэта — Вашы багацці, скарбы, набыткі, без якіх немагчыма зразумець, спазнаць самое сябе, сваё ўласнае "я".**

свячуся паміж ядлаўца,
між піжмы лугавой.

Загара, мята і чабор,
гладышыкі, званец,
зязюляй папярхнуўся бор,
і вось вясне канец.

А я да прыцемак сную,
чаго шукаю я?
Напэўна, маладосць сваю,
сваёй вясны імя.

1989

## МАЙМУ ЛЮБІМАМУ ІШАКУ

Ішак твой верш, — сказаў Маякоўскі.
Чыстая праўда, так.
Хто сцежкаю стромай і коўзкай
Выцягне лепш, чым ішак?
Яго ты ў сябра не сцібрыш
І не прывяжаш за кол.
Абрыдлі мне рэбры верлібра,
Санет, як заезджаны вол.
Даруй, мой пакутнік, што мучаю,
Ты ж бачыш, і я, брат, не ўлегцы.
Вядомых вядуць, а вядучыя
Толькі патузваюць лейцы.
Пегас падласы ці лысы
Адна яму паласа,
Абы пачапілі на пысу
Аброчную торбу аўса.
Зняможашся ты ў запрэжцы —

Па праўдзе сказаўшы, я шчыра зайздрошчу Вам — мне ўжо наўрад ці здарыцца такая шчаслівая магчымасць так блізка і непасрэдна далучыцца да жыццёвага асяроддзя, з вока на вока бачыць людзей, якія не мільганулі і зніклі, а заўсёды перад табой, і лёс, і характар іх для цябе — старонка і твайго жыцця. Паколькі Вы рашыліся на такую перамену — з рэдакцыі ў вёску, да тых хат, з якіх усе мы выйшлі, скарыстайце гэтую нагоду з найбольшай карысцю і для людзей, і для сябе, для свае душы. Хочаце ведаць, як мне бачыўся Ваш пераезд на новае месца? Не як пошук чагосьці лепшага ці выгаднейшага — не. Я падумаў і ўпэўнены ў гэтым: Марыя шукае сама сябе! Пачала з самага нізу, спадыспаду, з той далі, адкуль бачыцца шырэй, чым нават са сталічнай тэлевышкі. Такое адчуванне я сам перажываў, калі, бывала, прыязджаючы да мамы, залазіў на печ, на тую самую вялікую для мяне вышыню, адкуль чамусьці так выразна бачыўся мне мой уласны свет і ўсё пержытае мною. Вершы тых год мне і цяпер здаюцца самымі лепшымі: "Дома", "Трыпутнік", "Школа", "Караблі", "Прымак", "Мацейка", "Павадок". Не зразумейце мяне так, што я заклікаю: трымайцеся за печ! Не, я хілю сваю думку да таго, што ў кожнага з нас — сваё апірышча ў гэтым сэнсе, відаць, і вобразнае народнае прыслоўе: танцаваць ад печы. Важней, думаю, тут другое: каб нідзе не быць абыякавым прахожым, каб скрозь і ўсюды ты быў патрэбны, цікавы людзям, а людзі — табе.

...Ніколі не расчароўвайцеся ў людзях, ні пры якіх абставінах. Заўсёды верце ў чалавека!"

О, нязменны гэты дарагі





Дарожных слупоў не лічы.
Сам стану ў аглоблі нарэшце,
Каб цяжкі свой воз валачы.

1979

## АЎТАПАРТРЭТ

Фацэція, дальбог:
Навошта д'ябла слухаць?
Узяў Вінсент Ван Гог
і шаснуў брытвай вуха.

Акт неразумны, так.
Як кажуць, ведай меру.
Наіўны быў бядак,
Калі чарцям паверыў.

Самаўлюбёны свет,
Прымай жа аплявуху:
Вось мой аўтапартрэт,
Глядзіце, я без вуха.

Паслухаўся я вас,
Але сабе не здрадзіў.
Ручаюся за час,
За адпаведнасць праўдзе.

1962

подпіс: "Ваш Васіль Вітка"! Колькі разоў ён мяне акрыляў! Колькі разоў я чытала і перачытвала поўныя роздуму і хвалявання за мяне, за людзей лісты выдатнага казачніка-паэта! Як туліла я да грудзей некалі ягоныя словы!

"...Прачытаў з вялікай цікавасцю і асалодай. Не зважаючы на, я сказаў бы, эмацыянальную экзальтаванасць, можа, троху і залішнюю, і некаторую расхрыстанасць стылю, неэканомнасць у словах, што, вядома, ідзе ад душэўнай шчодрасці, я быў радасна ўсцешаны, што не памыліўся ў сваіх прадчуваннях: Вы — чалавек вялікіх творчых магчымасцей. Вы бачыце чалавека, тонка чуеце слова, здольны чуйна адгукацца на тыя глыбінныя настроі і хваляванні, якімі жыве чалавек, што прывабіў Вас, зацікавіў Вас сваім лёсам, умееце адкрыць — не адразу, вядома, а цераз уласныя душэўныя намаганні, пераадольваючы знешняе, пабочнае, што вельмі часта замінае нам убачыць у чалавеку яго галоўную сутнасць.

Хараша, светла адкрылі Вы людзей, пра якіх расказалі ў сваіх нарысах. Дарэчы, гэта і не зусім нарысы, у некаторых раздзелах — гэта цудоўная проза, свежая, нечаканая ў бачанні, у мастацкім даследаванні і асэнсаванні матэрыялу, таго вечнага для літаратуры матэрыялу, які называецца жыццё..."

Прабач, чытач, што як бы хвалюся перад табою. З тае пары, калі пісаліся тыя радкі Васілём Віткам, мінула шмат зімаў і летаў, і вельмі многае, напісанае пасля ўжо, зусім не чыталася Цімохам Васільевічам, бо, лічыла я, вось дацягну да рамана ў навелах,

тады і здзіўлю свайго Друга... І была ўжо такая ўпэўненасць у сваіх сілах і моцная падтрымка Янкі Сіпакова, Алены Васілевіч, нават Вера Палтаран адгукнулася, а яна ўжо са сваім поглядам крытыка прывячала нямногіх... Так, былі крылы ў мяне! Былі — да прыезду ў сталіцу, да ўваходу не ў свае дзверы, з якіх не магу, як з турмы, выйсці і па сёння...

Ах, Цімох Васільевіч, лёгка верыць агульна ва ўсіх людзей!.. Мне цяжка сёння пісаць светла, я ніколі ўжо, відаць, не змагу быць светлаю, з тою святлістаю радасцю — на вуснах і ў сэрцы, што зводзіла мяне з людзьмі, што звяла і з Вамі... Я буду горка тужыць заўсёды па тых скарбах, што былі ў мяне, ды адняліся зламыснікамі...

Ізноў — пра сваё! Не, я ўжо, відаць, не змагу нармальна глядзець на свет. Нават у Ваш дзень нараджэння баюся блізка падысці да Вашай кватэры, пазваніць, як калісь, павіншаваць, як усе нармальныя людзі віншуюць... Вы не крыўдуйце на мяне... Вы толькі ведайце, што я заўсёды ў гэты час буду ля Вашага дома, ля Вашых вокнаў, — з цюльпанамі, нарцысамі, незабудкамі... Хай сабе я й сяджу, забіўшыся на далёкую лаўку, і толькі гляджу на Ваш дом, але я бліжэй у гэты дзень да Вас многіх і многіх, хто з самага ранку патэлефануе, прынясе раскошныя ружы... Я думаю ў гэты час пра Вас, я так думаю! Думаю пра Вашу чароўную душу, якую Бог будзе трымаць на Зямлі яшчэ вельмі, упэўнена, доўга, каб змаглі радавацца ёй нашы чарнабыльцы-дзеткі, усе добрыя людзі, мамы, таты, бабулі ды дзядулі, якія чытаюць, заўсёды будуць вучыць сваіх дзетак па Вашых кнігах. Немаўлятам нават знойдзецца сонейка ў Вашых творах! І я вось вучыла жыццю сваю дачушку — па Вашых казках.

***

О, я наклікала сёння толькі на сябе буйны вецер! Пайшоў дождж. Моцныя, серабрыстыя кроплі забарабанілі па пяшчотнай яшчэ, нязвыклай для вока лістоце, радасна ўскрыкнулі птушкі, радасна зашумела вецце, кляновае, ясянёвае. І мне б сарвацца з гэтае лаўкі, кінуцца да аўтамата, пазваніць Вам... Мне б, урэшце, узбегчы на Ваш паверх, пазваніць у дзверы ці пакласці перад імі проста свае незабудкі і знікнуць. Але ж там зачынены цяпер дзверы, трэба ведаць код пры ўваходзе ў пад'езд. Аднойчы я прастаяла там цэлы вечар, пакуль змагла апусціць у Вашу скрыню сваю кніжачку, і Вы пасля доўга ўшчувалі мяне, што не зайшла сама... Не, мне нікуды не хочацца ісці сёння ад гэтага ветру, гэтага дажджу. Пакуль у школе Даша — я магу тут ціха сядзець, перабіраючы ў памяці сваё жыццё, людзей, хто быў ля мяне некалі, хто застаўся ва мне, ля мяне сёння. Вунь мільганула прада мною постаць аднае... Не, пра яе я не ўспомню, ніколі-ніколі, нават калі б усе дружным хорам заспявалі ёй дыфірамбы... Тая асоба магла прыстасоўвацца, лавіраваць, хітраваць, маніпуляваць людзьмі і дапамагаць толькі таму, хто быў выгадным для яе... Гэта самае страшнае, што толькі і ёсць у чалавеку, бо не ўсім яно відаць, не ўсім адкрываецца. Горка думаць аб такім, горка разбівацца аб такое! Бі, лупцуй мяне сёння, дождж, налятай, ачышчальны ўраган, каб змагла я нешта забыць і па-біблейску дараваць некаму...

Як добра, Цімох Васільевіч, што ў маім святле ёсць і Ваша святло! Светла, што нават у самай чарнаце невыноснага зараз быцця на зямлі — Ваш вобраз застаецца, застанецца да апошняга майго ўздыху. Не, не таму, што Вы заўжды прывячалі, паважалі мяне, а таму, што ні разу нідзе не пакрывілі перада мной сваёй чыстай душою, таму, што Вы, нават злёгку пакрыўдзіўшы некага, незнарок, хутчэй за ўсё, моцна перажывалі пасля, шкадавалі... Я пачула ад Вас такія маналогі аднойчы!.. І вось сёння, адчуваючы сваю вострую адзіноту ў свеце, многае больш зразумела... О, якою непрыступна-высокаю была я для многіх некалі! Успамінаюцца (зноў успамінаюцца мне!) Іванішчавічы... Неяк сяджу ў сваёй бібліятэчцы, забыўшыся на час. А ўжо — позні летні вечар. Сцьмела. І раптам — грук у дзверы, і нецвярозы, па ўсім відаць, голас: "Адчыняй, ня бойсь, я кніжкі чытаць прыйшоў! Думаеш, такі ўжо я прапашчы-негадзяшчы, валацуга страшны, глянь, я таксама сёння пры каптурыку-капялюшыку! Сыдземся — не пажале-е-еш! Сад-вінаград у мяне на ўсю вёску, дом, як звон, толькі во жонкі няма, адна была дый тая збегла. Сад-вінаград ёй мой, відзіш, не да беленькіх ручак! А мая маці ўвесь век у ім укалвала, і многа дабра ў ім нажыла, і ты, калі дурай ня будзеш, хваціць і табе. Адчыняй, кажу, ня бойсь!"

О, як бегла я тады ад гэтага нецвярозага голасу, з якою грэблівасцю, з якою пагардаю! Толькі раз аглянулася — і... Вось гэтае "і" вярнулася да мяне сёння... Як насланнё якое перад вачыма той прапашчы-негадзяшчы чалавеча, стаіць ля клуба, абняўшы дрэва, і ўжо не раве, не крычыць мне нічога ўслед, а толькі, хістаючыся, глядзіць у адну кропку... Пaглядзела туды і я... І на нейкі міг пахаладзела душа: там, на пустой вясковай вуліцы, каціўся, падымаўся, як якая зробленая дзецьмі цацка, капялюш гэтага п`яніцы. Яго гнаў і гнаў перад сабою вецер, то весела закручваў, як які дыск, падымаючы ўгору, то шпурляў уніз, як сарваны з дрэва лісток... Свяціў месяц, палалі зоркі, і раптам так ясна, так зырка высвецілі яны постаць гэтага няшчаснага, які, я ўжо ведала, аб`ехаў увесь Савецкі Саюз у пошуку шчасця, ды так яго нідзе і не знайшоў, і, не зачапіўшы нізавошта нідзе ні рук сваіх, ні сэрца, вярнуўся да роднага матчынага парога... І вось гоніць вецер яго капялюш перада мною... І па сёння, Цімох Васільевіч, непрыкаяна гоніць па той вуліцы у маёй памяці... Дзе ён, што з ім цяпер, шкадобліва падумаецца аднойчы, каб ізноў уздрыгнуць ад гэтай вечнай непрыкаянасці многіх і многіх сёння на зямлі...

"Сёння, кагадзе што ў мяне было прыемнае спатканне з Міколам Якаўлевічам Аўрамчыкам у часопісе "Маладосць". Спадзяюся, Вы ведаеце гэтага выдатнага майстра нашай паэзіі і хроснага бацьку многіх-многіх маладых паэтаў, якія ўжо самі сталі вядомымі майстрамі. Мікола Якаўлевіч вельмі прыхільна сустрэў падборку Вашых вершаў, уважліва прачытаў і ўхваліў. Для "Маладосці" я прапанаваў (зноў пералічаецца. — *М.П.*).

Вельмі рады, што так усё атрымалася, таму і спяшаюся паведаміць Вам гэтыя добрыя навіны. (Тут я прапускаю яшчэ шмат чаго. — *М.П.*).

...Пад канец свайго пісьма прыбярог для Вас, Марыечка, яшчэ адзін прыемны сюрпрыз: днямі ў Вас у Жыткавічах будзе чалавек, якога я ўжо спамінаў, якога шаную і люблю — Мікола Якаўлевіч Аўрамчык. Яго вандроўка звязана з успамінамі пра Івана Паўлавіча Мележа, з якім ён некалі быў на Палессі, на радзіме нашага вялікага палешука. Мікола Якаўлевіч абяцаў зайсці да Вас у рэдакцыю. І я рады гэтай шчаслівай нагодзе, што Вы пазнаёміцеся з гэтым цудоўным чалавекам і Паэтам".

І ў канцы: "Жадаю Вам, Марыечка, радаснага натхнення, веры ў сябе, у свае сілы і магчымасці. Прывітанне Вам ад маёй жонкі Вольгі Рыгораўны, якая з цікавасцю чытала Вашы вершы, зычыць Вам дабра, шчасця, поспеху!"

Божа, як Вы стараліся зрабіць мне заўсёды што-небудзь прыемнае! Як хацелі, каб раслі, мацнелі мае крылы, як, урэшце, верылі ў іх! І я жыла гэтай вераю, і нічога не баялася, бо абступалі мяне і Вы, і Аляксей Васільевіч Пысін, і Алена Сямёнаўна Васілевіч, і Іван Данілавіч Сіпакоў, і, і... Мноства светлых людзей! Калі-небудзь я напішу яшчэ пра ўсіх, з кім блізка звёў мяне лёс... А пра Вас вось сёння думаю, думаю, выгукаючы Ваша светлае імя ў прастору.

***

А Вы нястомна, верачы ўсё яшчэ ў мяне і нешта даруючы нават, слалі мне лісты. Якая ўвага ў іх! Які чалавек — з іх!

"Дарагая Марыя Ігнатаўна! Сардэчна віншую Вас з цудоўнай замалёўкай-нарысам, надрукаваным у "Голасе Радзімы". З прыемнасцю прачытаў і парадаваўся за Вас, за Ваша добрае пяро. Няхай яно піша часцей, смялей і з большай упэўненасцю ў свае сілы і магчымасці.

...Высылаю Вам экземпляр "Голасу Радзімы", другі пакідаю сабе".

Толькі шчодрыя сэрцам людзі могуць так адгукацца, радавацца за іншага, маладога, калі той не стаіць, не замірае на месцы, а жыве, расце з гэтым жыццём духоўна.

А помніце, як Вы ўсё-такі збіраліся ў дарогу, у няблізкі свет да мяне?

"Напішыце, парайце, як і калі найлепей прыехаць да Вас, закіньце ў душу старога бадзягі-вандроўніка вугольчык спадзявання, што ёсць на свеце сцяжынкі і дарогі, якія ён яшчэ можа ўбачыць. І нават калі яны прымрояцца мне толькі ў сне, і за гэта я буду ўдзячны Вашаму добраму сэрцу..."

О, хай яны прымрояцца Вам сёння, дарагі Цімох Васільевіч! Хай зыркімі промнямі любові абдымуць Вас і гэтыя мае словы, якія сёння так нечакана вырваліся з маіх грудзей...

Марыя ПАНКОВА

# СПРОБА НАБЛІЖЭННЯ ДА МАЙСТРА

Як трэба сказаць, каб праявілася твая цікаўнасць; каб не было падобна на тое, што расказваеш самому сабе, а толькі ў дастатковасці сваёй абапіраешся на мову: проста спалучаеш словы? Пытанне, якое з прычыны ўзнікнення можа стаць ці пасткай, абмежаваўшы цябе ў прасторы *няведання адказу*, ці амбонам, з якога табе адкрываецца пространь. Але як жах масткі, так і казанне — не самамэта; яны — адчужэнне...

***

Менавіта прыналежнасць свайму часу і ёсць той ланцуг, што трымае нас у пэўных межах. Іншымі словамі, агульнавядомае: "жыць у грамадстве і быць вольным ад грамадства нельга". Вось і крытык Святлана Марчанка не памылілася, калі сцвердзіла: "У творах сваіх Вітка — сын свайго часу, прадстаўнік свайго пакалення, які з глыбокай праўдзівасцю выказвае сваю эпоху"[1] (Падкрэслена мной. — *В.К.*) Крытык Янка Казека таксама не адмаўляе ўплыву часу: "Тэмы... вершаў у пэўнай ступені абумоўлены жыццёвай біяграфіяй паэта".[2] Жыццёвай біяграфіяй абумоўлены не толькі вершы, бо пісьменнік Васіль Вітка: пра-

заік, драматург, казачнік, публіцыст, крытык, сатырык, педагог...

Нельга абвінавачваць пісьменніка ў прыналежнасці да эпохі, галоўным патрабаваннем якой лічылася сляпое адзінства поглядаў; калі служэнне народу ператваралася ў служэнне Кіруючай Ідэі. Але ж заставаўся адзіны правільны шлях даказаць прыналежнасць Айчыне: захаваць нацыянальныя карані, калі "тварыць — гэта значыць кахаць і цярпець, і з праўдаю лёс свой злучыць назаўсёды"[3].

***

У той момант, калі чалавек разумее сваю адрознасць ад дрэва ці жывёлы, ён становіцца *прысутным, філосафам*, бо пачынае разважаць пра час нараджэння і смерці. Калі чалавек пачынае разумець адрознасць ад сабе падобных, ён становіцца *творцам*; укладаючы сваю адметнасць у творы музыкі, мастацтва... або ў фарміраванне сваёй Асобы.

Калі *прысутны творца* разумее імгненнасць быцця, ён ператвараецца ў Педагога, шчырага ў сваім намаганні перадаць веды іншым. Не тым, чый погляд на жыццё сфарміраваны, а тым, хто ў стадыі адрознення ад дрэва, жывёлы, птушкі...

***

"Не кідацца ў вочы, быць як усе", — такі дэвіз войска, сутнасць таталітарнай дзяржавы. Быць адзінотнікам і вылучацца — не рэкамендуецца: можа здарыцца так, што спатрэбіцца той, хто адкажа за чыюнебудзь памылку; на каго можна будзе паставіць кляйно "вораг".

Дзесяткі прыкладаў для таго, хто нарадзіўся напярэдадні першай сусветнай вайны, чыё сталенне праходзіла праз "адно з першых на высокай вежы савецкіх дзён"[4] пакаленне.

А творчасць? Пакуль малады — ты не павінен моцна адрозніваца, каб не пакінуць адбітку ў галовах тых, хто піша ўказы і распараджэнні.

Але гэта лёгка фармулюецца зараз. Тады — у 20—30—40-я гады ішоў адкрыты працэс адбору і падсвядомы працэс выжывання.

***

У гады СССР лёгка верылася, што існуе толькі адна дэмакратыя — савецкая. І калі ты носіш ганаровае званне "савецкі пісьменнік", пацверджанае дадаткова: "лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР", "заслужаны дзеяч культуры БССР", — ты з`яўляешся абаронцам дэмакратыі, бо верыш! Покуль не прыходзіць разуменне, што сама сістэма антыдэмакратычная, і цябе зацягвае ў вір супярэчнасцей.

Сапраўды, многае пазнаецца толькі з часам. І ўжо, згодна "сегодняшнему образу мыслей", пішацца: "На старасці гадоў упэўніўся, як многа я страціў ад таго, што не вёў дзённіка — хоць бы ў самыя напружаныя і найболей цяжкія гады жыцця: 30-я (гады маральнага і матэрыяльнага выпрабавання) і 40-я (гады вайны, гады вандровак, часовых прытулкаў па прыфрантавых гарадах і гарадках, працы ў суровай і мужнай Маскве 1942 – 1944 гг.).

Цяжка цяпер па памяці аднаўляць многія жыццёвыя падрабязнасці падзей, якія ўжо набылі гістарычнае значэнне"[5].

***

Згадаўся выраз: "практыкаванні ў стварэнні міфа". Ці не з`яўляюцца пісьменнікі "савецкага" часу тымі, хто практыкаваўся? І які міф ствараем мы, маладзейшае пакаленне?

***

"Плач па дзённіку" — назва першай нататкі з кнігі В. Віткі "Азбука душы".

Дзённік — гэта спроба спыніць час, бо мы не можам ані абагнаць час, ані вярнуцца ва "ўчора". Чалавек толькі спрабуе размеркаваць свой шлях, наносячы адрэзкі на ліноўку жыцця. Пісаць дзённік — гэта спакуса ператварацца ў чытача самога сябе. А як быць з высновай, што "*маленства* адкрывае для сябе казачнасць, дзівоснасць свету, *малалецтва* пачынае спазнаваць яго, *юнацтва* ўпіваецца яго асалодамі, *сталасць* спрабуе перарабляць яго, *старасць,* прыстасоўваючыся да яго, усё абдумвае нанава"[6].

Пішучы дзённік, чалавек застаецца верным сабе, сваім думкам і адчуванням толькі на той момант, калі запісвае; калі знаходзіцца ў стане "аднаго з пяці ўзростаў".

"Абдумаць нанава" не будзе дадзена; і тады, калі гэта не *проста* дзённік *проста* твайго жыцця, а пераказ "жыццёвых падрабязнасцей", што "набылі гістарычнае значэнне", — значыць, трэба рабіць дзённікі-дублікаты на кожны з наступных "узростаў" чалавека. З той, вядома ж, агаворкай, што з гадамі мяняюцца і погляды.

***

Кароткія нататкі Віткі — часцей за ўсё не люстэрка навакольнага свету, а падсвядомая самаабарона ад таго, што так уражвае, што робіць цішыню і плыннасць хаатычнымі... Назіранні кладуцца на паперу ў дзіваватым суцэшлівым спадзяванні на тое, што чытачам такім чынам дадзены *урок*. Але ж *правілы*, на жаль, фармулюе не пісьменнік, а само жыццё.

***

Творчасць В. Віткі роўная творчасці стварэння Саду. Ён піша для *саду* людзей (як паказчык узросту і як паказчык стану). Праз культывацыю культуры прыкладае ён намаганні ператварыць дзічку ў пладаноснае дрэва, для якой адна прыдатная глеба — нацыянальная.

***

В. Вітка — пісьменнік *дома*. Ён стварае для тых, хто, "яшчэ не маючы ўласнага ні жыццёвага, ні душэўнага вопыту, ужо здольны выдатна імітаваць думкі і пачуцці дарослых...". "Аўтар, які піша для дзяцей, мае на ўвазе не толькі пазнавальныя, але і выхаваўчыя мэты"[7].

В. Вітка — пісьменнік для свайго нацыянальнага *Дома*. Ён стварае "багаццем мовы, высокай моўнай культурай..."[8]

***

Пісьменнік — скульптар. Ён адсякае з глыбы быцця ўсё, што замінае ўбачыць у самім быцці сутнасць. Празаік адухаўляе Слова, паэт — Гук, што робіць прастору ад зямлі да неба прыдатнай для існавання чалавечага духу.

***

Запавет: павага да старэйшых — найбольш яскрава праяўляецца ў адносінах да людзей творчых. Тады як стаўленне да іх *саматворчасці* мае ў лепшым выпадку адзнаку таго часу, калі адбыліся найбольшыя здабыткі ўвагі. Паблажлівасць калег і чытачоў цягне за сабой адмаўленне творчай сталасці, новага росквіту, нібы даруючы тым самым за доўгажыхарства.

Але ж "пакуль чалавек жыве, ён усё яшчэ няпоўны, незавершаны, дарэшты не ўвасоблены, ён усё яшчэ не зусім творца і не зусім твор. Аднак дзякуючы гэтаму "не зусім" і магчыма гэтае ўвасабленне, магчымы пераход недасканалага ў дасканалае, магчыма творчасць"[9].

***

В. Вітка ў сваіх нататках, артыкулах, успамінах не ператвараецца ў *асобу ў атачэнні ананімнага натоўпу* суайчыннікаў: праз "азбуку сваёй душы" ён самаахвярна займае гістарычнае месца першаадкрывальніка Азбукі, надаючы прысутным (ці то людзям, ці развагам, ці ўражанням) адпаведнае месца ў алфавіце, замацаванае праз тую ж "азбуку душы".

***

Жыць у прадчуванні славы — незайздросны творчы лёс. Тыя ж, чыё майстэрства было ацэнена грамадствам пры жыцці, пакідаюць *славу* тым, хто быў абдзелены ўвагай сучаснікаў.

***

Васіль Вітка — пісьменнік, з якім мы не так даўно ўсталявалі пачатак (адносін; сяброўства; узаемапавагі?). Я ведаю пра яго не больш таго, што прачытала, што пачула ў размовах... Ён сядзіць, вонкава спакойны, ашчадна хавае хваляванне і ледзь бачнае трымценне. Уражанне маёй асобай, як і маёй творчасцю ўжо прагучала: "Вы такая маладая!"

Паміж нашымі рэдкімі сустрэчамі праходзіць шмат часу, і я, як чалавек, які валодае Талентам губляць людзей, разумею: далей Пачатку мы не пойдзем, колькі б ні было яшчэ сустрэч...

І ў гэтым найвялікшая віна ўласнай асобы перад Асобай Творчай.

***

Як мала я магу сказаць пра чалавека, да якога стаўлюся з вялікай павагай. І ўсё-ткі, як гэта добра, што магу мала сказаць; сцвярджаючы тым самым, што чалавека, пра якога ты ўсё ведаеш, перастаеш любіць. Але ўсё адно застаецца неразгаданай моц слова ад "Напачатку было Слова..." і да сёння, моц, што адначасова робіць гісторыю і жывіць творцаў...

Вольга КУРТАНІЧ

---

[1] С Марчанка. Васіль Вітка. Нарыс жыцця і творчасці

[2] Я. Казека. Гартаванне слова.

[3] Л Геніюш.

[4] А. Куляшоў

[5] В. Вітка. Плач па дзённіку.

[6] В Вітка Пяць узростаў чалавека.

[7] Я. Казека. Гартаванне словам.

[8] Там жа.

[9] А. Разанаў.

Я маю твор...

# З Я Н О Н



***

Вячэрнія промні
            на жоўтай траве,
Як і на Бацькаўшчыне.
Але гэта не Бацькаўшчына.

*2.09.1996. Нью-Ёрк.*



Андрэй ФЕДАРЭНКА

У НАС



*Н расказваў з інтанацыяй, падрабязнасцямі, жэстыкулюючы і робячы паўзы ў патрэбных месцах, стараючыся не прапусціць драбнюткіх дэталяў, дадаючы сёе-тое (па праву пісьменніка) і ад сябе. Яна была ўражаная. "Трэба ж! Няўжо цяпер такое пішуць?"*

# БАНАЛЬНАЕ ДАРОЖНАЕ ЗНАЁМСТВА

*Маленькая аповесць*

*Усе нашы выказванні маюць іншы сэнс, якi ўтойваецца i якi пагэтаму больш значны, неасцярожна i недастаткова задавальняецца прамым сэнсам слоў, бо i сны нашы сiмвалiчныя, i творчасць — сiмвалiчная.*

**Б. Грыфцоў**

1

Празаіку Н., якога ў мінскім літаратурным асяроддзі адны называлі "маладым пісьменнікам", другія — "дзядзькам, якому пайшоў чацвёрты дзесятак" (напраўдзе яму было роўна трыццаць адзін год), прысніўся сон

Сон падзяляўся на дзве часткі. Першая снілася нейкая дзяўчына, трохі падобная на ягоную жонку, але зусім чужая і разам з тым вельмі свая, блізкая, і Н. чамусьці ўпрошвае яе быць з ім, каб потым ехаць некуды разам, і тады ён скажа ёй штосьці важнае, прызнаецца ў нечым Дзяўчына вагаецца, раздумвае і ўрэшце згаджаецца ехаць, толькі не з Н., а з іншым Н едзе з імі ў цягніку, у суседнім купэ, чуе іхнія размовы, смех, яму сумна і горка.:. Раптам каля Бабруйска на цягнік налятаюць нямецкія самалёты, свіст бомбаў, выбухі, крыкі, кроў Н. разумее, што трэба спыніць сон, і гэта ў яго ўладзе Ён спыняе сон, і вось тая ж дзяўчына, ужо недзе ў Мінску, стаіць перад ім, вінавата цярэбіць яго за рукаў, просіць прабачэння "Цяпер я разумею, — кажа яна, — што трэба было ехаць з табою, цябе паслухацца" Н , шчаслівы, адказвае "Давай так і зробім, я магу вярнуць усё да пачатку!"

І другая частка сну: яны з дзяўчынаю едуць у адным купэ, спакойна мінаюць Бабруйск і ніхто іх не бамбіць.

Прачнуўшыся, Н успомніў сон да драбніцаў, да інтанацыі дзявочага голасу Што гэта магло значыць?

Ну, з цягніком і з дарогаю ясна — сёння ўвечары Н збіраўся ехаць у вёску да маці, і быў куплены білет Нямецкія самалёты — з учарашняга фільма пра вайну Але адкуль дзяўчына і, галоўнае, што за "вяртанне да пачатку"? Мабыць, гэта звязана з п`есаю Справа ў тым, што Н пісаў п есу і тыдзень біўся над другой карціною, не мог псіхалагічна абгрунтаваць дзеянні галоўнай гераіні, дзяўчынкі "Вярнуцца да пачатку" азначала, відаць, перарабіць гэтую карціну зусім па-новаму, замест сустрэчы галоўнай гераіні з яе жаніхом зрабіць яе сустрэчу з чалавекам другасным Ну, вядома! Тады не будзе "бамбёжкі", "крушэння цягніка", г.зн не будзе правалу ў тым месцы п`есы

Зрабіўшы такі псіхааналіз, Н супакоіўся і адразу забыў пра сон І без таго naперадзе хапала клопатаў Найперш пазычыць у каго грошай, каб паказаць маці, што ён не жабрак (а потым прывезці тыя грошы назад у Мінск і аддаць), пабегаць па крамах.

2

Цягнік выязджае з Мінска позна ўвечары

Самае цікавае — прыехаць на вакзал раней, тады адным з першых улезці ў вагон, заняць сваё месца ў купэ, законнае, пацверджанае строгімі лічбамі на жоўтым прыгожым квітку, і чакаць, угадваць, хто будзе тваімі спадарожнымі

Самае нецікавае — калі гэтыя спадарожныя балбатуны, п'яніцы, храпуны, маладыя маці з піскунамі-немаўлятамі, карцёжнікі Заплюшчваеш вочы і просіш Бога аб адной маленькай ласцы — не пасылаць такіх.

І Бог памагае Насупраць, на ніжняй паліцы ўладкоўваецца ўкраінка гадоў за сорак ("кількі пасцель каштаваціме?"), вясковая, з клункамі, абвязаная хусткаю — зубы баляць. Другі пасажыр — мужчына, цвярозы, сеў, дастаў газету Вось і цудоўна.

Можна глядзець у цёмнае акно на свой адбітак, можна прыціснуцца бліжэй да шкла і глядзець на мокры ад расталага снегу перон, на якім мітусяцца пасажыры Можна перавесці вочы на жанчыну-гаротніцу і ў душы парадавацца, што ў цябе нічога не баліць. Можна паглядзець на мужчыну, хоць у яго знешнасці нічога цікавага — нос, рот, акуляры, сівыя вусы Можна ўгадваць, хто зараз прыйдзе ў купэ чацвёртым





А лепш проста заплюшчыць вочы і думаць. Хоць бы пра п'есу· што, калі Наташу — галоўную гераіню — рабіць не "крутой", не сучаснай, а выдуманай, набожнай красуняю, з чыстай светлай душою.. І маналог: "Не думайце, што ўсё купляецца і прадаецца! Вашыя грошы для мяне не больш чым смецце!", — і пачак даляраў на дробныя шматкі Лухта нейкая.

Можна думаць пра рэцэнзію (у адной газеце нядаўна выйшла рэцэнзія на другую кніжку Н.) А яшчэ лепш пра рэцэнзента, які каменя на камені не пакінуў ад яго прозы Акрамя тупой злосці, якою дыхаў кожны радок рэцэнзіі Н. было ясна, што рэцэнзент нават не чытаў яго кнігі, ён яе прагартаў у лепшым выпадку (напрыклад, адна аповесць пачыналася словамі "Стаяла лета", а рэцэнзент пісаў: "Асабліва брыдка ў пачатку аповесці паказана зіма") Не, і гэта лухта.

Можна думаць пра трэцюю кнігу, што ляжыць у выдавецтве. Мастака трэба было б пашукаць... А, якая розніца, хай хоць зусім без афармлення, без вокладкі выдаюць, змест галоўнае. Выйдзе гэтая трэцяя кніжка — напішацца чарговая рэцэнзія, выйдзе чацвёртая...

Ага, вось ты, чацвёрты пасажыр. Пасажырка. Дзяўчына. Джынсікі, плашч белы. Сумку паставіць уніз? Калі ласка. "Глядзі, у нас сумкі аднолькавыя Каб не паблытаць .. Табе дакуль ехаць?" — "Далёка". Вочы-"вішні", носік правільны, роўны. "Хочаш, займай маё ніжняе месца?" — "Не, не хачу".

"Дзякуй" яны, такія, чамусьці ніколі не гавораць. Цягнік крануўся

Пайсці ў тамбур, пакурыць... І падумаць.

3

Калі Н вярнуўся, у купэ было цёмна Украінка спала. Мужчына слаў пасцель. Дзяўчына сядзела на голай лаўцы

"Ты чаму не спіш?"

"Так".

Н. схадзіў, купіў пасцель, вярнуўся — дзяўчына сядзела як сядзела. Духата была невыносная

"Хочаш, вазьмі маю пасцель?" сказаў ён шэптам, бо і мужчына ўжо лёг

"Не хачу",—і зірнула на яго недаверліва.

Ён здагадаўся, што яна студэнтка і проста шкадуе, або няма ў яе, грошай

"Тады давай падзелімся. Я ўсё роўна не засну Мне хопіць адная прасціны", – сказаў ён.

Яна прамаўчала. Ён зняў зверху матрац, паклаў на яго прасціну і навалачку

"Вазьміце мне тады і коўдру",– прашаптала дзяўчына (коўдры давалі толькі тым, хто купляў пасцель)

"У такую духату?"

"Уночы халадна будзе"

Н прынёс коўдру; пакуль хадзіў, дзяўчына паспела заслаць яму сваю верхнюю паліцу Яго кранула гэта

"Дзякую. Цыгарэты скончыліся, дазволь . " – ён падняў ніжнюю лаўку і пачаў корпацца ў сумцы

"Што вы робіце?! – смеючыся, прашаптала яна, хапаючы яго за руку — Гэта ж мая сумка! І не сорамна?"

"Ды ў мяне ўсё тое ж самае, у маёй сумцы,– апраўдваўся ён — Тыя ж дзве каробкі цукерак зверху .."

Яму расхацелася курыць, ён забраўся на паліцу, лёг на спіну. Не спалася. Пачаў думаць пра гэтую дзяўчыну, а потым — пра жонку, як яму пашэнціла з ёю

У Н былі любоўныя гісторыі, і амаль усе няўдалыя Яго чамусьці заўсёды цягнула да дзяўчат, якія, як высвятлялася праз пэўны час, яго цярпець не маглі Ён камплексаваў, чытаў Фрэйда і прыдумваў розныя тэорыі, паводле якіх выходзіла, што пражыць яму век адзінокім Але на апошнім курсе яго нечакана пакахала дзяўчына, з тых, да якіх яго заўсёды цягнула, — красуня, утульная, а пасля выйшла, што і "хатняя", адданая Яны ажаніліся, жылі добра, чакалі цяпер дзіця, дзяўчынку, ужо нават прыдумалі імя Маючы такія тылы, Н. перастаў камплексаваць. Жанчыны, акрамя жонкі, калі і цікавілі яго, дык у якасці аб`ектаў для мастацкай прозы.

Не могучы заснуць у духаце, Н. круціўся да паўночы, тады задрамаў і прачнуўся

ўранні, калі цягнік стаяў у горадзе. Н трэба было праехаць яшчэ адну станцыю. Дзяўчына выходзіла. Яна азірнулася, вочы іх сустрэліся, але яна адвяла свае і хутка выйшла.

"Да пабачэння" ці "дзякуй" яны, такія, чамусьці ніколі не кажуць.

4

Н. ішоў дамоў ад станцыі лесам. Пахла вясною. Снегу нават тут, пад дрэвамі, амаль не было. Зыркае, непрыемнае, ненатуральнае ў лютым месяцы сонца свяціла ў вочы.

Н дастаў цыгарэту і, прыкурваючы, заўважыў, што ў яго дрыжаць пальцы. Не верачы яшчэ, стараючыся не думаць ні пра што, ён пайшоў хутчэй; не, хада не памагла, а з кожным крокам невядомая трывога толькі нарастала і нарастала. І вось ужо не трывога, а страх, паскудны, ліпкі, той самы, сімптомы якога тысячы разоў прасочаныя ў мастацкіх творах і раскладзеныя да драбнюткай драбязы ў медыцынскіх даведніках.. Знешніх прычын для гэтага страху ніякіх, але на што ні пагледзі, пра што ні падумай — усё страшна... Чаго я тут, у лесе, адзін? Куды я іду? Што буду рабіць двое сутак выхадных? Не дзён, а менавіта сутак, бо ведаю, што не засну... Гэтыя хвоі, бярозы, сонца — нашто яны?

"Значыць, вярнуўся? – задыхаючыся, спытаў, як у старога знаёмага, у гэтага страху Н – А я ж быў думаў, назаўсёды знішчыў цябе! Столькі часу ты не падаваў нават знаку!"

Ён спыніўся, заплюшчыў вочы, паклаў далонь на левую грудзіну Сэрца барабаніла часта-часта Было адчуванне, што з кожным яго ўдарам патыліца і шыя наліваюцца свінцом, і вось-вось — і Н не зможа нават павярнуць галавы

"Я амаль не спаў у душным вагоне Мозг стаміўся Я еду да маці, да Жанчыны. Жанчына — прыцягненне і адначасова небяспека, страх. Стомлены мозг згубіў на хвілю кантроль над падсвядомасцю і мозг разладзіўся Арганізм рэагуе па-свойму· сустрэча з Жанчынаю — небяспека, вяртайся назад. Не, к чорту Фрэйда. Калі б гэта было так, тады было б кожны раз, падчас кожнага майго прыезду А гэта не кожны раз".

"Неўрастэнія. Самая звычайная, як ва ўсіх творчых людзей Я амаль год пісаў аповесць, увесь час думаў пра яе І на працы, і дома, і ў сне. Пракручваў варыянты. Тое, што надрукуецца, будзе адзін з дзесяці амаль розных варыянтаў Выходзіць, за год я напісаў дзесяць аповесцей! Вось адкуль стомленасць галавы, а не ад душнага вагона. Вось цяпер можна прышпільваць і Фрэйда.. Ну, а далей? Я ведаю гэта, а мне не лягчэй, а яшчэ страшней Мозг больш не кантралюе работу арганізма".

"Хочаш быць шчаслівым — будзь ім", – згадаў Н вядомае выслоўе і адчуў да яго проста агіду. Які тупагаловы, таўстаскуры дурань мог выдумаць такое? "А я вось хачу быць шчаслівым — і што? Ды палец дзвярыма прыцісні і паспрабуй быць шчаслівым! А тут душа прышчэмленая. ."

Цэлы дзень наперадзе, а потым бяссонная ноч, а потым яшчэ дзень. Тады, праўда, цягнік — і Мінск.

Мінск! Вось што яго выратавала б! Калі думаеш пра Мінск, тады і страх неяк меншае... Вярнуцца, сесці за стол, закапацца ў свае паперы, прытуліцца да жонкі, пазваніць сябрам, гарэлкі, урэшце, выпіць. Расслабіцца, забыцца любым чынам, каб толькі ацалець, каб толькі не было ГЭТАГА.

"Я паеду сёння ўвечары", – падумаў Н і адчуў дзікую палёгку

Ён працягнуў перад сабою далонь — ніводзін палец не ўздрыгнуў. Сэрца застукала роўна і спакойна. Моцным рабілася цела, лёгкаю — галава Здалося, каб да яго былі падключаны датчыкі медыцынскай апаратуры, што кантралявалі б яго фізічны стан хвіліну назад і цяпер, датчыкі, відаць, зашкалілі б Яны паказалі б, што былі два зусім розныя чалавекі: першы — разваліна на парозе смерці, другі — малады, звычайны, трохі, можа, узбуджана-радасны хлопец.

Н хацелася павярнуцца і зараз жа, пехам ісці да Мінска

5

Пад вечар сабраліся чорныя хмары, лінуў дождж. Ён ліў усю дарогу, пакуль Н. з маці, закручаныя ў слюдзяныя накідкі, дабіраліся на станцыю. Н гаварыў безупынку, смяяўся, жартаваў. Узбуджаны настрой не пакідаў яго, але ўспаміны пра страх жылі і





Н., размаўляючы з маці, у думках не пераставаў аналізаваць ранішні прыступ Карцела да канца разабрацца, разгадаць зброю ворага, каб потым не падпускаць яго да сябе.

"Можа, у мяне проста павышаны ці паніжаны ціск, перад такім зімовым дажджом? Адсюль і пальцы пачынаюць трымцець, і галава наліваецца свінцом.. А я "прышпільваю" Фрэйда ды стомленасць мозга ."

Цягніка доўга не чакалі

І вось цёплае, сухое, светлае купэ. Дождж у акно А тут так утульна Адзін. Паспаць бы. . Не, тузанулі дзверы. Малады, высокі, п'яны, з кіёчкам "Выпі са мною". — "Дзякую, не хачу" — "А я вып'ю! Заслужанае! Ты служыў?!" Ага, вось яно — вядома, "афганец". Зараз пачнецца кішлакі, душманы, засады Не, "чачэнец"

"Рота, целая рота легла под Моздоком!", і п'яныя слёзы і ўсхліпванні.

Адзіны ратунак — сядзець і ківаць моўчкі, пакуль не зойдзе новы пасажыр і "чачэнец" на яго не пераключыцца Прыпынак, пасажыры — маладая маці з маленькай дачкою. Гуд бай, "чачэнец", пераключайся І прабачце, жанчына Я вам не зайздрошчу Падсядае "Как это вы одна, без мужа? А я в Чечне роту в бой водил " Не адказвай, дурнічка. Адказала, усміхнулася Прапала... "Мужу нельзя таких жен одних отпускать. Вот у нас в Чечне тоже был случай..."

Другі прыпынак. Не, так не бывае! Знаёмы плашч белы, вочы-"вішні", сумка .. І яна пазнала; здзіўлена, нават радасна·

"Привет!"

Усё, "чачэнцу" ні ў якім разе яе не аддаваць... Сядае побач.

"Так, зараз я табе зноў куплю пасцель і зноў аддаю сваю ніжнюю лаўку"

"Праўда?"

"І так будзе кожны раз. Мы цяпер заўсёды з Мінска і ў Мінск будзем ездзіць у адным купэ".

Засмяялася

"Чачэнец" нагаварыўся, упаў на рукі на столік, заснуў Потым прачнуўся, залез у адзенні на верхнюю паліцу і адразу ж захроп. Жанчына ўкладала дачку спаць Святло прытушылі і ў паўзмроку свяціліся добрыя вочы-"вішні".

"Як цябе завуць?"

"Наташа"

"Сур`ёзна?"

"А што, такое рэдкае імя?"

"Ты не першакурсніца "ін`язу?"

"Не, першакурсніца медінстытута"

"Проста я якраз пішу п`есу, там галоўная гераіня — першакурсніца Наташа"

Яна не зразумела, аж прыадкрыла роцік. Н паўтарыў па-руску

"А чаму вы пішаце гэтую... п`есу?"

Н., упершыню за ўсё жыццё, сказаў незнаёмаму чалавеку, што ён — пісьменнік А што гэта такое? Ну, проста, друкуецца ў часопісах і піша кніжкі.

Яна памаўчала з ветлівасці. Ён пачаў асцярожна распытваць і хутка зразумеў, што яна не ведае нічагуткі· ні таго, што людзі могуць гаварыць па-беларуску, ні таго, што нехта нешта піша, а хтосьці чытае; яна не ведала ніводнай назвы беларускага часопіса.

"Чым вы там займаецеся, у сваім інстытуце?"

"Зубрым А пра што вы пішаце?"

"А чаму ты завеш мяне на вы? Колькі мне гадоў, як ты думаеш?"

"Павярніцеся да святла. "

Доўга, уважліва разглядала, урэшце сказала ўпэўнена:

"Дваццаць пяць"

"Трыццаць адзін, – з гонарам адказаў Н., прыгадаўшы выказванні мінскіх літаратараў (гл пачатак аповесці) – Чацвёрты дзесятак!"

"Ніколі не дасі Тады тым больш трэба на вы, – і адразу ж: – Дык пра што **ты** пішаш?"

"Не, я пра сваё не ўмею Я чужое люблю расказваць. Вось, паслухай, якую навелу напісаў мой сябра. "

Сюжэт навелы быў такі галоўны герой, студэнт, блізарукі, падчас сяброўскай выпіўкі знянацку разбівае свае акуляры Яго знаёмяць з дзяўчынаю Яна бачыцца яму, бы ў тумане, уся размытая, але ў яе цудоўны голас. Дзякуючы голасу, уяўленне малюе гэтаму студэнту яе як дзяўчыну незвычайнай прыгажосці Ён праводзіць яе дамоў,

закаханы, шчаслівы. І на другі дзень ідзе на спатканне з ёю, — у акулярах, вядома. І вось ён бачыць перад сабою звычайнае, шэрае, невыразнае дзяўчо. Толькі голас яе — той самы, начны, мілагучны — не дае яму адразу павярнуцца і ўцячы. Дзяўчына між тым усё разумее. Ёй сорамна. Яна яшчэ больш сцінаецца. І тады хлопец — які цудоўны, нечаканы паварот! — нібыта выпадкова зноў разбівае свае акуляры, і ўсё вяртаецца: зноў каханне, зноў дзяўчына ператвараецца ў фею.

Н. расказваў з інтанацыяй, падрабязнасцямі, жэстыкулюючы і робячы паўзы ў патрэбных месцах, стараючыся не прапусціць драбнюткіх дэталяў, дадаючы сёе-тое (па праву пісьменніка) і ад сябе.

Яна была ўражаная

"Трэба ж! Няўжо цяпер такое пішуць?"

6

Пастуквалі колы. Час ад часу за акном праплывалі асветленыя пероны невялікіх станцый, на якіх цягнік не спыняўся, — тады і ў купэ святлела А потым — зноў ноч і перастук колаў

"Пра што ты думаеш?–, спытала дзяўчына. – Мне здаецца, ты гаворыш і думаеш пра штосьці сваё".

"Звычка такая. Прафесійная! "

"Дык пра што?"

"Табе цікава будзе?"

"Цікава"

"Я гавару з табою, а сам мару Мне хочацца "білецік на другі сеанс" Каб зноў апынуцца ў дзяцінстве, пайсці зноў у школу, тады тваe гады зноў перажыць, студэнцкія.. Усё-ўсё па-нову, разумееш? Колькі памылак можна было б пазбегнуць!"

Яна не зразумела Ён сказаў

"Кладзіся спаць, Наташа", – і пайшоў курыць у тамбур.

Вярнуўся — яна ляжала, прыкрытая коўдраю, і не спала

"Пасядзі са мною", – сказала яна раптам.

Ён прысеў, паправіў ссунутую коўдру, падаткнуў ёй пад ногі

"Мне так пашэнціла, што я з табою еду", – прашаптала яна.

"З-за таго, што купіў табе пасцель?"

"Раскажы яшчэ што-небудзь", –папрасіла яна, не адказаўшы.

"Ну, слухай Бог стварыў Зямлю. І ўсё жывое на ёй. І гэтае жывое жыло і развівалася, а потым памірала, мільёны гадоў Нараджаліся і паміралі розныя мудрацы, розныя рэлігіі, розныя грамадскія лады, вяліся войны, адбываліся рэвалюцыі, ірваліся атамныя бомбы і ўсё гэта рабілася дзеля таго, каб у канцы дваццатага стагоддзя два чалавекі сустрэліся ў адным купэ цягніка Смешна, праўда? Вось вынік усяго развіцця чалавецтва — каб мы з табою сустрэліся! А раніцаю развіталіся назаўсёды"

"Не,– хутка сказала яна – Ты пакажаш мне Мінск"

"Што менавіта ў Мінску?"

"Усё. Я амаль нічога там не ведаю. Не ведаю нават, дзе цырк, не была ў ім ні разу, не ведаю, дзе плошча Перамогі ."

"Ты не перастаеш мяне здзіўляць. Ты ж нармальная сімпатычная дзяўчына — табе няма каму паказваць Мінск? Як жа ты жывеш, чым?"

"Колькі я там жыву — менш чым паўгода. Інтэрнат не даюць, гаспадыня кватэры сварыцца, каб не гуляла позна. Лекцыі, семінары, а ўвечары зноў вучу і тэлевізар гляджу Ведаеш, як цяжка ў медыцынскім?"

"Здагадваюся. Усё, Наташа, заўтра ўставаць рана".

"Пачакай, нагніся. .– сказала яна, прыўзнялася і пацалавала яго ў вусны – Добрай ночы!"

7

Н драмаў. Ён чуў, як гадзіны ў тры пастукалі ў дзверы, праваднiца крыкнула. "Жлобін!", і "чачэнец" падхапіўся, пачаў збірацца. У чатыры гадзіны зноў стук і крык: "Беразіно!", і маладая маці з дачкою выйшлі. Нарэшце а палове шостай уключылася святло, зайшла праваднiца і аб`явіла: "Мінск".





Н. паляжаў трохі, каб не перашкаджаць дзяўчыне збірацца Потым зірнуў уніз, павітаўся Яна сядзела апранутая, трохі прыпухлая пасля сну і ад таго яшчэ больш падзіцячы прыгожая. Яна разглядала білеты.

"Вось, аддалі,– сказала яна, убачыўшы яго – На, на памяць"

Ён узяў два білеты, запіхнуў у кішэню кашулі.

Вакзал сустрэў іх ранішнім рэзкім шумам, лютаўскім, адліжным, прапахлым дымам паветрам.

Яны спусціліся ў светлы пераход, да метро

"Ну, шчаслiва",– сказала дзяўчына, забіраючы сумку, якую ён падносіў.

"Ты паедзеш?"

"Паеду, метро працуе ж"

"Можа, запішы тэлефон?"

"Навошта?" – яна няўцямна зірнула на яго, усміхнулася чамусьці

Белы плашч мільгануўся апошні раз, змяшаўся, растварыўся сярод людзей

Н выйшаў на другім баку вуліцы. Першы тралейбус будзе толькі праз паўгадзіны.

На прыпынку курылі, і гэты цыгарэтны ранішні смурод раздражняў Праехала прыбіральная машына, са скрыгатам здзіраючы сваім касым "нажом" бруд з асфальту, а жорсткі "венік"-круцёлка падхопліваў ззаду гэты бруд, не так падмятаючы, як раскідваючы яго ва ўсе бакі Людзі хапалі сумкі, цiснуліся да сцен, далей ад краю тратуара, на які ляцела гразь.

О, пракляцце! Гэтыя галасы, мацюкі, бледныя ў паўзмроку твары, сумкі, цыгарэтны дым, гэты скрыгат "нажа" аб асфальт! Таксоўку ўзяць? І прыперціся дамоў у шэсць раніцы? І дома будзе тое ж самае!

Н было страшна.

"Ну, выратаваў Мінск?"– папытаў ён у сябе

8

Ён сабраўся і хутка пайшоў Ленінградскай вуліцай у бок "Дынама", завярнуў улева і ў сквярыку прысеў на крайнюю лаўку Святлела У Мінску зусім не было дажджу Сёння будзе сонечны, цёплы, харошы дзень. Жыць бы і радавацца.

Што ж адбылося?

Тое, што яму зноў стала страшна. Да моташнасці Да істэрыкі Да немагчымасці не тое што радавацца, а жыць.

Учора яго выратавала ад гэтага страху думка хутчэй вярнуцца ў Мінск. Што цяпер? Чым цяпер гэты страх мог бы быць зняты?

Адным· калі б гэтая абсалютна чужая яму дзяўчына не развіталася так абыякава Калі б яна пакінула адрас, ці запісала нумар яго тэлефона. Навошта? Няважна, ён больш чым упэўнены, што ніколі не шукаў бы яе

"Пакуль не разбяруся, нікуды не паеду! Буду сядзець тут хоць да вечара!"

"Пачнём з працейшага. што мяне спалохала? Для гэтага трэба ўспомніць, калі ТАКОЕ было апошні раз Даўно, да жаніцьбы Я пісаў тады сваю першую аповесць "

І Н. прыгадаў сюжэт той аповесці (ён увогуле помніў кожную старонку трох сваіх кніжак) Галоўны герой ведаў, што яго сяброўка спіць з іншымі А з ім — не Разам з тым яна кахала яго, несумненна. Яна, голая, выходзіла з ванны, выціралася перад ім, прасіла зашпіліць на спіне станік, цалавала, запаляла яго — і далей ніяк. Яна смяялася з яго, нібы помсціла за тое што ён кахае яе **такую**. А ён не столькі кахаў, колькі хацеў разабрацца. Было не каханне, а паталогія кахання, хвароба Яе паводзіны і словы былі алагічныя. І сваёй непаслядоўнасцю, невытлумачальнасцю дзяўчына даводзіла галоўнага героя да адчування страху перад жыццём

"Дык што — сексуальныя матывы? – думаў Н , седзячы ў ранішнім скверыку на лаўцы – Глупства, гэтая дзяўчына з невялікай нацяжкаю годная мне ў дочкі! Не, могуць быць, вядома, і сексуальныя, але не гэта галоўнае "

Ён успомніў жанчыну, з якой пазнаёміўся ў тых жа гадах, студэнтам, у "Кнігарні пісьменніка" Ён выйшаў з дзвярэй "Закрытага фонду", тады яшчэ быў такі, толькі для пісьменнікаў; жанчына падышла і папрасіла купіць ёй у тым "Фондзе" нейкую кнігу па псіхалогіі Ён вярнуўся, купіў. Яны пазнаёміліся Жанчына аказалася дзіцячым псіхіятрам Н. падараваў ёй сваю кніжку з той першай аповесцю Потым разоў колькі хадзіў да жанчыны ў госці (яна была ўдава); яны гулялі ўвечары па вуліцах і размаўлялі

"Ты ведаеш, што ты "прирожденный" пісьменнік? — казала жанчына. — Проста дзіўна: нарадзіцца сярод нейкіх палескіх балот — і такое абвостранае адчуванне ўсяго! Твая аповесць — беларускі варыянт "Крэйцэравай санаты", я называю гэта "мардабой" — калі жанчына і мужчына, кахаючы адно аднаго, абое люта мучацца. Але бачыш, дарагі Н., **п...страдание** заўсёды было і будзе асновай любой творчасці..."

Не таму шарахнула яго тое слова, што і да яго адносілася, не таму, што так будзённа вылецела з вуснаў старэйшай за яго, сімпатычнай інтэлігентнай жанчыны, дзіцячага доктара, — а таму, што няпраўдай было. У гэтым ён гатовы быў паклясціся. Ды Божа мой, калі б толькі гэтае — мала ў інстытуце дзевак, якія клаліся ў ложак за пачак цыгарэт! .

Н. успомніў іншыя свае творы на тэму "кахання". Несумненна, творы тыя звязвала адно — адчуванне героямі АЛАГІЗМУ, СУПЯРЭЧНАСЦІ

Чалавек зацыкліваўся на пункце: чаму сказаўшы "а", жанчына не гаворыць "б"? Чаму, абяцаючы чакаць з войска, не чакае? Чаму голая выходзіць з ванны, прыхінаецца, запаляе — і на гэтым усё канчаецца? Чаму цалуе першая ў цягніку, просіць паказаць Мінск, а раніцай абыякава кідае: "Шчасліва"?..

Матывам тых твораў быў не секс, а жаданне звесці канцы з канцамі, адшукаць логіку, нават гармонію. То былі пакутныя пошукі нейкай формулы, якая давала б магчымасць разгадваць такі тып жанчын.

І ў творах гэта больш-менш удавалася. Гармонія знаходзілася, супярэчнасці зніkалі. Гераіні каяліся, прасілі прабачэння... Гэта значыць, калі б Н. захацеў напісаць мастацкі твор пад назваю "Банальнае дарожнае знаёмства", дык для вырашэння супярэчнасцяў ён скончыў бы яго тым, што дзяўчына адшуквала б Н. — галоўнага героя — і ўсё выйшла б цудоўна і гарманічна.

Зусім інакш было ў рэальным жыцці.

9

Н падумалася, колькі заходніх фільмаў ён пераглядзеў за апошнія гады. Як там усё лёгка і проста! Знайшоў праблему — пазнаёміўся ў цягніку з дзяўчынаю, якая не пакінула свой тэлефон! Ды выйдзі з цягніка, заходзь у любую кавярню — і знойдзеш дванаццаць яшчэ лепшых, якія дадуць не толькі тэлефон!.

"Чаму ж я капаюся ў гэтым?

Таму, што веру адзіна сваёй інтуіцыі.

Таму, што мяне палохае гэта, мне гэта найбольш цікава; а каму не цікава і каго не палохае гэта — тым горш (ці лепш) для яго. "

І так, паехалі Секс-матывы калі і ёсць, дык не галоўныя. Вырашэнне супярэчнасцяў — важнае, але недастатковае (мала што можа абяцаць жанчына, а потым не выконваць! Не трэба спадзявацца, тады не будзе і расчаравання)

Адкінем яе абяцанні, словы і магчымыя думкі. Возьмем канкрэтнае дзеянне Учора раніцаю што зрабіла дзяўчына? Яна пайшла. І сёння пайшла. Узнік страх. І ўчора, і сёння

Значыць, яму не хочацца, каб яго кідалі? Хочацца быць побач? Што ён хацеў узяць ад яе? Выгаварыцца? З такім жа поспехам можна было выгаварыцца і "чачэнцу", і сябрам, і маці, і жонцы...

Н здавалася, што ён круціцца недзе блізка-блізка ад разгадкі Нешта казала яму, падавала сігналы — "цяплей, цяплей!", калі ён пачынаў шукаць гэтай разгадкі не ў сваім жыцці, а ў сваіх ранейшых творах. Ён зноў паклікаў на дапамогу памяць, і ўсплылі перад вачыма старонкі, раздзелы.. Што хацелі яго героі ад жанчын? Ад адной — сексу, ад другой — пакаяння, ад трэцяй — усяго толькі тэлефоннага нумара . І побач з гэтым хаценнем заўсёды ішоў страх. Што кепскага рабілі, ці маглі зрабіць, яго героям тыя жанчыны? Маглі сысці, кінуць іх.

"І тады я пайшоў да Тані, — успамінаў Н свае цытаты, — і бажуся, як толькі пастукаў у дзверы, зайшоў, сеў, павітаўся — уся мая трывога некуды знікла".

"Страшна і незразумела, калі думаеш, што яна бавіць час са мною і цалуе на **развітанне...**"

"Галоўнае, я падышоў, сеў насупраць — і ўсе страхі мінулі без следу. Як гіпноз. Як п`яніцу з пахмелля трэба гарэлка, так мне трэба яе бачыць увесь час".

"Ён заўсёды панічна баяўся расстанняў..."





10

Разгадка аж закружыла галаву.

А любімыя песні, якія ён заўсёды мурлыкае пра сябе, едучы на працу ці з працы, або напявае ўголас, калі застаецца адзін?

"Не говорите мне прощай — я это слово ненавижу..."

"Не уходи, побудь со мною.. "

"Ён яшчэ вернецца!.."

"Бывай, абуджаная сэрцам дарагая, чаму так горка? — не магу я зразумець.. "

"Я так устала с тобой расставаться, что ненавидеть стала дороги. "

"Давай пожмем друг другу руки — и в дальний путь на долгие года ."

"Самая нелепая ошибка — то, что ты уходишь от меня .."

Яшчэ раней Н усё распытваў маці, які ён быў малы. "Ціхі быў, спаў усё, — адказвала маці неахвотна. — Я з раніцы пайду ў калгас, а ты ляжыш у калысцы, спіш, чакаеш, пакуль прыйду і пакармлю". — "Я заставаўся цэлы дзень галодны?" — "Ну, бацька карміў трохі Нажуе якога хлеба ў суслу... А то раз баршчом цябе накарміў, у паўгода, ледзь адратавалі. Цэлы месяц у бальніцы з табою ляжала. Уколы табе ў галаву давалі". — "А я плакаў, калі ты раніцаю сыходзіла?" — "Гм, яшчэ як! Як і ўсе дзеці".

Адзін з нямногіх яркіх успамінаў да двух гадоў калыска, з якой трэба выбрацца. Трэба знайсці чалавека, які ўратуе ад голаду, ад адзіноты. Палачкі з аднаго боку калыскі, аказваецца, можна рассунуць. Можна пралезці ў гэтую дзірку, вываліцца неяк. Удар аб падлогу Боль, кроў Прыбягаюць нейкія людзі (бацька?), сварацца, выціраюць кроў, кладуць назад у калыску На гэты раз палачкі папраўленыя, сядзяць моцна, не рассунеш

Ежу, ласку, супакой — усё можа даць адзін чалавек, Жанчына. І раптам яна сыходзіць. І дзіця не ведае, на колькі — на гадзіну, на дзень ці назаўсёды?

Дык што кожнае расстанне з любой жанчынаю — закамплексаваны ў падсвядомасці тых гадоў страх? Не, не кожнае і не з любою. Гэта зусім проста. Страх ад развітання з жанчынамі такога тыпу, якія нагадваюць Н маці. Якія словамі ці дзеяннямі пачынаюць клапаціцца пра яго, выказваць сваю прыхільнасць, любоў да яго.

Ён патрапляе ў залежнасць ад іх. Пакуль яны побач, яму спакойна Пакуль яны побач, ад іх можна ўзяць штосьці

Тыповы комплекс!

11

Н. закурыў, падняў сумку і пайшоў назад на прыпынак. Шумны горад пасвятлеў і даўно ўжо жыў сваім — чужым, незразумелым жыццём.

Н. не спяшаўся.

"Добра, комплекс. Але разгадка комплексу нічога не дае. Псіхааналізам вылечыцца немагчыма. Даўно і не мною даказана Ёсць толькі два — у ідэале — варыянты.

Першы — "адпусціць" свае жаданні, "развязаць" іх, даць ім волю, не заганяць іх у глыбіні свядомасці. Вызваліць сябе ад прыдуманай людзьмі маральнасці. Мапасан, за шэсць гадоў да свайго вар`яцтва і смерці, марыў раскошны палац недзе ў Егіпце, чарнаскурыя рабы, мармуровыя басейны, мяккія, абцягнутыя скураю сцены, пяць жонак — з пяці кантынентаў Зямлі... Гэтым ён хацеў "развязацца", "адпусціць" інстынкты.

Другі варыянт — рэзка адваротны першаму. Скруціць сябе, свае хаценні, комплексы, падпарадкавацца маральнаму закону. Гэта значыць, прызнаць... Бога над сабою".

І Н. жыва, ярка прыгадаўся ягоны сон перад гэтай паездкаю. Цягнік, бамбёжка, самалёты. "Вяртанне да пачатку" А што, калі. Вось ён сядзіць у купэ, заходзіць дзяўчына. Хто яго, жанатага чалавека, цягне за язык? Навошта ён купляе ёй пасцель? Чаму не лягае моўчкі спаць?

"Праўду, праўду кажу: гора таму, хто зірне на жанчыну з пажадлівасцю!"

Не было б той пяшчоты, што варухнулася ў ім, калі ён папраўляў дзяўчыне коўдру, не было б пацалунка яе Падумаеш, страта! Затое і гэтага раздзірання не было б. Не было б адной супярэчнасці.

"І не толькі адной, — думаў Н. — Вера, хрысціянства здымаюць УСЕ супярэчнасці. Але якім чынам? Смерцю Калі ісці да канца, атрымаецца: хрысціянства — смерць. Мне,

напрыклад, з маім максімалізмам, з жаданнем дабірацца ва ўсім да канца, прыняўшы сапраўднае хрысціянства, трэба ісці зараз у той вунь пераход каля вакзала, аддаць жабракам і бомжам усе грошы, распранucца, аддаць куртку, кашулю, чаравікі . Калі мяне ўдараць нажом у бок, трэба павярнуцца і падставіць другі бок.

Сапраўдны хрысціянін не павінен баяцца смерці. А я — я не тое, што баюся, а проста не люблю і не хачу яе Я малады Я яшчэ не прайшоў таго, можа быць, наканаванага мне шляху, які падвёў бы мяне і тыркнуў, як ілбом у сцяну, у непазбежнасць збавенне — смерць. Адна яна вырашае ўсе супярэчнасці"

12

Тралейбусы спыняліся, забіралі пасажыраў і ад'язджалі, а Н стаяў на прыпынку, каля таксафона, і не кранаўся з месца

Заставалася адно цярпець. Змірыцца. Цягаць на сабе свой крыж. "Такі ўрадзіўся", людзі кажуць Ехаць дамоў, сядаць і атупела глядзець у адну кропку Хай будзе што будзе

Нехта, праходзячы блізка, штурхнуў Н. плячом. Нехта, цягнучы за сабою калясачку, брудным колам цеpанyў мыс чаравіка Усе спяшаліся некуды, гучна размаўлялі.

"І чаму **мне** гэта? — думаў Н — Чаму **я** такі ўрадзіўся?"

Ён ведаў пра сябе, ды і блізкія людзі не раз казалі, што ён па натуры, па характары — добры, цярплівы, "кісель" Але цяпер ён ненавідзеў, ненавідзеў сур'ёзна Ненавідзеў жыццё за яго супярэчнасці. Сябе — за тое, што гэтыя супярэчнасці так адчувае. Людзей — за тое, што жывуць сярод гэтых супярэчнасцей і радуюцца.

"Вось яны штурхаюць мяне, пэцкаюць чаравікі, а іншыя, ім падобныя, як сланы ў пасуднай лаўцы топчуцца ў маёй душы, у маёй творчасці, — нічога самі не адчуўшы, не перажыўшы! Не разумеючы, што трэба **права мець**, каб выказаць нават самую банальную, самую агульную ісціну, крывёю і нервамі заплаціць за гэтае права!"– думаў ён, не маючы на ўвазе нікога канкрэтна.

Яму здавалася, само жыццё супраць яго – **такога**.

13

.. .
..
.

14

Нейкі мужчына папрасіў закурыць.

Н. паглядзеў на яго, падумаў і палез ва ўнутраную кішэню курткі Дастаючы пачак, адчуў, як пад світэрам, у кашулі, зашамацелі білеты. Адзінае, што засталося пасля яе.

І раптам ён аж скалануўся

Спрактыкаваная "пісьменніцкая" памяць хуценька вярнула яго ў сённяшнюю раніцу, у купэ Вось прыпухлая пасля сну дзяўчына разглядае білеты. Чаго іх разглядаць? "На, на памяць.. Ну, шчаслівa!" — "Можа, запішы тэлефон?" — "Навошта?". Няўцямны позірк, усмешка Дурань, значыла гэтая ўсмешка, навошта мне твой нумар, калі я табе **свой** запісала?!

Няўжо такая карусель раскруцілася на пустым месцы?!

Ён, знарок няспешна і разам з тым ужо амаль не сумняваючыся, дастаў білеты, разгарнуў, і на адным, з таго боку, дзе ўказваюцца тарыфныя паясы, прачытаў зверху: "Ты милый. Вот только я твоей жены боюсь..." І ўнізе ўбачыў шэсць лічбаў

Ён адвёў ад білета вочы, каб выпадкова не запомніць гэтыя лічбы, ведаючы, што такое — выпадковае — запамінанне бывае самае моцнае. Тады чыркнуў запальнічкай, падпаліў білет, даў яму добра схапіцца агнём і кінуў у пустую сметніцу

Потым ён ехаў у тралейбусе Яму было радасна. Смешна Лёгка. Як бывае, калі прачнешся пасля цяжкага, дурнога сну і адчуеш сябе ў рэальным, знаёмым свеце.

*Люты 95-га*



# Алесь ЛІСІЦКІ

## Я маю твор...



***

Кінецца ценем пад ногі
водсвет чужога жытла.
Стрымліваў, колькі меў змогі.
Толькі ўсё роўна пайшла.
З кім і куды – я не знаю

Знаю цяпер – не адна.
Можа быць, і не пазнаю,
калі падыдзе яна,
там, дзе сышліся дарогі,
дзе ўжо надзея жыла.
Кінецца ценем пад ногі
водсвет чужога жытла.

*г. Жыткавічы*

# Усевалад ГАРАЧКА



*Гэта мае думкі неадчэпныя,*
*Пачуцці мае невыказныя.*
*Нібы за спіной хто стаіць:*
*З роднымі не падзелішся.*

***

**У паднябёснай вышыні,**
**Скуль не разгледзець нашых твараў,**
**Так проста аддавацца марам.**
**У паднябёснай вышыні.**

**У паднябёснай вышыні**
**Зліюцца крыкі непачутых**
**У гімн адзіны і магутны —**
**Гімн паднябёснай вышыні.**





**У паднябёснай вышыні...**
**Калі не бачыш твар да твару,**
**Так хочацца аддацца марам**
**Аб паднябёснай вышыні.**

***

**Стомлены падарожнік,**
**ты шукаў месца начлегу**
**і агонь маёй паходні**
**прыняў за святло ў акне.**
**Пойдзеш са мной далей,**
**стомлены падарожнік?**

***

**Агню —**
**Вядома Яго Імя.**

**Шмат вачэй у пакоі —**
**Ідзеш у поле.**

**Агонь —**
**Адкрые Яго Імя...**

**Вецер здзімае ў полі**
**Агеньчык кволы —**
**Агню —**
**Вядома Яго Імя.**

***

**Чакаў цябе — як з мора карабля:**
**Напоўняць бераг першатворным, дзікім**
**Яго матросаў загарэлых крыкі —**
**І ажыве бяскроўная зямля.**

## ЯКІ НЕ АБРАЎ

**Каціў перад сабою**
**раздарожны камень,**

а ён,
нібы камяк са снегу,
рос.

## СПАДКАЕМЦА

Калі табе здасца
цяжкою мая карона —
вазьмі ад яе
столькі золата і камянёў,
колькі зможаш панесці.

***

Светлая птушка
чорнаю кропкай
у небе знікае.

***

Маліліся за цябе,
калі ішоў над безданню,
каб не сарваўся.

А потым маліліся —
на цябе.

***

Вастрыё нажа
не пакідае сабе
нічога

***

Пойдзе дождж...
і пабачыць дрэва
маладымі карэннямі
ўрадлівую глебу.





## ЦЕНЬ

Ён быў увасабленнем
вернасці бясконцай,
пакуль над галавой маёй
свяціла сонца.

## ВОБЫСК

Не вясна. Хоць падзёртыя кнігі
На падлозе нагадваюць крыгі.
Па кішэнях хаваюцца фігі
Да цяпла —
да наступнай адлігі.

***

Галубы з-за галубкі
забіваюцца,
свету не бачаць.
Неба за акном цямнее.
Холадна.
Вецер у полі.
А ты — спі, маленькая,
і верне раніца:
голубу — галубку,
небу — сонейка,
а табе, маленькая, —
і неба,
і сонца,
і галубоў.

***

Нахілюся папіць —
на вадзе
родны твар
калышацца:
вочы няясныя,
вусны дрыжаць...

Не згадаць таго,
што вада вымыла,
сонца выпекла.

Усміхнуся сабе:
не згадаць.

***

Гэта — мае думкі неадчэпныя,
Пачуцці мае невыказныя.
Нібы за спіной хто стаіць:
З роднымі не падзелішся.

Не здольны аддаць крылаў — крылатыя,
Гарбатыя — ніколі гарба свайго...
Думкі мае неадчэпныя,
Пачуцці мае невыказныя.

А крылатыя — крыламі думаюць,
Гарбатым — на тое горб дадзены...
Нібы за спіной хто стаіць:
З роднымі не падзелішся.

***

...А добрае тоўстае сонца —
Як босая маці чужая.
Спыняецца на гарызонце —
Здаецца, мяне сустракае.

Як добра: што сонца над лесам,
Што хворая маці — чужая...
Чыя гэта босая маці?
Чаму яе
я спавядаю?

Шчаслівае, добрае сонца,
Як лёгка яно памірае...
Спыняецца на гарызонце:
— А босая маці — чужая?

***

Жаўтаватае мроіва ночы, як прысак.
Кожны крок, кожны рух калыхне наваколле.
Як балюча ступаць: лепш у рукі — валізы,





Шквальны вецер — у твар, а насупраць — дарогу.

Толькі цяжар пазбавіць ад гэтага болю.
Дзе пустэча — дарогу не трэба намацваць.
А мяне сустракаюць між поля.
І вецер
Вырывае валізы...
Стрымацца так цяжка.

Я лячу разам з пылам у вочы.
Даруйце,
Дайце рукі: мне трэба трымацца!
Не чуюць.
Яны ведаюць болей чым я,
І прыходзяць,
І даруюць...
Маўкліва сыходзіць так цяжка.

Саладжавае мліва начное, як прысак.
Кожны крок, кожны крык убярэ наваколле.
Апраўдае пустэча няпэўныя крокі.
Нехта ведае болей чым я,
І — прыходзіць...

***

Кубак напоўнены. Горка!
Б'ецца спайманая зорка.
Зорка спайманая б'ецца —
Выскачыць сэрца, здаецца.

Неба бяздоннае. Страшна.
Двое — палоннікі страсці.
Страсці палоннікі, двое,
Падаюць ўніз галавою.

***

Ніцая лаза
атуляла елачку —
берагла.
А тая не расла.

Каб потым не сказаць:
— Аб чым ля ног маіх
просіш?

# НАШ | Біскуп Часлаў СІПОВІЧ



*Kab usje byli jak adno*

## *Пра Часлава СІПОВІЧА*

**На лонданскіх могілках святога Панкраца ёсць невялікі беларускі некропаль. Побач з агульным помнікам айцам Льву Гарошку і Язэпу Германовічу (паэту Вінцуку Адважнаму) спачывае прах уладыкі Часлава. На надмагіллі надпіс лацінкаю: “Kab usje byli jak adno” і даты жыцця: 1914—1981.**

**Старэйшы сын з вялікай сялянскай сям’і, што жыла ў вёсцы Дзедзінцы на паўднёвым захадзе Беларусі, ён з дзяцінства адчуў пакліканне да царкоўнага жыцця і паступіў у школу беларускіх айцоў-марыянаў паблізу Друі. Як самыя шчаслівыя свае гады ён прыгадваў час, калі слухаў у Віленскім універсітэце курсы філасофіі і тэалогіі і калі домам марыянаў, дзе жылі студэнты, кіраваў а. Язэп Германовіч. Улетку 1938 года Часлаў стаўся сведкам выгнання польскімі ўладамі беларускіх манахаў з Друі. Праз колькі дзён такі самы лёс напаткаў і студэнтаў.**

**Сіповіч атрымаў магчымасць працягваць навучанне ў Рыме і перад ад’ездам туды вырашыў прыняць візантыйскі абрад. Папскі**





# ЮРКА ВІЦЬБІЧ

4 студня 1975 г. адыйшоў у лепшае жыцьцё Юры Стукаліч, выдатны беларускі пісьменьнік, гарачы патрыёт, вораг камуністычнай ідэалёгіі і марксістоўскага ладу, глыбока веруючы хрысьціянін, які звычайна пісаў пад прозьвішчам Віцьбіч, радзей Алесь Крыжаніч.

Юрка Віцьбіч нарадзіўся ў Веліжы на Віцебшчыне (цяпер навонкі межаў БССР) 2 чэрвеня (ст ст.) 1905 г. ў сям’і зь дзеда-прадзеда сьвятарскай. Вось вестка, перададзеная самым пісьменнікам аб ягоным прапрадзеду: “Будучи сыном и внуком православных священников, замученых большевиками, я не в состоянии никогда забыть, что мой прадед — униатский священник, умер одиноким и слепым в ссылке, в Саравском монастыре Темниковского уезда, Тамбовской губернии. Это личное — капля в море страданий белорусского народа...”[1] Дзед нашага пісьменніка, праваслаўны сьвятар а. Алімп Гаворскі, быў сучасьнікам а. Міхаіла Красавіцкага, ведамага із любві да старадаўніх беларускіх помнікаў, аб якіх пісаў у розных расейскіх часапісах.[2] Дачка а. Алімпа Гаворскага была замужам за Іванам Паповым, праваслаўным сьвятаром Ягоная дачка Еўдакія вышла замуж за Аляксандра Стукаліча, каторы таксама быў праваслаўным сьвятаром і ў іх сям’і 2 чэрвеня (паводле ст. ст ) 1905 г прыйшоў на сьвет Юрка, які пазьней назаве сябе Віцьбіч; імя ўзятае ад ракі Віцьбы, прытоку Дзьвіны, ад якой і горад Віцебск.

Як бачым чатыры пакаленьні (па лініі маткі) роду Стукалічаў належалі да сьвятарскага стану, таму можна яго назваць родам беларускіх левітаў.

Плодны пісьменьнік Віцьбіч быў скупы на слова, калі гэта датычыла яго асобы або яго сям’і. Усёжтакі аб сваей маці ён крыху напісаў з нагоды яе сьмерці у “Царкоўным Сьветачы”[3]. Радзілася яна 23 лютага 1877 г. ў Полацку ў сям’і а Івана Папова, абсальвэнта Духоўнае Акадэміі. Памерла ў 1971 г. ў Злучаных Штатах Амэрыкі на 95-м годзе жыцьця

Жыцьцё маці кідае шмат сьвятла на асобу і на жыцьцёвы шлях яе сына, таму варта

---

**Грыгарыянскі універсітэт ён скончыў ужо святаром. Пасля другой сусветнай вайны а. Часлаў стаў заснавальнікам і першым рэктарам Беларускай грэка-каталіцкай місіі ў Лондане, дзе браў чынны ўдзел у дзейнасці Згуртавання Беларусаў Вялікай Брытаніі і Англа-беларускага таварыства.**

**У 1960-м яму была нададзена годнасць біскупа, а праз тры гады яго абралі генералам ордэна марыянаў. Як апостальскі візітатар беларусаў уладыка Часлаў зрабіў два падарожжы вакол свету па беларускіх асяродках і дамах марыянаў. З усіх падарожжаў ён прывозіў архівы і бібліяграфічныя рарытэты, збіраючы фонды будучай Лонданскай бібліятэкі імя Францішка Скарыны, адкрыццё якой адбылося ў травені 1971 года.**

**Неад’емнай часткаю яго жыцця заўсёды была навуковая праца: публікацыі ў еўрапейскіх перыядычных выданнях, міжнародныя канферэнцыі з дакладамі пра Беларусь, шматгадовае супрацоўніцтва з часопісам “Божым Шляхам”. Выдатнай падзеяй можна назваць выхад падрыхтаванай ім кнігі “The Pontifical Liturgy of Saint John Chrysostom. A Manuscript of the 17 Centure in Slavonic and Latin Translation”.**

**У лепшы свет уладыка Часлаў адышоў у дзень святкавання 10-годдзя Бібліятэкі і Музея імя Скарыны, толькі-толькі паспеўшы адслужыць літургію ў лонданскай Беларускай царкве святых апосталаў Пятра і Паўла.**

**Уладзімір АРЛОЎ**

нам пацікавіцца і Еўдакіяй Стукаліч. Пасловіца кажа: якое дрэва — такі зь яго клін, якая матка — такі і сын.

Еўдакія, "скончыўшы выдатна віцебскае епархіяльнае жаночае вучылішча, шмат год працуе настаўніцай ў Вяліскай жаноцкай гімназіі. На долю нябошчыцы выпала перажыць некалькі войнаў, рэвалюцыю, а таксама ўсе тыя перасьледаваньні, якія чыніла бязбожная бальшавіцкая ўлада, акупаваўшы Беларусь"[4]. Еўдакія Стукаліч таксама перажыла "бязбожную пяцігодку, абвешчаную дэкрэтам 1 травеня 1932 г., у часе якой злачыннай бальшавіцкай рукой расстраляна, замучана, зажыва спалена ці ўтоплена сотні япіскапаў, тысячы сьвятароў, мільёны ў Бога веручых людзей. Турма, канцлягер і перасьледаваньне — вось той шлях, якім ішло духавенства, жывучы ў Савецкім Саюзе . "[5] Духавенства было пазбаўлена выбарчага права, а таму іх сем'і былі пазбаўлены права на прадуктовыя карткі, пазбаўленыя права на працу і на школу, мэдыцынскую дапамогу і на кватэры.

"Духавенства цесьніцца ў знаёмых, родных, цэлымі сем'ямі ў кутках, на карыдорах, ды часам і гэтай магчымасьці ня мае, бо ад духоўніка ў Савецкім Саюзе ўцякаюць, пазбягаюць яго, дзеля страху перад уладай . А таму шмат давялося перажыць гора і нябожчыцы, падзяляючы ўсе жахі перасьледаваньня з **сынамі** і мужам Аляксандрам, які ня раз арыштоўваўся за сваё сьвятарства, пакуль сьмерць ня выратавала яго ад непазбежнай ссылкі ў канцлягер. ."

"Сьв. п. матушка Еўдакія Стукаліч была высокай эрудыцыі, як матушка, як настаўніца, як мастачка і ў той самы час была вельмі сьціплай, лагоднай, ціхай у абыходжаньні з людзьмі, ніколі не выстаўляючы сваіх ведаў і заслуг перад людзьмі"[6]

Такое прыгожае сьведчаньне пакінуў добры сын Юры аб сваей маці Еўдакіі. Усё тут сказанае пра маці у роўнай меры адносіцца і да сына, ці дакладней — да сыноў Няма сумніву, што Юрка мусіў жыць і здабываць асьвету ў вельмі неспрыяльных абставінах. Таму выкарыстоўваў веды сваіх бацькоў, высокую эрудыцыю сваей маці, сваю ўласную кніжніцу (гэтак ён называе бібліятэку), якая мусіла быць значнай у гэтак задаўненай сьвятарскай сям'і.

Аб пару здарэньнях з часаў свайго дзяцінства Юрка Віцьбіч сам расказвае ў лісьце да а. Архімандрыта Л Гарошкі[7].

Будучы васьмігадовым хлапчуком, адведаў ён разам са сваім бацькам мужчынскі манастыр на рацэ Мяжы, у якім мелася найвялікшая сьвятыня Вокаўскага Лесу – цудатворная ікона Ардынскае Божае Маці (копія Уладзімірскае) Каб памаліцца перад той іконай, сходзіліся масы народу Часамі гэту самую ікону абвозілі па вёсках і мястэчках. Пабывала яна таксама і ў хаце сьвятара Стукаліча ў Вяліжы. Магчыма, з тых дзён пачынаецца ў душы Юркі асаблівая любоў да іконаў Багародзіцы і глыбокая да Яе пабожнасьць. Ён сам склаў некалькі малітваў да Найсьвятой Дзевы Марыі.

У 1919 г Юрка Стукаліч вучыцца у 5-ай школе другой ступені ў Вяліжы, дзе яго настаўнікам ёсьць Міхаіл Навіцкі, пазьнейшы пратаерэй Беларускай Аўтакафальнай Царквы, закатаваны пазьней бальшавікамі за подпіс, які злажыў у 1924 г разам з Мітрапалітам Мэльхіэдэкам, які ў тым часе арганізаваў БАПЦ.

Што а Навіцкі быў беларускі патрыёт і што агнём свайго пачуцьця мог запаліць іншых, сведчыць наступны факт самым Віцьбічом памастацку пераказаны.

"Аднойчы Навіцкі прыходзіць на лекцыю надзвычай усхваляваны і, разгарнуўшы апошні нумар "Правды", голасна чытае:

**Демьян Бедный:**

*Янкин голос соловьиный*
*Превратился в шип змеиный*
*Да, в змеиный*
*Да, в змеиный.*

І, чытаючы, Навіцкі добрасумленна стараецца данесьці да нас і падкрэсьліць усю нянавісьць крэмлёўскага прыдворнага пісакі да нашага роднага паэты. З паўхвіліны ён маўчыць і раптам, узьняўшы да гары руку, з вялізным натхненьнем чытае:

*На сход, на ўсёнародны, грозны, бурны сход*
*Ідзі, аграблены, закаваны народ!*





Навіцкі чытае з такім пачуцьцём, што твар ягоны стаўся белым, але голас не згубіў моцы.

*Як Бацькаўшчыну тваю рэжуць на кускі,*
*Як гібнеш з дзецьмі ты ад катняе рукі —*
*Аддаці ўсё на суд, на ўсёнародны сход,*
*Ідзі, аграблены, закаваны народ!*

Навіцкі закрыў далонямі твар і хутка выйшаў, амаль выбег з клясы. Шмат разоў пазьней чуў я, як чыталі "На сход" Янкі Купалы, але ніколі ён не прагучэў для мяне з такой сілай, як тады ў 1919 годзе, у старадаўнім беларускім Вяліжы, што сьцякаў крывёю, змагаючыся з расейскім бальшавізмам"[8].

Тут мы жадалі-б паставіць адно важнае пытаньне· ці той дзень і тое натхнёнае чытаньне палымянага твору Янкі Купалы настаўнікам Навіцкім ня ёсьць пачаткам нікім і ніколі нязломанага патрыятызму Юркі Стукаліча-Віцьбіча?

*

Пасьля заканчэньня тэхнікуму астацца настаўнікам нашаму пісьменніку не дазволілі дзеля "сацыяльна чуждага паходжаньня" Выяжджае ён тады ў Маскву і там праз 10 гадоў працуе на хэмічных заводах, каб здабыць права на вышэйшую асьвету[9]. Аднак і там спатыкае яго няўдача: на вайсковым заводзе ў час аварыі ён атруціўся фасгэнам і стаўся няздатным да працы. Вяртаецца на Беларусь і ў далейшым здабывае асьвету саматугам Зь яго пазьнейшых твораў можна судзіць аб яго зацікаўленьнях і студыях у розных галінах веды, а перадусім у такіх як літаратура, архэалёгія, этнаграфія, фальклёр, гісторыя мастацтва і гісторыя наагул.

У верасьні 1939 г бачым яго на чале навуковае экспэдыцыі па дасьледваньню помнікаў рэвалюцыі, гісторыі і мастацтва ў Воршы. Тады ўлез ён і ў аршанскую пячору, якая знаходзіцца на калішніх землях Кутэінскага манастыра, а якую дасьледвалі перш у 1926 г Сербаў, Даўгяла і Аніхоўскі[10]

У тым самым часе едзе ён у Крошын, дзе адшукаў магілу паэты Паўлюка Багрыма. Аглядаў жырандоль у каталіцкім касьцеле, які Багрым выкуў у сваей собскай кузьні і падарыў туды Віцьбіч першы ўсталіў дату сьмерці Багрыма: 1891, што за ім паўтарыў Язэп Найдзюк у сваей гісторыі, а пасьля савецкі дасьледчык Бас[11].

У студзені 1941 г Віцьбіч трапляе у НКВД-эшную катавальню за тое, што ўхітрыўся паставіць помнік на магілах вяліскіх паўстанцаў Пра гэта паўстаньне ён пазьней надрукуе ў "Бацькаўшчыне" прыгожы нарыс[12].

У час вайны Віцьбіч разам з маці і жонкай трапляе ў Нямеччыну. Перад ейнай капітуляцыяй працуе пад камандай нямецкага баўра, які пасылаў яго двойчы з вёскі Лібвальдэ капаць супроцьтанкавыя рвы пад возерам Шпірдынг У выніку цяжкой працы наш пісьменьнік "ператварыўся ў жывога касьцяка" У 1945 г знаходзіцца у вёсцы Эмеркінген паблізу гораду Эгінгэну (Вюртэмбэрг)[13]

Новая эпоха пачалася для сьвету, а таксама і для беларускіх уцекачоў, калі ў пух разьбітая Нямеччына здала аружжа. Ня значыць, аднак, што гора людзкое — асабліва уцекачоў — скончылася. Для гэтых пачаўся г.зв. дэпісаўскі пэрыяд, — людзей бяз хаты і месца, якія будуць праходзіць розныя скрынінгі, каб толькі выехаць кудысьці ў вольны сьвет, абы далей ад бальшавікоў, каторыя ніяк не марнуюць часу, каб вылавіць большыя рыбы і вывезьці іх падманам ці сіламоц на "родіну" Паўстаюць у розных зонах акупацыйных Нямеччыны ДП-лягеры. Жыцьцё-быцьцё ў іх беларускай палітычнай эміграцыі чакае яшчэ на свайго сумленнага гісторыка, хаця ўжо і тут зроблены даволі добры пачатак. Маю на ўвазе працу сьв. п Аляксандра Вініцкага· "Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох", Лос Анджэлес 1968, ч І—ІІІ Названы пэрыяд мае для нас вялікае значэньне, бо ў Нямеччыне, якая ляжала ў друзах, тысячы нашых суродзічаў· сяляне, былыя ўрадоўцы і жаўнеры, настаўнікі, духавенства, паэты і пісьменнікі — усе яны знайшлі ня толькі змогу ўцекі ад бальшавіцкай навалы, але маглі наладжываць сваё ўласнае грамадзкае, культурнае і рэлігійнае

жыцьцё. Паўстала шмат розных арганізацыяў, а разам зь імі ажывіўся і беларускі друк, няхай-сабе на дрэненькай паперы і адбіты на ратататары.

Панькоў, які першы зрабіў спіс беларускай пэрыёдыкі за гады 1945-50, падае больш чымся 40 назоваў, сярод якіх некаторыя замест добрых вестак і пашырэньня веды, разносілі па лягерах, а пасьля і навонкі іх сваркі і грызьню беларусаў між сабой. Але былі і такія, што й да сяньня маюць сваю цану. Гэтага роду выданьні засьведчылі ня толькі аб беларускай апрычонасьці, але аб жывучасьці яе культуры. Да такога роду часапісаў належыць "Шыпшына", літаратурна-мастацкі часапіс, орган літаратурнага аб`еднання той самай назвы. Выходзіў ён у гадох 1946-50, зьявілася ўсіх толькі 9 нумароў. Да той самай катэгорыі салідных часапісаў трэба ўлічыць і "Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі", які выдаваўся ў гадох 1946-47 і выйшла яго толькі 8 нумараў. Абодвух гэтых часапісаў рэдактарам і душой быў Юрка Віцьбіч

Калі некаторыя беларусы пачалі сароміцца ратататарнага друку, дык Віцьбіч уважаў, што ён ёсьць вялікім дасягненьнем у параўнаньні з савецкай рэчаіснасьцю, дзе няма свабоды для вольнага слова І падаў да агульнага ведама такі факт· "... Але адначасна прыгадваюцца латы на кажуху савецкага катаржніка Ўладзіміра Хадыкі, пад якія ён зашываў свае новыя вершы Не забывайма ніколі пра гэтыя латы!"[14]

Згуртаваньне "Шыпшына" паўстала ў адным з лягераў ДП на ўскраіне Рэгэнсбургу 9 красавіка 1946 г. Яе закладчыкамі былі Віцьбіч, Арсеньнева, Золак (Даніловіч) і Сяднёў. Хутка яно згуртавала блізу ўсіх паэтаў і пісьменнікаў на эміграцыі. Галінка шыпшыны з кветкамі і калючкамі стала сымбалям-эмблемай згуртаваньня, а ведамы верш узвышанца Уладзіміра Дубоўкі "О, Беларусь, мая шыпшына" — паэтычным маніфэстам.

У дэкларацыі беларускага літаратурнага згуртаваньня "Шыпшына", якую падпісалі 12 паэтаў і пісьменьнікаў (Арсеньнева, Віцьбіч, Вярба, Золак, Ільляшэвіч, Кавалеўскі, Клішэвіч, Салавей, Сяднёў, Сядура і Чэслаўскі) аб яго шляхотных і высокіх мэтах было сказана:

1) Згуртаваць беларускіх актыўных і творча-дасьпелых пісьменьнікаў-бэлетрыстых, паэтаў, драматургаў і крытыкаў, што знаходзяцца на эміграцыі,
2) Працаваць над стварэньнем вялікай літаратуры, годнай нашага вялікага народу.

У той самай дэкларацыі далей чытаем вельмі характэрнае паясьненьне як для Віцьбіча так і для маладой ім створанай арганізацыі· "ШЫПШЫНА стаіць на варце поўнае свабоды творчых пошукаў, але для ейных сяброў зьяўляецца абавязковым крытэры высокае мастацкасьці літаратурнага твору, імкненьне да ідэёвае *насычанасьці і арыгінальнасьці*, глыбокая пашана да нашае літаратурнае спадчыны і пачуцьцё да спадкаемства да ўсяго лепшага ў ёй, узаемная пашана да творчасьці адзін другога, а ў галіне ідэёвай — самаахвярная адданасьць найвышэйшаму Ідэалу нашага Народу"[15].

У творах Віцьбіча ўсё тут выказанае мы знаходзім. ідэёвую насычанасьць, арыгінальнасьць і адданасьць найвышэйшаму ідэалу нашага народу — гэта значыць яго вольнасьці, незалежнасьці і дабрабыту

Усяго чатырох чалавек прыгатаўляла глебу пад "Шыпшыну", яе дэклярацыю падпісала 12 пісьменьнікаў, а друкавала свае творы ў часапісе больш 30 аўтараў[16], ня лічучы аўтараў іншых нацыянальнасьцяў. Апрача таго друкаваліся ў "Шыпшыне" творы 34 беларускіх пісьменьнікаў, якія жылі ў Беларусі або й цяпер там жывуць і твораць. Цікавая рэч, але на бачынках "Шыпшыны" мы не знаходзім ані аднаго твору Купалы, Коласа, Цёткі і іншых нашых клясыкаў, хаця ў артыкулах прыгадывалася і іхнія імёны. Гэта добра сьведчыць аб вылучнай сьпеласьці часапісу і яе рэдактара. Юрка Віцьбіч і ягоныя сябры па пяру задобра ведалі творы нашых клясыкаў, каб іх передрукоўваць і запаўняць імі тую цяжка прыдбаную паперу Таму друкаваліся ў "Шыпшыне" або зусім арыгінальныя творы, або мала ведамыя, пераважна бальшавікамі закатаваных пісьменьнікаў

Калі ўжо мелі сваю арганізацыю і свой часапіс пісьменьнікі і літаратурныя крытыкі, тады насьпела патрэба згуртаваць таксама актораў, маляроў, кампазытараў скульптараў, мастацтвазнаўцаў, сьпевакоў, працаўнікоў народнага й іншых мастацтваў. Такога роду аб'еднаньне мела свой назоў: "Беларускі Фронт Літаратуры і Мастацтва", а яго заданьнем было: а) усёбаковая і сталая дапамога працаўнікам мастацтва ў іхняй творчай працы, б) захаваньне мастацкіх кадраў у часе далейшай эміграцыі і непазьбежнага зь ей расьцярушаньня





Хаця ўжо ў палове 1946 г. была гутарка аб "Беларускім Фронце Літаратуры і Мастацтва", зварот да мастакоў, каб іменна яго стварыць, быў падпісаны Усеваладам Качанскім, Юркам Віцьбічам і Мікалаем Кругловічам толькі 1 лютага 1949 г, а надрукаваны ў "Беларускім Слове" 5 лютага 1949 г.[17] Быў гэта апошні нумар газэты рэдактара Ю. Віцьбіча.

Нажаль, "Беларускі Фронт Літаратуры і Мастацтва" ня змог праявіць большай дзейнасьці, бо-ж і арганізацыі з пэўнай ужо прошласьцю, паволі ўміралі як прыкладам "Шыпшына", каторай № 9 і апошні (той самай назвы) выйшаў у 1950 г. Калі арганізатары згуртаваньня і супрацоўнікі разьехаліся па ўсіх кутках сьвету, некаторыя зь іх заціхлі назаўсёды, іншыя адыйшлі ў вечнасьць, а згуртаваньне Шыпшына само сабой ліквідавалася Нядаўняя сьмерць яго закладчыка Юркі Віцьбіча ліквідацыю толькі прыпячатала.

*

Блізу ў тым самым часе, што і "Шыпшына", выходзіў рэлігійны часапіс пад арыгінальным прыгожым назовам: "Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі", якога рэдактарам таксама быў Ю. Віцьбіч. У гадох 1946—1974 існавала 12 праваслаўных беларускіх часапісаў рознай пэрыядычнасьці. Сярод усіх іх без сумніву найлепш рэдагаваным быў "Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі". Належную яго ацэнку падаў У Глыбінны "Ужо пры першым азнаямленьні з зьместам часапісаў "Зьв. Зв. Сьв. Сафіі", якіх мы ў часе пісаньня гэтай рэцэнзіі маем тры нумары, пераконваешся, што гэта паважны, вельмі зьмястоўны і надта патрэбны беларускаму грамадзтву часапіс. І хаця-ж на вокладцы зазначана, што гэта часапіс праваслаўных беларусаў, аднак ягоны сур`ёзны беларускі зьмест, наяўнасьць, побач з матар`яламі рэлігійнага зьместу, багатых матар`ялаў з гісторыі нашай Бацькаўшчыны, літаратурна-мастацкіх і грамадзкіх матар`ялаў, датрыманых цалкам у дусе выразнага і пасьлядоўнага нацыянальнага выхаваньня, робіць гэты часапіс агульна-беларускім, каштоўным кожнаму беларусу бяз розьніцы веравызнаньня"[18]

У часапісе "Зьв. Зв. Сьв. Сафіі" знаходзім апрача артыкулаў рэлігійнага зьместу цікавы падбор вершаў нашых паэтаў, у якіх як у люстры адбіваецца іхняя вера ў Бога і вера нашага народу Шмат падаецца вестак з жыцьця Бел. Прав. Царквы, добра абдуманы каляндар са сьвятымі дня і хрысьціянскіх урачыстасьцяў Гэты часапіс ёсьць вельмі важным як адна з жывых крыніцаў для устанаўленьня агульнай беларускай царкоўнай тэрміналёгіі, якая дагэтуль мае непрыемны разнабой у праваслаўных і каталікоў

Часапіс гэты заняў вельмі выразную і суровую пазыцыю супроць Уладыкаў, якія перш на Бацькаўшчыне арганізавалі БАПЦ, а пасьля яе адракліся і ўліліся ў Расейскую Зарубежную Царкву Адносна Берасьцейскай вуніі і сьв. Ёзафата Кунцэвіча маем цьвёрдыя сказы самога рэдактара, а перадусім іншых (а Лапіцкага). Варта аднак заўважыць, што ў найбольш ярым сваім артыкуле "Можна зьнішчыць звон, але нельга зьнішчыць народ"· Віцьбіч меў адвагу напісаць. "Крывёю гэрояў народнага паўстаньня 1623 году паліта тое месца, на якім знаходзіцца цяпер у Віцебску маленькі сквэр Можа, прыйдзе той час, калі тут будзе пастаўлены высокі гранітавы абеліск. А сёньня, каб зьдзейсьніць найлепшыя ідэалы нашае Маці-Беларусі, нам, незалежна ад нашых веравызнаньняў, патрэбны фанатызм і Навума Воўка і Ёзафата Кунцэвіча"[19]

Варта тут таксама ўспомніць асаблівую пашану Віцьбіча да апошняга вуніяцкага Мітрапаліта Ёзафата Булгака (✝ 1838), якому прысьвяціў адзін з найлепшых сваіх эссэяў[20], а ягоную пячатку зьбярог і перадаў у Беларускі Музэй імя Францішка Скарыны ў Лёндане

У тым самым часе напружанай літаратурнай дзейнасьці, калі ён рэдагаваў літаратурны і рэлігійны часапісы, упрогся (ці, можа, яго ўпраглі) і ў рэдактарства "Беларускага Слова", палітычнай газэты, якой першы нумар выйшаў 17 12 1948 г У наступным годзе пад рэдакцыяй Віцьбіча выйшлі яшчэ тры нумары, а ўжо ад нумару пятага (1950) заступае яго Александра Русак.

Быў гэта, магчыма, найбольш цёмны і сумны час у жыцьці беларускай эміграцыі Сваркі ўсялякага роду — палітычныя, рэлігійныя, ненавісьць і даносы множыліся як тыя бацылы заразнай хваробы Вынік пэўна-ж перамучаньня людзей цярпёнямі вайны і

жыцьцём у лягерах. Нажаль, тыя бацылы хутка перанесьліся і за мора-акіяны, куды паволі траплялі нашыя суродзічы.

Віцьбіч унікаў палітыкі, хаця, можа, меў і рацыю Алесь Салавей, калі быццам мімаходам заўважыў: "...хоць Віцьбіч, думаецца мне, ня горшы палітык за тых, хто прэтэндуе на палітыка"[21] Крыху пазьней, бо 31 траўня 1954 г. сам Віцьбіч аб гэтым пісаў да А. Змагара. "Вам пэўне-ж вядома, што калісьці я належыў да Калегіі БЦР і дабраахвотна (без усялякага ціску з таго ці іншага боку) спакінуў яе. Проста я прышоў да выснаву, што непараўнальна больш зраблю для нашага вызвольнага руху, як пісьменьнік, навуковец, журналісты. Няхай палітыкі займаюцца палітыкай"[22]. Віцьбіч быў паслядоўным. мы ня знаем ніякай партыі ці групоўкі, зь якой ён быў-бы зьвязаны ці падпарадкаваны ейным лёзунгам Наадварот — свае літаратурныя творы пасылаў ва ўсе паважнейшыя эміграцыйныя часапісы і газэты Такім чынам ён споўніў ролю лучніка між беларусамі як чалавек, як хрысьціянін, як беларускі патрыёт

*

Пасьля ўсяго таго, што мы тут сказалі аб жыцьці, пяройдзем цяпер да ня менш важнага — да спадчыны пісьменьніка. Ніхто яе і нідзе яшчэ ня пробаваў падсумоўваць. Можна было-б аднак зарызыкаваць сцьверджаньне, што ўсе творы Віцьбіча дагэтуль апублікаваныя, каб сабраць іх ў аднатомікі падобнай вялічыні, якімі цяпер у БССР выдаюцца Купала і Колас, склалі-б добрых 8-9 тамоў, пакідаючы пры тым навонкі вельмі-ж багатую і цікавую карэспандэнцыю, радыёперадачы

Першае апавяданьне Віцьбіча: "Як загінуў Ясь" было надрукавана ў часопісе "Узвышша" (Нр. 9-10, 1929). Гісторыя яго вельмі характэрная для тагочасных умоваў Перш паслаў яго аўтар у літаратурны дадатак "Савецкай Беларусі", у якім у рубрыцы "паштовая скрынка" зьявіўся наступны адказ М Чарота: "Вашае апавяданьне "Як загінуў Ясь", дарэчы напісана вельмі добра, друкавацца ня будзе, бо ў ім слаба адбіліся клясавыя супярэчнасьці на вёсцы" Тады Віцьбіч паслаў манускрыпт у часапіс "Узвышша" Белліта зьмяняе назоў на "Млынарова рука", але апавяданьне надрукавана. Пасля аўтар яго атрымаў прачулы ліст ад Кузьмы Чорнага і гэты "па сутнасьці зьяўляўся дыплёмам на годнасьць пісьменьніка" Здольнасці Віцьбіча падобна адзначылі Дубоўка і Язэп Пушча[23].

У далейшым творы нашага аўтара паяўляюцца ў розных часапісах у БССР, як "Узвышша", "Полымя Рэвалюцыі", "Маладняк" Аповесьць "Ціхая Руба" пачала друкавацца ў "Полымя Рэвалюцыі" ў 1932 г Асобнымі кніжкамі вышлі. "Сьмерць Ірмы Лаймінг" (1932), "Формула супраціўленьня касьцей" (1937) і на эміграцыі· "Плыве з-пад сьвятой гары Нёман", ч І, 1956 г "Як езьдзіў у Конга пан Прун`е" забраў сам аўтар з Белдзяржвыдавецтва, бо не пагадзіўся з рэцэнзіяй ейнага рэдактара. Аповесьць "Лшона габоа Бійрушалайм" (У наступным годзе ў Ярузаліме) друкавалася ў "Полымя Рэвалюцыі" (1932), а яе урывак: "Як сацьмела золата найлепшае" у "Бацькаўшчыне" (Нр. 196-197, 1954). Аўтар працаваў над такімі кніжкамі, зь якіх толькі невялікія часткі друкаваліся ў розных эміграцыйных часапісах або газэтах: "Антыбальшавіцкія паўстаньні й партызанцкае змаганьне на Беларусі", "Не чарнілам а крывёю"; хрэстаматыя· "Рэлігія ў творчасьці беларускіх пісьменьнікаў"[24] Якая шкода, што гэта хрэстаматыя не ўбачыла Божага сьвету ў друку! Бо хто-ж мог быць больш кампэтэнтным ад Юркі Віцьбіча, каб апрацаваць такую хрэстаматыю

Спадчына Віцьбіча знаходзіцца сяньня рассеяная ў розных эміграцыйных часапісах і газэтах і важным было-б для нашай ня толькі літаратуры, але культуры вогуле сабраць яе і выдаць асобнымі кніжкамі Бяз сумніву яна на гэта заслугоўвае

Юрка Віцьбіч быў узвышанец і аб "Узвышшы", паўсталым 26 траўня 1926 г, а зьліквідаваным у 1931, ён ніколі не забываўся[25] У 20-я ўгодкі утварэння "Узвышша" ён пісаў у "Шыпшыне". "Вакол літаратурнага згуртаваньня "Узвышша" ядналася ўсё самае патрыятычнае і таленавітае, што мела тады беларуская літаратура Пад уплыў "Узвышша" адразу трапіў шэраг пісьменьнікаў з іншых тагачасных літаратурных згуртаваньняў. "Узвышша" пераступіла ўсходнія і заходнія межы краіны узвышэнцы закладалі падмурак тэй вялікай нацыянальнай літаратуры, якую паводле іхніх "тэзісаў", павінны пабачыць вякі і народы"[26]





Варта і нам прыпомніць тыя тэзісы. "Магчымасьць утварэньня узвышша беларускай мастацкай літаратуры мысьліцца цераз:

а) культуру беларускае мовы,
б) жыцьцёвую сымболіку мастацкага твору,
в) яго концэнтрацыйную вобразнасьць,
г) дынамічнасьць композыцыі,
д) беларускую жанровасьць,
е) адзінства творча-мастацкай ідэі,
ж) align рознастайнасьць фармальных рэальнасьцяй і
з) аквітызм, як тую імклівасьць, якою прасякаецца мастацкі твор у сваім ідэале. "[27]

Юрка Віцьбіч узвышанец, пасьля шыпшынавец (ідэёвай розьніцы у гэтых сымбалічных назовах мы ня бачым) увайшоў у беларускую агульна-нацыянальную літаратуру сваей уласнай тэматыкай, са сваім арыгінальным стылям. Крыніцамі яго творчасьці была тысячагадовая гісторыя Беларусі, яе легенды, фальклёр і звычаі. Ён знаў Беларусь у часе (гісторыя) і ў прасторы (археалёгія, этнографія геаграфія). Ён быў глыбока рэлігійным, і таму цікавілі яго сьвятыні, жыцьці сьвятых, іконы, царкоўная архітэктура

З-пад яго пяра вышлі аповесьці, мастацкія нарысы, эссэі, фэльетоны, палемічныя артыкулы Кожны яго нарыс апіраўся як на цьвёрдую базу на гісторыяй устаноўлены факт, або ім самым сьцьверджаны. Характэрныя для яго кароткія творы з доўгім назовам. Нярэдка яны ёсьць сатырай, прыкладам "Трубадур віцебскіх падпольных пацукоў", "Пра шылы тамтэйшае нэндзы", "Ці толькі абаранкі патрэбныя беларусам?" Часам называў аўтар свае творы пранікліва-сэнтымэнтальным сказам. "Ня змоўклі Віцебскія арганы", "Яны прасілі лусту хлеба" і інш. Але ёсьць і вельмі падбадзёрвуючыя "Урачыста панясём цымбалы многозвонныя", "Вышэй галаву Дубавец!", "Усіх не расстраляеце". Дзеля сваей моцы гэты тытулы твораў запамятваюцца лёгка і на доўга. У беларускай літаратуры Віцьбіч займае першае і выдатнае месца, калі йдзе гутарка пра мастацкі нарыс. Зусім слушна Багровіч назваў яго майстрам мастацкага нарысу[28]

Іншым жанрам у творах Віцьбіча зьяўляюцца эссэі. Усе, хто дагэтуль пісалі аб ягонай творчасьці, прайшлі паўз іх і не заўважылі. Эссэям звыкла называюць кароткі літаратурны твор у прозе, у якім выяўляюцца глыбейшыя веды і пагляды аўтара на нейкі прадмет ці асобу. У эссэі неканечна мае быць апісана поўнасьцю выбраная тэма, але аўтар у штосьці павінен углыбіцца і дайсьці да самай суці. Такі жанр літаратурнай творчасьці запачаткаваў француз Мішэль дэ Монтэнь у XVI ст Ягоныя эссэі былі ў канцы таго самага стагодзьдзя перакладзеныя на ангельскую мову. У XIX ст пісалі эссэі Чарль Лямб, Вашынгтон Ірвінг і іншыя. У наша стагодзьдзе былі ведамымі са сваіх эссэяў Чэстэртон, Бэльлёк, Мігуель дэ Унамуно.

Што Віцьбіч сьведама працаваў у жанры эссэяў, сьведчыць той пратэст, які ён зрабіў, калі "Конадні"[29] адзін з яго абразкоў назвалі нарысам Пры той-жа нагодзе ён сам назваў некалькі сваіх эссэяў: "Завулка Янкі Купалы", "Каб я каршуном радзіўся", "І гарыць вачыма карымі горкі прыпамін", "Ходзіць па нашай краіне Рагнеда"[30].

Апрача эссэяў знаходзім у творах Віцьбіча *абразкі*, прыкладам "Мы дойдзем"[31], якія культываваў Бядуля, а таксама *лірычную імпрэсію*, якую ён сам называе "Так станецца"[32], а да якой таксама трэба ўлічыць цудоўна прыгожы твор "У той самы час"[33]

Віцьбіч дасканала валодаў расейскай мовай і ў гэтай мове пакінуў больш 200 твораў на розныя тэмы і розных жанраў. Яны друкаваліся ў "Новым Русскім Слове" Там ён інтэлігентна, мужна і па-мастацку абараняў усё наша беларускае, вялікае і нам дарагое

*

Калі мы ўжо ўспаміналі аб шматлікіх дататных якасьцях і аб розных жанрах пісьменьніка Віцьбіча, дык варта было-б сказаць хоць пару слоў аб некаторых ад'емных рысах. На нашу думку, стыль яго занадта грузны, сказы выпрацаваныя аж да штучнасьці Віцьбіч — гэта слонь у цырку або молат у кузьні: першы цікавы, але трэба ўважаць, каб не наступіў на ногу; другі моцны, але абодвы цяжкія. Таксама ня ўсе ягоныя нарысы

беззакідна абгрунтаваныя з гледзішча гістарычнай навукі. Часам цяжка разабрацца, дзе ў яго легенда, а дзе запраўдны факт. Мова яго багатая, сакавітая, але адчуваецца, што яна не зь беларускай гушчы, а зь нейкай акадэмічнай працоўні Некаторыя словы ён вельміж часта паўтарае, прыкладам "прачулы", "прыгадаць", "дарэчы". Ён ужывае "трэйці" замест агульна прынятага "трэці".

Цяпер астаецца нам глянуць на Віцьбіча як на чалавека, якога мы пазнаём праз прызму яго літаратурнай спадчыны. Каб тут дайсьці да праўды, трэба было-б узяць пад увагу ўсю ягоную творчасьць ўлучна з той, што яшчэ знаходзіцца ў сховішчах. Гэта тымчасам немагчыма, таму карыстайма з таго, што ўжо ім самім за жыцьця было апублікавана, дый тут мы мусім абмежыцца толькі да некалькі пытаньняў

У 1953 г у мюнхэнскай "Бацькаўшчыне" Нр. 28 (159) быў надрукаваны артыкул: "Што нам патрэбна", у якім Віцьбіч парушыў шмат розных вельмі важных для беларускай эміграцыі праблемаў. Быў гэта дадзены адказ Вярбе на яго артыкул у той самай газэце. "Ці можам быць незадаволеныя?"[34], але той адказ ня страціў вартасьці для ўсіх нас да сяньня

У галіне палітычнай здарыўся нязвычайны выпадак у гісторыі Беларусі: прызнаньне Беларусі ў форме БССР як роўнага сябру Задзіночаных Нацыяў Віцьбіч прызнае часткова рацыю М Вярбе, што Беларусь "набрала міжнароднай вагі", аднак сьцьвярджае, што гэта сталася 35 год таму назад (ён пісаў у 1953 г.), калі яе рэпрэзэнтавалі нашыя дзяржаўныя мужы, упоўнаважаныя на гэта Першым Усёбеларускім Кангрэсам, а не расейскі бальшавік разанскага паходжаньня Кузьма Кісялёў, які рэпрэзэнтуе цяпер БССР і прызначаны заняць месца ў палацы Аб`еднаных Нацыяў Масквой

У галіне навукі было пастаўленае пытаньне наколькі нам трэба лічыцца з вучонымі Захаду? Віцьбіч адказвае. ці мы падабаемся замежным вучоным ці не — гэта ўсё другараднае "Галоўнае, істотнае — спалучыўшы ўсе свае высілкі разам, стацца годнымі ў галіне навукі й мастацтва найлепшых традыцыяў свайго народу і Бацькаўшчыны, а значыцца і належным чынам рэпрэзэнтаваць іх на чужыне ў вачох усяго культурнага чалавецтва"

Аб падручніку др. Янкі Станкевіча ён высказаўся гэтымі словы: " .. не зьяўляючыся асаблівым сымпатыкам гэтага падручніка, я ўсё-ж мушу сьцьвердзіць, што дагэтуляшняя крытыка яго выходзіла пераважна зь не навуковых крыніцаў, а з палітыканскадылетанскіх"

З мэтадамі др Я. Станкевіча Віцьбіч не згаджаецца. Ён кажа. "Нашая літаратурная мова ні ў якім разе ня спыніла свой пераможны рух наперад, але ейнае ўзбагачэньне зусім не павінна ісьць па лініі фабрыкацыі ва ўласнай мовазнаўчай лябараторыі новатвораў, або па лініі засьмечваньня яе слоўнікам пэўнага самотнага засьценку, што знаходзіцца на нашых этнаграфічных паўзьмежжах. ."

Хаця Віцьбіч сам стварыў арганізацыю пісьменьнікаў, аднак ён ня лічыць патрэбным мець толькі адну-адзіную арганізацыю, як гэта сталася ў Савецкім Саюзе, а што ён называе літаратурным калгасам. Многасьць розных арганізацыяў спрыяе розным кірункам і пісьменьнік можа выбраць для сябе такую, якую сам сабе спадабае

Віцьбіч не чураўся назову "Крывіч" і ўжываў яго ў аднясеньню да старадаўняй беларускай гісторыі[35], але ён быў наважаным праціўнікам уводзіць сяньня назоў "Крывіч", "Крывія" Аб гэтым ён высказаўся. "Сёньня прапаганда тэрміну "Крывіч" носіць ужо не акадэмічны характар, як у часы аднаго са славутых беларускіх дзеячоў Вацлава Ластоўскага, а выключна палітычны[36] Між іншым Віцьбіч вельмі цаніў Власта (Ластоўскага) і называў яго адным з найцікавейшых нашых пісьменьнікаў[37]

Віцьбіч быў рашучым ворагам камунізму, знаў усе яго нялюдзкія злочыны і біў па іх з пляча. За гэта ён атрымоўваў найбольш з усіх беларускіх пісьменьнікаў і журналістаў нападак і мянюшак з савецкага боку Значыць, пападаў метка.

Быў-бы наш гэты нарыс незакончаным і крыўдным для с.п. Юркі Стукаліча-Віцьбіча, каб мы ня ўспомнілі аб яго асаблівай рэлігійнасьці. Годзе перегарнуць бачынкі часапісаў з артыкуламі Віцьбіча, асабліва рэлігійных часапісаў, каб пераканацца, што наш пісьменьнік ня толькі верыў у Бога, але быў у рэлігійных справах адукаваны на роўні сьвятара. Ён бараніў рэлігіі, сьвятыні. Ён зьяўляецца найлепшым сьветкай паганьбаваных, збураных на Беларусі цэркваў, касьцёлаў і сынагогаў. Віцьбіч — гэта вялікі паклоньнік Найсьвятой Божай Маці, ён ня толькі моліцца да яе ў традыцыйнай стараславянскай мове, але ён сам творыць новыя беларускія малітвы. Ён моцна праваслаўны і выкідвае Кавалю, што ў сваім даведніку ня ўспомніў аб сьв. Апанасу Берасьцейскім, але ён таксама піша прыгожы нарыс аб вуніяцкім Мітрапаліце Булгаку і аб каталіцкім сьвятым Антонію Падуанскім і то так, як гэта мог-бы напісаць толькі добры каталік і добры пісьменьнік[38]

Юрка Віцьбіч быў хрысьціянін. Ён знайшоў у сваей душы даволі адвагі і сілы, каб абараніць чорных, якія куды раней, чым ён сам і чымся ўсе беларусы-эмігранты былі ганебна перавезеныя ў Амэрыку і праз доўгі час не маглі дабіцца людзкіх правоў і тут.

"Незалежна ад колеру скуры — ці белыя, ці чорныя, ці жоўтыя, ці чырвоныя — мы ўсе адзінага Бога дзеці. Адзін за адным народы Афрыкі ськідаюць зь сябе каляніяльныя ланцугі, становячыся дзяржаўнымі. Лепш пашукаем паміж імі сваіх сяброў, чым варожа да іх паставімся", — пісаў Віцьбіч ў адказ на закіды супроць чорных[39].

Віцьбіч — гэта наш выдатны пісьменьнік, неабцяжаны ніякімі ўпярэджаньнямі да ўсяго таго, што Беларусь мела і мае добрага і вялікага, непрымірымы вораг камунізму і расейскага насільля. Гэта слаўны сын Вяліжа, Віцебска... і ўсей Беларусі Яшчэ нераз мы на чужыне будзем навяртаць да яго.

*"Божым Шляхам". №№ 1—2, 1975.*

---

[1] **Юрий Стукалич, О белоруссах в кавычках и без кавычек. Новое Русское Слово, 25 января 1955, Нр. 15613, с. 2—3.**

[2] **П. Красавицкий, Памятники церковной старины Полоцко-Витебского края и их охранение. Полоцко-Витебская Старина, Витебск, 1911, кн. 1, с. 1—64. — Гэты самы артыкул у скароце ў беларускім перакладзе быў надрукаваны ў Божым Шляхам, 1956, Нр. 70—75, с. 7—28. Там-жа і крыху вестак аб а. Красавіцкім. — Ліст Ю. Віцьбіча да а. Арх. Л. Гарошкі з дня 5 студня 1958 г. Архіў ББ імя Ф. Скарыны ў Лёндане.**

[3] **Нр. 1(20), 1971, с. 28—30.**

[4] **Там-жа, с. 28.**

[5] **Там-жа, с. 28.**

[6] **Там-жа, с. 29.**

[7] **Ліст з дня 5 студня 1958 г. Архіў ББ імя Ф. Скарыны ў Лёндане.**

[8] **Завулак імя Янкі Купалы. Шыпшына, 1950, Нр. 9, с. 40—41. Таксама ў "Бацькаўшчыне", 29 чэрвеня 1952, Нр. 25—26 (104—105).**

[9] **М. Караневіч, Пройдзеным шляхам, Беларус, ліпень 1965, Нр. 100, с. 3. Станіслаў Станкевіч, 40 год літаратурнай дзейнасьці Юркі Віцьбіча, Беларус, 1969, Нр. 151, с.3.**

[10] **Ю. Віцьбіч, "Кепска каля Віцебска, а ла Воршы `шчэ горшы". Бацькаўшчына, 1956, Нр. 42 (324), 43 (325). Д.І. Даўгяла, Аршанскія пячоры, Наш Край, 1926, Нр. 8—9 (11—12), с. 45—50.**

[11] **Ю. Віцьбіч, Бахрым ці Багрым, Бацькаўшчына, 1955, Нр. 35 (265).**

[12] **Кат. Каляды 1958, Нр. 49—50 (435—36). Гл. таксама: "Урачыста панясём цымбалы многазвучныя", Бацькаўшчына, 1956, Нр. 303.**

[13] **"Урачыста панясём цымбалы многазвучныя", гл. папярэднюю зноску. — Цяжкую працу сваю і сваіх сяброў апісаў Віцьбіч у мастацкім нарысе: "Над возерам Шпірдынг", надрукаваным у: Ля чужых берагоў. Альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменнікаў, Мюнхен, 1955, с. 189—192.**

[14] **Што нам патрэбна. Бацькаўшчына, 1953, Нр. 159, с. 3.**

[15] **Шыпшына, 1946, Нр. 2, с. 45.**

[16] **З эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў: Арсеньнева, Віцьбіч, Сяднёў, Алесь Салавей, Клішэвіч, Юстапчык, Лявон Случчанін (Шпакоўскі), Золак (Даніловіч А.), Р. Крушына, Кавыль (Лешчэнка), Брага, Дудзіцкі, Залужны і інш.**

[17] Беларускае Слова, 5 лютага 1949, Нр. 3 (4).
[18] У. Глыбінны, Ня згаснуць іскры Скарыны, Шыпшына, 1946, Нр. 2, с. 41.
[19] Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі, 1946, Нр. 3, с. 14. Тут варта заўважыць, што ў кніжыцы Ю. Віцьбіча, Нацыянальныя сьвятыні. Мастацкія нарысы, Бэрлін, 1944, с. 10—11, у нарысе: "Можна зьнішчыць звон, але нельга зьнішчыць народ" зусім няма апошняга сказу: "А сёньня, каб зьдзейсьніць ідэалы нашае Маці-Беларусі... Кунцэвіча". Напрашваецца высноў: або гэтага абзацу не было ў тэксьце, якім карысталася рэдакцыя, або дзеля нейкіх прычын рэдакцыя яго выкінула. Таму дарэчы зацемка ва ўступе да зборніка, што ён "складзены без аўтаравага ўдзелу". Падобны сказ аднак знаходзім у нарысе "Узарванае барока", там-жа, с. 25.
[20] Паданьне аб таямнічым сьвятле. Бацькаўшчына, 3 ліст. 1951, Нр. 15—16 (94—95), с. 2. У лісьце да а. Архімандрыта Л. Гарошкі з дня 23.XI.1951 г. Віцьбіч пісаў: "Адначасна дасылаю Вам маленькую імпрэсію ці абразок "Паданьне аб таямнічым сьвятле", якое разам з іншымі маімі творамі ідзе ў чарговы Нр. 10 час. "Шыпшыны". Мяне вельмі цікавіць Ваш погляд на гэты мой твор. Хаця я вельмі старанна апрацоўваў яго, але ўсё-ж магчымы памылкі, як з гістарычнага гэтак і з рэлігійнага пункту гледжаньня. Калісьці я пісаў пра аднаго Ёзафата, а цяпер пра другога. Між іншым у маім асабістым архіве ёсьць сургучовы адбітак з пячаткі Архіяпіскапа Ёзафата Булгака, ёсьць таксама малюнкі віцебскае катэдры да Савы Ціхамірава і пасьля яго. Калісьці ў маёй бібліятэцы былі 9-ці тамовыя "Запіскі Архіяпіскапа Харкаўскага Савы". 4 том прысьвечаны ягонаму архіпастырству на Віцебшчыне і варта пазнаёміцца з ім, каб пераканацца, што ён зьяўляецца зацятым расейскім цемрашалам. Нібы змагаючыся за чысьціню праваслаўя ўвогуле, ён змагаўся з своеасаблівымі адзнакамі беларускага праваслаўя, падмяняючы яго расейскімі адзнакамі... У маёй сям'і захаваўся ўспамін, як мой прадзед сьвятар хаваў ад Савы, у часе ягонае паездкі па эпархіі, статую Збавіцеля, перад якой са сьлязьмі на вачох маліліся беларусы ўсіх веравызнаньняў і якую Сава разам з усімі статуямі хацеў зьнішчыць". — Дадаём заўвагу, што 10-ты нумар "Шыпшыны" ня выйшаў і таму аўтар надрукаваў свой абразок у "Бацькаўшчыне".
[21] Алесь Салавей, Ліст у рэдакцыю з дня 25.I.1947, Шыпшына, Нр. 4, с. 41.
[22] Копія ліста ў Архіве ББ імя Ф. Скарыны ў Лёндане.
[23] А. Багровіч, Адыйшоў майстра мастацкага нарысу. Беларус, люты 1975, Нр. 214.
[24] У "Шыпшыне", 1946, Нр. 3, с. 45, маем гэткую зацемку: "Пісьменьнік Юрка Віцьбіч працуе над цыклем апавяданьняў: "Не чарнілам, а крывёю". Адначасна складае хрэстаматыю: "Рэлігія ў творчасьці беларускіх пісьменьнікаў".
[25] Аб "самаліквідацыі" літаратурна-мастацкага згуртаваньня была вынесена пастанова яго сяброў: "Узвышша", 1931, Нр. 11—12, с. 178—180.
[26] Шыпшына, 1946, Нр. 2, с.1.
[27] Узвышша, Менск, 1927, Нр. 1, с. 169—170.
[28] А. Багровіч, Адыйшоў майстра мастацкага нарысу. Беларус, люты 1975, Нр. 214.
[29] Ню Ёрк, 1954, Нр. 1, с. 18.
[30] Ліст у рэдакцыю з дня 15.VIII.1954. Бацькаўшчына, 29 жніўня 1954, Нр. 32—33 (214—215), с. 2.
[31] Беларус, 1969, Нр. 151, с. 3.
[32] Конадні, 1954, Нр. 1, с. 18. Гл.: Бацькаўшчына, 1954, Нр. 32—33 (214—215).
[33] Бацькаўшчына, 25 траўня 1953, Нр. 12—13 (143—144).
[34] Бацькаўшчына, 19 красавіка 1953, Нр. 16 (147), с. 4.
[35] Прыкладам яго нарыс: "Мы былі і будзем крывічамі", Беларус, 1972, Нр. 186, с. 3—4.
[36] Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі, травень 1946, Нр. 4, с. 31.
[37] Глядзі артыкул Віцьбіча: "Власт — Вацлаў Ластоўскі", Бацькаўшчына, 1 лістапада 1953, Нр. 43 (174), с. 3.
[38] Гл.: "Кепска каля Віцебска, а ла Воршы `шчэ горшы". Бацькаўшчына, 25 лістапада 1956, Нр. 47—48 (329—330).
[39] "У вабарону маіх суседзяў". Бацькаўшчына, 25 сакавіка 1959, Нр. 11—12 (447—448), с. 7.

# Ірына ХАДАРЭНКА

## Я маю твор...



***

*Рэжысёру Віталю Катавіцкаму*

Я ўвап'юся ў сусвет Сальвадора Далі,
прагна выгрызу існасць яго таямніцы
і пакрочу па краі нябёс да зямлі.

Хай пачне наваколле ад смеху журыцца!
Буду рухацца ўпоперак слотнай шашы
і разменьваць імпэт на шматкі і драбніцы

Міражы, вы дазволіце вас раскрышыць?
Я зраблю гэта з мілай і сквапнай усмешкай,
каб спатоліць патрэбу пачварнай душы.

Паміж пеклам і раем ляжыць мая сцежка,
між адчаем і ўзнёсласцю сэрца ляжыць.
На жыццёвай рабрыне арол б'ецца з рэшкай.

Я люблю танчыць вальс на даўжэзным нажы
і, віно ліючы на адкрытыя раны,
як вядзьмарка, у аспідны час варажыць.

Ад развагаў мой розум зусім сапсаваны.
Ён ніколі спакою сабе не дае.
А ўяўленне, выходзячы на паляванне,
на папернае поле атруту ліе.

# ЁН | Джавані БАКАЧА



*Я вам з ахвотаю раскажу прыпавесць, трошкі падобную да папярэдняе. Не толькі дзеля таго, каб вы даведаліся, што можа ваша жаданне здзейсніць над пачуццямі сэрца, але і каб вы навучыліся, дзе трэба, самім быць стваральніцамі свайго шчасця, а не толькі аддаваць яго на волю лёсу, які раздае тое шчасце не заўсёды разумна, ды, як гэта часцяком бывае, без усялякага разбору.*

## *Пра ЯГО*

***1313 год*** **— у Фларэнцыі (паводле іншых звестак у Парыжы або ў Чэртальда, каля Фларэнцыі) нарадзіўся Джавані Бакача, пазашлюбны сын камерсанта з Чэртальда (маці — француджанка).**

***Канец 1320-х гадоў*** **— вучыцца на камерсанта і юрыста ў Фларэнцыі.**

***Каля 1330*** **— кідае вучобу і адпраўляецца ў Неапаль.**

***1330—1340*** **— Джавані Бакача пры двары неапалітанскага караля Роберта Анжуйскага, вядомага на той час мецэната. Займаецца вывучэннем лацінскай, французскай, італьянскай літаратур, знаёміцца з шэрагам дзеячаў навукі і мастацтва таго часу (паміж іншым, з Чына дзі Пістоя).**

***1336—1340*** **— выкарыстоўваючы антычныя сюжэты, стварае свой першы раман "Філакола" і першыя паэмы "Філастрата" і "Тэзеіда".**

***1340*** **— вяртаецца ў Фларэнцыю.**

***1341*** **— дапісвае пастаральны раман "Амэта".**

***1342*** **— піша паэму "Прывід кахання" (апублікавана ў 1521).**

***1343—1346*** **— раман "Элегія пра Мадонну Ф'ямэту" і паэма "Ф'езаланскія німфы".**





# ДЭКАМЕРОН

**I-V**

***Маркіза дзі Манфэрата абедам з кураціны і некалькімі дасціпнымі слоўцамі ўтаймоўвае безразважнае каханне караля Францыі.***

Гісторыя, расказаная Дыянэам, спярша абудзіла сарамлівасць у сэрцах дзяўчат, пра што сведчыла цнатлівая чырвань на іхніх шчоках, але потым, пераглядаючыся і ўсміхаючыся, ледзь стрымліваючы рогат, яны выслухалі яе. Калі ж ён скончыў свой аповед, каралева лагодна папракнула яго, даўшы зразумець, што гэткія гісторыі не варта расказваць пры жанчынах, і павярнулася да Ф'яметы, што сядзела на траве побач з ёю, каб тая працягвала, бо надышла яе чарга.

З усмешкаю на вуснах Ф'ямета пачала:

— Паколькі мне падабаецца, што мы перайшлі да паказу ў нашых гісторыях сілы трапных і хуткіх адказаў, і ўлічваючы, што ў мужчын заўсёды моцнае імкненне дамагацца кахання жанчыны вышэйшага за ягонае паходжання, гэтаксама як і ў жанчын ёсць мноства хітрыкаў, каб засцерагчыся ад кахання да мужчыны вышэйшага за яе паходжання, мне прыйшло ў галаву, дарагія прыяцелькі, паказаць вам у гісторыі, якую мне выпадае расказаць, якім чынам праз справы і словы высакародная дама сама ад такога кахання засцераглася і кавалера паўстрымала.

Маркіз дзі Манфэрата, чалавек высакародны, сцяганосец царквы, скіраваўся за мора ў крыжовы паход хрысціян Пра ягоную адвагу расказвалі пры двары караля Піліпа Адважнага, які збіраўся ў той самы крыжовы паход з Францыі; адзін рыцар апавядаў, што пад сонцам няма гэткай пары, як маркіз і ягоная жонка, бо як спаміж рыцараў быў ён знаны сваёй мужнасцю і высакароднасцю, гэтак і жонка вызначалася між усіх жанчын на свеце прыгажосцю і дабрадзейнасцю. Гэтыя словы так глыбока запалі ў душу караля Францыі,

***1348*** **— вялікі паморак у Фларэнцыі, у выніку якога памірае бацька пісьменніка. Джавані Бакача пачынае працу над "Дэкамеронам".**

***1350*** **— Бакача знаёміцца і завязвае цеснае сяброўства з Францэскам Петраркам.**

***1353*** **— заканчэнне працы над "Дэкамеронам".**

***1355*** **— піша на лацінскай мове трактат "Пра няшчасныя выпадкі са знакамітымі людзьмі". Завяршае свой апошні раман на італьянскай мове "Груган".**

***1356*** **— з'яўляецца зборнік лацінскіх вершаў Бакачча "Букалічны спеў".**

***Каля 1360*** **— напісаны трактаты "Генеалогія паганскіх багоў" і "Жыццё Дантэ Аліг'еры".**

***Пачатак 1360-х*** **— Бакача стварае гурток сваіх прыхільнікаў, перад якімі выступае з лекцыямі па антычнай міфалогіі і літаратуры.**

***Каля 1365*** **— вяртаецца ў Чэртальда, у свой маёнтак.**

***Канец 1360-х—пачатак 1370-х*** **— Бакача ўдзельнічае ў некалькіх дыпламатычных місіях у Еўропе.**

***1371*** **— выходзіць першае поўнае выданне "Дэкамерона".**

***1373*** **— Бакача выступае падчас Дантаўскіх чытанняў у Фларэнцыі з лекцыямі-каментарамі да "Боскай камедыі".**

***1374*** **— з'яўляецца трактат Бакача "Пра знакамітых жанчын".**

***1375,*** **21 снежня — Джавані Бакача памірае ў сваім доме ў Чэртальда.**

Падрыхтаваў
Лявон БАРШЧЭЎСКІ.

што ён, ніколі не бачыўшы жанчыны, раптоўна палка ў яе закахаўся. Ён вырашыў не адплываць у паход з аніякага іншага месца, апроч як з Генуі, каб, падарожнічаючы па сухазем'і, мець прыстойную падставу наведаць маркізу, спадзеючыся, што ў адсутнасці маркіза яму, магчыма, пашчасціць здзейсніць сваё жаданне.

І як ён задумаў, гэтак і загадаў зрабіць. Адправіўшы ўсё свае войска наперад, ён сам з невялічкаю світаю рыцараў рушыў у дарогу. Наблізіўшыся да ўладанняў маркіза, ён напярэдадні паведаміў даме, каб назаўтра чакала яго да абеду. Разумная і праніклівая жанчына ветліва адказала, што для яе гэта — найвялікшы гонар і што яго ласкава чакаюць. А сама тут жа задумалася, што б гэта значыла, што такі славуты кароль збіраецца наведацца да яе ў адсутнасць ейнага мужа; і яна не адкінула думкі, што да гэтага спрычынілася слава пра яе прыгажосць. Але як жанчына прыстойная, яна намерылася годна прыняць караля, паклікала паважных людзей, што заставаліся з ёю, і загадала зрабіць усё гэтак, як яны параілі. Але наконт урачыстага абеду і страў яна пажадала паклапаціцца сама. Маркіза распарадзілася неадкладна сабраць усіх курэй у наваколлі, а сваім кухарам загадала згатаваць толькі з іх разнастайныя стравы да каралеўскага абеду

І вось прыязджае ў прызначаны дзень кароль, маркіза сустракае яго з вялікай урачыстасцю і пашанай Калі ён яе ўбачыў, яна падалася яму яшчэ больш прыгожай, дабрадзейнай і высакароднай, чым ён сабе ўяўляў са словаў рыцара. Надзвычай уражаны, ён пахваліў яе прыгажосць, а сам яшчэ болей распаліўся ў сваім жаданні, бачачы, што ява пераўзышла сваю славу.

Пасля нядоўгага адпачынку ў багата аздобленым пакоі, які і належыць мець шаноўнаму каралю, надышоў час урачыстага абеду. Кароль і маркіза селі за адзін стол, астатніх жа, згодна з іхняй годнасцю, пасадзілі за іншыя сталы. Спажываючы шматлікія стравы і частуючыся найлепшымі і найкаштоўнейшымі вінамі, а ў дадатак да гэтага раз-пораз сузіраючы чароўную маркізу, кароль дужа цешыўся. Стравы падаваліся адна за адною, і кароль пачаў вельмі дзівіцца, бачачы, што, хоць усе яны былі розныя, але кожная была з курынага мяса. Кароль ведаў, што край, дзе ён знаходзіцца, багаты на розную дзічыну, а папярэджаная пра ягоны прыезд маркіза мела досыць часу, каб загадаць напаляваць яе Аднак якім вялікім ні было ягонае здзіўленне, ён устрымаўся выказаць яго ў размове інакш як праз заўвагу наконт курэй. З ветлівай ўсмешкаю павярнуўшыся да гаспадыні, ён сказаў: "Шаноўная маркіза, няўжо ў гэтых мясцінах вядуцца толькі куры і ніводнага пеўня?" Маркіза цудоўна зразумела сэнс пытання, і ёй падалося, што сам Бог паслаў нагоду, як яна таго і жадала, даць зразумець каралю свой намер. Яна павярнулася да яго і з годнасцю адказала: "Ваша вялікасць, не, але тут жанчыны, хоць яны і адрозніваюцца трохі ад іншых, вопраткаю і манерамі, зроблены гэтаксама, як і ўсюды"

Пачуўшы гэтыя словы, кароль здагадаўся пра сэнс абеду з кураціны і прыхаваную словамі годнасць гаспадыні і зразумеў, што марна траціць словы з такою самавітаю жанчынаю, а гвалт быў бы недарэчны. Таму да свайго гонару ён прытушыў агонь, што так неасцярожна запалаў праз яе. І, пабойваючыся дасціпных адказаў жанчыны, ён болей не спрабаваў з'едліва жартаваць, а без усялякіх спадзяванняў з'еў свой абед, потым жа, каб хуткім ад'ездам прыхаваць сваё няўдалае наведанне, падзякаваў ёй за атрыманы гонар і, пакінуўшы яе з Богам, скіраваўся ў Геную.

### V—V

***Гвідота з Крэмоны пакідае Джакаміну з Павіі дзяўчынку і памірае; у Фаэнцы ў яе закахаліся Джаноле дзі Сэвэрына і Мінгіна дзі Мінгале, якія з-за гэтага ўчыняюць бойку; калі ж высвятляецца, што дзяўчына — сястра Джаноле, яе аддаюць Мінгіну за жонку.***

Слухаючы гісторыю з салаўём, дамы гэтак смяяліся, што ніяк не маглі суняцца,





нават калі Філастрата скончыў аповед. Але калі смех пакрысе сціх, каралева сказала: "Сапраўды, хоць учора ты нас засмуціў, але сёння так павесяліў, што ніводная не мае падстаў жаліцца на цябе". І, звярнуўшыся да Нэіфіле, загадала ёй расказваць. Тая ж весела распачала наступны расказ:

— Паколькі сваім аповедам Філастрата завёў нас у Раманью, дык і я з маім пабываю там.

Дык вось, жылі ў горадзе Фана двое ламбардыйцаў; аднаго з іх звалі Гвідота з Крэмоны, другога Джакаміна з Павіі. Абодва былі ўжо ў гадах, маладосць яны правялі ў вайсковых справах. Калі Гвідота адчуў, што хутка сканае, ён, не маючы ні сына ні сябра ці радні, якой бы ён давяраў болей, чым Джакаміну, пакінуў яму дачку, дзяўчынку гадоў дзесяці, і ўсю сваю маёмасць, і, добра абгаварыўшы ўсё, памёр. Якраз у гэты час горад Фаэнца пасля доўгіх гадоў вайны і нягод настолькі акрыяў што кожны, хто хацеў вярнуцца туды, атрымаў на тое права. І вось Джакаміна, які некалі там жыў і ўпадабаў тамтэйшы побыт, вярнуўся ў Фаэнцу з усім сваім майном і з дзяўчынкаю, якую яму пакінуў Гвідота і якую ён палюбіў як уласную дачку. Дзяўчынка ж падрасла і стала самай прыгожай дзяўчынай з усіх, што былі ў горадзе І якая была яна прыгожая, гэткая ж была выхаваная і годная. Таму і пачалі да яе заляцацца шмат якія мужчыны, але, найболей, двое дастойных і добрых кавалераў, якія гэтак закахаліся ў яе, што з-за рэўнасці люта ўзненавідзелі адзін аднаго. Адзін зваўся Джаноле дзі Сэвэрына, а другі — Мінгіна дзі Мінгале. Кожны з іх, не вагаючыся, узяў бы яе сабе за жонку (бо ёй было пятнаццаць гадоў), калі б не перашкоды з боку іхніх сваякоў. Бачачы, што законным чынам ім яе не атрымаць, кожны пачаў на свой страх і рызыку дамагацца дзяўчыны.

У доме Джакаміны былі пакаёўка ў гадах і слуга, якога звалі Крывэла, хлопец вясёлы і сяброўскі, з якім Джаноле моцна пасябраваў і пры нагодзе адкрыў яму сваё каханне да дзяўчыны ды папрасіў, каб той паспрыяў яму дамагчыся мэты, шмат чаго наабяцаўшы за тое. Крывэла ж сказаў: "Бачыш, у гэтым я не змагу дапамагчы табе інакш, як толькі, калі Джакаміна пойдзе куды-небудзь вячэраць, завесці цябе ў яе пакой, бо калі я паспрабаваў загаварыць з ёю пра цябе, яна і слухаць не захацела. Вось гэта, калі ты згодны, я табе і абяцаю, а там ты ўжо рабі так, як мяркуеш найлепей" Джаноле сказаў, што большага і не хоча, на тым і пагадзіліся. Мінгіна ж дамогся прыхільнасці пакаёўкі, і справа пайшла так, што яна некалькі разоў перадавала дзяўчыне пасланні і амаль абудзіла каханне да яго. Да таго ж, яна паабяцала яму наладзіць спатканне з дзяўчынаю, калі выпадзе, што з нейкай нагоды Джакаміна сыдзе з дому. І вось, неўзабаве пасля гэтых перамоваў, Крывэла зрабіў так, што Джакаміна пайшоў павячэраць з адным сваім сябрам. Паведаміўшы пра тое Джаноле, Крывэла дамовіўся з ім, што калі ён падасць знак, дык хай Джаноле прыходзіць і знойдзе дзверы адамкнёнымі А пакаёўка, нічога пра тое не ведаючы, перадала Мінгіну, што Джакаміна не будзе вячэраць дома, і намовіла яму, каб быў паблізу дома і, як убачыць яе знак, заходзіў у дом.

Калі надышоў вечар, абодва закаханыя, кожны нічога не ведаючы пра намеры іншага, але падазраючы адзін аднаго, разам з некалькімі ўзброенымі хаўруснікамі пайшлі здабываць дзяўчыну.

У чаканні знака Мінгіна атабарыўся са сваімі хаўруснікамі ў суседнім доме аднаго свайго сябра. Джаноле ж са сваімі прыхаваўся воддаль. Тым часам Крывэла і служанка ўсялякімі хітрыкамі намагаліся адчапіцца адзін ад аднаго, адразу ж як Джакаміна пайшоў "Ты што, не пойдзеш сёння спаць? Што гэта ты швэндаешся па доме?" — пытаўся Крывэла. А служанка адказвала. "А ты чаму не ідзеш па сіньёра? Чаго ты тут чакаеш, павячэраўшы?" І гэтак яны ніяк не маглі прагнаць адзін аднаго Але бачачы, што надышоў дамоўлены з Джаноле час, Крывэла сабе падумаў "Які мне клопат пра гэта? Калі яна не будзе маўчаць, дык атрымае сваё" І, падаўшы знак, паспяшаўся адамкнуць дзверы. Джаноле хуценька прыйшоў з двума хаўруснікамі яны прабраліся ў дом і, знайшоўшы дзяўчыну ў вялікім пакоі, схапілі яе, каб вывесці з сабою Дзяўчына заўпарцілася і ўзняла страшэнны лямант, пакаёўка таксама. Пачуўшы крыкі, Мінгіна хуценька прыбег са сваімі; бачачы, што дзяўчыну ўжо вывалаклі на ганак, яны агалілі шпагі і закрычалі "Ага, здраднікі! Лічыце, што вы мерцвякі! Не ўдасца вам! Што за гвалт!" І, гэтак лямантуючы, яны пачалі бойку. Між тым, на крыкі з паходнямі і зброяй

выбеглі суседзі, пачалі асуджаць напад і дапамагаць Мінгіну, так што пасля зацятага змагання Мінгіна вырваў дзяўчыну з рук у Джаноле і вярнуў яе ў дом Джакаміны. Бойка, аднак, скончылася толькі пасля таго, як з`явіліся гарадскія стражнікі, якія шмат каго арыштавалі і павялі ў турму: сярод іх былі Мінгіна, Джаноле і Крывэла. Але ўрэшце ўсё супакоілася. Вярнуўшыся дамоў, Джакаміна з вялікай незадаволенасцю дазнаўся пра здарэнне. Супакоіўся ён толькі тады, калі добра ва ўсім разабраўся і ўпэўніўся, што за дзяўчынаю ніякай віны няма, але, каб падобны выпадак не надарыўся надалей, ён вырашыў як мага хутчэй аддаць яе замуж. Назаўтра ўранні бацькі маладых людзей дазналіся пра падрабязнасці здарэння і, баючыся кепскага, што магло здарыцца з маладымі хлопцамі, калі Джакаміна дасць справе ход, на што ў яго былі ўсе падставы, пайшлі да яго і ласкавымі словамі прасілі не мець крыўды за шкоду, што ён пацярпеў ад неразважных хлопцаў праз любоў і прыязнасць, якую ён меў да іх. Яны таксама абяцалі разам з хлопцамі загладзіць віну любым пажаданым яму чынам Джакаміна, які ў сваім жыцці шмат чаго пабачыў і быў чалавек лагодны, адказаў коратка: "Сіньёры, нават калі б я жыў у сябе на радзіме, а не з вамі, дык, лічачы сябе вашым сябрам, я не зрабіў бы нічога, што б вам пашкодзіла. Яшчэ болей я мушу саступіць вашым просьбам, паколькі вы самі зрабілі шкоду вашаму гонару, бо гэтая дзяўчына не з Крэмоны і не з Павіі, як шмат хто мяркуе, а фаэнцыянка, хоць ні я, ні яна, ні той, ад каго я яе атрымаў, ніколі не ведалі, чыя ж яна дачка. Таму я зраблю гэтак, як вы мяне просіце". Пачуўшы, што тая дзяўчына з Фаэнцы, шляхетныя людзі моцна здзівіліся Яны падзякавалі Джакаміну за добрасардэчны адказ і папрасілі яго расказаць, як дзяўчына трапіла да яго і адкуль ён дазнаўся, што яна фаэнцыянка Джакаміна расказаў "Гвідота з Крэмоны быў маім сябрам і паплечнікам Перад смерцю ён паведаміў мне, што, калі гэты горад быў узяты імператарам Фрыдрыхам і ўсё было аддадзена на рабаванне, ён са сваімі таварышамі зайшоў у адзін дом, поўны дабра і пакінуты гаспадарамі Была толькі гэтая дзяўчынка, якая мела гадкоў са два ці каля таго; яна злезла па сходах і паклікала яго "Тата!". Гэта абудзіла ў ім такую спагаду, што ён забраў яе да сябе ў Фану разам з усім дабром у доме і, паміраючы, там пакінуў яе мне з усім, што меў Ён прасіў мяне ў належны час выдаць яе замуж, аддаўшы ёй у пасаг усё, што ёй належала І вось цяпер яе можна аддаваць замуж, толькі мне ніяк не ўдавалася знайсці нагоду аддаць яе за чалавека, які б мне падабаўся Але я з задавальненнем зрабіў бы гэта, каб не паўтарылася здарэнне, падобнае да ўчарашняга"

Між іншых быў там нехта Гвільяміна дзі Мэдычына, які ў свой час быў з Гвідотам і добра памятаў, які дом той абрабаваў Убачыўшы сярод прысутных гаспадара дома, ён падышоў да яго і прамовіў "Бэрнабуча, ці чуеш, што кажа Джакаміна?" Бэрнабуча адказаў: "Чую. Я толькі што падумаў, што ў той валтузні згубіў дзяўчынку таго ж узросту, пра які казаў Джакаміна. А Гвільяміна працягваў "Няма ніякага сумнення, што гэта твая дачка, бо я сам ужо пабываў там, дзе па словах Гвідоты, было рабаванне, і пазнаў твой дом. Паспрабуй прыпомніць, ці не можаш ты пазнаць яе па якой-небудзь прыкмеце і пашукаць гэтую прыкмету, каб пэўна пераканацца, што яна — твая дачка" Паразважаўшы, Бэрнабуча ўзгадаў, што ў яе павінен быць зверху над левым вухам крыжападобны шрам ад выразанай незадоўга да няшчаснага здарэння пухліны. Таму, не марудзячы, ён падышоў да Джакаміны і папрасіў яго ўзяць з сабою і паказаць яму тую дзяўчыну. Джакаміна з ахвотаю ўзяў яго і загадаў паклікаць дзяўчыну Пабачыўшы яе, Бэрнабучу здалося, што ён бачыць перад сабою яе маці, якая была яшчэ прыгожаю жанчынаю Але, не зважаючы на гэта, ён папрасіў у Джакаміны дазволу адхінуць трошкі валасы над левым вухам, на што Джакаміна пагадзіўся Бэрнабуча падышоў да дзяўчыны, што сарамліва стаяла перад імі, падняў праваю рукою валасы, убачыў крыжык, па якім ён пазнаў, што гэта сапраўды ягоная дачка, і ад радасці заплакаў, абняўшы яе, хоць яна і ўпарцілася Потым, павярнуўшыся да Джакаміны, ён сказаў: "Браце, гэта мая дачка! То быў сапраўды мой дом, які абрабаваў Гвідота І гэта маю дачку там у доме пакінула мая жонка і яе маці Мы ўвесь час думалі, што яна згарэла ў доме ў той жа дзень". Калі дзяўчына пачула гэта і ўбачыла ўжо немаладога чалавека, яна дала веры ягоным словам і, узрушаная ягонай стрыманай годнасцю, упала ў ягоныя абдымкі і таксама заплакала ад радасці. Бэрнабуча адразу ж паслаў па маці ды іншых яе сваякоў, па сясцёр і братоў; усіх знаёміў з ёю і апавядаў пра тое, што здарылася.





Пасля безлічы абдымкаў і слаўнага святкавання — чым Джакаміна быў дужа задаволены — Бэрнабуча забраў дачку да сябе дамоў. Калі пра тое даведаўся гарадскі галава, чалавек развважлівы і разумны, які дазнаўся, што арыштаваны ім Джаноле быў сынам Бэрнабучы і даводзіўся родным братам дзяўчыне, ён вырашыў мякка абысціся з юнаком за зроблены ім благі ўчынак. Ён умяшаўся ў справу і, перамовіўшыся з Бэрнабучам ды Джакамінам, памірыў Джаноле з Мінгінам і да вялікай радасці ўсіх сваякоў пасватаў дзяўчыну, якую звалі Аньеза, Мінгіну, а разам з тым вызваліў Крывэлу ды іншых, ублытаных у гэтую справу. Мінгіна ж, моцна задаволены, адразу ж наладзіў багатае вяселле і павёў яе ў свой дом і потым шмат гадоў пражыў з ёю ў згодзе ды радасці.

## V—IX

***Фэдэрыга Альбэрыгі кахае без узаемнасці. На падарункі сваёй каханай ён патраціў усё сваё багацце і разарыўся, застаўшыся з адным сокалам. Не маючы чым пачаставаць сваю каханую, калі яна наведала яго, ён частуе яе сокалам. Яна ж, дазнаўшыся пра тое, мяняе свае пачуцці, бярэ яго за мужа і робіць яго зноў багатым.***

Філамена скончыла свой аповед, і каралева, убачыўшы, што ніводнага апавядальніка, акрамя Дыянэа з ягоным прывілеем, не засталося, пачала вясёлым голасам

— Дайшла і да мяне чарга, шаноўныя дамы, і я вам з ахвотаю раскажу прыпавесць, трошкі падобную да папярэдняе. Не толькі дзеля таго, каб вы даведаліся, што можа ваша жаданне здзейсніць над пачуццямі сэрца, але і каб вы навучыліся, дзе трэба, самім быць стваральніцамі свайго шчасця, а не толькі аддаваць яго на волю лёсу, які раздае тое шчасце не заўсёды разумна, ды, як гэта часцяком бывае, без усялякага разбору

Вы, пэўна, ведаеце, што ў нашым горадзе жыў і, магчыма, яшчэ жыве Копа дзі Баргезэ Даменікі, чалавек вядомы і дужа паважаны за свой нораў і дабрачыннасць болей, чым за высакароднасць крыві, і варты вечнай славы. Ужо ў старым веку любіў ён пагаварыць з сябрамі і суседзямі пра мінуўшчыну; і рабіў ён гэта нашмат лепей і падрабязней за іншых. Сярод розных сваіх аповедаў любіў ён расказваць і такі:

Жыў у Фларэнцыі юнак, якога звалі Фэдэрыга, сын мэсэра Філіпа Альбэрыгі; і сваёй адвагаю ды выкшталцонасцю пераўзыходзіў ён усіх іншых высакародных юнакоў Тасканы. І, як гэта часта здараецца з маладымі людзьмі, ён закахаўся ў высакародную даму, якую звалі мона Джавана; у той час яе лічылі найпрыгажэйшай і найвыкшталцонейшай дамай Фларэнцыі. І вось, каб толькі дамагчыся яе кахання, Фэдэрыга не прапускаў аніводнага турніру, аніводнага збройнага спектакля, ладзіў святы і дарыў дарункі, не лічачы, траціў сваё дабро. Яна ж была гэткая добрапрыстойная, як і прыгожая, і не зважала ні на тое, што рабілася дзеля яе, ні на таго, хто гэтак рупіўся Трацячы праз меру і нічога не дамогшыся, Фэдэрыга пакрысе пазбыўся ўсіх сваіх багаццяў, збяднеў і застаўся з невялічкім маёнткам, з прыбытку з якога ён надзвычай сціпла жыў. Акрамя таго, меў ён сокала, найлепшага ў свеце І хоць каханне яго не зменшылася, Фэдэрыка вырашыў, што, як бы яму ні хацелася, у горадзе жыць ён болей не можа, і перабраўся ў Кампі, дзе быў яго маёнтак. Калі мог, хадзіў паляваць на птушак і, не шукаючы ні ў кога дапамогі, цярпліва трываў сваю беднасць.

І вось, калі Фэдэрыга ўжо дайшоў да крайняй галечы, здарылася так, што муж моны Джаваны занядужаў і, прадчуваючы смерць, загадаў скласці тастамент. Усе свае незлічоныя багацці ён пакінуў свайму спадкаемцу сыну, хлопчыку малых гадоў, а калі здарыцца, што і той памрэ без законнага спадкаемца, дык хай будзе наследніцаю мона Джавана, якую ён моцна кахаў. Мона Джавана засталася ўдавою. І, як гэта робяць зазвычай нашы высакародныя дамы, яна штогод ўлетку выязджала ў свой вясковы

маёнтак, што размяшчаўся побач з маёнткам Фэдэрыгі  Здарылася так, што падлетак пасябраваў з Фэдэрыгам і разам з ім цешыўся паляваннем ды ловамі птушак. Шмат разоў ён бачыў сокала Фэдэрыгі ў палёце і так моцна ўпадабаў сокала, што захацеў атрымаць яго, але не наважваўся папрасіць птушку ў Фэдэрыгі, бо бачыў, якая яна яму дарагая.

І вось надарылася так, што хлопчык занядužаў, на вялікі смутак маці, бо быў ён у яе адзіны і любіла яна яго без памяці  Маці цэлымі днямі была пры ім, увесь час падбадзёрвала яго і часта пытала, ці не хоча ён чаго; хай бы ён сказаў ёй, а яна, калі гэта магчыма, ужо знайшла б спосаб здабыць тое. Хлопчык штораз чуў гэтыя абяцанні і ўрэшце сказаў:

— Мамачка, калі б вы зрабілі, каб у мяне быў сокал Фэдэрыгі, думаю, што я хутка паправіўся б.

Пачуўшы гэтыя словы, жанчына моцна задумалася і пачала меркаваць, што трэба зрабіць. Яна ведала, што Фэдэрыга яе даўно кахае, але не меў ад яе нават ласкавага позірку, і яна падумала сабе  "Як жа мне паслаць каго-небудзь да яго ці пайсці самой прасіць гэтага сокала, пра якога я чула, што ён найлепшы ў свеце і, да таго ж, дапамагае яму жыць? І якая ж я буду недалікатная, калі такога высакароднага чалавека, у якога не засталося ніякай іншай радасці, пазбаўлю і гэтай". І вось гэтак яна была ў разгубленасці і няпэўнасці, не ведаючы, што ёй рабіць, хоць і была пераканаcная, што атрымае сокала, калі яго папросіць. Урэшце, любоў да сына перамагла, і яна вырашыла, што, каб задаволіць яго і прынесці яму сокала, яна не пашле нікога, а пойдзе сама: хай будзе, што будзе  Сыну яна сказала  "Сыночак, супакойся і паспрабуй акрыяць, а я табе абяцаю, што заўтра ж уранні пайду па сокала і прынясу яго табе"  Павесялелы ад гэтых слоў, хлопчык у той жа дзень адчуў пэўную палёгку  Назаўтра ўранні жанчына, узяўшы сабе ў кампанію сяброўку, пайшла, быццам бы на шпацыр, да хаціны Фэдэрыгі і запытала пра яго  Фэдэрыга ж займаўся дробнай працай у сваім садку, бо ні надвор'е, ні час не спрыялі сакалінаму паляванню. Пачуўшы, што мона Джавана пытаецца пра яго, ён моцна здзівіўся і, радасны, выбег ёй насустрач  Яна ўбачыла яго, ветліва прыўстала, і калі Фэдэрыга пачціва павітаўся з ёю, сказала  "Дзень добры, Фэдэрыга. Я прыйшла сюды дзеля таго, каб адплаціць табе за шкоду, якую ты пацярпеў праз мяне, кахаючы мяне болей, чым было трэба. А адплата такая, што мы з сяброўкаю хочам сёння папросту паабедаць з табою  Фэдэрыга сціпла адказаў· "Сіньёра, я не памятаю ніякай шкоды сабе ад вас, толькі адно дабро  І калі я быў чаго-небудзь варты, дык гэта дзякуючы вашай высакароднасці і майму каханню да вас  І, вядома, гэтае ваша велікадушнае наведанне мне куды даражэйшае за тое, што я патраціў; але сёння вас прымае бедны гаспадар"  Прамовіўшы гэтак, ён, саромеючыся, правёў яе ў дом, а з яго — у сад і, не маючы каго пакінуць з ёю, сказаў· "Сіньёра, паколькі тут болей нікога няма, то з вамі будзе добрая жанчына, жонка селяніна, а я тым часам пайду і загадаю сабраць на стол". І хоць беднасць яго была жахлівая, ён яшчэ не заўважаў, да якога вартага жалю стану давёў яго лёс праз тое, што ён без меры марнаваў сваё багацце  Але тае раніцы, не знайшоўшы нічога, чым прывеціць даму, праз каханне да якой ён прывячаў столькі людзей, ён, урэшце, гэта зразумеў  І, моцна засмучоны, праклінаючы ў душы свой лёс, ён, быццам несамавіты, кідаўся туды і сюды, не знаходзячы ні грошай, ні каб што закласці. Тым часам было ўжо досыць позна, а жаданне неяк прывеціць годную даму не меншала. Фэдэрыга не хацеў клікаць на дапамогу нікога, нават свайго работніка. І вось на вочы яму патрапіў ягоны цудоўны сокал, што сядзеў на жэрдачцы ў пакойчыку  Не маючы іншага выйсця, ён зняў яго, убачыў, што сокал даволі тлусты, і падумаў, што гэта быў бы годны пачастунак для такой дамы. Доўга не разважаючы, ён скруціў сокалу шыю і аддаў пакаёўцы абскубці, прыправіць і падсмажыць як след на ражне. Потым ён заслаў стол бялюткім абрусам, з тых, якія яшчэ ў яго заставаліся, з вясёлым выглядам вярнуўся да дамы ў сад і абвясціў, што сняданак, наколькі гэта яму ўдалося, прыгатаваны. Дама і яе спадарожніца падняліся і пайшлі да стала. І, не ведаючы, што ядуць, яны з Фэдэрыгам, які ім ветліва слугаваў, з'елі цудоўнага сокала  Калі ж яны падняліся з-за стала і нейкі час прабавілі ў прыемных размовах, даме здаўся прыдатным момант сказаць пра тое, дзеля чаго яна прыйшла  Вось жа яна ветліва звярнулася да Фэдэрыгі: "Фэдэрыга, калі ты ўспомніш пра сваё ранейшае жыццё і пра мой гонар, які ты прыняў за ўпартасць і жорсткасць, я ані не сумняваюся, што цябе не павінна здзівіць мая смеласць, калі ты пачуеш пра тое, дзеля чаго я, уласна, і прыйшла  Калі б у цябе былі дзеці і ты зведаў бы сілу іх любові, што прывязвае іх да цябе, то я ўпэўнена, што ты неяк мне дараваў бы гэта. Але іх у цябе няма, а ў мяне ёсць, і я не магу не падзяляць уласцівай усім мацяркам любові. Вось гэта і вымагае ад мяне, насуперак майму жаданню, насуперак добрым звычаям і майму стану, прасіць у цябе падарунка, які, я ведаю, табе надзвычай дарагі — і гэта таму, што ніякай іншай забавы, радасці ці суцяшэння табе не пакінуў твой цяжкі лёс. І гэты дарунак — твой сокал, якога так моцна ўпадабаў мой сын. Калі я яму яго не прынясу, дык баюся, што здароўе ягонае яшчэ болей пагоршае, і крый Божа, каб я яго зусім не страціла. Таму прашу цябе, не дзеля твайго кахання да мяне, якое цябе ні да чога не абавязвае, але дзеля тваёй высакароднасці, якую ты па-рыцарску праявіў, як ніхто іншы  зрабі ласку і падаруй мне сокала, каб я потым магла сказаць, што гэтым дарункам вярнула жыццё майму сыну, і каб ён гэтым быў табе назаўжды абавязаны".

Пачуўшы тое, што прасіла жанчына, і не маючы магчымасці дагадзіць ёй, Фэдэрыга заплакаў перад ёю, не прамаўляючы ні слова. Жанчына напачатку палічыла прычынаю гэтага плачу яго засмучэнне праз тое, што яму давядзецца развітацца з цудоўным сокалам; і яна ўжо хацела сказаць, што ў такім разе не возьме яго, але ўстрымалася і пачакала, пакуль Фэдэрыга сцішыў свой плач і сказаў· "Сіньёра, Богу было заўгодна, каб я запаліўся да вас каханнем, ды лёс быў мне неспрыяльны, а думкі пра вас — балючымі. Але ўсё гэта была драбяза ў параўнанні з тым ударам, які гэты лёс нанёс мне сёння і якога я яму ніколі не дарую. Падумаць толькі, вы прыйшлі сюды ў маю ўбогую хаціну, куды вы грэбавалі зайсці, калі яна была багатай, і хочаце ад мяне нікчэмнага падарунка, а лёс зрабіў так, што я нічога не магу вам даць. Скажу адразу — гэта немагчыма. Калі я, шаноўная спадарыня, пачуў, што вы хочаце паснедаць са мною, я, зважаючы на вашу высакароднасць і вашу шляхетнасць, палічыў прыстойным і годным ушанаваць вас больш прыстойнаю стравaю, наколькі гэта мне было магчыма, чым тою, якою звычайна частуюць іншых людзей. Таму ўзгадаўшы пра сокала, якога вы ў мяне просіце, і пра вашую дабрыню, я палічыў, што гэта будзе годная вас страва. Сёння раніцою ён быў у вас на талерцы, і я думаў, што скарыстаў яго найлепшым чынам. Але цяпер бачу, што вам ён быў патрэбны для іншага, і мне моцна баліць, што я не магу вам у гэтым паслужыць; і я ніколі сабе гэтага не дарую". Прамовіўшы гэтак, ён у доказ сваіх слоў паклаў перад ёю пер'е, лапы і дзюбу сокала. Калі жанчына пачула і пабачыла гэта, яна спачатку папракнула яго за тое, што, каб зрабіць сняданак жанчынам, ён загубіў такога сокала, але потым сама сабе яна пахваліла ягоную велікадушнасць, якую не змагла зменшыць і не зменшыла беднасць. Застаўшыся без спадзявання атрымаць сокала і без надзеі на паляпшэнне сынавага здароўя, яна, засмучоная, вярнулася да яго; і хлопчык, ці то з меланхоліі, што не можа атрымаць сокала, ці то з хваробы, што давяла яго да такога стану, праз некалькі дзён пакінуў гэты свет, на вялікае гора маці  Жанчына колькі часу плакала і бедавала, але была яна маладая і багатая, і браты не раз угаворвалі яе зноў пайсці замуж. Яна гэтага не хацела, але ўвесь час успамінала Фэдэрыгу ды ягоны апошні высакародны ўчынак, і тое, што ў яе гонар ён забіў такога цудоўнага сокала. І яна сказала братам: "Калі б вы пагадзіліся, я лепей засталася б адна, але калі вам хочацца, дык я не вазьму нікога іншага, як Фэдэрыгу Альбэрыгі". Пачуўшы гэта, браты засмяяліся і сказалі. "Дурніца, падумай, што ты кажаш  Як ты можаш пайсці за яго, калі ў яго няма ніякага дабра?" На што жанчына адказала  "Браты мае, я добра ведаю, што кажаце вы праўду, але мне болей даспадобы муж, якому трэба багацце, чым багацце, якому патрэбен муж"  Бачачы яе рашучасць і здаўна ведаючы Фэдэрыгу, браты вырашылі не зважаць на ягоную галечу і, так як яна таго жадала, аддалі яму яе з усім яе багаццем. А Фэдэрыга, атрымаўшы за жонку горача каханую жанчыну, якая, да таго ж, была вельмі багатаю, стаў добрым гаспадаром і ў радасці і шчасці скончыў свае дні

## IV—V

***Лізабэціны браты забіваюць яе палюбоўніка; той з'яўляецца ёй у сне і паказвае, дзе ён закапаны. Яна таемна адкопвае галаву, хавае яе ў вазоне базіліку і штодзень доўга плача над ёю. Браты забіраюць ад яе вазон, і яна неўзабаве памірае ад скрухі.***

Калі Эліса скончыла свой аповед, кароль пахваліў яе і загадаў расказваць Філамене. Яна ж, поўная спагады да гаротнага Джэрбіны і ягонай жонкі, скрушліва ўздыхнула і пачала:

— Мой расказ, любыя дзяўчаты, будзе не пра людзей такога высокага стану, як тыя, пра каго нам распавяла Эліса, але ён, вядома, будзе не менш жаласны. А на думку пра яго мяне навяла нядаўняя згадка пра горад Мэсіну, дзе і адбылося здарэнне.

Жылі ў Мэсіне некалі тры браты, маладыя купцы, якія пасля смерці свайго бацькі, што паходзіў з Сан Джыміньяна, сталі даволі багатымі. Была ў іх сястра, якую звалі Лізабэта, надзвычай прыгожая і добрапрыстойная, і з нейкае прычыны яны яшчэ не аддалі яе замуж. Акрамя таго, у гэтых трох братоў у адной іхняй краме працаваў малады пізанец, якога звалі Ларэнца. Ён кіраваў усімі іхнімі справамі і быў прыгожы з выгляду ды прыемны ў абыходжанні. Лізабэта некалькі разоў бачыла яго, і здарылася так, што яна моцна ўпадабала яго. Па розных прыкметах Ларэнца заўважыў гэта і, кінуўшы ўсе свае ранейшыя каханні, прысвяціў сябе толькі ёй. І гэтак пайшла справа, што, упадабаўшы адно аднаго і ўпэўніўшыся ў гэтым, яны неўзабаве зрабілі тое, чаго абое прагнулі.

І гэтак, таемна маючы ўзаеміны і дорачы адно аднаму шчаслівыя гадзіны ды радасць, не змаглі яны схаваць сваёй таямніцы. Аднае начы, калі Лізабэта ціщком прабіралася да Ларэнцы, старэйшы з братоў незаўважна яе прыкмеціў. Ён быў разумны хлопец і, хоць было яму дужа непрыемна даведацца пра тое, ён вырашыў не казаць ні слова, і сам сабе меркаваў пра ўбачанае і так, і гэтак ажно да раніцы. А як развіднела, расказаў сваім братам, што ён дазнаўся ўначы пра Лізабэту і Ларэнцу. Пасля доўгае рады яны вырашылі маўчаць пра здарэнне, каб не выйшла якога сораму ім і іхняй сястры, і зрабіць выгляд, быццам нічога не бачылі і не ведалі, аж да той пары, калі надасца хвіля, каб без шкоды і страты для сябе змыць гэты сорам, пакуль справа не зайшла занадта далёка.

Гэтак пагадзіўшыся, яны, як звычайна, жартавалі і размаўлялі з Ларэнцам і ўдавалі з сябе, быццам бы ўсе трое яны едуць на шпацыр за горад, куды ўзялі з сабою і яго. У адным глухім і аддаленым месцы яны выбралі момант і забілі Ларэнцу, які ні пра што не здагадваўся, а пасля закапалі яго так, што ні адна жывая душа нічога б не заўважыла. Вярнуўшыся ў Мэсіну, яны пусцілі пагалоску, што адправілі яго па сваіх справах, чаму людзі лёгка паверылі, бо яны часта пасылалі Ларэнцу па справах.

Паколькі Ларэнца не вяртаўся, дык Лізабэта, якую цвяліла ягоная адсутнасць, часта і з непакоем пыталася ў братоў пра яго. І вось аднаго разу, калі яна асабліва настойліва распытвала, адзін з братоў сказаў: "Навошта табе гэта? Якая табе справа да Ларэнцы, што ты гэтак часта пытаешся пра яго? Калі ты не перастанеш пытацца, мы дамо табе такі адказ, які трэба". Дзяўчына моцна зажурылася і замаркоцілася, не ведаючы нічога пэўнага і баючыся, але болей яна ні пра што не пытала

Шмат разоў начамі яна гукала яго ды прасіла вярнуцца; і ўсё чакала, скрушліва ліючы слёзы з-за ягонай доўгай адсутнасці. І вось аднае начы, наплакаўшыся па Ларэнцу і заснуўшы ў слязах, яна ўбачыла яго ў сне, белага і ўскалмачанага, у парванай і бруднай вопратцы; і ёй падалося, што ён сказаў· "О, Лізабэта, навошта мяне гукаць і гэтак маркоціцца па мне ды папракаць мяне тваімі слязьмі? Вось жа ведай, што я не магу вярнуцца сюды, бо ў той астатні дзень, што ты мяне бачыла тваё браты мяне забілі". І расказаўшы ёй пра месца, дзе яго закапалі, ён загадаў ёй болей не гукаць яго, не чакаць і знік.

Дзяўчына прачнулася і, даўшы веры прыснёнаму, горка заплакала Устаўшы ўранні, яна не адважылася сказаць пра гэта братам, а захацела пайсці да паказанага месца і ўпэўніцца, ці праўда тое, што ёй з'явілася ў сне Атрымаўшы ад братоў дазвол пагуляць трохі, дзеля забавы, за горадам, яна разам з адной пакаёўкай, якая некалі служыла ў яе і ведала пра яе закаханасць, як мага хутчэй накіравалася ў паказанае месца; прыбраўшы сухое лісце, яна пачала капаць там, дзе, як ёй падалося, зямля была больш пульхная Не паспела яна глыбока пракапаць, як знайшла некранутае тленнем і зусім цэлае цела свайго няшчаснага каханка і пэўна пераканалася ў праўдзівасці бачанага ў сне. І, хоць знаходка яе моцна ўзрушыла, яна адчувала, што тут не час плакаць. Калі б можна было, яна забрала б цела, каб больш прыстойна яго пахаваць, але бачачы, што гэта немагчыма, дзяўчына акуратна адрэзала нажом галаву ад тулава, закруціла яе ў хусціну і перадала несці пакаёўцы; цела ж зноў засыпала зямлёю Зрабіўшы гэтак, жанчыны незаўважна пайшлі прэч ад таго месца і вярнуліся дамоў.

Дома Лізабэта зачынілася ў сваёй спальні і доўга і горка плакала над галавою, паліваючы яе сваімі слязьмі і пакрываючы ўсю яе пацалункамі Потым узяла вялікі гаршчок, у які садзяць базілік ці маяран, загарнула галаву ў ядваб і паклала яе на дно; пасля насыпала зямлі, пасадзіла зверху прыгожы салернітанскі базілік і палівала яго толькі ружовай ці апельсінавай вадою ды сваімі слязьмі Звычайна дзяўчына сядзела каля вазона і цешылася ім, бо тут быў схаваны яе Ларэнца, а налюбаваўшыся, падыходзіла і схілялася над ім і пачынала доўга плакаць; і плакала, аж пакуль увесь базілік не абмываўся яе слязьмі

Ад доўгага і сталага догляду і ад урадлівасці глебы, якую ёй надавала гніенне галавы, базілік рос надзіва прыгожы і пахкі Урэшце, яе хатнія звярнулі ўвагу на паводзіны дзяўчыны і паведамілі пра тое братам, якіх моцна здзівіла змарнелая прыгажосць дзяўчыны і яе запалыя вочы "Мы прыкмецілі, што яна гэтак робіць штодзень" Пачуўшы гэта, браты і самі звярнулі ўвагу і не раз яе папракалі, але нічога не дамагліся і загадалі непрыкметна прыбраць вазон Паколькі дзяўчына не знайшла яго, яна шмат разоў і настойліва патрабавала гаршчок. Гаршчок ёй не далі, і яна не пераставала плакаць і марнець, урэшце занядужала і падчас хваробы ўсё прасіла свой вазон Хлопцы моцна дзівіліся гэтай настойлівай просьбе і вырашылі пабачыць, што ж там унутры. Яны высыпалі зямлю, убачылі шоўк і ў ім яшчэ не настолькі сапсаваную галаву, каб па густых валасах не пазнаць галавы Ларэнцы Гэта іх моцна збянтэжыла, і яны спалохаліся, каб учыненае не ўсплыло на свет Закапаўшы галаву, яны паспешліва ўладзілі свае справы і таемна пераехалі з Мэсіны ў Неапаль. Дзяўчына ўсё плакала і прасіла свой вазон, у слязах яна і памерла.

Так скончылася гэтае нашчаснае каханне Але праз пэўны час усё шмат каму стала вядомым і нехта склаў такую песню, якую спяваюць яшчэ дагэтуль.

*Хто ж той нягоднік,*
*што скраў мой вазон.* — і г.д.

**Са стараітальянскай пераклаў**
**Мікола БУСЕЛ.**

# Станіслаў ВАЛОДЗЬКА



## МАР'ЯНА

У плынь імклівую Мар'яна
У люстра памяці глядзіцца
І бачыць зноў:свайго Івана
Яна галубіць, маладзіца,
Купальскай раніцай
Ён лёгка
Яе нясе праз луг вясёлы..

...А да бяды ўжо недалёка,
Бо год нягоднік –
Трыццаць сёмы.

А толькі ўчора на вяселлі
Дружбанты ім прыпеўкі пелі:
Ах, пірагі жаніх з нявестай
Спяклі на славу з цілі-цеста.

А сёння, праведны Ўсявышні,
Дапамажы іх долі з лёсам:
Таго, хто быў ім трэцім лішнім,
Не адпусці пайсці з даносам!

Аднак, калі далей Мар'яна
У люстра памяці глядзіцца,
Выразна бачыць. без Івана
Яна гаруе, маладзіца.

Ды кветка шчасця іх тым летам
Квітнела ўсё ж не пустацветам,
А хутка выспела такою
Салодкай ягадай – дачкою!

Дагэтуль чуе плач Мар'яна
Свайго дзіцяці
  Дзе наш тата?

Ніхто не ведае, што яма
Яго глынула ў Курапатах.
Таму, што вернецца, чакае
Івана верная галубка.
Так і ўдавее ўсё – такая
Яна жанчына   аднальобка.

Хоць ён у сны не раз прыходзіў
І гаварыў·
– Журыцца годзе,
Мая царэўна Несмяяна,
Больш не чакай мяне, Мар'яна.

Ужо каторы год мінае
Усё шпарчэйшаю хадою,
Аднак Мар'яна ўспамінае
Сябе шчаслівай маладою,
Калі ў партрэт свайго Івана
Купальскай раніцай глядзіцца.

Яму, загінуўшаму рана,
Яна ў бабулі ўжо гадзіцца.

А быццам летась, на вяселлі,
Дружбанты ім прыпеўкі пелі,
Каб з аднаго ўзрасцілі цеста
Найбольш дзяцей жаніх з нявестай.



# Стывен КІНГ



# МЕТАД ПРАВІЛЬНАГА ДЫХАННЯ

### I.

### Клуб

Прызнаюся, што ў той снежны, ветраны, халодны вечар я апранаўся крыху болей паспешліва, чымсьці звычайна. Было 23 снежня 197- года і, думаю, што многія іншыя сябры клуба рабілі тое самае. Злавіць таксі ў Нью-Йорку ў такое надвор'е надзвычай цяжка, таму я замовіў машыну па тэлефоне Жонка здзіўлена ўзняла бровы, калі я а палове на шостую замовіў таксі на восем, але прамаўчала. Без пятнаццаці восем я ўжо стаяў пад навесам ля ўвахода ў будынак на Пяцьдзесят Восьмай вуліцы, дзе жыву з Элен з 1946 года. У пяць хвілін на дзевятую я пачаў нервова хадзіць туд-сюд.

Таксоўка пад'ехала ў восем дзесяць, і я хутка сеў, каб схавацца ад халоднага ветру, і нават не зрабіў вымову вадзіцелю, хаця той яе заслугоўваў. А вецер, частка халоднага цыклону, што прыйшоў з Канады, рэзаў як нож. Ён выў і свістаў па вуліцах, часам нават заглушаючы лацінаамерыканскую музыку, што неслася з радыёпрыёмніка таксіста, і гойдаў аўтамабіль. Многія крамы былі адчыненыя, але на вуліцах амаль што не было пешаходаў, якія б спяшаліся па апошнія закупы. Тыя ж, хто наважыўся выйсці на вуліцу, выглядалі так, быццам ім вельмі няёмка або нават балюча.

Снег то пачынаў падаць, то спыняўся. Цяпер ён пачаўся зноў, пертвараючыся з мірнага, амаль казачнага карагода ў зласлівую завіруху Пазней, на шляху дадому, я буду глядзець на спалучэнне снегу, таксоўкі і Нью-Йорка са значна большай трывогай... але пакуль што я, вядома, не ведаў пра гэта.

На рагу Другой і Саракавой вуліцаў лунаў, як прывід, вялізны Калядны звон з бліскучага кардону.

– Кепскі вецер,– сказаў вадзіцель.– Назаўтра ў моргу прыбавіцца тузіны з два мерцвякоў. Алкаголікаў ды бяздомных.

– Магчыма.

Вадзіцель памаўчаў

– Дый і добра,– сказаў ён нарэшце.– Менш выдаткаў на дапамогу па беспрацоўю, га?

– Ваш калядны настрой,– заўважыў я,– проста здзіўляе сваёй глыбінёй

Вадзіцель зноў памаўчаў.

– А вы адзін з тых лібералаў, у якіх за ўсіх сэрца баліць?– нарэшце спытаўся ён

– Я адмаўляюся ад адказу, на падставе таго, што мае словы могуць прывесці да пэўнай інкрымінацыі мяне самога,– прамовіў я

Таксіст хмыкнуў з выглядам чалавека, якому заўсёды шанцуе на падобных разумнікаў але такі змоўк.

Ён высадзіў мяне на рагу Другой і Трыццаць Пятай вуліцаў, і паўквартала да клуба я прайшоў, прыгінаючыся ад ветру, што дзьмуў у твар, і прытрымліваючы капялюш. Літаральна праз секунду ўсе жыццядайныя сілы быццам схаваліся недзе глыбока ў маім целе, нагадваючы агеньчык запальнічкі, у якой канчаецца газ Калі табе семдзесят тры, то холад пачынаеш адчуваць больш хутка і глыбока. Такі чалавек павінен сядзець дома ля каміна. . ці, прынамсі, ля электраабагравальніка Калі табе семдзесят тры, то гарачая кроў – гэта нават не ўспамін, гэта – акадэмічная справаздача.

Вецер патроху сціхаў, але сухі і жорсткі снег усё яшчэ біў у твар. Мяне ўзрадавала,

што сходы, якія вялі да дзвярэй будынка 249B, былі пасыпаныя пяском – праца Стывенса, які цудоўна ведаў алхімію старэйшага ўзросту: гэта калі не волава ператвараецца ў золата, а старыя косткі ў крохкае шкло Думаючы пра падобныя рэчы, я часам уяўляю Бога вялікім блазнам

Стывенс адкрыў дзверы, і праз хвіліну я ўжо быў унутры Потым па калідоры, абшытым панелямі чырвонага дрэва, праз вялізныя дзверы – у бібліятэку, яна ж чытальная зала, яна ж бар Гэта быў цёмны пакой з рэдкімі кругамі святла ад настольных лямпаў. Больш насычанае святло ляжала на падлозе дубовага паркету, а ў вялікім каміне патрэсквалі бярозавыя дровы Цяпло расцякалася па ўсім пакоі На мой погляд, няма нічога лепшага за мяккае цяпло, што дае агонь у каміне. Пачуўся сухі, нервовы шоргат паперы Гэта напэўна Йогансэн са сваёй "Уол-Стрыт Джорнэл" Пасля дзесяці гадоў знаёмства можна было здагадацца аб яго прысутнасці па тым, як ён чытае курсы акцый Забаўная .. і, па-свойму, дзіўная рэч.

Стывенс дапамог мне зняць паліто, мармычучы, што вечар проста жахлівы, а мясцовая радыёстанцыя якраз перадавала прагноз надвор'я. моцны снегапад усю ноч

Я пагадзіўся наконт жахлівага вечара і зноў агледзеў пакой з высокай столлю. Жахлівы вечар, палаючы агонь у каміне .. і гісторыя пра прывіды. Ці казаў я, што ў семдзесят тры гарачая кроў – гэта толькі ўспамін з мінулага? Магчыма, што і казаў Аднак пры думцы аб гісторыі нешта цёплае расцяклося па грудзях, і гэта было выклікана ані агнём у каміне, ані шчырым прыёмам Стывенса

Магчыма, таму, што была чарга Маккарана расказваць гісторыю.

***

Я прыходзіў у стары будынак на Трыццаць Пятай вуліцы пад нумарам 249B ужо дзесяць гадоў Прыходзіў амаль рэгулярна Я заўсёды лічыў нас "джэнтльменскім клубам" з далёкага мінулага. Але і цяпер я не ўпэўнены ў тым, што ж гэта такое на самай справе і як я насамрэч трапіў сюды.

У клубе было каля трынаццаці сяброў, але ў той халодны зімовы вечар, калі Эмлін Маккаран расказаў сваю гісторыю – гісторыю пра Метад Правільнага Дыхання – прыйшло толькі шасцёра. Здараліся гады, калі ў клубе было толькі восем сапраўдных сяброў, а быў час, калі клуб налічваў чалавек дваццаць, калі не болей.

Па-мойму, Стывенс павінен ведаць, з чаго пачаўся клуб. У чым я *абсалютна* ўпэўнены, дык у тым, што Стывенс знаходзіўся тут ад самага пачатку, як бы даўно ён ні быў I яшчэ я лічу, што Стывенс значна старэйшы, чымсьці падаецца *Нашмат* старэйшы У яго лёгкі бруклінскі акцэнт, але нягледзячы на гэта ён такі пунктуальны і паслужлівы, як англійскі дварэцкі ў трэцім пакаленні. Стрыманасць Стывенса з'яўляецца неад'емнай часткай яго часта раздражняючага шарму, а ягоная ўсмешка – гэта дзверы, закрытыя на ўсе замкі і засаўкі. Калі ён і вядзе запісы аб дзейнасці клуба, я іх ніколі не бачыў Я ніколі не чуў пра тое, што ў клубе трэба плаціць складкі. Мяне ніколі не выклікаў сакратар клуба – яго папросту няма А яшчэ ў будынку 249B на Трыццаць Пятай вуліцы няма тэлефонаў Тут няма і скрыні з чорнымі і белымі шарамі для галасавання Дарэчы, у клуба, калі гэта і сапраўды клуб, няма назвы

***

Упершыню я трапіў у клуб (я буду называць яго менавіта так) у якасці госця Джорджа Уотэрхаўса. Уотэрхаўс быў кіраўніком юрыдычнай фірмы, дзе я працаваў з 1951 года. Мой рост у фірме – адной з трох найбуйнейшых у Нью-Йорку – быў стабільны, але вельмі павольны Я быў працаголікам, я б нават сказаў, цяглавым канём аднак іскрынкі геніяльнасці ўва мне не было. Я назіраў, як людзі, з якімі я пачынаў працу, ішлі наперад сямімільнымі крокамі, пакідаючы мяне далёка ззаду. I назіраў без зайздрасці

Уотэрхаўс і я абменьваліся ветлівымі словамі на штогадовых агульных вячэрах, якія давала фірма кожны кастрычнік, і да восені 196- года, калі ён прыйшоў да мяне ў офіс, практычна не мелі блізкіх зносін

Сам факт яго прыходу ўжо быў нечаканасцю і выклікаў у мяне шэраг думак, як чорных (аб магчымым звальненні), так і ружовых (аб магчымым павышэнні). То быў дзіўны візіт. Уотэрхаўс стаяў у дзвярах і гаварыў пра нейкія агульныя рэчы. Нішто з таго, што ён казаў, не было ані важным, ані сур'ёзным. Я чакаў, калі ён скончыць з кампліментамі і пяройдзе да справы: "А цяпер да справаздачы па Кейсі", або "Нас папрасілі паглядзець матэрыялы аб прызначэнні Салковіча на пасаду.. " Аднак, здавалася, што спраў у яго не было. Ён глянуў на гадзіннік, сказаў, што яму спадабалася нашая гамонка і што яму трэба ісці.

Я ўсё яшчэ ашаломлена міргаў, калі ён павярнуўся і спакойна сказаў:

– Я тут хаджу амаль кожны чацвер у нешта накшталт клуба. У асноўным старпёры, аднак некаторыя з іх даволі цікавыя. А калі вы знаецеся на вінах, то вам спадабаецца тое, што там падаюць. Час ад часу хто-небудзь распавядае цікавую гісторыю Чаму б вам не зайсці туды аднаго вечара, Дэвід? У якасці майго госця.

Я прамармытаў нешта ў адказ, але цяпер не магу прыгадаць, што ж я сказаў. Прапанова мяне проста ўразіла. Гучала яна так, быццам гэтая думка толькі што прыйшла да яго. Аднак у ягоных вачах з англасаксонскага блакітнага лёду не было нічога, што казала б пра паспешлівасць. I калі я і не памятаю, што я адказаў, дык таму, што раптам зразумеў – ягоная прапанова, наколькі выпадковай яна б ні падалася, была менавіта тым, чаго я ад яго чакаў

Рэакцыя Элен у той вечар была здзіўлена-раздражнёнай. Я працаваў у "Уотэрхаўс, Кардэн, Лотан, Фрэзье і Эфінгам" амаль пятнаццаць гадоў і не мог спадзявацца трапіць вышэй тае сярэдняе пасады, якую меў у той час. Менавіта жонка сказала, што гэтая прапанова – проста ўзнагарода за выслугу гадоў, як залаты гадзіннік, што даюць у падарунак на іншых фірмах.

– Старыя, што расказваюць ваенныя гісторыі ды гуляюць у покер,– сказала яна.– Вечар у такім клубе, і пасля ты павінен ім быць удзячны за гонар ажно да пенсіі. Я пакіну табе два піва ў халадзільніку

Яна цёпла пацалавала мяне. Магчыма, Элен нешта прачытала на маім твары – пасля стольких гадоў сумеснага жыцця яна вельмі добра чытае па маім твары.

Некалькі тыдняў усё ішло як звычайна. Калі я ў думках вяртаўся да дзіўнае прапановы Уотэрхаўса – вядома ж, дзіўнае, бо сыходзіла яна ад чалавека, з якім мы бачыліся меней чым раз на месяц і з якім я размаўляў на двух-трох афіцыйных абедах фірмы ў год, уключаючы кастрычніцкі, – то думаў, што, напэўна, памыліўся наконт ягоных вачэй і што прапанова была зробленая з ветлівасці і што ён на яе даўно забыўся А, магчыма, і пашкадаваў пра яе. Аднак аднаго дня гэты яшчэ даволі моцны сямідзесяцігадовы мужчына падышоў да мяне і сказаў:

– Калі вы ўсё яшчэ не супраць келіха добрага віна ў клубе, то як наконт сённяшняга вечара?

– Ну... я...

– Добра,– ён паклаў мне ў руку кавалак паперы.– Тут адрас.

У той вечар ён чакаў мяне ля ўвахода, а дзверы нам адчыніў Стывенс. Як Уотэрхаўс абяцаў, віно было выдатнае. Ён нават не спрабаваў пазнаёміць мяне з прысутнымі – спачатку я ўзяў гэта за снабізм, аднак пазней адкінуў такую думку – але двое-трое з іх прадставіліся самі. Адным з іх быў Эмлін Маккаран, якому ўжо тады было каля сямідзесяці Ён працягнуў руку. Скура была сухая, шорсткая, амаль як панцыр у чарапахі Ён спытаўся, ці гуляю я ў брыдж. Я сказаў, што не.

– На рэдкасць добрая рэч,– сказаў ён – Гэтая чортава гульня ў нашым стагоддзі болей чымсьці што іншае забіла інтэлектуальную размову па абедзе.

Пасля гэтае прамовы ён адышоў у змрок бібліятэкі, дзе кніжныя паліцы ўзнімаліся да столі.

Я азірнуўся, шукаючы Уотэрхаўса, але ён знік Адчуваючы сябе крыху няёмка і абсалютна не на сваім месцы, я павольна падышоў да каміна. То была, як я ўжо казаў, вялізная рэч. Асабліва вялізным камін здаваўся для Нью-Йорка, дзе жыхарам невялікіх кватэр цяжка ўявіць у пакоі нешта больш вялікае за машыну, што робіць пап-корн або тосты. А ў каміне дома 249B па Трыццаць Пятай вуліцы можна было без цяжкасцяў запячы быка. Звычайнае каміннае паліцы не было, толькі арка з неабчэсанага каменю, у цэнтры якое знаходзіўся больш вялікі пляскаты камень з надпісам на ўзроўні вачэй Хаця святло было няяркае, я без цяжкасцяў прачытаў напісанае· ВАЖНА САМА ГІСТОРЫЯ, А НЕ ТОЙ, ХТО ЯЕ РАСКАЗВАЕ.

– А вось і я, Дэвід,– пачуўся голас Уотэрхаўса, і я ажно падскочыў Ён мяне не кінуў, проста пайшоў у невядомы мне бар па напоі.– Для цябе віскі з содавай?

– Так. Дзякуй, пан Уотэрхаўс.

– Джордж. Тут проста Джордж.

– Джордж,– паўтарыў я, хаця мне падалося вар'яцтвам звяртацца да яго па імені.– А што гэта.

– Тваё здароўе,– сказаў ён.

Мы выпілі

– Барам займаецца Стывенс. Цудоўныя кактэйлі робіць. Ён любіць казаць, што гэта дробязная, але жыццяважная звычка.

Віскі дапамагло мне крыху зняць напружанасць і няёмкасць (але толькі крыху: я амаль паўгадзіны глядзеў у шафу, разважаючы, што ж апрануць; нарэшце спыніўся на цёмна-карычневых нагавіцах і пінжаку грубага цвіду, які амаль пасаваў да іх, спадзеючыся, што мне не давядзецца трапіць у кампанію мужчын у смокінгах або ў пацёртых джынсах і навамодных кашулях а-ля дрывасек аказалася, што ў выбары вопраткі я амаль што не памыліўся). Незнаёмае месца і новая сітуацыя робяць чалавека вельмі чуллівым да ўсіх магчымых пратакольных фармальнасцяў, нават калі гэта дробязі. Таму, стоячы з келіхам у руцэ пасля дзяжурнага тоста, я не хацеў прапусціць ніводнае фармальнасці.

– Ці ёсць тут кніга для гасцей, дзе мне трэба распісацца?– спытаўся я.

Ён крыху здзіўлена паглядзеў на мяне

У нас нічога падобнага няма. Прынамсі, я так *лічу*

Ён абвёў вачыма цёмны, ціхі пакой. Йогансэн чытаў "Уол-Стрыт Джорнэл" У дальнім кутку пакоя я ўбачыў Стывенса, які ў сваёй светлай лібрэі нагадваў прывід. Джордж паставіў свой келіх на край стала і кінуў у камін вялікі кавалак дрэва. У чорную зеўру коміна панёсся сноп іскраў.

– Што гэта азначае?– запытаўся я, паказаўшы на надпіс на камені.– Не ведаеш?

Уотэрхаўс уважліва прачытаў надпіс, быццам бачыў яго ўпершыню ВАЖНА САМА ГІСТОРЫЯ, А НЕ ТОЙ, ХТО ЯЕ РАСКАЗВАЕ.

Здаецца, ведаю,– сказаў ён. І ты будзеш ведаць, калі вернешся сюды. Так, я б нават сказаў, што ў цябе наконт гэтага з'явіцца некалькі ідэй. Але ўсё ў свой час. Адпачывай, Дэвід.

І ён адышоў убок. А я, хаця гэта можа падацца дзіўным для чалавека, што апынуўся ў абсалютна незнаёмай сітуацыі, і сапраўды з задавальненнем адпачыў. Па-першае, я заўсёды любіў кнігі, а тут цікавых кніг было шмат. Я паволі ішоў уздоўж паліц, вывучаючы назвы кніг у няяркім святле, час ад часу выцягваючы тую ці іншую. Я спыніўся, каб зірнуць праз вузкае акно на скрыжаванне з Другой авеню Стаяў і праз зацягнутае марозным узорам акно глядзеў, як святлафор падміргвае чырвоным, жоўтым, зялёным, зноў чырвоным, і раптам адчуў, як да мяне прыйшло дзіўнае, але такое пажаданае пачуццё спакою. Яно не нахлынула, як кажуць часам, а амаль што па-зладзейску пракралася да мяне *Ну, ну,* чую я вашыя галасы, *вялікае адкрыццё зрабіў; любы адчуе мір і спакой, гледзячы на агні святлафора.*

Так, сэнсу тут не было *аніякага* У гэтым я з вамі згодны. Аднак пачуццё было са мной і ўсё тут. Упершыню за некалькі гадоў я зноўку прыгадаў зімовыя ночы ў вясковым доме ў Віскансіне, дзе я вырас: я ляжаў у ложку ў маім пакоі на другім паверсе, і проста адчуваў асалоду ад кантрасту паміж свістам студзеньскага ветру, снегам, сухім, як пясок, што пакрываў усё на многія мілі навокал, і цяплом, якое выпраменьвала маё цела пад дзвюма тоўстымі коўдрамі

На паліцах стаяла некалькі кніг па юрыспрудэнцыі, але напрамак іх быў даволі дзіўны, я памятаю дзве назвы "Дваццаць спраў аб забойстве шляхам расчлянення і іх разгляд згодна брытанскага заканадаўства" і "Справы аб хатніх жывёлах" Я адкрыў другую кнігу і, як і павінна было быць, гэта аказаўся даведнік (гэтым разам па амерыканскім заканадаўстве) па справах, што тычыліся хатніх жывёл – ад звычайных катоў, якія атрымалі ў спадчыну вялізныя сумы грошай, да ацэлота, што сарваўся з ланцуга і сур'ёзна параніў паштальёна.

Быў там збор твораў Дзікенса, збор твораў Дэфо, амаль бясконцы збор твораў Тролапа і таксама збор раманаў адзінаццаць – пісьменніка Эдварда Грэя Севіла. Яны былі перапплецены ў прыгожую зялёную скуру, на карашку золатам была выціснута назва друкарні – "Стэдхам і сын" Я ніколі не чуў пра Севіла ці пра яго выдаўцоў. Дата публікацыі першага рамана Севіла "То былі браты нашыя" – 1911 год, апошняга –"Парушальнікі" – 1935 год.

Дзвюма паліцамі ніжэй ад раманаў Севіла знаходзіўся вялікі фаліянт, у якім змяшчаліся падрабязныя планы энтузіястаў распрацоўкі эрэктару. Побач стаяў яшчэ адзін фаліянт, дзе былі сабраныя знакамітыя сцэны са знакамітых фільмаў. Кожная карцінка займала цэлую старонку, а старонку насупраць займаў верш вольнага памеру і вольнае рыфмы, які або апісваў карцінку, або быў натхнёны ёй. Канцэпцыя не вельмі арыгінальная, аднак паэты, тут прадстаўленыя, былі, мякка кажучы, знакамітыя: Роберт Фрост, Мэрыэн Мур, Уільям Карлас Уільямс, Уолас Стывенс, Луіс Зукофскі, Эрыка Джонг – і гэта толькі некаторыя з іх. Недзе ў сярэдзіне кнігі я знайшоў верш Элджэрнана Уільямса да знакамітага фотаздымка Мэрылін Манро, што стаіць на кратах сістэмы вентыляцыі і спрабуе ўтрымаць спадніцу Верш называўся "Звон" і пачынаўся так:

Форма спадніцы яе<br>
– можна сказаць –<br>
нагадвае звон,<br>
А ногі язык таго звона

і так далей. Не самы кепскі верш, аднак і не самы лепшы з твораў Уільямса, далёка не лепшы. Я лічыў, што маю права на падобнае меркаванне, бо прачытаў даволі шмат вершаў Элджэрнана Уільямса Аднак не мог прыгадаць гэтага верша аб Мэрылін Манро (а менавіта пра яе гэты верш і напісаны; нават калі не бачыць фатаграфіі, то сам Уільямс у канцы піша: *Ногі мае вызвоньваюць маё імя:/Мэрылін,* ma belle) Я пасля гэтага шукаў верш ва ўсіх зборніках паэта, дый паўсюль, але не знайшоў хаця гэта, вядома, ні пра што не кажа. Вершы зусім не падобныя на раманы або юрыдычныя справы; яны больш нагадваюць апалае лісце, і любы, самы вялікі том, што мае назву "Поўны збор твораў. .", амаль напэўна мана Вершы маюць тэндэнцыю губляцца пад канапамі – гэта адна з іх чарадзейных уласцівасцяў і адна з прычын іх жыццяздольнасці. Але...

Падышоў Стывенс з келіхам віскі (да таго часу я ўжо знайшоў сабе крэсла, дзе сядзеў з томікам Эзры Паўнда). Віскі было-такі самае добрае, як і першая порцыя. Смакуючы напой, я заўважыў, як Джордж Грэгсан і Гары Стайн (Гары памёр за шэсць гадоў да таго вечара, калі Эмлін Маккаран апавядаў пра Метад Правільнага Дыхання) выйшлі з пакоя праз дзіўныя дзверы, крыху болей за метр вышынёй. Ну проста дзверы ў чароўны сад Аліса ў Краіне Цудаў Дзверы яны не зачынілі, і ў хуткім часе пасля іх дзіўнага сыходу з бібліятэкі я пачуў прыглушаны гук більярдных шароў.

Зноў з'явіўся Стывенс і спытаўся, ці хачу я яшчэ віскі. Я з бачным жалем адмовіўся. Ён кіўнуў

– Добра, сэр.

Твар яго ні на секунду не змяніў выразу, але я неяк адчуў, што мой адказ яму спадабаўся.

Яшчэ праз нейкі час мяне ад кнігі адарваў смех. Хтосьці кінуў у агонь пакет з хімічным рэчывам, на імгненне ператварыўшы агонь у вясёлы феерверк. Я зноў вярнуўся ў думках да дзяцінства. аднак не ў слязліва-настальгічных або празмерна разважлівых думках. Бог ведае, чаму, але я зноў і зноў хачу падкрэсліць гэта. Я думаў пра тыя часы, калі я сам рабіў падобныя жарты, і ўспаміны былі моцныя, прыемныя, без ценю жалю пра мінулае.

Я ўбачыў, што большасць прысутных прысунула крэслы да каміна, утварыўшы паўкруг. Стывенс прынёс вялікую талерку, поўную гарачых сасісак. Гары Стайн вярнуўся праз "дзверы Алісы" і паспешліва, але прыязна прадставіўся мне Грэгсан застаўся ў більярднай; мяркуючы па грукатанні шароў – практыкаваў удары.

Пасля хвіліны ваганняў я далучыўся да іншых. Апавядалася гісторыя – не вельмі прыемная. Расказваў Норман Стэт. Не збіраюся яе тут паўтараць, але пэўна вы зразумееце маё да яе стаўленне, калі я скажу, што ў ёй казалася пра чалавека, які патануў у тэлефоннай будцы.

Калі Стэт – ён таксама памёр – скончыў, нехта сказаў:

– Трэба было прыберагчы яе на Каляды, Норман.

Пачуўся смех, якога я, вядома, не зразумеў Прынамсі, у той час.

Тады загаварыў Уотэрхаўс і такі Уотэрхаўс, якога я не мог бы сабе ўявіць нават і праз тысячу гадоў Выпускнік Ейла, член "Фі Бета Каппа", са срэбнымі ад сівізны валасамі, у касцюме-тройцы, кіраўнік такое вялікае юрыдычнае фірмы, што яе правільней было б назваць кангламератам – і вось гэты самы Уотэрхаўс

расказаў гісторыю пра настаўніцу, якая захраснула ў прыбіральні. Прыбіральня стаяла за будынкам невялікае школы, дзе гэтая настаўніца выкладала, а ў той дзень, калі яна так няўдала ўсадзіла свой зад у адну з дзвюх адтулін, прыбіральню збіраліся забраць у якасці экспаната выставы "Былое жыццё ў Новай Англіі", што праводзілася ў Бостанскім выставачным цэнтры. Настаўніца нават не варухнулася, калі прыбіральню паднімалі на спецыяльны грузавік, настолькі яна была ахопленая жахам і сорамам, сказаў Уотэрхаўс. Але дзверы прыбіральні шырока расчыніліся якраз у момант пік на адной з найбольш ажыўленых магістраляў Бостана ..

Аднак я не буду пераказваць ані гэтую гісторыю, ані якую яшчэ з тых, што пачуў у той вечар. Бо я збіраюся расказаць зусім іншую. У пэўны момант Стывенс прынёс бутэльку брэндзі, якое было не проста добрым, а выключна цудоўным. Бутэлька пайшла па крузе, і Йогансэн сказаў тост, які быў вельмі да месца. важна сама гісторыя, а не той, хто яе расказвае

І мы выпілі за гэта.

У хуткім часе сябры клуба патроху пачалі разыходзіцца. Было няпозна, яшчэ не было поўначы, аднак я заўважыў, што калі пяты дзесятак пакрысе пераходзіць у шосты, "позна" пачынаецца ўсё раней і раней. Убачыўшы, што Уотэрхаўс апранае паліто, якое трымаў яму Стывенс, я палічыў, што і мне час ісці. Мяне здзівіла, што Уотэрхаўс сыходзіць, нават не развітаўшыся са мной (а менавіта так і атрымалася б, калі б я затрымаўся ля паліцы, на якую ставіў том Паунда), аднак гэта не было больш дзіўным за тое, што ўжо адбылося ў той вечар.

Я выйшаў адразу ж за ім. Уотэрхаўс азірнуўся, быццам быў здзіўлены, убачыўшы мяне тут, або быццам прачнуўся ад лёгкага сну.

– Паедзем разам?– спытаўся ён так, як бы толькі што сустрэў мяне на гэтай заснежанай, халоднай вуліцы.

– Дзякуй,– адказаў я. Я хацеў падзякаваць за шмат большае, чымсьці прапанову паехаць разам, і, думаю, што па маім тоне гэта было зразумела, аднак ён кіўнуў так, быццам пачуў толькі падзяку за апошнюю прапанову. Таксоўка, на якой зіхацеў агеньчык "вольная", марудна рухалася ў наш бок – людзі накшталт Джорджа Уотэрхаўса маюць шчасце знайсці таксі нават у падобныя халодныя, ветраныя ночы ў Нью-Йорку, калі вы заложыцеся, што на ўсёй выспе Манхэтан няма ніводнае таксоўкі – і ён, махнуўшы рукой, спыніў легкавік.

У машыне дзе было ўтульна і цёпла, а гук лічыльніка супакойваў, я сказаў, што мне вельмі спадабалася яго гісторыя. Я не мог прыгадаць, каб я так шчыра смяяўся за апошнія пяцьдзесят гадоў, і гэта быў не танны камплімент, а праўда.

– Так? Мне прыемна гэта пачуць.

Яго голас быў холадна ветлівы. Я сціх, адчуваючы, што чырванею. Часам не абавязкова чуць грукат дзвярэй, каб зразумець, што яны зачыніліся.

Калі таксоўка пад'ехала да майго дома, я зноў падзякаваў яму, і гэтым разам атрымаў больш цёплы адказ.

– Добра, што вы змаглі прыйсці сёння,– сказаў ён.– Калі вам спадабалася, прыходзьце яшчэ. Не чакайце запрашэння, у доме дзвесце сорак дзевяць бі не прытрымліваюцца асаблівых цырымоній У чацвер расказваюць самыя цікавыя гісторыі, аднак клуб працуе кожны вечар.

*Дык я прыняты ў клуб?*

Гэтае пытанне ўжо было на маіх вуснах. Я хацеў задаць яго, яно здавалася *неабходным.* Аднак пакуль я пракручваў яго ў галаве, як кожны юрыст (ці правільна сфармуляваная фраза), думаючы, ці не занадта нахабнае гэта пытанне, Уотэрхаўс ад'ехаў у бок Цэнтральнага парку З хвіліну я пастаяў на тратуары, дзе вецер шкуматаў крысо майго паліто, думаючы. *Ён ведаў, што я збіраюся задаць яму гэтае пытанне, напэўна ведаў і таму ад'ехаў раней, чым я наважыўся.* Потым я сказаў сабе, што гэта проста абсурд, паранойя нейкая. Так яно і было. Аднак гэта было таксама праўдай. Я мог колькі заўгодна абражацца або смяяцца, аднак гэта нічога не мяняла.

Я паволі пайшоў дадому

Калі я сеў на край ложка, каб зняць абутак, Элен была напаўсонная Яна павярнулася і прамармытала нешта з пытальнікам у канцы Я проста сказаў ёй, каб яна спала далей

Яна зноў нешта прамармытала, і гэтым разам можна было разабраць "Яктамбыло?"

З хвіліну я вагаўся. І раптам ясна зразумеў: *Калі я скажу ёй, то больш ніколі не ўбачу таго пакоя.*

– Нармальна,– сказаў я.– Старыя, што расказвалі ваенныя гісторыі.

– Я ж табе казала.

– Але было някепска. Магчыма, я яшчэ схаджу туды Гэта можа добра паўплываць на маё становішча ў фірме.

– У фірме,– з лёгкай іроніяй сказала яна.– Які ж ты зануда, каханне маё.

Але каб ведаць гэта, трэба ведаць сапраўднага зануду,– парыраваў я, аднак яна ўжо заснула.

Я распрануўся, прыняў душ, апрануў піжаму . а потым, замест таго, каб легчы спаць (была ўжо другая гадзіна ночы), я накінуў халат і адкаркаваў бутэльку піва. Сядзеў за сталом у кухні, паволі цадзіў піва, глядзеў у акно на халодны каньён Мэдзісан-Авеню і думаў. Галава крыху гудзела ад колькасці алкаголю, спажытага за вечар (для мяне гэта была надзвычай вялікая колькасць) Аднак пачуццё было даволі прыемным, аніякіх прыкметаў магчымага ранішняга пахмелля

Думка, што прыйшла да мяне, калі Элен запыталася пра мой вечар, была такая самая бязглуздая, як думка пра Джорджа Уотэрхаўса, якая мітусілася ў маёй галаве, калі ён ад'язджаў у таксоўцы. Што, чорт бяры, было кепскага ў тым, каб расказаць жонцы пра абсалютна спакойны вечар у снабісцкім клубе майго боса дый нават, калі б і *было* нешта кепскае, то хто пра гэта даведаецца? Не, гэта такая самая бязглуздзіца і паранойя, як і папярэднія развражанні . і, як падказвала мне сэрца, такая самая праўда

***

Наступнага дня я сустрэў Джорджа Уотэрхаўса ў калідоры паміж аддзелам падлікаў і бібліятэкай Сустрэў? Сказаць прайшоў міма – будзе больш дакладна Ён кіўнуў мне і прамінуў, не вымавіўшы ні слова... як і шмат гадоў да гэтага

Мышцы страўніка балелі ўвесь дзень. То была адзіная рэч, якая падказвала, што мінулы вечар быў-такі рэальнасцю.

***

Прайшло тры тыдні Чатыры. . пяць. Новага запрашэння ад Уотэрхаўса не было. Пэўна я ім не пасаваў Прынамсі, так я казаў сам сабе Гэта была горкая, непрыемная думка Я спадзяваўся, што яна пачне патроху губляць сваю вастрыню і горыч, як гэта адбываецца з усімі непрыемнымі думкамі Аднак той вечар прыходзіў да мяне самымі нечаканымі ўспамінамі, напрыклад, пра калюжыны святла над сталамі ў бібліятэцы, такія супакойваючыя і такія строгія; пра абсурдную і смешную гісторыю, што расказаў Уотэрхаўс аб настаўніцы, якая захраснула ў прыбіральні; пра прыемны пах скураных пераплётаў А болей за ўсё пра той момант, калі я стаяў ля вузкага акна і глядзеў, як марозныя ўзоры на ім мянялі колер з зялёнага на жоўты, а потым на чырвоны. Я думаў пра тое пачуццё спакою, што ахапіла мяне тады

Усе гэтыя пяць тыдняў я хадзіў у бібліятэку, каб перачытаць чатыры зборнікі Элджэрнана Уільямса (тры з сямі я маю сам і ўжо прагледзеў іх), адзін са зборнікаў меў пыхлівую назву "Поўны збор твораў". Я перачытаў некалькі маіх любімых вершаў, але верша "Звон" не знайшоў ні ў адным са зборнікаў.

Таксама падчас наведвання Публічнай бібліятэкі Нью-Йорка я праверыў па каталогу раманы Эдварда Грэя Севіла Самае блізкае, што я знайшоў, быў дэтэктыўны раман пісьменніцы Рут Севіл

*Прыходзьце яшчэ, калі захочаце. Не чакайце запрашэння .*

Я ж, вядома, чакаў запрашэння, бо маці даўным-даўно навучыла мяне ніколі не верыць *абсалютна* ўсяму, што кажуць людзі, асабліва, калі гэта фраза накшталт "заходзь у любы час" ці "для цябе мае дзверы заўсёды адчыненыя" Я не лічыў, што трэба чакаць картку з залатым абрэзам, якую да дзвярэй прынясе лёкай у ліўрэі, аднак спадзяваўся на нейкі невялічкі маячок, нават калі гэта простая заўвага. "Можа прыйдзеш якога вечара, Дэвід? Спадзяюся, табе не было маркотна." Нешта падобнае.

Аднак, не дачакаўшыся нават гэтага, я пачаў усё больш настойліва думаць пра тое, каб такі пайсці. Часам людзі і *сапраўды* хочуць, каб вы прыйшлі яшчэ ў любы зручны час Я думаў, што ў некаторых месцах дзверы і сапраўды заўсёды адчыненыя і што маці не заўсёды мае рацыю

*... Не чакайце запрашэння .*

І вось 10 снежня таго года я зноў апрануў пінжак грубага цвіду, цёмна-карычневыя нагавіцы і адшукаў свой

цёмна-чырвоны гальштук. У той вечар сэрца ў мяне грукала, як звар'яцелае.

– Джордж Уотэрхаўс зламаўся-такі і яшчэ раз запрасіў цябе?– спыталася Элен.– У той хлеў, дзе рохкаюць мужчыны-антыфеміністы?

– Ага,– сказаў я, думаючы, што, магчыма, упершыню за гадоў дзесяць я зманіў.. а потым прыгадаў, што пасля таго запрашэння, адказваючы на яе пытанне пра тое, як усё там было, я таксама зманіў Старыя, што расказваюць гісторыі пра вайну, сказаў тады я.

– Што ж, магчыма, тут і сапраўды будзе павышэнне,– сказала яна . але без вялікае надзеі ў голасе Аднак, трэба аддаць ёй належнае, і без вялікае горычы.

– І не такое здаралася,– сказаў я, цалуючы яе на развітанне.

Калі я ўжо быў у дзвярах, яна раптам сказала

– Рохк-рохк.

Паездка ў таксі падалася мне вельмі доўгай. Вечар быў халодны, спакойны і зорны. Таксоўка была вялікая, і я неяк згубіўся ў ёй, быццам дзіця, што ўпершыню едзе па Нью-Йорку Калі машына спынілася каля будынка 249В, я адчуў хваляванне, простае хваляванне, якое даволі часта непрыкметна знікае з вашага жыцця і калі вяртаецца, то вы адчуваеце яго, здзіўляючыся таксама, як калі знаходзіце ў грэбені адзін-два несівыя валасы праз два гады пасля таго, як апошні раз бачылі ў сябе несівы волас.

Я заплаціў, выйшаў з таксоўкі і накіраваўся да чатырох прыступак, за якімі былі дзверы. З кожным крокам маё хваляванне перарастала ў змрочнае прадчуванне (з гэтым пачуццём старыя знаёмыя вельмі добра) Што я тут раблю?

Дзверы былі з тоўстага дубу і выглядалі, як брама сярэднявечнага замка Не было ні званка, ні малаточка, ні тэлекамеры, якая б хавалася ў цені, ні Уотэрхаўса, які б чакаў мяне Я спыніўся перад першай прыступкай і азірнуўся Трыццаць Пятая вуліца раптам падалася мне вельмі цёмнай, халоднай і даволі небяспечнай Усе дамы выглядалі загадкава, быццам хавалі таямніцы, раскрываць якія лепш і не спрабаваць. Вокны глядзелі на мяне як вочы.

*Недзе за адным з гэтых вокнаў можа знаходзіцца мужчына або жанчына, якія плануюць забойства,* падумаў я. Па спіне пабег халадок. *Плануюць.. або здзяйсняюць.*

Раптам дзверы адчыніліся. На парозе стаяў Стывенс.

Я адчуў вялікую палёгку. Я не вельмі вялікі фантазёр, прынамсі, не ў звычайных абставінах, аднак апошняя думка была настолькі рэальная, што яе магчыма было ўзяць за прадказанне. Я хацеў быў звярнуцца да Стывенса, але ўбачыў ягоныя вочы. Яны не ведалі мяне. Ягоныя вочы зусім мяне не ведалі.

І я ўбачыў новае прадказанне – я ўбачыў ва ўсіх жахлівых дэталях, як адбуду вечар. Тры гадзіны ў якім-небудзь ціхім бары. Тры віскі (а, магчыма, і чатыры), каб прыглушыць пачуццё сораму за тое, што я зрабіў глупства, пайшоў туды, дзе мяне не чакалі. Маці мела рацыю, і я дорага заплаціў, што не паслухаў яе парады.

Я ўявіў самога сябе крыху нападпітку і ў кепскім настроі. Бачыў, як еду моўчкі ў таксоўцы, без усялякага хвалявання і дзіцячае нецярплівасці. Чуў, як кажу Элен *Гэта робіцца нудным .. Уотэрхаўс расказаў тую ж самую гісторыю, як выйграў у покер супавыя косткі для трэцяга батальёна.. а потым яны гулялі ў джын па долару, можаш сабе ўявіць?... Пайсці туды зноўку? Магчыма, але не думаю, што мне хочацца* Вось так усё скончыцца не скончыцца толькі мой сорам

Усё гэта я ўбачыў у пустаце вачэй Стывенса. Потым яго вочы пацяплелі Ён усміхнуўся і сказаў:

– Пан Эдлі! Уваходзьце. Я дапамагу вам з паліто

Я падняўся па прыступках, і Стывенс зачыніў за мной дзверы. Як па-іншаму выглядаюць дзверы, калі знаходзішся з іх цёплага боку! Ён прыняў маё паліто і сышоў. З хвіліну я пастаяў у перадпакоі, гледзячы на сваё алюстраванне ў вялікім люстры, адлюстраванне шасцідзесяцітрохгадовага чалавека, твар якога даволі хутка робіцца выцягнутым і стомленым. Аднак мяне адлюстраванне задаволіла.

Я ціха прайшоў у бібліятэку

Там быў Йогансэн, які чытаў "Уол-Стрыт Джорнэл" У другім крузе святла сядзеў Эмлін Маккаран Ён гуляў у шахматы з Пітэрам Эндрусам. Маккаран вельмі худы мужчына з вузкім носам, які нагадвае лязо; Эндрус жа вялізны, з пакатымі плячыма На яго камізэльцы ляжала шырокая рудая барада. Седзячы насупраць адзін аднаго за шахматнай дошкай, яны выглядалі як індзейскія татэмы: мядзведзь і арол.

Уотэрхаўс таксама сядзеў за адным са столікаў са свежай "Таймс". Ён узняў вочы, кіўнуў мне і зноў схаваўся ў газету.

Стывенс прынёс мне віскі.

Я пайшоў да паліц і зноў знайшоў там загадкавы збор твораў у зялёным пераплёце. У той вечар я пачаў чытаць раманы Эдварда Грэя Севіла. Пачаў ад самага першага – "То былі браты нашыя". Патроху я прачытаў усе раманы, і лічу іх лепшымі творамі мастацкай літаратуры нашага стагоддзя.

У канцы вечара была расказана гісторыя – толькі адна – і Стывенс абнёс усіх брэндзі Калі гісторыя скончылася, людзі пачалі разыходзіцца. Стоячы ў дзвярах, што вялі ў перадпакой, Стывенс мякка, але настойліва спытаўся:

– Дык хто ж раскажа нам гісторыю на Каляды?

Усе адарваліся ад сваіх заняткаў і пачалі азірацца адзін на аднаго Чулася нейкае мармытанне і выбухі смеху.

Стывенс, з усмешкай на вельмі сур'ёзным твары, двойчы пляснуў у далоні, як настаўнік, што заклікае недысцыплінаваны клас да парадку.

– Ну дык, панове, хто раскажа нам гісторыю?

Пітэр Эндрус, той самы з пакатымі плячыма і рудою барадой, пракашляўся.

– Я тут думаў пра адну рэч. Не ведаю, ці падыдзе яна, я хачу сказаць, калі..

– Падыдзе,– перапыніў яго Стывенс, і зноў пачуўся смех. Нехта паляпаў Эндруса па спіне. У калідоры ўзнялася невялікая мітусня.

Як у чарадзейнай казцы, побач апынуўся Стывенс, трымаючы маё паліто.

– Добрай ночы, пан Эдлі. Прыемна было бачыць вас.

– А вы сапраўды сустракаецеся ў Калядны вечар?– спытаўся я, зашпільваючы паліто. Мне было шкада прапусціць гісторыю Эндруса, але мы з Элен ужо даўно запланавалі паехаць на Каляды ў Шэнектадзі да яе сястры.

На твары Стывенса з'явіўся выраз шоку і здзіўлення адначасова

– Ні ў якім выпадку,– прамовіў ён.– Каляды – гэта той час, калі чалавек хаця б раз за год павінен быць са сваёй сям'ёй. Вы згодны, сэр?

– Абсалютна згодны.

– Мы заўсёды сустракаемся ў чацвер перад Калядамі. Гэта адзін з тых вечароў, калі збіраецца шмат людзей.

Ён не сказаў *сяброў,* адзначыў я – простае супадзенне? Або гэтае слова тут увогуле не ўжываецца?

– Шмат гісторый было расказана ў галоўным пакоі, пан Эдлі Самых розных гісторый. Ад камічных да трагічных, ад іранічных да сентыментальных. Але ў чацвер перад Калядамі традыцыйна расказваецца гісторыя жахаў. Так было заўсёды, прынамсі, колькі я памятаю.

Гэта растлумачыла заўвагу, што я пачуў у свой першы візіт, калі Норман Стэт расказаў сваю гісторыю. На маіх вуснах ужо былі шматлікія іншыя пытанні, аднак у вачах Стывенса я ўбачыў нейкую перасцярогу. Не тое, каб гэта азначала, што ён не адкажа на мае пытанні, хутчэй, то было папярэджанне, што мне лепей увогуле не задаваць іх.

– Што-небудзь яшчэ, пан Эдлі?

Мы былі адны ў перадпакоі. Усе ўжо сышлі. І раптам перадпакой падаўся мне вельмі цёмным, твар Стывенса больш бляклым, а яго вусны – ярка-чырвонымі. У каміне выбухнуў сучок і па паркетнай падлозе на імгненне разлілося чырвонае святло. Мне падалося, што недзе ў адным з верхніх пакояў, мне пакуль не вядомых, я пачуў нейкае непрыемнае чмяканне Гэты гук мне не спадабаўся. Зусім не спадабаўся.

– Не,– адказаў я не вельмі ўпэўнена.– Пакуль нічога.

– Тады добрай вам ночы, сказаў Стывенс, і я выйшаў на ганак

Пачуў, як за мной зачыніліся цяжкія дзверы Як павярнуўся ключ у замку Я ішоў да агнёў Трэцяй авеню, не азіраючыся, чамусьці баючыся азірнуцца, быццам я мог убачыць нейкага монстра, што праследаваў, паўтараючы ўсе мае рухі, або нейкі сакрэт, пра які лепей не ведаць. На рагу я ўбачыў вольнае таксі і спыніў яго.

***

– Зноў ваенныя гісторыі?– спытала мяне Элен Яна была ў ложку з Філіпам Марлоў, адзіным каханкам, якога мела ў жыцці

– Расказалі пару гісторый,– сказаў я, вешаючы паліто ў шафу.– Я больш сядзеў і чытаў кнігу.

– Калі не рохкаў.

– Так. Калі не рохкаў.

– Паслухай вось гэта: *"Калі я ўпершыню ўбачыў Тэры Ленакса, ён быў п'яны і сядзеў у Ролс-Ройсе непадалёк тэрасы танцавальнага клуба. Твар яго быў малады, але валасы белыя, як костка. Па ягоных вачах можна было сказаць, што ён пакутуе, але ва ўсім іншым ён быў падобны да любога хлопца ў смокінгу, які выдаткуе зашмат грошай у месцах, што толькі для гэтага і ствараліся"* Файна, га? Гэта.

– "Доўгае развітанне" Рэйманда Чэндлера,– сказаў я, здымаючы абутак.– Ты чытаеш мне гэты ўрывак раз у тры гады. Гэта частка твайго жыццёвага цыкла

Яна зморшчыла нос.

– Рохк-рохк.

– Дзякуй,– сказаў я.

Яна вярнулася да кнігі, а я пайшоў на кухню па піва. Калі я вярнуўся, Элен паклала "Доўгае развітанне" на прыложкавы столік і ўважліва агледзела мяне

– Дэвід, ты ўвойдзеш у гэты клуб?

– Магчыма, так.. калі мяне запросяць.

Я пачуваўся няёмка, бо, здаецца, толькі што зноў здрадзіў ёй. Калі такая рэч, як сяброўства, і існавала ў дзіўным клубе на Трыццаць Пятай вуліцы, то я ўжо быў сябрам

– Я рада за цябе,– сказала яна – Табе ўжо даўно было патрэбна нешта падобнае. Ты, магчыма, не здагадваўся пра гэта, але я бачыла. У мяне ёсць Камітэт дапамогі, Тэатральнае таварыства, Камісія па правах жанчын Табе таксама патрэбна нешта і нехта. Людзі, з якімі ты разам старэеш.

Я падышоў да ложка, сеў побач і ўзяў "Доўгае развітанне" Гэта было новае выданне ў мяккай вокладцы. Я яшчэ памятаў, як купіў першае выданне кнігі ў цвёрдай вокладцы на дзень нараджэння Элен. У 1953 годзе

– Мы ўжо старыя?– спытаўся я

– Баюся, што так,– адказала яна з усмешкай

Я паклаў кнігу і дакрануўся да яе грудзей

– Для гэтага таксама старыя?

Яна нацягнула на сябе покрыва, потым нагамі скінула яго на падлогу.

– Паспрабуй, татусік,– сказала яна смеючыся – Паглядзім, на што ты здольны.

– Рохк-рохк,– адказаў я, і мы абое зарагаталі.

***

Чацвер напярэдадні Калядаў. Той вечар быў у многім падобны на іншыя, але былі дзве рэчы, што адрознівалі яго ад іншых. Людзей было значна больш, магчыма, чалавек васемнаццаць. А ў паветры лунала некае ўзрушэнне. Йогансен толькі глянуў у сваю газету і амаль адразу далучыўся да Маккарана, Х'ю Біглмана і мяне Мы сядзелі ля акна, гаманілі пра тое ды іншае і нарэшце пачалі гарачае абмеркаванне даваенных аўтамабіляў

Было, між іншым, і трэцяе адрозненне: Стывенс прыгатаваў найсмачнейшы пунш. Ён быў мяккі і адначасова востры да рому і спецый. Налівалі яго з вялізнай крышталёвай вазы, падобнай на скульптуру з ільду. Са змяншэннем колькасці пуншу мацнела гамана.

Я глянуў у вугал пакоя, дзе знаходзіліся маленькія дзверы, што вялі ў більярдную, і са здзіўленнем убачыў, як Уотэрхаўс і Норман Стэт кідалі бейсбольныя карткі ў бабровы капялюш Яны безупынна рагаталі

Людзі пераходзілі ад аднае групкі да іншае, стваралі свае Рабілася позна, і вось, калі звычайна ўсе пачыналі сыходзіць, Пітэр Эндрус сеў перад камінам, трымаючы ў руцэ невялічкі папяровы пакунак. Ён шпурнуў яго ў агонь, і той затанчыў усімі магчымымі і немагчымымі фарбамі, потым зноў зрабіўся жоўты Людзі пачалі бліжэй пасоўваць крэслы. Я ясна бачыў камень з надпісам. ВАЖНА САМА ГІСТОРЫЯ, А НЕ ТОЙ, ХТО ЯЕ РАСКАЗВАЕ.

Стывенс непрыкметна забраў шклянкі ад пуншу і замяніў іх на келіхі з брэндзі Чуліся словы: "Шчаслівых Калядаў, Стывенс", і ўпершыню я ўбачыў, як людзі давалі яму грошы. дзесяць долараў у адным месцы, пяцьдзесят у другім, нават стодоларавы банкнот

– Дзякуй вам пан Маккаран.. пан Йогансен. пан Біглмэн.

Ціхі шэпат добра выхаваных людзей

Я даволі доўга жыў у Нью-Йорку, каб ведаць, што час Калядаў – гэта сапраўдны карнавал напіўкаў· мясніку, пекару, кандытару, не кажучы ўжо пра швейцара, дворніка і прыбіральшчыцу, якая прыходзіць па аўторках і пятніцах. Я ніколі не сустракаў чалавека, які б не лічыў гэтую традыцыю непрыемным абавязкам але ў той вечар нічога падобнага не адчувалася. Грошы даваліся шчыра... і раптам, без дай прычыны (а менавіта так да вас прыходзілі думкі, калі вы ў доме 249В) я падумаў пра хлопчыка, які пытаецца ў Скруджа халодным лонданскім калядным ранкам· "Што? Гусь велічынёй з мяне?" І Скруджа, амаль ашалелы ад радасці, хіхікае: "Добры хлопчык! Цудоўны хлопчык!"

Я дастаў партаманет. У дальнім аддзяленні за фатаграфіямі Элен заўсёды ляжыць пяцідзесяцідоларавы банкнот на ўсялякі выпадак. Калі Стывенс працягнуў мне келіх з брэндзі, я не вагаючыся перадаў яму банкнот... хаця багатым чалавекам мяне не назавеш.

– Вясёлых Калядаў, Стывенс,– сказаў я.

– Дзякуй, сэр. І вам таго самага.

Ён скончыў раздаваць брэндзі і збіраць святочныя напіўкі і сышоў. У сярэдзіне аповеду Пітэра Эндруса я азірнуўся і ўбачыў Стывенса ля дзвярэй, нерухомага і ціхага, як шэры цень.

– Як большасць з вас ведае, я юрыст,– пачаў Эндрус, адпіўшы крыху брэндзі і пракашляўшыся.– Вось ужо дваццаць два гады я маю ўласную фірму на Парк-Авеню. Аднак да таго я быў памочнікам у юрыдычнай фірме, што месцілася ў Вашынгтоне. Аднаго ліпеньскага вечара мяне папрасілі затрымацца на працы, каб падрыхтаваць спасылкі для аднае справы з іншых падобных да яе, але да маёй гісторыі тая справа не мае ніякага дачынення. І тут у канторы з'явіўся чалавек. Знакаміты на той час сенатар, які пазней ледзьве не зрабіўся прэзідэнтам. Яго кашуля была запэцканая крывёю, а вочы амаль вывальваліся з вачніц.

– Мне трэба пагаварыць з Джо,– сказаў ён.

Джо ён называў Джозефа Вудса, кіраўніка фірмы, аднаго з найбольш уплывовых прыватных юрыстаў Вашынгтона, свайго вельмі блізкага сябра.

– Ён ужо даўно дома,– сказаў я.

Павінен вам сказаць, што я страшэнна перапалохаўся: сенатар выглядаў як чалавек, які толькі што пераж ыў жахлівае транспартнае здарэнне або ўдзельнічаў у бойцы з панажоўшчынай. І яшчэ больш мяне палохаў ягоны твар, які я добра ведаў з вокладак часопісаў і першых старонак газет; на гэтым твары быў намаляваны неапісальны жах, вочы гарэлі дзікім агнём, а адна шчака торгалася.

Я адразу схапіўся за тэлефон, каб як мага хутчэй знайсці кагосьці, каму б я мог перадаць адказнасць за гэтага чалавека Зірнуўшы на дыван, па якім ён прайшоў у кабінет, я заўважыў, што там засталіся крывавыя сляды

– Мне трэба тэрмінова пагаварыць з Джо,– паўтарыў ён, быццам не чуючы мяне – У багажніку майго аўтамабіля ляжыць нешта нешта, што я знайшоў у маім доме ў Вірджыніі. Я страляў у яго, рэзаў яго, але я не магу яго забіць. Бо гэта не чалавек, я не магу забіць яго

Ён пачаў хіхікаць... потым рагатаць нарэшце завішчаў Ён усё яшчэ вішчаў, калі я дазваніўся да пана Вудса і маліў яго прыйсці як мага хутчэй ..

Я не збіраюся пераказваць і гісторыю Пітэра Эндруса. Шчыра кажучы, не думаю, што ў мяне хопіць мужнасці пераказаць яе Дастаткова будзе сказаць, што яна была настолькі жудасная, што на працягу некалькіх тыдняў я бачыў яе ў кашмарах, а аднае раніцы Элен запыталася, чаму я пасярод ночы закрычаў: "Галава! Ягоная галава ўсё яшчэ гаворыць да мяне з-пад зямлі!"

– Пэўна, прысніў,– адказаў я.– Але сну я не памятаю

Я адразу ўтыркнуўся ў філіжанку кавы, аднак думаю, што Элен распазнала хлусню

***

У жніўні наступнага года мяне выклікалі, калі я працаваў у бібліятэцы. Джордж Уотэрхаўс папрасіў мяне зайсці ў яго кабінет. Калі я прыйшоў, там ужо былі Роберт Гардэн і Генры Эфінгам. У пэўны момант я падумаў, што мяне збіраюцца абвінаваціць у нейкай бязглуздай памылцы або ў некампетэнтнасці.

Гардэн падышоў да мяне і сказаў:

– Джордж лічыць, што настаў час прапанаваць вам зрабіцца малодшым партнёрам фірмы, Дэвід. І мы згодны з ім.

– Крыху будзе падобна на працу юрысконсульта,– з усмешкай сказаў Эфінгам,– але трэба прайсці праз гэта,

Дэвід. Калі пашанцуе, то на Каляды ты будзеш ужо поўным партнёрам.

Той ноччу кашмараў не было. Мы з Элен вячэралі ў рэстаране, шмат выпілі і паехалі ў джаз-клуб, дзе не былі ўжо гадоў шэсць. Там слухалі ігру выдатнага чорнага трубача з блакітнымі вачыма – Дэкстэра Гордана амаль да другой гадзіны раніцы Наступным ранкам мы прачнуліся з цяжарам у страўніку і галаўным болем і ўсё яшчэ не верачы ў тое, што адбылося. У прыватнасці, мой заробак рэзка ўзняўся – на восем тысяч долараў у год – і гэта калі мы даўно ўжо пахавалі ўсякія спадзяванні на рост прыбытку.

Той жа восенню фірма паслала мяне на шэсць тыдняў у Капенгаген. Вярнуўшыся, я даведаўся, што Джон Ханрахан, адзін з рэгулярных наведвальнікаў дома 249В, памёр ад рака. Для ягонае жонкі, што засталася амаль без грошай, сабралі дапамогу. Мне даручылі падлічыць ахвяраванні, што былі сабраныя амаль выключна гатоўкай, і выпісаць адпаведны чэк. Ахвяраванняў аказалася болей за дзесяць тысяч долараў Я перадаў чэк Стывенсу, які, я мяркую, пераслаў яго ўдаве.

Аказалася, што Арлен Ханрахан была членам Тэатральнага таварыства, якое наведвала і Элен. Яна і расказала мне, што Арлен атрымала ананімны чэк на дзесяць тысяч чатырыста долараў. На адваротным баку чэка было напісана толькі. *Ад сяброў вашага мужа Джона*

– Ці гэта не самая дзіўная рэч, пра якую ты калі-небудзь чуў?– спыталася Элен

– Не самая,– адказаў я – Але ў першым тузіне Трускалак не засталося, Элен?

***

Ішлі гады Я даведаўся пра пакоі на другім паверсе дома 249В· гасцёўня і спачывальня, у якой часам заставаліся на ноч сябры клуба (хаця пасля таго вечара, калі я пачуў або толькі ўявіў сабе вельмі непрыемны гук, я асабіста лепш здыму нумар у добрым гатэлі), невялікая, але добра абсталяваная спартыўная зала і сауна. Быў там таксама доўгі і вузкі пакой на ўсю даўжыню будынка, у якім знаходзіўся кегельбан.

У гэтыя ж гады я зноў перачытаў раманы Эдварда Грэя Севіла і адкрыў абсалютна ашаламляльнага паэта, роўнага Эзры Паўнду і Уоласу Стывенсу – Норберта Розена. Згодна інфармацыі на задняй вокладцы аднаго з трох тамоў яго твораў, што стаялі на паліцы, ён нарадзіўся ў 1924 годзе і загінуў у бітве пры Анзіо. Усе тры тамы яго твораў былі надрукаваны фірмай "Стэдам і сын".

Не памятаю, у якім менавіта годзе, але я зноў пайшоў у Публічную бібліятэку і замовіў альманах "Літаратурны рынак" за апошнія дваццаць гадоў. Гэта штогадовае выданне памерам, як "Жоўтыя старонкі", і баюся, што бібліятэкара я замучыў Я ўважліва прачытаў кожны том І хаця гэты альманах павінен змяшчаць усіх выдаўцоў Злучаных Штатаў, як вялікіх, так і найдрабнейшых (не кажучы ўжо пра літаратурных агентаў, рэдактараў і працаўнікоў кніжных клубаў), "Стэдам і сын" там не было Праз год, а, магчыма, і праз два гады, я разгаварыўся з букіністам-антыкварам і запытаўся ў яго пра гэтае выдавецтва Ён сказаў, што ніколі не чуў пра такое

Я падумваў спытацца Стывенса, але бачыў папераджальны агеньчык у яго вачах – і адразу спыняўся

***

І ўсе гэтыя гады – гісторыі

Смешныя гісторыі, гісторыі кахання і гісторыі расчаравання. І некалькі ваенных гісторый, аднак зусім не такіх, пра якія думала Элен.

Я вельмі ясна памятаю гісторыю Джэрарда Тозмана. Гісторыю пра амерыканскую ваенную базу, якая за чатыры месяцы да заканчэння першае сусветнае вайны трапіла пад прамы абстрэл нямецкае артылерыі. У жывых застаўся толькі Тозман. Латорп Карутэрс, амерыканскі генерал, якога на той час усе ўжо лічылі абсалютным вар'ятам (ён быў адказны за болей чым васемнаццаць *тысяч* смерцяў, і раскідваўся чалавечымі жыццямі, як мы з вамі кідаем манеткі ў музычны аўтамат) Генерал стаяў перад мапай лініі фронту, калі побач разарваўся снарад. Ён якраз тлумачыў чарговую флангавую аперацыю, якая магла прынесці толькі новыя смерці і была б паспяховай адно ў павелічэнні колькасці амерыканскіх удоў

Калі пыл асеў, Джэрард Тозман, кантужаны, аглухлы, з носа, вушэй і вугалкоў рота цячэ кроў, наткнуўся на цела Карутэрса, шукаючы выйсця з тае бойні, якая літаральна хвіліну таму яшчэ была штабам. Ён паглядзеў на генералава цела... і пачаў вішчаць і рагатаць. Сам ён сябе не чуў праз кантузію, аднак санітары пачулі, што ў гэтай гары акрываўленых трэсак застаўся хтосьці жывы.

Выбух не знявечыў Карутэрса... прынамсі, сказаў Тозман, салдаты тае далёкае вайны знявечанне разумелі іначай адарваныя рукі і ногі, выбітыя вочы, лёгкія спаленыя газам. Не, сказаў ён, нічога такога не было Маці гэтага чалавека пазнала б яго адразу. Але мапа...

...мапа, перад якой Карутэрс стаяў, плануючы новыя смерці, калі выбухнуў снарад...

Нейкім чынам яна *ўрэзалася яму ў твар.* Тозман глядзеў у жахлівую татуіроўку смерці. Камяністы бераг Брэтані знаходзіўся на лбе Карутэрса Рэйн, быццам блакітны шнар, ішоў зверху ўніз па левай шчацэ. Адны з найбольш знакамітых вінаробчых правінцый свету знаходзіліся на падбароддзі генерала Саар, быццам пятля, ішоў праз горла. а на воку было напісана ВЕРСАЛЬ

То была нашая калядная гісторыя 197- года

Я памятаю і шмат іншых гісторый, але яны не для гэтае кнігі. Шчыра кажучы, гісторыя Тозмана таксама не для яе . але то была першая "калядная гісторыя", якую я пачуў у доме 249В, таму не мог хаця б не пераказаць яе У гэтым годзе пасля Дня Дзякавання, калі Стывенс пляснуў у далоні і запытаўся, хто раскажа сёлетнюю калядную гісторыю, пачуўся голас Маккарана:

– Ёсць у мяне· нешта, каб расказаць гэтым мядзведзям. Цяпер або ніколі. Бог у хуткім часе пакліча мяне да сябе.

За тыя гады, што я наведваў дом 249В, я ніколі не чуў, каб Маккаран расказваў гісторыю. Магчыма, з гэтага я выклікаў таксоўку так рана і калі Стывенс абнёс грогам тых шасцёх, хто наважыўся-такі прыехаць у гэты халодны, ветраны вечар, я адчуў узбуджэнне І так пачуваўся не я адзін· на многіх тварах я чытаў тое самае

Маккаран, стары і кашчавы, сядзеў у высокім фатэлі перад камінам, трымаючы ў скурчаных пальцах пакецік з хімікаліямі Ён шпурнуў яго ў агонь, і некалькі секунд мы назіралі вар'яцкі танец колераў. Стывенс прынёс нам брэндзі, а мы перадалі яму калядныя напіўкі. Аднаго разу падчас падобнае цырымоніі я пачуў звон дробных манет; другім разам я заўважыў тысячадоларавы банкнот І абодва разы Стывенс быў аднолькавы: ціхі і карэктны. Дзесяць гадоў мінула з таго часу, як я ўпершыню з'явіўся тут з Джорджам Уотэрхаўсам І хаця ў свеце за гэты час змянілася шмат, тут не змянілася нічога, нават Стывенс не пастарэў не тое што на месяц, на дзень.

Ён адышоў у цень, і на секунду ўтварылася поўная цішыня. Мы нават маглі чуць, як шыпіць дрэва, што гарыць у каміне. Эмлін Маккаран глядзеў у агонь, мы таксама. У той вечар языкі агню падаваліся надзвычай дзікімі. Я адчуваў пэўны гіпноз агню, як пячорныя людзі адчувалі такі самы гіпноз, у той час калі за іх халоднымі пячорамі злаваўся вецер.

Нарэшце, усё яшчэ гледзячы ў агонь, паклаўшы локці на калені, а сплеценыя рукі звесіўшы паміж ног, Маккаран пачаў гаварыць.

## II.

## Метад правільнага дыхання

Мне лічы восемдзесят, а значыць я нарадзіўся разам са стагоддзем. Усё жыццё я быў звязаны з будынкам, што стаіць амаль насупраць Мэдзісан-Сквер-Гардэн. Будынак гэты, што выглядае як шэры астрог – нешта накшталт змрочных дамоў з "Аповесці пра два гарады", – на самай справе шпіталь, як большасць з вас ведае. Гэта мемарыяльны шпіталь Хэрыет Уайт Тая Хэрыет Уайт, у гонар якой быў названы шпіталь, першая жонка майго бацькі, а працавала яна ў шпіталі медсястрой яшчэ калі на паплавах цяперашняга Цэнтральнага парку пасвіліся авечкі. Статуя гэтае жанчыны стаіць у двары перад будынкам, і калі вы бачылі яе, то пэўна маглі пацікавіцца, як гэта жанчына з такім суровым, бескампрамісным тварам магла займацца такой далікатнай справай. На п'едэстале выбіты словы на лацінскай мове, пераклад якіх гучыць як: *У свеце няма спакою без болю, таму мы ідзём да*

*выратавання праз пакуты* Катон, падабаецца ён вам або не.

Я нарадзіўся ў гэтым будынку з шэрага каменю 20 сакавіка 1900 года. У 1926 годзе я вярнуўся туды як лекар-інтэрн. У дваццаць шэсць даволі позна пачынаць медыцынскую практыку, аднак падчас першае сусветнае вайны я меў крыху медыцынскай практыкі ў Францыі, спрабуючы запіхнуць кішкі ў распоратыя снарадамі страўнікі і купляючы на чорным рынку морфій, які часта быў разбаўлены, а часам і небяспечны.

Як і пакаленне лекараў, што прыйшло пасля другое сусветнае, мы былі жорсткімі практыкамі-кастаправамі. Таму ў запісах медыцынскіх інстытутаў з 1919 па 1928 год значыцца так мала адлічаных. Мы былі больш сталыя, вопытныя Ці былі мы таксама больш мудрыя? Не ведаю... аднак мы напэўна былі больш цынічныя Не было ніякае бязглуздзіцы, якую вы можаце прачытаць у так званых "медыцынскіх раманах", накшталт страчвання прытомнасці або млоснасці пры першым анатамiраванні цела. Такога не магло быць пасля Бель-Вуд, дзе цяжарныя самкі пацукоў нараджалі свае вывадкі проста ў трупах салдат, якія засталіся гніць на нічыйнай зямлі. Мы сваё ўжо адваніталі.

Мемарыяльны шпіталь Хэрыет Уайт таксама фігуруе і ў гісторыі, што здарылася са мной праз дзевяць гадоў пасля таго, як я пачаў там практыкаваць, і менавіта гэтую гісторыю, панове, я хачу расказаць вам. Вы можаце сказаць, што гэта не калядная гісторыя (хаця заключная яе частка адбылася напярэдадні Калядаў), аднак яна напэўна жахлівая і, як мне падаецца, яскрава дэманструе дзіўныя жыццёвыя сілы нашага праклятага віду жывёльнага свету. У ёй я бачу моц нашае волі... і яе жахлівую і змрочную ўладу.

Для многіх, панове, роды самі па сабе рэч жудасная; цяпер модна, калі бацька прысутнічае пры нараджэнні свайго дзіцяці Гэтая мода давяла многіх мужчын да пачуцця віны, якой многія, на мой погляд, не павінны адчуваць (менавіта гэтае пачуццё жанчыны даволі часта і бязлітасна выкарыстоўваюць), аднак увогуле роды рэч, па большасці, жыццесцвярджальная і святочная. Аднак я бачыў, як многія мужчыны пакідалі радзільныя залы са збляднелым або ззелянелым тварам, істэрычна плачучы: так на іх уздзейнічалі крыкі парадзіх і від крыві. Я памятаю, як адзін бацька добра трымаўся... пакуль не завішчаў істэрычна, калі ягоны абсалютна здаровы сын не пачаў выходзіць на свет. Вочы хлопчыка былі адкрытыя, і здавалася, што ён асэнсавана азіраецца... а потым яго вочы спыніліся на бацьку.

Роды – цудоўная рэч, панове, аднак, нават маючы найбагатую фантазію, нельга назваць іх рэччу прыгожай. Чэрава жанчыны, як рухавік. Пасля зачацця рухавік уключаецца. Спачатку ён ледзьве варушыцца, але з набліжэннем кульмінацыі родаў набірае абароты. Яго першапачатковы шэпт робіцца ўсё больш голасным, а напрыканцы ператвараецца і рык моцнага агрэгата, які проста палохае. Як толькі гэты рухавік пачынае працаваць, кожная будучая маці разумее, што на карце яе жыццё. Або яна народзіць дзіця, і рухавік на пэўны час адключыцца, або ён будзе працаваць усё больш моцна і хутка, пакуль не выбухне і не заб'е яе.

Мая гісторыя, гісторыя пра народзіны, што мелі месца якраз напярэдадні знакамітага нараджэння, якое чалавецтва адзначае амаль дзве тысячы гадоў

***

Лекарскую практыку я пачаў у 1929 годзе – а то быў кепскі год для пачатку ўсялякай справы. Дзядуля пазычыў мне невялікую суму грошай, таму напачатку я быў больш шчаслівы за многіх маіх калег Аднак наступныя чатыры гады я перабіваўся выключна дзякуючы ўласнаму розуму.

У 1935 годзе мае справы крыху папраўвіліся. Я меў сетку пастаянных пацыентаў як у шпіталі, так і за яго межамі. У красавіку я агледаў новую пацыентку, я назаву гэтую маладую жанчыну Сандра Стэнсфілд, што даволі блізка да яе сапраўднага імя. Гэтая жанчына сказала, што ёй дваццаць восем гадоў, аднак пасля агляду я прыйшоў да высновы, што на самай справе яна на тры – пяць гадоў маладзейшая. Яна была бландзінка, стройная, высокая для таго часу – каля ста сямідзесяці сантыметраў Яна была вельмі прыгожая, аднак прыгажосць яе была нейкая строгая, нават стрымліваючая. Рысы твару былі правільныя, вочы разумныя... а рот такі самы строгі і непахісны, як каменны рот Хэрыет Уайт, што стаяла насупраць Мэдзісан-Сквер-Гардэн У картачцы яна пазначыла сваё імя не Сандра Стэнсфілд, а Джэйн Сміт. Пасля агляду я ўстанавіў, што яна на другім месяцы цяжарнасці. Заручальнага кальца на яе руцэ не было

Пасля папярэдняга агляду – але яшчэ да таго як з лабараторыі прыйшлі вынікі аналізаў на цяжарнасць – мая медсястра Эла Дэвідсан сказала:

– Гэтая ўчарашняя дзяўчына Джэйн Сміт? Калі толькі я не ідыётка, гэта тыпова фальшывае імя

Я пагадзіўся Аднак дзяўчына мне падабалася Яна не займалася звычайнай балбатнёй, не чырванела не да месца, не пачынала плакаць без дай прычыны Яна была дзелавая і простая Нават фальшывае імя яна, хутчэй за ўсё, узяла не ад сораму. Не было ніякіх спроб стварыць нейкі сентыментальны вобраз Падавалася, што яна казала: *Для формы вам патрэбнае імя, бо так трэба Тады вось вам імя. Але перш чым давяраць прафесіянальнай этыцы незнаёмага мне чалавека, я крыху падстрахуюся. Калі вы не супраць.*

Эла хмыкнула і сказала нешта накшталт "сучасных дзяўчын" і "бессаромнасці", але жанчына яна была добрая і хутчэй за ўсё сказала тыя словы проста для праформы. Яна не горш за мяне ведала, што кім бы ні была мая новая пацыентка, але толькі не цынічнай шлюхай. Не, "Джэйн Сміт" проста была вельмі сур'ёзнай, вельмі мэтанакіраванай маладой жанчынай, калі толькі гэтыя яе характарыстыкі можна апісаць такім словам, як "проста". Яе становішча было непрыемнае (у той час гэта, як вы, панове, памятаеце, называлася "трапіць у цікавае становішча", цяпер жа многія дзяўчыны даволі цікавым спосабам выходзяць з цікавага становішча), і яна збіралася выйсці з яго з усім магчымым гонарам

Праз тыдзень пасля першага візіту яна прыйшла зноўку Дзень быў проста выдатны, адзін з першых сапраўдных веснавых дзён. Паветра было мяккае, неба мела нейкае малочнае адценне блакітнага, а таксама пах – цёплы, моцны пах, які быццам сігналіць пра тое, што прырода зноў пачала свой жыццёвы цыкл У такі дзень хочацца быць далёка ад усіх абавязкаў, побач з вабнай жанчынай на Коні-Айленд або на Палісадах, расклаўшы пікнік на абрусе ў клетачку, а вашая дзяўчына ў белым капелюшы з шырокімі палямі і сукні без рукавоў выглядае таксама прыгожа, як і гэты дзень.

Сукенка "Джэйн Сміт" была з рукавамі, аднак прыгожая, як той веснавы дзень: белая тонкая тканіна з рудым аздабленнем На "Джэйн Сміт" таксама былі рудыя туфлі і белыя пальчаткі, і капялюш, які да таго часу крыху выйшаў з моды Гэта быў першы знак таго, што жанчына далёка не багатая

– Вы цяжарная, сказаў я.– Але не думаю, што гэта для вас сюрпрыз

Калі слёзы і павінны з'явіцца, то гэта адбудзецца цяпер, падумаў я.

– Вы маеце рацыю,– абсалютна спакойна сказала яна Прыкметаў слёз у яе вачах не было таксама, як не было хмарак у небе таго веснавога дня – Месячныя звычайна ў мяне рэгулярныя

Узнікла невялічкая паўза

– Калі я нараджу?– спыталася яна, ледзь прыкметна ўздыхнуўшы Так уздыхае чалавек, які рыхтуецца падняць вельмі цяжкі груз.

– Гэта будзе калядное дзіця,– адказаў я – Магчыма, дзесятага снежня, аднак не выключана, што тыдні на два пазней ці раней

– Добра,– яна крыху павагалася і рынулася наперад. Вы будзеце назіраць мяне? Нават улічваючы, што я не замужам?

– Буду,– адказаў я – Але пры адной умове

Яна насупілася, і ў гэты момант яе твар як ніколі быў падобны на твар Хэрыет Уайт Вы можаце сказаць, што насцярожаны твар дваццацітрохгадовае жанчыны не можа выглядаць вельмі сурова і рашуча, аднак толькі не гэтае жанчыны Яна ўжо збіралася сысці, і тое, што ёй давядзецца прайсці праз неабходныя працэдуры з іншым лекарам, яе б не спыніла

– І што гэта за ўмова?– з халодным спакоем спыталася яна.

Цяпер я павінен быў вытрымаць погляд яе карых вачэй, але вочы я не адвёў

– Я лічу неабходным ведаць вашае сапраўднае імя. Вы можаце працягваць плаціць за мае паслугі гатоўкай, калі хочаце, а я магу папрасіць пані Дэвідсан выпісваць рэцэпты на імя Джэйн Сміт Аднак, калі мы з вамі наступныя сем месяцаў будзем разам, то я хацеў бы звяртацца да вас па імені, пад якім вас ведаюць іншыя.

Я скончыў сваю абсурдна рэзкую

прамову і чакаў, пакуль яна ўзважыць яе. Чамусьці я быў упэўнены, што яна ўстане, падзякуе мне за паслугі і сыдзе назаўсёды. Калі так, то я быў бы вельмі расчараваны. Мне падабалася гэтая жанчына Болей за гэта, мне падабалася, як мэтанакіравана яна спрабавала вырашыць праблему, што паўстала перад ёй; праблему, якая дзевяноста жанчын са ста ператварае ў плаксівых ілгух, настолькі перапалоханых жывым арганізмам у іх чэраве, што яны абсалютна не ў стане вырашыць, што ім рабіць далей.

Магчыма, большасць маладых людзей сёння палічаць падобныя страхі дзікімі і неверагоднымі. У наш час людзі маюць настолькі шырокія погляды, што незамужнія цяжарныя жанчыны атрымліваюць больш увагі і спачування, чым цяжарныя замужнія. Вы ж, панове, памятаеце той час, калі сітуацыя была абсалютна іншая: тады так званая высокая мараль рабіла жыццё жанчыны "ў цікавым становішчы" проста невыносным. У той час замужняя цяжарная жанчына была шчаслівым чалавекам, упэўненая ў сваёй будучыні і з гонарам выконвала сваё прызначэнне працягу чалавечага роду Незамужняя цяжарная жанчына ў вачах грамадства лічылася ізгоем, а часта і сама сябе лічыла страчанай Такія жанчыны, згодна словам Элы Дэвідсан, былі жанчынамі "лёгкіх паводзін", а ў той час у нашым свеце "лёгкасць" практычна не даравалі Такія жанчыны з'язджалі ў іншыя гарады, каб нараджаць там. Некаторыя прымалі таблеткі або выскоквалі з вокнаў. Іншыя ішлі да падпольных акушэраў-мяснікоў, якія рабілі аборты, нават не мыючы рукі, або спрабавалі самі пазбавіцца плода За маю лекарскую практыку чатыры жанчыны на маіх вачах загінулі ад страты крыві пасля падпольнага аборту. У адным з выпадкаў аборт быў зроблены завостраным кавалкам бутэлькі ад напою "Доктар Пепер", прывязаным да ручкі швабры Цяпер цяжка паверыць, што адбывалася падобнае. Але так было Так што гэта была самая цяжкая сітуацыя, у якую магла трапіць здаровая маладая жанчына

– Добра,– нарэшце сказала яна – Так будзе справядліва. Маё імя Сандра Стэнсфілд.

І яна працягнула мне руку. Я быў крыху ашаломлены, але пацісную яе Добра, што мяне ў гэты момант не бачыла Эла Дэвідсан. Яна б нічога не сказала, але ўвесь наступны тыдзень кава была б вельмі горкая.

Сандра Стэнфілд усміхнулася з маёй ашаломленасці і шчыра глянула мне ў вочы.

– Спадзяюся, што мы будзем сябрамі, доктар Маккаран Мне цяпер вельмі патрэбны сябар. Я так напалохана.

– Я разумею вас і паспрабую быць для вас сябрам, панна Стэнсфілд. Ці магу я зрабіць нешта для вас цяпер?

Яна адкрыла торбачку, выняла танную запісную кніжку і асадку Раскрыла кніжку і паглядзела на мяне. На хвіліну я з жахам падумаў, што яна спытае імя і адрас доктара, які займаецца абортамі. Але яна сказала.

– Я б хацела ведаць, што лепей за ўсё есці. Для дзіцяці, вядома.

Я голасна засмяяўся. Яна са здзіўленнем паглядзела на мяне.

– Прабачце, але вы такая дзелавая.

– Думаю,– адказала яна,– што гэтае дзіця цяпер і ёсць мая справа. Ці не так, доктар Маккаран?

– Зусім слушна Я маю спецыяльную брашуру, якую даю ўсім маім цяжарным пацыенткам Там апісаны неабходныя дыеты, праблемы вагі, палення і шмат чаго іншага. Калі ласка, не смейцеся, убачыўшы брашуру, бо гэта я яе напісаў і магу абразіцца.

Пазней гэтая брашура ператварылася ў кнігу "Практычныя парады пры цяжарнасці і родах" У той час, ды і цяпер таксама, я вельмі цікавіўся акушэрствам і гінекалогіяй, хаця без адпаведных сувязяў мець падобную практыку было амаль немагчыма Дый нават маючы гэтыя сувязі, трэба было папрацаваць гадоў дзесяць – пятнаццаць, каб арганізаваць стабільную практыку. А паколькі я з-за вайны прыйшоў у медыцыну даволі позна, то часу ў мяне не было Я супакойваў сябе, што, нават маючы агульную практыку, я атрымаю магчымасць назіраць цяжарных пацыентак ды прымаць роды Так яно і было· па маіх апошніх падліках я дапамог з'явіцца на свет болей чым двум тысячам дзяўчынак і хлопчыкаў – цэлай школе.

Літаратуру па акушэрстве і гінекалогіі я вывучаў болей уважліва, чым па іншых сферах маёй практыкі. А так як я меў свае меркаванні, то і напісаў брашуру, каб не засыпаць будучых маці горамі зусім не патрэбнай ім інфармацыі Не буду казаць пра ўсю тую інфармацыю – на гэта можа ўся ноч пайсці, – прывяду толькі пару прыкладаў, каб паказаць, што гэта былі за парады.

Раней будучым маці настойліва раілі як мага меней рухацца і ні ў якім выпадку не хадзіць шмат пеша з-за "пагрозы выкіду або цяжкасцяў пры родах" Так як роды – гэта даволі цяжкая праца, то такая парада падобна да парады футбалісту рыхтавацца да адказнага матча, нічога не робячы, каб, барані Божа, не стаміцца! Яшчэ адна каштоўная парада геніяльных лекараў таго часу тычылася жанчын, якія набіралі вагу. Ім раілася паліць. . *паліць!* Праўда, падобная парада выдатна адпавядала тагачаснаму рэкламнаму плакату: "Лепей "Лакі Страйк", чымсьці цукерка!" Людзі, якія лічаць, што з надыходам дваццатага стагоддзя медыцына зрабіла вялікі крок наперад, нават не падазраюць, якія дзікія рэчы могуць у ёй рабіцца. Магчыма, так яно лепей, бо іначай яны пасівелі б ад жаху

Я даў панне Стэнсфілд маю брашуру, і хвілін пяць яна вельмі ўважліва праглядала яе Я папрасіў дазволу запаліць люльку, і яна абыякава, нават не падняўшы вачэй, пагадзілася Калі яна нарэшце адвяла позірк ад брашуры, то з усмешкай спытала мяне·

– Вы радыкал, доктар Маккаран?

– Чаму вы пытаецеся? Таму што я раю цяжарнай жанчыне шмат хадзіць пеша, а не ездзіць у пракураных трамваях, якія трасе на кожным павароце?

– Дародавыя вітаміны, хаця я не ведаю, што гэта .. плаванне . і дыхальныя практыкаванні! Якія такія дыхальныя практыкаванні?

– Гэта будзе пазней, але я не радыкал Далёка не радыкал Затое я ўжо на пяць хвілін затрымаў майго наступнага пацыента

– О, прабачце!– яна хутка ўстала, запіхнуўшы брашуру ў торбачку

– Не трэба прабачэнняў.

Яна апранула свой лёгкі плашч і зноў паглядзела на мяне сваімі карымі вачыма.

– Не,– сказала яна – Вы зусім не радыкал. Думаю, што на самай справе вы утульны? Гэтае слова дакладнае?

– Спадзяюся, што яно падыдзе Мне яно падабаецца Калі вы звернецеся да пані Дэвідсан, то яна запіша вас на наступны раз Я б хацеў, каб вы прыйшлі да мяне на пачатку наступнага месяца.

– Я вашай пані Дэвідсан не падабаюся

О, не. Гэта зусім не так.

Але хлус з мяне кепскі, і цеплыня між намі раптам знікла. Я не праводзіў яе нават да дзвярэй кабінета

– Панна Стэнсфілд?

Яна павярнулася да мяне і глянула холадна.

– Вы хочаце пакінуць дзіця?

Яна ўважліва паглядзела на мяне, а потым усміхнулася нейкай таямнічай усмешкай, якую разумеюць толькі цяжарныя жанчыны.

– Безумоўна,– адказала яна і выйшла.

У гэты дзень я таксама аглядаў блізнятаў, яны абое атруціліся сумахам, разрэзаў нарыў, выняў кавалак металу з вока зваршчыка і накіраваў аднаго з маіх старэйшых пацыентаў у шпіталь, бо ён напэўна меў рак. На нейкі час я зусім забыўся на Сандру Стэнсфілд. Да яе мяне вярнула Эла Дэвідсан, сказаўшы:

– Магчыма, яна не такая ўжо жабрачка

Я падняў вочы ад папкі з інфармацыяй пра апошняга пацыента Глядзеў я ў гэтую папку з бездапаможнай злосцю добра знаёмай многім дактарам Усе мы адчуваем яе, калі болей нічога нельга зрабіць. Для такіх папак трэба зрабіць адпаведны штамп, вось толькі замест ПОЎНАСЦЮ АПЛАЧАНА або ПАЦЫЕНТ ПЕРАЕХАЎ, на іх павінна значыцца: СМЕРТНЫ ВЫРАК Магчыма, з чэрапам і косткамі над надпісам, як на этыкетках для бутэлек з атрутнымі рэчывамі

– Што?

– Вашая панна Джэйн Сміт. Пасля таго, як яна пайшла ад вас, яна зрабіла проста неверагоднае

Выраз твару пані Дэвідсан паказваў, што гэта такая неверагоднасць, якую яна поўнасцю ўхваляе

– І што ж яна зрабіла?

– Калі я дала ёй яе картачку наведванняў, яна папрасіла рахунак. І на будучае таксама Уключаючы роды і пасляродавае абслугоўванне ў шпіталі.

Гэта і сапраўды было неверагодна. То быў 1935 год, а панна Стэнсфілд не рабіла ўражання багатай жанчыны На гэта паказвала яе вопратка Так, абутак, сукенка і пальчаткі былі модныя, але яна не насіла каштоўнасцяў, нават біжутэрыі. На гэта таксама паказваў і яе выйшаўшы з моды капялюш.

– І вы гэта зрабілі?– спытаўся я

Пані Дэвідсан глянула на мяне так, быццам я страціў апошні розум.

– Ці зрабіла? Вядома, зрабіла! І яна ўсё аплаціла. Гатоўкай

Апошняе, што напэўна здзівіла пані Дэвідсан болей за ўсё (здзівіла прыемна), мяне не здзівіла зусім. Адно, чаго Джэйн Сміт гэтага свету рабіць не могуць, дык гэта выпісваць чэкі

– Выняла з торбачкі вацок і адлічыла ўсю належную суму,– працягвала пані Дэвідсан – Паклала рахунак у вацок, развіталася і сышла. Някепскі ўчынак, улічваючы, колькі даводзіцца шукаць так званых рэспектабельных людзей, якія знікаюць не заплаціўшы!

Чамусьці я засмуціўся Мяне засмучала і тое, што панна Стэнсфілд зрабіла гэта, і тое, што пані Дэвідсан была так задаволена гэтым, і штосьці ўва мне самім, але я ніяк не мог зразумець, што і чаму. Нешта ва ўсім гэтым прыніжала мяне.

– Аднак яна не магла аплаціць сваё ўтрыманне ў шпіталі цяпер?– я быццам хапаўся за самыя дробныя зачэпкі, аднак толькі, каб неяк схаваць сваё здзіўленне і пэўнае раздражненне.– Прынамсі, ніхто з нас не ведае, колькі часу яна правядзе там Ці вы гадаеце на крышталёвым шары, Эла?

– Я ёй сказала тое самае, а яна спыталася, колькі часу звычайна жанчына застаецца ў шпіталі, калі роды праходзяць нармальна. Я сказала, што шэсць дзён. Гэта ж так, доктар Маккаран?

Я прызнаў, што так яно і ёсць.

– Яна сказала, што заплаціць за шэсць дзён, калі ж давядзецца прабыць у шпіталі больш, то яна даплаціць розніцу, калі ж.

– ... калі ж менш, то *мы* выплацім розніцу,– стомленым тонам скончыў я І падумаў· *Чорт бяры гэтую жанчыну!* А потым засмяяўся А волю яна мела У гэтым ёй не адмовіш Воля ў яе была напэўна.

Пані Дэвідсан дазволіла сабе ўсміхнуцца. і калі я цяпер, упадаючы ў маразм, пачынаю лічыць, што знаю ўсё пра якога-небудзь чалавека, то спрабую прыгадаць тую ўсмешку Да таго дня я б усё паставіў на кон, сцвярджаючы, што ніколі не ўбачу, як пані Дэвідсан, адна з найбольш "правільных" жанчын у свеце, можа з гонарам усміхнуцца, падумаўшы пра дзяўчыну, якая зрабілася цяжарнай, не быўшы замужам.

– Волю? Не ведаю, доктар. Аднак з галавой у яе ўсё ў парадку. Напэўна ў парадку

***

Прайшоў месяц, і панна Стэнсфілд з'явілася на прыём, проста выйшаўшы з таго бурапеннага віру людзей, якім тады быў Нью-Йорк і якім Нью-Йорк з'яўляецца і цяпер. На ёй была новая блакітная сукенка, якой яна надала пэўную арыгінальнасць, нягледзячы на тое, што сукенка вісела ў краме побач з тузінам такіх самых. А вось туфлі да сукенкі не пасавалі, то былі тыя самыя, рудыя, у якіх яна прыйшла да мяне папярэднім разам.

Я ўважліва агледзеў яе і ўпэўніўся, што са здароўем у яе ўсё ў парадку. Калі я сказаў пра гэта ёй, яна была задаволена.

– Я знайшла перадродавыя вітаміны, доктар Маккаран

– Знайшлі? Гэта добра.

Вочы яе хітра бліснулі.

Аптэкар намаўляў мне не ўжываць іх.

– Абарані мяне, Божа, ад служыцеляў таўкачыка,– сказаў я, і яна засмяялася, прыкрыўшы рот далонню – гэта быў вельмі дзіцячы жэст і вельмі непасрэдны.– Ніколі не сустракаў аптэкара, які не быў бы няўдалым лекарам І рэспубліканцам Перадродавыя вітаміны справа новая, таму яны і ставяцца да іх з падазрэннем. Вы скарысталіся яго парадай?

– Не Я прыслухалася да вашай. Вы ж мой доктар

– Дзякуй

– Няма за што, яна паглядзела мне ў вочы і ўжо без смеху.– Доктар Маккаран, калі ў мяне пачне расці жывот?

– Не раней за жнівень, я думаю. Калі вы хочаце набыць вопратку большых памераў, то рабіце гэта ў верасні.

– Дзякуй.

Яна ўзяла торбачку, але не паднялася, каб сысці Мне падалося, што яна хацела пагаварыць . але не ведала, з чаго пачаць

– Вы працуеце, праўда?

Яна кіўнула

– Так. Працую.

– Магу я даведацца, дзе? Калі не хочаце казаць, то. .

Яна засмяялася – сухі і нежывы смех, не падобны на папярэдні, як дзень не падобны на ноч.

– Ва універмагу. Дзе ж яшчэ працаваць незамужняй жанчыне ў вялікім горадзе? Я прадаю спецыяльную парфуму тоўстым жанчынам, якія прамываюць ёю валасы, а потым кругавымі рухамі ўціраюць у галаву.

– І колькі яшчэ часу вы будзеце там працаваць?

– Пакуль не будзе бачна маё далікатнае становішча. А потым мяне, напэўна, папросяць сысці, каб я не псавала настрой тоўстым жанчынам. Шок ад таго, што іх абслугоўвае цяжарная жанчына без заручальнага кальца, можа прывесці да таго, што іх валасы не змогуць кучаравіцца.

Раптам яе вочы напоўніліся слязамі. Вусны задрыжалі, і я пачаў шукаць насоўку. Але слёзы не праліліся, ні адна не скацілася па шчацэ Слёзы ўжо былі на вачах, але намаганнем волі яна прагнала іх. Яе вусны зрабіліся жорсткімі... а потым зноў памякчэлі Яна папросту вырашыла, што не можа страціць кантроль над эмоцыямі... і не страціла. За гэтым было прыемна назіраць.

– Прабачце,– сказала яна.– Вы вельмі добры да мяне І я не хачу адплаціць вам вельмі трывіяльным аповедам.

Яна паднялася, каб ісці, я таксама ўстаў з крэсла

– Я някепскі слухач,– прамовіў я,– і маю час. Мой наступны пацыент адмяніў візіт.

– Не,– адказала яна.– Дзякуй, але не

– Добра,– сказаў я.– Але ёсць нешта яшчэ

– Слухаю.

– Не ў маіх правілах прымушаць пацыентаў плаціць наперад за мае паслугі. І гэта тычыцца *ўсіх* пацыентаў. Спадзяюся, калі вы.. я хачу сказаць, калі вы хочаце або вам трэба...

Я змоўк.

– Я пражыла ў Нью-Йорку чатыры гады, доктар Маккаран і па прыродзе я эканомная. Пасля жніўня або верасня мне давядзецца жыць на тое, што я ашчадзіла, пакуль я не змагу вярнуцца да працы. Сума невялікая, і часам, асабліва па начах, мне робіцца страшна.

Яна паглядзела на мяне сваімі прыгожымі карымі вачыма.

– Мне падалося лепей – і бяспечней – перш заплаціць за дзіця. Перадусім за дзіця. Таму што ў маіх думках дзіця знаходзіцца на першым месцы і таму што пазней я магу спакусіцца на нешта іншае і патраціць грошы. І спакуса можа быць вельмі вялікай

– Добра,– сказаў я.– Але памятайце, што вы заплацілі за яшчэ нявыкананую працу і калі вам тэрмінова спатрэбяцца грошы, можаце забраць іх.

– І выклікаць агняпальнага цмока ў пані Дэвідсан?– хітраваты агеньчык зноў з'явіўся ў яе вачах.– Не думаю, што хачу гэтага. А цяпер, доктар...

– Вы збіраецеся працаваць да апошняга? Як мага больш доўга?

– Так. Я вымушана. А чаму вы пытаецеся?

– Думаю, што перад сыходам крыху напалохаю вас,– адказаў я.

Яе вочы пашырыліся.

– Не рабіце гэтага,– папрасіла яна.– Я ўжо дастаткова напалоханая.

– Менавіта таму я і хачу зрабіць гэта. Сядайце, панна Стэнсфілд,– а так як яна працягвала стаяць, я дадаў: – Калі ласка.

Яна села. Вельмі неахвотна.

– Вы знаходзіцеся ў незайздросным і унікальным становішчы,– сказаў я ёй, сеўшы на вугал стала.– І трымаецеся вы ў гэтым становішчы вельмі добра.

Яна пачала была гаварыць, але я ўзняў руку, спыняючы яе

– І гэта добра. Я вас за гэта паважаю. Аднак я б вельмі не хацеў, каб вы нашкодзілі свайму дзіцяці, папраўляючы сваё фінансавае становішча. Меў я пацыентку, якая, нягледзячы на мае настойлівыя парады, з развіццём цяжарнасці зацягвала сябе ў гарсэт усё больш моцна То была фанабэрыстая, прымітыўная, істэрычная жанчына, і не думаю, што яна ўвогуле хацела мець дзіця Я не падзяляю мноства з папулярных тэорый аб падсвядомасці, якія так часта абмяркоўваюцца за картачным сталом, але калі б падзяляў, то сказаў бы, што яна – або яе частка – спрабавала забіць дзіця

– І яна забіла?– яе твар быў надта спакойны.

– Не. Але дзіця нарадзілася з адхіленнем розуму. Цалкам магчыма, што дзіця і так нарадзілася б з адхіленнем, не магу нічога сцвярджаць напэўна – мы так мала ведаем, што ж выклікае падобнае. Аднак магчыма, што гэтае адхіленне выклікала яна сама.

– Я разумею вас,– ціха прамовіла яна – Вы не хочаце, каб я зацягвала сябе ў гарсэт... каб мець магчымасць працаваць лішні месяц або паўтара. Прызнаюся, у мяне была падобная думка. Таму .. дзякуй вам за тое, што напалохалі мяне.

Гэтым разам я праводзіў яе да дзвярэй Я б хацеў запытацца, колькі грошай засталося ў яе вацку і наколькі блізка яна падышла да краю То было пытанне, на якое яна б не адказала, і я гэта добра ведаў. Таму я проста развітаўся з ёй і пажартаваў наконт яе вітамінаў. Яна сышла. А я думаў пра яе ў самыя недарэчныя моманты ўвесь наступны месяц і. .

***

У гэтым месцы Йогансэн перапыніў Маккарана. Яны былі даўнімі сябрамі, і думаю, гэта давала яму права задаць пытанне, якое ва ўсіх нас круцілася ў галаве

– Ты кахаў яе, Эмлін? Ці не таму ты так падрабязна распавядаеш пра яе вочы і ўсмешку, і тое, як ты "думаў пра яе ў самыя недарэчныя моманты"?

Я падумаў, што Маккарана гэтае пытанне толькі раздражніць, але не.

– Вы маеце поўнае права задаць падобнае пытанне,– сказаў ён, гледзячы ў агонь.

Падавалася, што ён, загіпнатызаваны, можа ўпасці ў камін. Потым выбухнуў сучок, сноп іскраў паляцеў у комін, і Маккаран паглядзеў перш на Йогансэна, потым на нас усіх.

– Не Я не кахаў яе. Тое, што я казаў пра яе, гучыць, як гутарка чалавека, які пачынае кахаць – яе вочы, яе сукенка, яе смех.

Ён запаліў люльку спецыяльнай запальнічкай, якая заўсёды была з ім Закрыў запальнічку, паклаў яе ў кішэню пінжака, зацягнуўся і выпусціў воблака тытунёвага дыму, якое ахутала яго, як духмяная імгла

– Я захапляўся ёй Не болей і не меней. І маё захапленне расло з кожным яе візітам. Магчыма, некаторыя з вас палічылі былі мой апавед гісторыяй кахання, у якую ўмяшаўся выпадак. Аднак гэта далёка не так. Яе гісторыя прыходзіла да мяне патроху на працягу наступных шасці месяцаў, і калі вы пачуеце яе да канца, панове, то пагодзіцеся, што гэта, як казала яна сама, вельмі звычайная гісторыя Яна, як і тысячы іншых дзяўчын, прыехала ў Нью-Йорк з невялічкага гарадка.

***

.. у Айове або Небраске. А, магчыма, у Мінесоце – я, шчыра кажучы, не памятаю Яна шмат іграла ў школьным тэатры, а таксама ў мясцовым тэатральным таварыстве, атрымала добрыя водгукі ад тэатральнага крытыка ў мясцовым штотыднёвіку, а таксама ступень па англійскай мове і літаратуры ў каледжы і прыехала ў Нью-Йорк, каб паспытаць шчасця ў акторскай кар'еры

Яна была практычнай нават у гэтым, прынамсі, настолькі практычнай, наколькі гэта дазваляе непрактычная амбітнасць. Яна прыехала ў Нью-Йорк, расказала яна мне, таму, што не верыла ў часопісныя гісторыі пра тое, што любая дзяўчына, прыехаўшы ў Галівуд, магла зрабіцца зоркай, што аднаго дня яна можа, маркоцячыся, піць содавую ў танным бары, а наступнага іграць разам з Кларкам Гэйблам або Макам Мурэем. Яна прыехала ў Нью-Йорк, казала яна, бо лічыла, што тут будзе прасцей трапіць у акторскі свет і таму, што сапраўдны тэатр прыцягваў яе больш, чым танныя фільмы.

Яна знайшла працу прадаўшчыцы парфумы ў вялікім універмагу і паступіла на курсы акторскага майстэрства. Гэтая дзяўчына была разумная і вельмі мэтанакіраваная – яе воля была з наймацнейшае сталі – але, як і ўсе мы, яна была чалавекам Ёй было адзінока. Так адзінока могуць адчуваць сябе толькі дзяўчыны з невялічкіх гарадоў Сярэдняга Захаду Туга па доме не заўсёды расплывістае, настальгічнае і амаль прыгожае пачуццё, хаця менавіта такім яно заўсёды ўяўляецца нам. Яно можа змяніць погляд чалавека на свет. твары людзей на вуліцы не проста абыякавыя, а гнюсныя мачыма, нават варожыя. Туга па доме – сапраўдная хвароба, боль расліны, якую пазбавілі каранёў.

Панна Стэнсфілд, якой бы валявой яна ні была, не мела імунітэту супраць гэтае хваробы А далей адбылося тое, што не трэба расказваць у дэталях, і так усё ясна На курсах акторскага майстэрства быў малады чалавек. Некалькі разоў яны разам гулялі. Яна не кахала яго, але ёй быў патрэбны сябар Калі ж яна зразумела, што ён сябрам быць не можа, адбылося ўжо два "інцыдэнты" Сексуальнага характару. Яна выявіла, што зацяжарала. Расказала пра гэта маладому чалавеку, які запэўніў яе, што застанецца з ёй і паступіць "як шляхетны чалавек". Праз тыдзень ён з'ехаў са сваёй кватэры, не пакінуўшы нават ліста. Вось тады яна прыйшла да мяне.

***

Калі яна была на чацвёртым месяцы, я пазнаёміў яе з метадам правільнага дыхання. Цяпер ён называецца метад Ламаза. Аднак у той час пра пана Ламаза амаль ніхто не чуў

Я гляджу, што фраза "ў той час" узнікае ў маім апаведзе вельмі часта. Я перапрашаю за яе, але не магу не ўжываць, бо шмат з таго, што я расказаў вам і яшчэ раскажу, здарылася менавіта таму, што ўсё адбывалася "ў той час"

Такім чынам. "у той час", сорак пяць гадоў таму, калі б вы наведалі перадродавыя палаты любога амерыканскага шпіталя, то вам падалося б, што вы ў доме вар'ятаў. Жанчыны, якія галосяць, жанчыны, якія крычаць, што хочуць памерці, жанчыны, якія крычаць, што не вынесуць такога болю, жанчыны, якія крыкам моляць Хрыста дараваць ім грахі, жанчыны, якія выкрыкваюць такія словы лаянкі, якіх, магчыма, не ведаюць іх мужы. І ўсё гэта лічылася нармальным нягледзячы на той факт, што большасць жанчын у свеце нараджае дзіця амаль у поўнай цішыні, хіба што з пэўным крэхтаннем, якое мы звычайна звязваем з выкананнем цяжкае фізічнае працы.

Вымушаны прызнаць, што за пэўную частку гэтае істэрыкі адказныя дактары Апаведы, што чуе цяжарная жанчына ад сяброў і крэўных, якія ўжо прайшлі праз працэс родаў, таксама не спрыяюць спакою Можаце мне паверыць. калі вам раскажуць, што пэўны працэс балючы, то вам *будзе* балець. Па большасці боль знаходзіцца ў думках, і калі жанчына прымае як факт тое, што акт родаў вельмі балючае выпрабаванне – калі яна атрымлівае гэтую інфармацыю ад маці, сясцёр, замужніх сяброўак, а *таксама* ад яе доктара – гэтая жанчына маральна падрыхтаваная да таго, каб адчуць вялікі боль.

Толькі пасля шасці гадоў практыкі я прызвычаіўся да жанчын, якім трэба было вырашыць падвойную праблему: тое, што яны цяжарныя і павінны падрыхтавацца да прыходу новага чалавека ў гэты свет, а таксама і тое – многія з іх лічылі гэта дадзеным фактам, *– што яны апынуліся ў даліне ценю смерці.* Многія з іх спрабавалі прывесці ў парадак свае справы так, каб, калі яны такі *памруць,* іхнія мужы маглі абысціся без іх.

Цяпер не час і не месца для ўрока па акушэрстве, аднак вам трэба ведаць, што доўгі час да "таго часу" сам працэс родаў быў *надзвычай* небяспечным у краінах захаду. Рэвалюцыйныя працэсы ў медыцыне, якія пачаліся каля 1900 года, зрабілі роды значна больш бяспечнымі, аднак будучым маці пра гэта гаварыла толькі зусім невялікая колькасць дактароў. Бог ведае чаму. Аднак, у святле вышэйсказанага, ці варта здзіўляцца, што многія перадродавыя палаты нагадвалі аддзяленне для буйных вар'ятаў клінікі Бельвю? Гэтыя бедныя жанчыны, час якіх нарэшце надышоў, пакутліва перажывалі працэс, які з-за віктарыянскага пурытанізму той пары быў апісаны ў самых агульных рысах; яны з жахам чакалі той момант, калі рухавік нараджэння пачынаў працаваць напоўніцу Яны ахоплены страхам і цікаўнасцю, якія тут жа інтэрпрэтуюць у невыносны боль, і большасць з іх лічыла, што ў хуткім часе яны памруць як сабакі.

Падчас навучання прадмету цяжарнасці я вынайшаў прынцып ціхіх родаў і ідэю метаду правільнага дыхання. Крыкі забіраюць энергію, якая лепей будзе выкарыстаная для таго, каб дапамагчы дзіцяці з'явіцца на свет, крыкі прымушаюць жанчыну вельмі часта і глыбока дыхаць, а гэта прыводзіць арганізм у стан надзвычайнага становішча – адрэналін выдзяляецца проста мяхамі, пульс завялікі – што зусім непатрэбна Метад правільнага дыхання павінен быў дапамагчы маці сфакусіравацць увагу на саміх родах і спраўляцца з болем, карыстаючыся рэсурсамі самога цела.

У тую пару метад шырока выкарыстоўваўся ў Індыі і Афрыцы, у Амерыцы плямёны індзейцаў шашоне, каёва і мікмэк карысталіся ім, эскімосы выкарыстоўвалі яго з даўніх часоў; а вось нашыя лекары, як вы можаце здагадацца, ігнаравалі яго. Адзін з маіх калег – даволі разумны чалавек – вярнуў копію маёй брашуры восенню 1931 года, перакрэсліўшы чырвоным алоўкам раздзел аб метадзе

правільнага дыхання. На палях ён прыпісаў, што калі б яму спатрэбілася даведацца пра "забабоны нігераў", то ён набыў бы ў кіёску часопіс "Жахлівыя гісторыі"!

Я не выкінуў гэты раздзел з брашуры, як ён прапанаваў мне, аднак вынікі пры карыстанні ім былі не заўсёды адназначныя. Былі жанчыны, якія карысталіся ім вельмі паспяхова. Былі іншыя, якія вельмі добра разумелі прынцыпы метаду, але поўнасцю гублялі кантроль, як толькі адчувалі першыя схваткі. У большасці такіх выпадкаў я выяўляў, што да падобнага прыводзілі сяброўкі і крэўныя, якія казалі, што ніколі не чулі пра падобны метад і таму не верылі, што ён спрацуе.

Метад заснаваны на разуменні таго, што хаця роды ніколі не праходзяць аднолькава ў дэталах, аіе агульная карціна практычна адна і тая. Існуе чатыры стадыі: схваткі, сярэдзіна родаў, нараджэнне дзіцяці, пасляродавы перыяд. Схваткі – гэта поўнае напружанне мышцаў жывата і таза, часта яны могуць пачынацца ўжо на шостым месяцы цяжарнасці. Многія жанчыны, цяжарныя першым дзіцём, чакаюць нечага вельмі непрыемнага накшталт колікаў, аднак, як мне расказвалі, усё больш празаічна моцнае фізічнае напружанне, якое можа перарасці ў боль, падобны на сутаргавы. Калі жанчына, якая карыстаецца метадам правільнага дыхання, адчувае надыход схваткак, яна пачынае выкарыстоўваць серыю кароткіх удыхаў і выдыхаў. Выдыхі рабіліся падобна таму, як Дызі Гілеспі граў на трубе

Падчас сярэдняга перыяду, калі схваткі больш балючыя і надыходзяць кожныя пятнаццаць хвілін, жанчына пачынае дыхаць інакш, як марафонец у момант фінальнага спурту. Чым больш моцныя схваткі, тым больш доўгі перыяд удыху-выдыху. У сваёй брашуры я назваў гэтую стадыю "катанне на хвалях"

Апошнюю стадыю, якая нас цікавіць, я назваў "лакаматыў", а інструктары па метаду Ламаза называюць яе "чу-чу" Фінал родаў праходзіць з болем, які найбольш часта называюць глыбокім і тупым. Разам з болем маці адчувае непераадольную патрэбу выпіхнуць дзіця. Вось у гэты момант, панове, цудоўная і палохаючая дзея дасягае абсалютнага крэшчэнда! Шыйка маткі поўнасцю расшырылася. Дзіця пачало сваё кароткае падарожжа па родавым канале, і калі вы гледзіце проста паміж ног маці, то можаце бачыць, як літаральна ў некалькіх сантыметрах ад свету пульсуе мембрана на чэрапе дзіцяці. Цяпер маці, якая карыстаецца метадам правільнага дыхання, пачынае ўдыхаць і выдыхаць ротам. Часта і не напаўняючы лёгкія, як бы пыхкаючы ў спакойным рытме Падобна бывае, калі дзеці гуляюць у поезд.

Усё гэта аказвае дабратворнае ўздзеянне на арганізм: кісларод у ім знаходзіцца на высокім узроўні, аднак не ўключае сістэмы надзвычайнага становішча. Сама маці цудоўна разумее, што робіцца навокал, у стане адказваць на пытанні і выконваць неабходныя інструкцыі. Аднак найбольшае значэнне маюць *ментальныя* вынікі метаду правільнага дыхання. Маці адчувае, што прымае актыўны ўдзел у нараджэнні свайго дзіцяці – і пэўным чынам рэгулюе гэты працэс. Яна адчувае сябе галоўным кантралёрам працэсу... і кантралёрам болю.

Вы разумееце, што сам працэс цалкам залежыць ад разумовага стану пацыенткі. Метад правільнага дыхання надзвычай далікатны, і калі я меў з ім даволі шмат няўдач, то тлумачыў іх наступным чынам. паколькі доктар можа пераканаць у чым-небудзь пацыентку, то крэўныя таксама лёгка могуць пераканаць яе ў адваротным, уздымаючы дагары рукі, калі з жахам чуюць пра нейкія паганскія абрады.

Прынамсі з гэтага пункту погляду панна Стэнсфілд была ідэальнай пацыенткай Яна не мела ні сябровак, ні крэўных, якія маглі б пераканаць яе не карыстацца метадам правільнага дыхання (аднак, шчыра кажучы, не думаю, што знайшоўся б такі чалавек, які б *мог* адгаварыць яе ад таго, што яна палічыла небходным для сябе), калі яна паверыла ў яго. А яна менавіта *паверыла* ў яго.

– Гэта крыху падобна на самагіпноз, праўда?– спытала яна мяне падчас першага абмеркавання.

Я задаволена пагадзіўся.

– Менавіта так! Аднак вам не трэба думаць, што гэта нейкае штукарства, або, што метад не спрацуе, калі надыдзе цяжкі момант.

– Я зусім так не думаю. І я вельмі ўдзячная вам Я буду старанна карыстацца ім, доктар Маккаран.

Яна была жанчынай, для якой і быў выпрацаваны метад правільнага дыхання. І калі яна казала, што будзе ім карыстацца, то гэтаму можна было верыць. Я ніколі яшчэ не бачыў чалавека, які б так аддана прымаў ідэю метаду. аднак, не трэба забывацца, што метад правільнага дыхання выдатна пасаваў яе тэмпераменту. У гэтым свеце мільёны пакорлівых мужчын і жанчын, і некаторыя з іх проста цудоўныя людзі. Аднак ёсць і іншыя, у якіх проста рукі свярбяць, так ім хочацца кіраваць уласным жыццём, і панна Стэнсфілд была менавіта такім чалавекам.

Калі я кажу, што яна поўнасцю прыняла метад правільнага дыхання, то так яно і было... і лічу, што гісторыя, якая здарылася ў апошні дзень яе працы ва універмагу дзе яна прадавала касметыку, дае гэтаму добрае пацвярджэнне

Канец яе працоўнае кар'еры надышоў у жніўні. Панна Стэнсфілд была жанчына зграбная ў цудоўнай фізічнай форме, то было яе першае дзіця. Любы доктар скажа вам, што цяжарнасць у такой жанчыны будзе незаўважальнай да пятага, а, магчыма, і да шостага месяца . а потым, раптоўна, у адзін дзень, будзе бачна *усё*

Яна прыйшла на штомесячны агляд першага верасня, голасна рассмяялася і расказала мне, што знайшла яшчэ адно выкарыстанне для метаду правільнага дыхання.

– Якое?– спытаўся я

– Калі ты страшэнна злосны на кагосьці, ён дапамагае лепей, чымсьці лік да дзесяці,– сказала яна. Яе карыя вочы весела бліщчэлі – Хаця людзі глядзяць на цябе, як на вар'ята, калі пачынаеш пыхкаць, быццам цягнік.

Яна ахвотна расказала мне тую гісторыю Як звычайна, яна ў мінулы панядзелак прыйшла на працу, а якраз у выхадныя і адбылосяператварэнне зграбнай маладой жанчыны ў яўна цяжарную маладую жанчыну – іператварэнне гэтае было падобнае на раптоўны надыход ночы ў тропіках А, магчыма, яе начальніца менавіта тады вырашыла, што яе падазрэнні пацвердзіліся

– Падчас перапынку зайдзі да мяне,– холадна сказала пані Келі, начальніца.

Раней яна даволі прыязна ставілася да панны Стэнсфілд. Яна паказвала ёй фотаздымкі сваіх дваіх сыноў, што вучыліся ў старэйшых класах школы, а аднаго разу яны абмяняліся рэцэптамі Пані Келі заўсёды цікавілася, ці знайшла Сандра "добрага хлопца". Аднак цяпер уся прыязнасць знікла. Калі яна ўвайшла ў кабінет пані Келі падчас перапынку, то ўжо ведала, што яе чакае

– У вас непрыемнасці, рэзка сказала некалі ветлівая жанчына.

– Так,– адказала панна Стэнсфілд.– Некаторыя людзі называюць гэта менавіта непрыемнасцямі.

Шчокі пані Келі набылі колер старое цэглы.

Не трэба мне тут разумнічаць, дарагая, сказала яна Аднаго погляду на вашае пуза дастаткова, каб зразумець, што вы не такая ўжо разумная

Калі яна расказвала мне пра гэта, я ўяўляў сабе абедзвюх жанчын панна Стэнсфілд не адводзіць свае карыя вочы ад пані Келі, зусім не жадаючы засаромецца і заплакаць. Лічу, што яна значна больш практычна падыходзіла да падобнага становішча, чым яе начальніца, якая мела дваіх амаль дарослых сыноў і мужа, які валодаў цырульняй і галасаваў за рэспубліканцаў

– Мушу адзначыць, вы зусім не саромеецеся таго, што жорстка падманулі мяне!– рэзка выбухнула пані Келі.

– Я ніколі не падманвала вас. Да сённяшняга дня пра маю цяжарнасць ані слова не было сказана,– яна з цікаўнасцю паглядзела на пані Келі.– Дык як вы можаце казаць, што я падманула вас?

– Я ўзяла вас у свой дом! крыкнула пані Келі – Запрасіла вас на вячэру. з маімі *сынамі.*

Яна з агідай паглядзела на панну Стэнсфілд.

Вось тут панна Стэнсфілд пачала злавацца. Ды так, як ніколі ў жыцці не злавалася, сказала яна мне. Яна здагадвалася, якую рэакцыю можа выклікаць раскрыццё яе сакрэту, аднак як адзін з вас, панове, можа прафесійна пацвердзіць, розніца паміж акадэмічнай тэорыяй і практычным выкарыстаннем часам бывае вялізарнай

Сашчапіўшы рукі, панна Стэнсфілд сказала

– Калі вы намякаеце, што я спрабавала або паспрабую спакусіць вашых сыноў, то гэта самая вялікая гнюснасць, якую я калі-небудзь чула

Пані Келі адхінулася, быццам атрымала поўху Колер цэглы на яе шчоках змяніўся колерам шпітальнай прасціны. Дзве жанчыны змрочна глядзелі адна на

адну цераз стол, завалены ўзорамі парфумы ў пакоі, які пахнуў кветкамі. То быў момант, сказала панна Стэнсфілд, які падаецца значна больш доўгім, чым было на самай справе

Потым пані Келі рэзкім рухам высунула адну з шуфлядак і выняла адтуль каляровы чэк. Аскаліўшы зубы, яна сказала, быццам адкусваючы кожнае слова:

– У гэтым горадзе сотні прыстойных дзяўчын шукаюць працу, і я не думаю, што нам патрэбна такая распусніца, як вы, дарагая мая

Яна сказала, што менавіта ядавітае "дарагая мая" і было апошняй кропляй Літаральна праз секунду ніжняя сківіца пані Келі амаль дакранулася падлогі, а вочы пашырыліся да памераў сподачкаў, калі панна Стэнсфілд, сашчапіўшы рукі ў сталёвы ланцуг так што потым засталіся сінякі (нават першага верасня я яшчэ бачыў іх на яе руках), пачала пыхкаць, як лакаматыў праз сціснутыя зубы.

Магчыма, то была не вельмі вясёлая гісторыя, але я не мог стрымаць смеху, і панна Стэнсфілд далучылася да мяне. Пані Дэвідсан зазірнула ў кабінет магчыма, каб упэўніцца, што мы не надыхаліся аксіду натрыю – потым зачыніла дзверы.

– То было адзінае, што я магла *рабіць*, – сказала панна Стэнсфілд, усё яшчэ смеючыся і выціраючы вочы насоўкай.– Бо ў гэты момант я ўбачыла, як адным рухам скідваю ўсе бутэлечкі з узорамі парфумы з яе стала на бетонную падлогу. Я не проста *падумала* пра гэта, я *ўбачыла* гэта! Бачыла, як усе бутэлечкі разбіваюцца, напаўняючы пакой невыносным пахам.

Я збіралася так зрабіць, і нішто мяне не спыніла б. Потым я пачала пыхкаць, як лакаматыў, і супакоілася. Я здолела ўзяць чэк, падняцца з крэсла і выйсці. Вядома, я не магла падзякаваць ёй, бо ўсё яшчэ была "лакаматывам"!

Мы зноў засмяяліся, а потым яна раптам зрабілася сур'ёзнай.

– Цяпер усё прайшло, і мне яе нават крыху шкада. Ці гэта гучыць вельмі цынічна?

– Зусім не. Па-мойму, гэта цудоўнае пачуццё

– Магу я паказаць, што купіла за тыя грошы, доктар Маккаран?

– Так, калі хочаце

Яна адкрыла торбачку і выняла невялікую скрынку.

– Я купіла гэта ў ламбардзе,– сказала яна. За два долары. І то быў адзіны раз за ўвесь час гэтага кашмару, калі я адчувала сябе проста агідна. Дзіўна, праўда?

Яна адкрыла скрыначку і паклала яе на мой стол, каб я мог бачыць, што там. Мяне тое, што я ўбачыў, не здзівіла. То было простае залатое заручальнае кальцо.

– Я зраблю ўсё неабходнае,– працягвала яна.– Я жыву ў "прыстойным пансіянаце", як сказала б пані Келі. Мая гаспадыня была добрая і чулая... але і пані Келі таксама была добрая і чулая. Я баюся, што гаспадыня ў любы момант можа папрасіць, каб я з'ехала, а калі я скажу, што заплаціла наперад і што, калі засялялася, заплаціла залог, то яна папросту рассмеецца мне ў твар.

– Гэта будзе абсалютна незаконна. Існуе суд і юрысты, якія дапамогуць вам...

– Суды – гэта мужчынскія клубы,– сказала яна роўным тонам,– і наўрад ці пераступяць цераз свой гонар, каб дапамагчы жанчыне ў маім становішчы. Магчыма, я здолею вярнуць мае грошы, магчыма, не. Як бы там ні было, наўрад ці тыя сорак сем долараў вартыя матэрыяльных. і маральных выдаткаў. Не трэба было вам пра гэта казаць. Пакуль што нічога не здарылася, магчыма, не здарыцца. Аднак з цяперашняга моманту я буду вельмі і вельмі практычная.

Яна ўзняла галаву і вочы яе заблішчэлі.

– Я ўжо прыглядзела кватэру ў Грэніч-Вілэдж. Так, на ўсялякі выпадак. Кватэра на чацвёртым паверсе, але чыстая і на пяць долараў таннейшая, чым тая, дзе я жыву цяпер, яна выняла кальцо са скрыначкі.– Калі гаспадыня паказвала мне кватэру, я была з кальцом на пальцы.

Яна надзела кальцо на безыменны палец левае рукі з выразам агіды на твары, пра які, магчыма, не ведала сама

– Вось. Цяпер я *пані* Стэнсфілд. Мой муж быў вадзіцелем грузавіка і загінуў на перагоне Пітсбург Нью-Йорк. Вельмі сумна. Але я ўжо не распусніца і маё дзіця не з'яўляецца бастардам

Яна паглядзела на мяне, і ў яе вачах зноў з'явіліся слёзы Адна слязa пакацілася па шчацэ.

– Калі ласка,– пачаў прасіць я і пацягнуўся цераз стол, каб узяць яе за руку Яна была вельмі халодная – Не трэба.

Яна павярнула сваю руку ў маёй – я ўзяў яе за левую – і паглядзела на кальцо І ўсміхнулася. Але ўсмешка гэтая, панове, была горкай, як жоўць і воцат. Пакацілася яшчэ адна сляза Але толькі адна.

– Калі я чую цынікаў, якія кажуць, што час цудаў і магіі мінуў, доктар Маккаран, я адчуваю, што яны памыляюцца. Калі вы можаце ў ламбардзе набыць заручальнае кальцо за два долары і кальцо гэтае імгненна сцірае негатыўнае стаўленне да вас, дык хіба гэта не цуд? Танны цуд.

– Панна Стэнсфілд... Сандра, калі я магу. . калі вам патрэбная дапамога, калі я магу штосьці зрабіць...

Яна адняла руку – калі б я ўзяў правую, а не левую, магчыма, яна б не адняла яе. Я ўжо сказаў, што не кахаў яе, аднак у той момант мог пакахаць – я быў на мяжы кахання Магчыма, калі б я ўзяў яе правую руку, а не левую, і яна дазволіла трымаць яе яшчэ трохі, пакуль я сагрэў бы яе, то я мог закахацца ў гэтую жанчыну.

– Вы добры, спагадлівы чалавек і вы шмат зрабілі для мяне і майго дзіцяці.. а ваш метад правільнага дыхання значна большы цуд, чымсьці гэтае жахлівае кальцо Ён жа выратаваў мяне ад зняволення за шкоду, нанесеную прыватнай уласнасці, праўда?

Хутка яна сышла, а я падышоў да акна, каб паглядзець, як яна ідзе ў бок Пятай авеню. Божа, як яна мне падабалася ў той момант! Яна была такая крохкая, такая маладая, і відавочна цяжарная, аднак у ёй не было нічога баязлівага. Яна ганарліва ішла па вуліцы, быццам мела ўсе правы на кожную цалю тратуара

Яна збочыла, і я вярнуўся да стала. І тут мае вочы спыніліся на фотаздымку ў рамцы, што вісеў на сцяне побач з дыпломам Уся мая скура, нават на галаве і далонях, здзервянела Я адчуў невыносны жах, які потым пераследаваў мяне ўсё жыццё, і пачаў задыхацца. То было нейкае жудаснае прадчуванне, панове. Не буду ўступаць у спрэчку наконт таго ці можа падобнае адбыцца. я ведаю, што можа, бо са мной яно адбылося. Толькі раз, у той спякотны вераснёўскі дзень, і спадзяюся, гэта не паўторыцца ніколі.

Фотаздымак зрабіла маці ў дзень, калі я скончыў медыцынскую школу На ім я быў перад шпіталем, з усмешкай хлопчыка, якому толькі што набылі білет на ўсе атракцыёны парку Палісадаў. Злева знаходзіўся помнік Хэрыет Уайт І хаця відаць былі толькі шчыкалаткі, добра чытаўся надпіс на п'едэстале. *У свеце няма спакою без болю, таму мы ідзём да выратавання праз пакуты* Менавіта ля. п'едэстала гэтага помніка бацькавай першай жонцы, проста пад гэтым надпісам, праз чатыры месяцы ў выніку недарэчнага выпадку загінула Сандра Стэнсфілд, якая прыехала ў шпіталь, каб нарадзіць дзіця.

***

Восенню яна пачала хвалявацца, што я не буду прымаць у яе роды што я з'еду на Каляды або адключу тэлефон, каб не турбавалі Яе палохала думка што роды будзе прымаць іншы доктар, які праігнаруе яе жаданне карыстацца метадам правільнага дыхання і замест гэтага дасць ёй абязбольваючае

Я зрабіў усё магчымае, каб супакоіць яе. У мяне не было прычын з'язджаць з горада ці ехаць у госці да крэўных. Маці памерла за два гады да таго, і ў мяне засталася толькі старая цётка ў Каліфорніі . а на цягніку я ездзіць не любіў, сказаў я панне Стэнсфілд.

– А вам бывае адзінока?– спыталася яна

– Зрэдчас. Звычайна я надта заняты. Вазьміце гэта,– я напісаў на картцы нумар майго хатняга тэлефона і працягнуў ёй – Калі пачнуцца роды і мяне не будзе на працы, тэлефануйце мне дадому

– О, не, я не магу...

– Вы хочаце карыстацца метадам правільнага дыхання або хочаце, каб вамі заняўся нейкі кастапраў, які палічыць вас вар'яткай і дасць эфір, як толькі вы пачняце пыхкаць, як лакаматыў?

Яна слаба ўсміхнулася

Добра. Вы мяне пераканалі.

Аднак восень ішла да канца, мяснікі з Трэцяй авеню пачалі рэкламаваць калядныя цэны на індычак, а яе настрой не паляпшаўся. Яе папрасілі з'ехаць з тае кватэры, дзе яна жыла, і яна пераехала ў Грэніч-Віледж. Аднак гэта станоўча адбілася на ёй. Яна нават знайшла працу Сляпая жанчына, якае мела някепскі прыбытак, папрасіла яе выконваць пэўную працу па доме і чытаць уголас кнігі Джын Стратан Портэр і Перл Бак. Жанчына жыла ў тым самым доме, толькі на першым паверсе Панна Стэнсфілд набыла

квітнеючы выгляд, які мае большасць здаровых жанчын у апошнюю трэць цяжарнасці. Аднак на яе твары ляжаў цень. Калі я звяртаўся да яе, яна не спяшалася з адказам, а аднаго разу ўвогуле не адказала. Я падняў галаву ад папер на стале і ўбачыў, што яна глядзіць на фотаздымак над маім сталом і ў яе вачах застыў нейкі дзіўны выраз Я прыгадаў, што я адчуў, калі апошні раз глядзеў на фотаздымак. і яе адказ, які не меў нічога агульнага з маім пытаннем, зусім не супакоіў мяне.

У мяне пачуццё, доктар Маккаран, часам яно вельмі моцнае, што я хутка загіну

Якія дурнотныя, меладраматычныя словы! Але, панове, на маіх вуснах круціліся падобныя *Так, і я гэта таксама адчуваю.* Вядома, я нічога такога не сказаў· доктар, які кажа падобнае пацыенту, павінен адразу ж прадаць свае інструменты і дапаможнікі па медыцыне і паспрабаваць кар'еру сантэхніка або цесляра.

Я сказаў, што яна не першая цяжарная жанчына, да якой прыходзяць гэткія думкі, і не апошняя. Я сказаў, што гэтае пачуццё настолькі звычайнае, што дактары далі яму назву "Сіндром Даліны Ценяў" Я, памойму, ужо казаў пра яго.

Панна Стэнсфілд кіўнула, і я вельмі добра памятаю, якой маладой яна была ў той дзень і якім вялікім падаваўся яе жывот

– Я ведаю гэта,– сказала яна – У мяне было такое пачуццё Але гэтае – зусім іншае, быццам быццам нешта змрочна навісла нада мной Я не магу лепей расказаць пра яго. Недарэчна, але я не магу пазбавіцца ад гэтага пачуцця.

– Вы павінны паспрабаваць,– пачаў я – Гэта дрэнна для.

Аднак яна зноў была не са мной Зноў глядзела на фотаздымак

– Хто гэта?

– Эмлін Маккаран,– сказаў я, спрабуючы перавесці ўсё ў жарт Аднак атрымалася ў мяне кепска – Яшчэ да Грамадзянскае вайны, калі ён быў даволі малады

– Не Вас я, вядома, пазнала,– сказала яна Хто гэтая жанчына? Яе не бачна, але па краі спадніцы і абутку можна здагадацца, што гэта жанчына Хто яна?

– Яе звалі Хэрыет Уайт,– сказаў я і падумаў: *І яе твар будзе першым тварам, які вы ўбачыце, калі прыедзеце нараджаць дзіця.* Жахлівы халадок зноў прабег па спіне *Яе каменны твар.*

– А што напісана на п'едэстале?– спыталася яна, не адрываючы вачэй ад фотаздымка, быццам у трансе.

– Не ведаю,– зманіў я – Мая латынь не вельмі добрая

Той ноччу я прысніў самы жахлівы кашмар у маім жыцці – я прачнуўся з такім крыкам, што калі б меў тады жонку, напалохаў бы яе да смерці.

У сне я адкрыў дзверы ў мой лекарскі кабінет і ўбачыў там Сандру Стэнсфілд. Яна была ў рудых туфлях, прыгожай белай сукні з рудым краем і капелюшы, што нядаўна выйшаў з моды Аднак капялюш знаходзіўся ля яе грудзей, бо галаву яна трымала ў руках Белая сукня была забруджана, кроў з шыі фантанам біла ў столь.

А потым раскрыліся яе вочы – яе прыгожыя карыя вочы і спыніліся на мне

– Я загіну,– сказала мне галава – Загіну Загіну Няма выратавання без пакутаў. Гэта танная магія, аднак нічога іншага мы не маем

У гэты момант я завішчаў і прачнуўся

***

Планаваная дата яе родаў 10 снежня – мінула 17 снежня я агледзеў яе і сказаў, што дзіця напэўна народзіцца ў 1935 годзе, але пасля Калядаў Панна Стэнсфілд успрыняла гэта ў добрым гуморы Падавалася, што яна адкінула-такі цень, які вісеў над ёй усю восень. Пані Гібс, сляпая, якая наняла яе чытаць і рабіць па дому лёгкую працу, была ўражана паннай Стэнсфілд Уражаная настолькі, што расказала сябрам пра мужную маладую ўдаву, якая, нягледзячы на перажытую трагедыю і цяперашняе далікатнае становішча, так аптымістычна глядзела ў будучыню. Некаторыя з сяброў сляпое жанчыны выказалі зацікаўленне ў тым, каб пасля родаў прыняць яе на працу

– Я скарыстаюся гэтым,– сказала яна мне – Для дзіцяці Аднак як толькі я падужэю, то знайду пэўную пастаянную працу Часам я думаю, што самае кепскае ў тым, што здарылася, гэта тое, што цяпер я іначай гляджу на людзей Часам я кажу сабе· "Як ты можаш спаць пасля таго, як падманула гэтую добрую старую?", але потым думаю: "Калі б яна пра ўсё ведала, то паказала б табе на дзверы, як усе іншыя ". Аднак, як бы там ні было, гэта ўсё ж мана, і часам я адчуваю яе цяжар на сэрцы.

Перад тым як пайсці яна выняла з торбачкі невялікі пакунак у каляровай паперы і сарамліва працягнула яго мне.

– Шчаслівых Калядаў, доктар Маккаран.

– Не трэба вам было гэта рабіць,– сказаў я, адкрываючы шуфлядку стала і таксама дастаючы пакунак.– Аднак так як і я...

Яна крыху здзіўлена паглядзела на мяне.. а потым мы разам засмяяліся Яна падарыла мне сярэбраную запінку для гальштука, а я ёй альбом для фотаздымкаў яе дзіцяці. Запінка ў мяне і цяпер. Як вы бачыце, панове, я надзеў яе сёння. Не ведаю аднак, што здарылася з альбомам

Я правёў яе да дзвярэй. Яна павярнулася да мяне, паклала рукі мне на плечы, прыўстала на пальчыкі і пацалавала мяне ў вусны. Яе вусны былі халодныя. То не быў страсны пацалунак, панове, але і не быў ён пацалункам маці або цёткі.

– Дзякуй яшчэ раз, доктар Маккаран,– сказала яна. Шчокі яе былі пунсовыя, а вочы ярка бліскучэлі – Дзякуй, што так шмат зрабілі для мяне.

Я крыху нервова засмяяўся.

– Вы гаворыце так, быццам мы ніколі больш не ўбачымся, Сандра.

То быў другі і апошні раз, калі я назваў яе па імені.

– О не, мы яшчэ ўбачымся,– сказала яна.– Я ў гэтым не сумняваюся.

І яна мела рацыю, хаця ніхто з нас не мог прадбачыць тых жахлівых абставін, у якіх адбудзецца нашая апошняя сустрэча.

***

Схваткі ў Сандры Стэнсфілд пачаліся ў дзень напярэдадні Калядаў, напачатку шостай вечара. Да гэтага часу снег, які падаў цэлы дзень, пératварыўся ў слоту А яшчэ праз дзве гадзіны, калі панна Стэнсфілд ужо была ў сярэдняй стадыі родаў, гарадскія вуліцы ператварыліся ў небяспечны ледзяны каток.

Пані Гібс, сляпая, якая займала вялікую кватэру на першым паверсе, а палове на сёмую пачула стук у дзверы. То была панна Стэнсфілд, якая спусцілася, каб скарыстацца тэлефонам і выклікаць таксоўку.

– Гэта дзіця, дарагая?– усхвалявана спыталася пані Гібс.

– Так. Схваткі толькі пачаліся, аднак я не хачу рызыкаваць з-за надвор'я. Таксоўка будзе ехаць доўга.

Яна замовіла таксоўку, а потым патэлефанавала мне. У той час, у шэсць сорак, схваткі надыходзілі рэгулярна, з інтэрвалам у дваццаць пяць хвілін Яна сказала мне, што вырашыла выехаць раней з-за кепскага надвор'я

– Я б не хацела нарадзіць дзіця проста ў таксі, сказала яна.

Голас яе быў надзвычай спакойны.

Таксоўка такі спазнялася, і працэс родаў у панны Стэнсфілд развіваўся больш хутка, чымсьці я разлічваў, аднак я ўжо казаў, што не бывае двух абсалютна падобных родаў. Вадзіцель, убачыўшы, што яго пасажырка вось-вось народзіць дзіця, дапамог ёй спусціцца па слізкіх сходах, пастаянна паўтараючы. "Асцярожна, лэдзі" Панна Стэнсфілд толькі ківала, занятая дыханнем, бо якраз надышлі новыя схваткі. Слота сцякала з ліхтароў і машын, на жоўтым ліхтарыку таксоўкі снег ператвараўся ў вялікія кроплі. Пані Гібс пазней расказала мне, што малады вадзіцель таксі нерваваўся больш, чым "бедная Сандра", магчыма, гэта толькі паспрыяла дарожнаму выпадку пазней.

Паспрыяў яму і метад правільнага дыхання.

Вадзіцель павольна прабіраўся па слізкіх вуліцах, затыканых транспартам, і марудна набліжаўся да шпіталя. У здарэнні ён амаль не пацярпеў, і я пагаварыў з ім у шпіталі. Ён сказаў, што гук глыбокага дыхання на заднім сядзенні вельмі нерваваў яго· ён пастаянна глядзеў у люстэрка, каб упэўніцца "што яна не паміраe". Ён сказаў, што пачуваўся бы значна лепей, калі б яна пару разоў прастагнала, як гэта звычайна робяць жанчыны ў такім становішчы Раз ці два ён спытаўся, ці ў парадку яна, і яна толькі кіўнула, працягваючы пыхкаць, "гайдаючыся на хвалях"

За два – тры кварталы да шпіталя яна, пэўна, адчула, што надыходзіць апошняя стадыя родаў. Яна ўжо гадзіну ехала ў

таксоўцы – такі быў рух на вуліцах, – аднак для жанчыны, што нараджала першае дзіця, роды ішлі надта хутка. Вадзіцель заўважыў розніцу ў тым, як яна дыхала.

– Яна пачала пыхкаць, як сабака ў гарачы дзень, док,– сказаў ён мне.

Яна пачала "лакаматыў".

У той самы час вадзіцель заўважыў дзірку ў суцэльным руху транспарту і рвануў туды Шлях да шпіталя быў адкрыты. Да яго было меней за тры кварталы.

– Я ўжо бачыў статую тае бабы,– сказаў ён.

Вадзіцель вельмі прагнуў хутчэй пазбавіцца сваёй неспакойнай пасажыркі, таму націснуў педаль газу, і аўтамабіль скочыў наперад, амаль не маючы счаплення з дарогай

Я ішоў у шпіталь пеша, і мой прыход супаў з прыездам таксоўкі толькі таму, што я недаацаніў, наколькі кепскімі былі дарожныя ўмовы. Я лічыў, што знайду яе наверсе Усе неабходныя паперы будуць афармленыя, а яна будзе знаходзіцца ўсярэдзіне родавага працэсу. Я паднімаўся па сходах, калі ўбачыў раптоўнае перасячэнне двух пар фараў; іх святло адбілася на кавалку абледзянелае дарогі ў двары шпіталя, дзе дворнік яшчэ не паспеў насыпаць пясок. Я павярнуўся і ўбачыў, як усё здарылася

Калі таксоўка панны Стэнсфілд набліжалася да шпіталя, ад яго крыла ад'язджаў аўтамабіль хуткае дапамогі Таксоўка ехала надта імкліва, каб спыніцца. Вадзіцель запанікаваў і замест таго, каб паволі тармазіць, рэзка націснуў на педаль тормазу. Таксоўка заслізгала, і яе развярнула ўпоперак. Мігалка на даху "хуткай" адкідвала навокал крывава-чырвоныя плямы святла Адна з такіх плям упала на твар Сандры Стэнсфілд. То быў твар з майго кашмару той самы крывавы твар, які я бачыў на адарванай галаве.

Я выкрыкнуў яе імя, зрабіў два крокі ўніз, паслізнуўся і ўпаў Вельмі моцна стукнуўся локцем, але нейкім чынам утрымаў свой лекарскі саквояж. Усё, што адбылося потым, я бачыў, лежачы з болем у локці і галаве.

"Хуткая" затармазіла і таксама пачала коўзаць. Задам яна ўдарылася ў п'едэстал статуі. Дзверцы расчыніліся, насілы – дзякуй Богу пустыя – вылецелі, як сталёвы язык, і перакуліліся. Жанчына, што ішла па тратуары, закрычала і паспрабавала пабегчы, убачыўшы, што два аўтамабілі ляцяць адзін на адзін. Аднак праз пару крокаў яна падвярнула нагу і ўпала на жывот Торбачка вылецела з яе рук і пакацілася па заледзянелым тратуары, быццам шар у кегельбане.

Таксі поўнасцю развярнула, і машына рухалася задам, таму я мог бачыць твар вадзіцеля. Ён шалёна круціў руль, як хлопчык на атракцыёне. "Хуткая" адскочыла ад статуі Хэрыет Уайт пад вуглом. і з усяе моцы ўрэзалася ў таксі Таксі яшчэ раз развярнула, і яно стукнулася ў п'едэстал. Жоўты маячок на даху з надпісам "Радыётаксі" выбухнуў як бомба. Левы бок таксоўкі змяўся, быццам туалетная папера. Праз секунду я ўбачыў, што пацярпеў не толькі левы бок аўтамабіль выгнула аб рог п'едэстала і амаль разарвала напалам. Бітае шкло рассыпалася па абледзянелым тратуары, як дыяменты. А маю пацыентку выкінула праз заднюю шыбу разбітага аўтамабіля як ляльку з анучак.

Я ўскочыў на ногі Пабег па абледзянелых прыступках, зноў паслізнуўся, схапіўся за агароджу і таму не ўпаў Я толькі бачыў панну Стэнсфілд, якая ляжала ў няпэўным цені ад статуі Хэрыет Уайт. Метрах у дзесяці стаяла разбітая "хуткая", мігалка якое ўсё яшчэ выкідала ў ноч чырвонае святло. З яе целам нешта было не так, аднак я не мог зразумець, што, пакуль мая нага не ўдарылася аб нешта даволі цяжкае і я ледзьве не ўпаў. Я адкінуў гэтае нешта, яно адляцела ўбок, амаль пакацілася, і толькі пук валасоў, светлых, хаця і перапэцканых крывёю, у якіх блішчэлі кавалкі шкла, дапамог мне зразумець, *што* гэта было. У катастрофе ёй адарвала галаву. Яе галава пакацілася ў замёрзлую канаву.

Рухаючыся ў шоку, я схіліўся над целам і павярнуў яго. Думаю, я паспрабаваў закрычаць, як толькі ўбачыў цела. Аднак крыку ў мяне не атрымалася, я проста не мог крычаць. Разумееце, панове, жанчына ўсё яшчэ дыхала Яе грудзі ўздымаліся ад лёгкіх удыхаў і выдыхаў. Лёд быў на яе паліто і акрываўленай сукні I я чуў высокі гук, падобны на свіст. Быццам чайнік, які доўгі час стаіць на агні і не можа закіпець. То быў гук паветра, які зацягваўся ў яе разарванае дыхальнае горла і выходзіў з





яго, паветра абцякала акрываўленыя галасавыя звязкі, якія ўжо не маглі афармляць словы, не маючы вуснаў.

Я хацеў пабегчы, але не меў сіл. Я ўпаў на калені перад яе целам, адной рукой прыкрываючы рот Яшчэ праз секунду я заўважыў свежую кроў паміж яе ног. і адчуў там нейкі рух. Раптам я зразумеў, што ёсць шанц выратаваць дзіця.

Калі я рыўком падняў яе сукню, я смяяўся Я проста звар'яцеў Яе цела было ўсё яшчэ цёплае. Гэта я памятаю Я памятаю таксама, як яно рухалася ад яе дыхання. Падышоў адзін з працаўнікоў "хуткай", які хістаўся, быццам п'яны Адной рукой ён трымаўся за галаву, паміж яго пальцамі цякла кроў. Я ўсё яшчэ смяяўся Яе вульва поўнасцю раскрылася.

Працаўнік "хуткай" шырока расплюшчанымі вачыма глядзеў на абезгалоўленае цела Сандры Стэнсфілд. Не ведаю, разумеў ён, што цела дыхала або не Магчыма, ён лічыў, што гэта нейкая нервовая інерцыя, нейкі рэфлекс. Аднак, калі ён так думаў, то хутчэй за ўсё нядоўга працаваў на "хуткай" Куры яшчэ могуць некаторы час пабегаць без галавы, а вось людзі толькі раз ці два цэпнуцца .. калі гэта ў іх атрымаецца.

– Не тырчы тут, а прынясі мне коўдру,– рыкнуў я на яго

Ён пайшоў, але не да "хуткай", а хутчэй у напрамку Таймс-Сквер Ён проста пайшоў у халодную ноч Не ведаю, што з ім сталася. Я павярнуўся да мёртвае жанчыны, якая нейкім чынам не была мёртвай і, павагаўшыся, зняў паліто. Падняў яе ногі, каб пакласці паліто пад яе. Увесь час я чуў свіст дыхання, бо яе абезгалоўленае цела пыхкала, як лакаматыў. Часам я і цяпер чую гэты гук, панове. У сваіх снах.

Зразумейце, што ўсё гэта адбылося за вельмі кароткі адрэзак часу, хаця мне падавалася, што часу прайшло болей, бо я быў у нейкай ліхаманцы Людзі толькі пачалі выбягаць з будынка шпіталя, каб паглядзець, што здарылася За маёй спінай нейкая жанчына завішчала, убачыўшы ў канаве адарваную галаву

Я рэзкім рухам адкрыў свой саквояж – дзякуй Богу, што я не згубіў яго, падаючы – і выняў кароткі скальпель. Разрэзаў бялізну і сцягнуў яе Цяпер падышоў вадзіцель "хуткай": падышоў і метрах у пяці спыніўся, быццам укапаны. Я азірнуўся на яго, бо мне ўсё яшчэ была патрэбная коўдра. Аднак, убачыўшы яго, зразумеў, што ён яе не прынясе ён неадрыўна глядзеў на цела, вочы яго пашыраліся ўсё болей, і падавалася, што яны вось-вось вываляцца з вачніц і павіснуць на аптычных нервах, як гратэскныя йо-йо Ён упаў на калені, узняўшы рукі Упэўнены, што ён маліўся. Першы хлопец, магчыма, не разумеў таго, што адбывалася, але вадзіцель разумеў А яшчэ праз секунду ён страціў прытомнасць.

У той вечар я паклаў у саквояж акушэрскія шчыпцы, сам не ведаю, чаму Я не карыстаўся імі ўжо тры гады з таго часу, калі ўбачыў, як доктар – не буду называць яго імя – прабіў чэрап дзіцяці падобным д'ябальскім прыстасаваннем. Дзіця тут жа памерла. У медыцынскім



# Замест пасляслоўя

**Давайце пагаворым. Пагаворым пра страх.**

**Калі я пішу гэтую прадмову, у доме толькі я і кошка Джэсіка. На дварэ ноч, дождж і моцны вецер. Часам, калі вецер такі моцны, ён ірве лініі электраперадач. Аднак, пакуль святло ёсць, давайце шчыра пагаворым пра страх.**

**Мы не будзем крычаць, пагаворым спакойна. Пагаворым пра тое, як звыклае, на першы погляд, ператвараецца ў кашмарнае.**

**Ноччу, кладучыся спаць, я раблю ўсё магчымае, каб ногі заставаліся пад коўдрай. Бо калі з цемры пацягнецца халодная рука, каб схапіць мяне, то я магу закрычаць. Ды так, што пабуджу нават мёртвых. Я цудоўна ведаю, што істоты пад ложкам, якая**

заключэнні было напісана "мёртванароджаны".

Аднак той ноччу я чамусьці ўзяў шчыпцы

Цела панны Стэнсфілд напружылася, яе жывот ператварыўся з мышцаў у камень. Паказалася галоўка дзіцяці. Я ўбачыў яе толькі на імгненне, акрываўленую і з пульсам *З пульсам* Дзіця было жывое Напэўна жывое.

Камень зноў зрабіўся мышцамі. Галоўка схавалася За маёй спінай пачуўся голас:

– Чым вам дапамагчы, доктар?

То была медсястра сярэдняга веку. Такія жанчыны апора нашае прафесіі. Яе твар быў белы, як малако, на твары быў напісаны жах, калі яна глядзела на труп, які дыхаў, аднак шоку, які робіць працу такіх людзей вельмі небяспечнай, у яе вачах не было.

– Прынясіце мне коўдру, сястра,– сказаў я.– У нас яшчэ ёсць шанц.

За ёй на сходах стаяла чалавек дваццаць працаўнікоў шпіталя, якія не наважваліся падысці бліжэй. Што яны бачылі? Я не ведаю. Аднак некалькі дзён пасля гэтага ніхто са мной не гаварыў (а некаторыя ўвогуле парвалі са мной) і ніхто, у тым ліку гэтая сястра, не размаўляў са мной пра гэты выпадак

Медсястра павярнулася і пайшла ў бок шпіталя.

– Сястра!– крыкнуў я Мы не маем часу Вазьміце коўдру з машыны "хуткай". Дзіця вось-вось пойдзе.

Яна пайшла ў бок "хуткай", яе ногі, абутыя ў туфлі на каўчукавай падэшве, слізгалі па слоце. Я павярнуўся да панны Стэнсфілд.

Дыханне зрабілася больш частым яе цела зноў напружылася. Паказалася галоўка дзіцяці. Я думаў, што яна зноў схаваецца, але дзіця працягвала выходзіць. Патрэбы ў шчыпцах не было Дзіця літаральна *ляцела* ў мае рукі. Мокры снег раставаў на яго цёплым акрываўленым цельцы То быў хлопчык. Ад яго спіны паднімалася пара. холад ночы забіраў апошняе цяпло мацярынскага цела Хлопчык слаба памахаў акрываўленымі кулачкамі і тонка заплакаў.

*– Сястра!–* зароў я *– Рухай задніцай, сучка!*

Магчыма, словы былі надта грубыя, аднак на момант мне падалося, што я зноў у Францыі і хутка над галавой завыюць снарады, кулямёты пачнуць свой д'ябальскі перагрук, а з цемры з'явяцца немцы, якія будуць з лаянкай на вуснах падаць у гразь ад нашых куляў *Танная магія*, думаў я, бачачы, як курчацца і падаюць людзі *Але ты маеш рацыю, Сандра, болей мы нічога не маем* Тады я ледзьве не звар'яцеў назаўсёды, панове.

– СЯСТРА, ІМЕМ БОГА!

Дзіця зноў закрычала які то быў тонкі, малочы гук! – а потым заціхла. Пара амаль што не ўздымалася ад яго цельца Я прыціснуў свой рот да яго рота, адчуў пах крыві і мяккі водар плацэнты Я пачаў дыхаць яму ў рот і пачуў, што яго перарывістае дыханне аднавілася. Падышла сястра з коўдрай. Я працягнуў руку, каб узяць яе

Яна працягнула была коўдру, але потым рэзка адняла.

– Доктар... а калі гэта монстр? Нейкі монстр?

– Давай коўдру,– сказаў я.– Давай коўдру, сяржант, не то я тваю задніцу ўваб'ю табе ў плечы

– Так, доктар,– з зайздросным спакоем сказала яна (трэба дзякаваць Богу за жанчын, панове, якія так часта разумеюць нас праз тое, што і не спрабуюць зразумець) і працягнула мне коўдру Я загарнуў дзіця і перадаў яго ёй

– Калі ўпусціш яго, сяржант, я прымушу цябе з'есці твае нашыўкі.

Так, доктар.

– Гэта танная магія, сяржант, але гэта ўсё, што даў нам Бог

– Так, доктар.

Я глядзеў, як яна напалову ішла, напалову бегла да шпіталя, як людзі на сходах расступіліся, даючы ёй прайсці. Тады я падняўся і пайшоў ад цела. Дыханне яго было няроўнае і пачало спыняцца.

Я ішоў спінай наперад і нага нешта закранула Я павярнуўся. То была яе галава. Выконваючы нейкі загад, які ішоў з глыбіні маёй душы, я стаў на адно калена і павярнуў галаву Вочы былі адкрытыя тыя самыя рашучыя карыя вочы, заўсёды поўныя жыццёвае моцы Яны ўсё яшчэ былі поўныя гэтае моцы Панове, *яна бачыла мяне.*

Зубы яе былі сціснутыя, вусны крыху раскрытыя. Я чуў, як паветра са свістам праходзіла праз іх, калі яна пыхала як лакаматыў. Яе вочы пачалі рухацца: крыху ўлева, каб лепей бачыць мяне Вусны раскрыліся яшчэ больш і прамовілі чатыры словы *Дзякуй вам, доктар Маккаран.* І я *пачуў іх*, панове, аднак не праз яе рот

Словы прыйшлі з адлегласці дваццаці крокаў. Ад яе галасавых звязак. Яе язык, зубы і вусны былі тут, таму гэтыя гукі былі не вельмі ясныя. Аднак я ясна пачуў восем складоў, тыя самыя восем складоў, з якіх складаецца фраза *Дзякуй вам, доктар Маккаран.*

– Няма за што, панна Стэнсфілд,– адказаў я.– У вас хлопчык.

Яе вусны зноў пачалі рухацца і з-за маёй спіны пачуўся тонкі, амаль прывідны гук *хлопчыыыыык...*

Вочы яе згубілі свой бляск і волю Цяпер падавалася, што яны глядзяць на нешта за маёй спінай у гэтым чорным, халодным зімнім небе Потым вочы заплюшчыліся Яна зноў пачала пыхкаць, як лакаматыў. а потым раптам спынілася Усё скончылася. Крыху з гэтага бачыла сястра Крыху бачыў вадзіцель "хуткай" да таго, як страціў прытомнасць, магчыма, тыя, хто наглядаў за тым, што адбывалася, нешта падазравалі. Аднак цяпер усё скончылася, раз і назаўсёды. Тут засталіся адно рэшткі жахлівага здарэння а там – нованароджанае дзіця

Я паглядзеў на статую Хэрыет Уайт, якая, як звычайна, не адрывала свайго каменнага позірку ад парку, быццам нічога не адбылося, быццам воля нічога не значыла ў гэтым жорсткім і бессэнсоўным свеце а магчыма, што яшчэ больш страшна, воля была адзінай рэччу, якая хоць нешта ў ім значыла.

Я ўпаў на калені перад адарванай галавой і загаласіў Я ўсё яшчэ плакаў, калі малады інтэрн і дзве медсястры дапамаглі мне падняцца і правялі ў шпіталь.

**хоча схапіць мяне, не існуе. Але я ведаю таксама, што калі буду трымаць ногі ноччу пад коўдрай, то яна ніколі не схопіць мяне.**

**Ёсць старая легенда пра сем сляпых, якія трымалі слана за сем розных частак цела. Таму адзін лічыў, што трымае змяю, другі – што пальмавы ліст, трэці – каменную калону. І толькі калі яны склалі свае ўражанні, то зразумелі, што ж такое слон.**

**Страх – гэта пачуццё, якое робіць нас сляпымі. А чаго мы баімся? Баімся кранаць электравыключальнік мокрымі рукамі. Баімся нажом дастаць тост з тостэра, калі той не адключаны. Баімся, *што* доктар можа сказаць нам пасля агляду. Баімся, калі самалёт раптам трапляе ў паветраную яму. Баімся, што скончыцца нафта, чыстае паветра, пітная вада, добрае жыццё. Калі дачка паабяцала прыйсці аб адзінаццатай, а ўжо чвэрць на першую і мокры снег б'е ў акно, быццам пясок, мы робім выгляд, што глядзім тэлевізар, час ад часу кідаючы позіркі на маўклівы тэлефон, а недзе ў сярэдзіне расце пачуццё, якое робіць нас сляпымі, пачуццё, якое непрыкметна руйнуе ўсялякую развažлівасць.**

**Аўтараў літаратуры жахаў не любяць. Магчыма таму, што яны заўсёды прыносяць кепскія весткі. вы напэўна памраце, кажа такі аўтар. Ён бярэ вас за руку і вядзе ў цёмны пакой, дзе нешта ляжыць пад прасцінай... і кажа вам памацаць тут... і тут... і вось *тут*...**

**Стывен Кінг нарадзіўся ў Портлэндзе, штат Мэн, у 1947 годзе. Маці Стывена паходзіла з англасаксонскае сям'і Пілсбуры, сям'і разважнай і практычнай. А вось бацькавы продкі былі даволі эксцэнтрычныя ірландцы: бабуля Стывена па бацькавай лініі любіла на сняданак падсмажыць палову бохана хлеба ў свіным тлушчы. Дзядуля, ростам метр дзевяноста і вагой каля ста дваццаці пяці кілаграмаў, памёр ва ўзросце трыццаці двух гадоў, калі бегма спрабаваў дагнаць цягнік. Бацька быў першым памочнікам на гандлёвым караблі і падчас другой сусветнае вайны плаваў у Еўропу, гуляючы ў "нямецкую рулетку" з падводнымі лодкамі фашыстаў. Зрок ён меў вельмі кепскі і болей чым падводных лодак баяўся, што з-за гэтага самага кепскага зроку яго могуць пазбавіць ліцэнзіі. Стывен зрокам пайшоў па бацьку і часта называе свае акуляры з тоўстым шклом донцамі бутэлек з-пад "Кока-Колы".**

**У 1945 годзе нарадзіўся старэйшы брат Стывена Дэвід, у 1947 годзе – Стывен, а ў 1949 годзе бацька знік, і больш яго ніхто не бачыў... Хаця ў 1964 годзе, падчас хваляванняў у Конга, маці Стывена сцвярджала, што пазнала бацьку на фатаздымку ў газеце сярод наёмнікаў.**

**Калі бацька збег, маці шмат працавала, і, як піша Стывен, яны з братам наступныя дзевяць гадоў яе амаль не бачылі. Яна прасавала бялізну ў пральні, выпякала пончыкі ў начную змену ў пякарні, працавала клеркам у краме і акаономкай. Аўтамабіля Кінгі не мелі, тэлевізар з'явіўся толькі ў 1956 годзе, але без ежы сям'я не сядзела.**

**За гэтыя дзевяць гадоў яны**

***

Люлька Маккарана пагасла.

Ён зноў запаліў яе ад сваёй спецыяльнай запальнічкі, пакуль мы сядзелі ў абсалютнай цішыні. На вуліцы роў і стагнаў вецер Маккаран закрыў запальнічку і паглядзеў на нас. Здавалася, яго здзівіла, што мы ўсё яшчэ тут.

– Гэта ўсё, сказаў ён.– Канец! Чаго вы яшчэ чакаеце? Вогненнае калясніцы?– ён фыркнуў, потым, падумаўшы, працягваў – Я заплаціў за яе пахаванне з уласнае кішэні. Больш яна нікога не мела.

Ён слаба ўсміхнуўся

– Ну, была яшчэ Эла Дэвідсан, мая медсястра. Яна налягала, каб я ўзяў таксама яе дваццаць пяць долараў, хаця ў грашах яна не купалася. Аднак, калі пані Дэвідсан на нечым налягала... – ён пацiснуў плячыма і ціха засмяяўся.

– Вы ўпэўнены, што то не быў рэфлекс?– раптоўна пачуў я ўласны голас.– Вы *абсалютна* ўпэўнены. .

– *Абсалютна*,– спакойна сказаў Маккаран Магчыма, першыя схваткі і былі рэфлектыўныя, але роды цягнуліся некалькі хвілін Часам я думаю, што яна магла пратрымацца і болей, калі б было трэба. Дзякуй Богу, гэтага не спатрэбілася.

– А што здарылася з дзіцём?– спытаўся Йогансэн.

Маккаран пыхнуў люлькай.

– Яго ўсынавілі,– сказаў ён.– І ў тыя часы, таксама як цяпер, усе паперы па ўсынаўленні трымаліся ў сакрэце

– Добра, але што з дзіцём?– зноў запытаўся Йогансэн, і Маккаран жорстка засмяяўся.

– Ты не можаш не выявіць усё да канца, праўда?– сказаў ён да Йогансэна.

Йогансэн пахітаў галавой.

Некаторым гэта дорага каштавала. Дык што ж з дзіцём?

– Ну, калі вы ведаеце ўжо так шмат, то вы зразумееце, што мяне вельмі цікавіў лёс хлопчыка Або мне здавалася, што мяне цікавіць яго лёс, што фактычна адно і тое ж. Я сачыў за яго жыццём, дый цяпер у курсе Была маладая пара – іх звалі, вядома, не Харысаны, але сугучна. Яны былі са штата Мэн Сваіх дзяцей яны мець не маглі. Усынавілі гэтага хлопчыка і далі яму імя. скажам, Джон. Джон падыдзе, панове?

Ён папыхкаў люлькай, аднак яна зноў пагасла. Я адчуваў, што недзе блізка стаіць Стывенс з нашымі паліто напагатове. Хутка мы апранем іх.. і вернемся ў звычайнае жыццё. Як сказаў Маккаран, да наступнага года гісторый болей не будзе

– Хлопчык, якога я прыняў у тую ноч, цяпер дэкан факультэта англійскай мовы і літаратуры аднаго з трох найбольш вядомых прыватных каледжаў краіны,– сказаў Маккаран – Яму няма яшчэ сарака пяці Ён малады Пакуль яшчэ рана, але некалі ён зробіцца прэзідэнтам гэтага каледжа. Я ў гэтым не сумняваюся. Ён прыгожы, разумны і абаяльны

Аднаго разу я вячэраў з ім у прыватным клубе факультэта У той вечар нас было чацвёра. Я мала гаварыў і меў магчымасць назіраць за ім. Ён мае тую самую волю, што і яго маці, панове..

.. І такія самыя карыя вочы.

**шмат паездзілі па краіне, але заўсёды вярталіся ў Новую Англію, а ў 1958 годзе пераехалі ў штат Мэн назаўсёды. Дзядуля і бабуля былі ўжо старыя, і сям'я наняла маці Стывена наглядаць за імі. Прыблізна ў той час Стывен упершыню пазнаёміўся з сур'ёзнай літаратурай у жанры жахаў. На гарышчы цётчынага дома ён знайшоў некалькі кніг вядомага аўтара Лаўкрафта, якія належалі бацьку Натуральна, то не была першая сустрэча з жахамі. У Амерыцы, як пазней пісаў Кінг, трэба быць глухім і нямым, каб за першыя дзесяць – дванаццаць гадоў жыцця не сустрэцца хаця б з адным прывідам або якім іншым "страшыдлам".**

**Скончыўшы універсітэт штата Мэн, Стывен Кінг выкладаў англійскую мову, пакуль яго жонка Табіта заканчвала вучобу. Першыя апавяданні ён надрукаваў у часопісе "Дзіўныя загадкавыя гісторыі"** *(Startling Mystery Stories)* **у канцы шасцідзесятых. Аднак вядомасць да яго прыйшла толькі ў сярэдзіне сямідзесятых, пасля публікацыі першага рамана "Кэры"** *(Carrie)* **пра дзяўчынку-тэлекінетыка, якая раззлавалася на жорсткіх жыхароў невялікага гарадка, што прывяло да жахлівых вынікаў. З таго часу Стывен Кінг умацаваўся ў жанры літаратуры жахаў і лічыцца, магчыма, лепшым яго прадстаўніком. Трэба адзначыць, што многія выкладчыкі англійскай мовы пачынаюць пісаць раманы, аднак далёка не ўсе робяцца пісьменнікамі, асабліва такімі, як Кінг.**

**Калі хочаш пісаць, то ты пішаш. Стывен Кінг заўсёды**





## III.

## Клуб

Стывенс праводзіў нас. Як заўсёды, ён дапамагаў апрануць паліто, жадаў усім найшчаслівейшых Калядаў, дзякаваў за шчодрасць. Я апынуўся апошнім, і Стывенс зусім не здзівіўся, калі я сказаў:

У мяне ёсць пытанне, калі вы не супраць.

Ён усміхнуўся.

– Вядома, не Каляды проста выдатны час для пытанняў.

Недзе злева ад нас, у глыбіні калідора – па якім я ніколі не даходзіў да канца – цікаў стары гадзіннік, то быў гук часу, які сыходзіў у вечнасць. Я адчуваў пах старое скуры і нашараванага масцікай дрэва, а таксама слабы пах Стывенсавага ласьёну пасля галення

– Аднак павінны папярэдзіць вас,– дадаў Стывенс, калі на вуліцы вецер завыў яшчэ больш моцна,– лепей не задаваць шмат пытанняў. Асабліва калі вы хочаце і надалей прыходзіць сюды.

– За тое, што яны пыталіся зашмат, людзям забаранялі хадзіць сюды?

*Забаранялі хадзіць* было не самай лепшай фразай, але іншай на той момант я не знайшоў.

Не, сказаў Стывенс тым самым ціхім, ветлівым голасам – Яны самі болей не хацелі прыходзіць.

Я паглядзеў на яго і адчуў, як халадок прабег па спіне быццам вялікая халодная, нябачная рука лягла мне на пазваночнік. Раптам я прыгадаў той непрыемны, вільготны гук, які пачуў аднаго вечара на другім паверсе, і падумаў (як рабіў неаднойчы), колькі ж пакояў было там на самай справе.

– Калі вы ўсё яшчэ хочаце задаць пытанне, пан Эдлі, то задавайце цяпер. Ужо даволі позна ..

А вам яшчэ трэба паспець на цягнік?– спытаўся я, але Стывенс толькі абыякава паглядзеў на мяне – Добра,– працягваў я.– Тут у бібліятэцы ёсць кнігі, якія я не магу знайці больш нідзе, ні ў Публічнай бібліятэцы Нью-Йорка, у ніводным каталогу букіністаў, да якіх я звяртаўся, ні ў афіцыйным каталогу "Навінкі друку" Більярдны стол у Малым Пакоі – "Норд", але я ніколі не чуў пра такую марку, таму паслаў запыт у Міжнародную Камісію па гандлёвых марках. Яны знайшлі два "Норды" – адзін вырабляе лыжы, а другі – драўляныя кухонныя наборы У Доўгім Пакоі стаіць музычны аўтамат "Сіфрант" У той самай камісіі зарэгістраваны "Сібург", але "Сіфранта" ўвогуле няма.

– Дык якое пытанне вы хочаце задаць, пан Эдлі?

Яго голас быў такі самы мяккі, аднак у вачах раптам з'явілася нешта жудаснае не, калі быць абсалютна праўдзівым, то гэта былі не толькі ягоныя вочы· жах, які я адчуў, сыходзіў проста з самое атмасферы вакол мяне Роўнае ціканне з дальняга вугла калідора ўжо не было простым гукам старога гадзінніка: то было пастукванне нагі ка́та, які глядзіць, як асуджаны падымаецца да шыбеніцы Пах скуры і марылкі зрабіўся рэзкім і непрыемным, а калі вецер чарговы раз

**хацеў пісаць. Таму ён напісаў "Кэры", "Ззянне"** *(The Shining)*, **"Куджа"** *(Cujo)* **і яшчэ тузіны з два раманаў, шмат апавяданняў, якія былі надрукаваныя ў розных часопісах і трох зборніках, а таксама безліч фрагментаў, вершаў і іншага, што немагчыма ніяк класіфікаваць, але большасць з гэтага іншага настолькі "жахлівае", што, магчыма, не будзе ніколі надрукаваным.**

**А цяпер, рызыкуючы зрабіцца іканаборцам, скажу, што для Стывена Кінга няма розніцы, у якім жанры пісаць. Тое, што цяпер ён піша ў жанры жахаў, не мае, на мой погляд, аніякага прынцыповага значэння.**

**У першую чаргу Стывен Кінг майстар слова, а ўжо потым майстар жахаў. Чытаючы яго кнігі, атрымліваеш асалоду ад сакавітае англійскае мовы. А як ён палохае! Пачытайце "Ззянне" – лепей у арыгінале, а калі не, то ў добрым перакладзе – і, магчыма, з тыдзень вы будзеце баяцца заходзіць у ванны пакой нават днём. Бо творы Кінга абуджаюць вашую фантазію. І вы, цудоўна разумеючы, што** *гэтага* **быць не можа, не здольныя суняць сваю фантазію.**

**Але Кінг піша не толькі ў жанры жахаў. Аднаго дня ён спытаўся сваю старэйшую дачку Наомі, чаму тая не чытае яго кніг. Дзяўчынка сказала, што яны надта страшныя, а яна хацела б прачытаць казку. Тады бацька сеў за стол, і неўзабаве на свет з'явілася надзвычай добрая, чарадзейная казка "Вочы цмока"** *(The Eyes of the Dragon)*. **А апошнім часам Кінг піша эпапею "Цёмная вежа"** *(The Dark Tower)* **у стылі "фэнтэзі".**

узмацніўся, мне падалося, што калі Стывенс рэзка расчыніць дзверы на вуліцу, я ўбачу там не Трыццаць Пятую вуліцу, а вар'яцкі краявід Кларка Эштана Сміта з перакручанымі дрэвамі на фоне стэрыльнага гарызонту, дзе вілнеліся два жахліва-чырвоныя сонцы.

Ён добра ведаў, што я хацеў спытаць. я ўбачыў гэта ў яго шэрых вачах.

*Адкуль усё гэта ўзялося?* – хацеў спытацца я – *Я цудоўна ведаю, адкуль ўзяліся вы, Стывенс. Вы маеце чысты бруклінскі акцэнт Аднак куды вы сыходзіце ўначы? Хто даў вам гэты выгляд вечнасці ў вачах і на твары? І яшчэ, Стывенс..*

*. . дзе мы знаходзімся ВОСЬ У ГЭТУЮ СЕКУНДУ?*

А ён чакаў майго пытання.

Я адкрыў рот Аднак пытанне, якое прагучала, было

– Ці шмат яшчэ пакояў наверсе?

– О, так, сэр,– сказаў ён, не адрываючы ад мяне вачэй.– Вельмі шмат. Там можна заблудзіць. Некаторыя там згубіліся Часам мне падаецца, што пакоі і калідоры цягнуцца на многія мілі.

– А ўваходы і выхады?

Яго бровы крыху ўзняліся.

– Так. Уваходы і выхады таксама.

Ён чакаў, але я падумаў, што задаў даволі пытанняў· я падышоў да мяжы нечага, што можа давесці мяне да вар'яцтва.

– Дзякуй, Стывенс

– Няма за што, сэр

Ён дапамог мне апрануць паліто

– А будуць яшчэ гісторыі?

– Тут, сэр, *заўсёды* будуць яшчэ гісторыі

***

З таго вечара мінула шмат часу, і памяць мая зусім не палепшылася (калі чалавек дажывае да майго ўзросту, яна, хутчэй, псуецца), аднак я ясна памятаю рэзкі ўкол страху, калі Стывенс шырока расчыніў дубовыя дзверы Я быў упэўнены, што ўбачу жахлівы, чужы краявід, заліты крывавым святлом двух сонцаў, якія могуць схавацца, і тады надыдзе невыразная цемра, якая будзе цягнуцца гадзіну, або дзесяць гадзін, або дзесяць тысяч гадоў Не магу растлумачыць гэта, але напэўна ведаю, што такі свет *існуе*. Я настолькі ж упэўнены ў гэтым, як Эмлін Маккаран быў упэўнены, што абезгалоўленае цела Сандры Стэнсфілд дыхала, пакуль не нарадзілася дзіця У тую бясконцую секунду я думаў, што дзверы расчыняцца і Стывенс выпіхне мяне ў іншы свет, я пачую грукат зачыненых дзвярэй . зачыненых назаўсёды

Але я ўбачыў Трыццаць Пятую вуліцу і таксоўку, якая стаяла ля тратуара з працуючым рухавіком Я адчуў неперадавальную палёгку

– Так, заўсёды новыя гісторыі,– паўтарыў Стывенс – Добрай ночы сэр

*Заўсёды новыя гісторыі.*

І яны былі Аднаго дня я, магчыма, раскажу вам яшчэ нейкую з іх.

**Пераклаў з англійскай**
**Алесь КУДРАЎЦАЎ.**

---

**І як піша! Роджэр Жэлязны пазайздросціць. Пачытайце таксама напісаны разам з Пітэрам Штраўбам раман "Талісман"** *(The Talisman)* **і вы ўбачыце, што гэта таксама казка, вельмі жорсткая казка для дарослых сучаснага свету.**

**Два найбольш складаныя жанры для кожнага пісьменніка – гумар і жахі. У няўмелых руках гумар ператвараецца ў жалобныя спевы, а жахі ў танны анекдот. У Кінга жахі ў анекдот не ператвараюцца, дый гумар, калі б ён раптам пачаў пісаць у гэтым жанры, пераканаы, не стаў бы жалобным спевам. А лічу я так таму, што гумар, як гэта ні дзіўна для літаратуры жахаў, прысутнічае практычна ва ўсіх раманах Кінга. І, чытаючы іх, часам пачынаеш смяяцца, азіраючыся навокал: ці не чуе вас тая істота пад ложкам або ў ванным пакоі.**

**Чалавек, які напалохаў больш чытачоў, чымсьці хтосьці іншы, неяк сказаў: "Я апісваю ўласныя страхі, аднак не палохаю сябе. Не выдумляю сюжэты, седзячы ў цемры. Ідэя кнігі можа прыйсці да мяне ясным сонечным днём, калі я еду ў суседні горад. Калі я вяртаюся ў свой кабінет, то сядаю і пачынаю пераказваць ідэю на паперы".**

**Там, дзе я цяпер, усё яшчэ цёмна і ідзе дождж. У нас з вамі наперадзе цудоўная ноч. Я хачу нешта паказаць вам, хачу, каб вы гэта памяталі. Яно тут, у пакоі побач – літаральна на наступнай старонцы.**

**Алесь КУДРАЎЦАЎ.**



# Антон КУДЛАТЫ

**Я маю твор...**



## Адказ Алесю РАЗАНАВУ

*Чаму я спаліў Каран, Бхагавадгіту, Ніцшэ, Рэрыхаў і інш.*

Калі я каталік і мусульманін,
будыст, баптыст і ламаіст,–
называюся яшчэ і праваслаўным –
якой веры я?
Ніякай!

Калі я іду ўправа і ўлева,
у адначассе назад і ўперад,
уверх падскокваю
і ў той жа час зарываюся ў зямлю, нібы крот, –
куды іду я?
Нікуды!

Калі спавядаюся Хрысту,
пакланяюся Алаху, Буду,
прывячаю Крышну і Ламу,
прымаю Рэрыхаў і Блавацкую, нібы пасланнікаў
божых,
пачытваю Ніцшэ і лічу сябе канфуцыянцам –
каму малюся я?
Нікому!

Калі я з вамі і з тымі,
з першымі і з апошнімі,
з крайнімі і ўсярэдзіне –
з кім я?
Сам па сабе!

Калі рухаешся ў розныя бакі адначасова –
стаіш на месцы!

Калі вызнаннік усіх рэлігій –
жывеш без Бога!

